## *ЗМЕСТ*



**Мікола МЯТЛІЦКІ**

# СОН-ТРАВА

* * *

Вось і вясна узышла на пагоркі,
Зноў паказалі чубы дзірваны.
Ззяблыя ў сцюжах, шчэ болей прагорклі,
Лежачы ў снезе сырым, палыны.

Прэллю пацегла ў настылым паветры,
Сонца красае з-за дрэў яснацвет.
Сенны ахапак павынес з павеці,
Зняўшы вушанку, расхрыстаны дзед.

Грэе маршчыны старая на сонцы,
Стоячы звыкла пад хаты сцяной.
Зацішна тут і пагодліва сёння,
Болей ні звання шугі ледзяной.

Плача пад яблыняй снег пашарэлы,
Сочыцца звонка вястун-ручаёк.
Промняў гарачых прыцэльныя стрэлы
Збілі лядзяш, што ля даху прамок.

---

***Мятліцкі Мікалай Міхайлавіч*** *нарадзіўся 20 сакавіка 1954 года ў вёсцы Бабчын Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці. Пасля заканчэння філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1977) працаваў карэспандэнтам штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», з 1983 года — рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура». У 2002—2014 гадах — галоўны рэдактар часопіса «Полымя».*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Абеліск у жыце» (1980), «Мой дзень зямны» (1985), «Ружа вятроў» (1987), «Шлях чалавечы» (1989), «Палескі смутак» (1991), «Бабчын» (1996), «Жыцця глыбінныя віры» (2001), «Замкнёны дом» (2005), «На беразе маім» (2010), «Цяпло буслінага крыла» (2010), «Чалавек падымае неба» (2012) і інш.*

*Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1986), Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы (1998), Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2010), Спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва (2013), Міжнароднай літаратурнай прэміі «Алаш» (Казахстан, 2017).*

Чуецца з хаты задор радыёлы,
Грае аркестр у дзве тысячы струн.
Крочыць, мінаючы лужы, са школы
Вёскі нашчадак — кірпаты хітрун.

Цвёрдыя, спешныя, юныя крокі,
Цешыцца сонцам і светам малы.
Дзе там сядаць за якія урокі,
Дзеду крычыць: — Прыляцелі буслы!

* * *

Я спыніўся ля сосен, што колісь садзіў,
Як яны за гады пасталелі наўздзіў!

Падняліся высока камлі над зямлёй,
Запрасілі ў шацёр пышна ўзнесены свой.

Дзяцел шышку дубасіць на рослай сасне.
Сон-трава на паляне ўсміхаецца мне.

Пасівела, як сон той, мая галава.
Прывітанне, вясна!
Сон-трава…
Сон-трава…

* * *

Заблізка падступіўся да агню.
І неспадзеў дыхнуў свавольны вецер.
І полымя гарачым языком
Імгненна твар і рукі казытнула,
Што ледзь паспеў на нейкі крок адскочыць
І вочы ацалелыя адвесці.

І зразумеў: падальш быць ад агню.
Калі цябе аднойчы і сагрэў,
Дык гэтак хвацка здатны й спапяліць.

* * *

Шар зямны — адзіны ў блізкім космасе,
Голлем дрэў аброслы, быццам космамі,

Акіянаў хвалямі уздыблены,
Плёскаецца; сінню рэк зарыбленых

Між раўнін і стромін разбягаецца.
У нябёсы пікамі ўпіраецца,

Ланцугамі крута лёгшы горнымі.
Водамі марскімі і азёрнымі

У праменнай пазалоце свеціцца.
Навальнічным небам грозна шчэціцца.

І травою шчэціцца зялёнаю.
І зыркатай вышынёй прымглёнаю

Раздзірае чорнай ночы покрыва.
І расяным на світанні поплавам

Студзіць чалавеку ногі босыя,
Дарачы імгненні стагалосыя.

Ды глядзіць вачамі неспакойнымі,
Сечаны бязлітаснымі войнамі.

## В'ЕТНАМУ

Я памятаю таксама,
Хоць быў малым хлапчуком:
«Рукі прэч ад В'етнама!» —
І ў горле сціскаўся ком.

І спудна скрыпела брама,
І вецер хвастаў па шыбах.
І ўсхліпвала горка мама.
І чуўся далёкі выбух.

Уціснуты ў катакомбы,
Боль цела змяюкай джаліў.
Бамбардзіроўшчыкі бомбы
На сэрца маё кідалі!

І не аблокаў срэбра —
Па-над маёй зямлёю
Было в'етнамскае неба,
Запырсканае крывёю.

І чуліся недзе за вокнамі,
У перазяблай стыні
Усхліпы Сангмі, і вокрыкі
Змяшаліся з плачам Хатыні.

І свет, як скразная драма,
Ашчэрыўся ў паняверцы.
«Рукі прэч ад В'етнама!» —
І сёння, як шрот, па сэрцы.

Як дождж усмактала глеба,
Так жах усмактала памяць.
І сёння в'етнамскае неба
Знянацку агнём апаліць.

Счарнелае ў горкай скрусе
Ад выбухаў засталося.
З нябёсамі Беларусі
У сэрцы маім злілося.

## СОРАК ПЕРШЫ

Купалася сонца іскрынамі ў росах,
Кароткая ноч патанала ў імгле.
Ды самы сакрэтны ўжо план «Барбароса»
У фюрара чынна ляжаў на стале.

І свет скалануўся на ўзлёце світання,
Аглушаны грозным ударам ствалоў.
Сканала, прашытае кулямі, ранне,
Ўзахлёб смерць піла чалавечую кроў.

Панесеных страт мы дасюль не дабралі,
Нас зменшала ў свеце на цэлую трэць.
Нас прыхвасні жорстка і люта каралі,
Змушалі ў Хатынях жывымі гарэць.

Нас труцілі тыфам, зганялі у гета,
Пад соснамі стойкімі клалі ў равы.
З ашчэрам звярыным, ў зубах з цыгарэтай,
Свае сталявалі законы, правы.

Ды мы і ў пакутах свой час не праспалі,
Хоць часта ў бяссіллі валіліся з ног.
Ў лясах партызанскіх, ў падполлі кавалі
Грымучую зброю сваіх перамог.

Мы гонар зямлі не заплямілі ў тыле
Варожых франтоў, што ішлі на Маскву.
Гарачай крывёю сваёй не астылі,
Ў пясок не хавалі сваю галаву.

О год сорак першы! Ва ўпор расстраляны,
Ты свецішся ранняю пасмай сівой.
І сёння яшчэ незагойныя раны
У сэрцы шчымяць у Айчыны маёй.

* * *

Мой дзед не распісаўся на рэйхстагу
У майскі дзень пад роструб кананад.
Святую не парушыўшы прысягу,
Харобрых смерцю паў за Сталінград.

Пагляд астатні кінуўшы аблокам,
На снег крывавы лёг, баец-салдат.
Цяжкім, у сталь закутым, грозным крокам
Вайна ад Волгі рушыла назад.

* * *

Памліва ў гісторыю ўвайшлі
Многія айчынныя палі.

З незапомна-даўняй даўніны
З нас сягоння кожнаму відны.

Поле Кулікоўскае — на ім,
На падмурку мужнасці, стаім,

Дзе мячоў булатных гучны звон
Не аглухне ў бегу спешных дзён.

Поле Барадзінскае — яно
Ў бліжняе мінулае акно.

Два стагоддзі, што сышлі-сплылі,
Памяці баі на ім вялі.

Поле, дзе дрыжаў Напалеон,
Не аглухне ў бегу спешных дзён.

А палі мінулае вайны?
Колькі іх?! З нас кожнаму відны.

Мне здаецца, іх бясконцы лік.
Лапікі айчыннае зямлі,

Мытыя-палітыя крывёй,
Скаланалі сілай агнявой.

Як агорне іх крылом зара,
Чуецца раскатнае: ура!

Гэта памяць цераз далеч год
Рушыла ў няспынны свой паход.

І прабудзе ў сэрцах вечным ён,
Не аглухне ў бегу спешных дзён.

* * *

Пра гэтае возера, лесам акутае,
Ходзіць сівое паданне.
Холад празяблы. Мароз крэпкі лютуе.
Месяца дрогкае ззянне.

Толькі юнак, у кашулю апрануты,
Босым ступае па лёдзе.
Грае гармонік ягоны да раніцы,
Сонца пагляне — сыходзіць.

Хто ён? Адкуль? Нам пра тое не ведама.
Грае і грае ўсе ночы.
Кажуць, хто бачыў яго, шапка дзедава
Хмарай спаўзае на вочы.

Грае і грае ў хвіліну жаданую,
Юнае звеку аблічча.
Кажуць: і сёння былую каханую
З вёскі надрэчнае кліча.

Кажуць, што тая яшчэ ў часы паншчыны
Хлопцу адпомсціла здрадай.
З самым заможным да раніцы танчыла,
Ён, гарманіст, быў не рады.

Бліснула іскрай сляза на гармоніку,
Зоркай жывою застыла.
Кажуць, што блізка, у рослым сасонніку,
Скрутнага хлопца магіла.

Пан не пацешыўся жонкаю пекнаю,
Хутка з сухотаў сканала.
Колькі вады з той часіны уцекла ўжо,
Колькі віхур адшугала.

Толькі насупіць над лесам брыво зара,
Першая зорка заззяе,
Хлопец-тапелец прыходзіць на возера,
Сумна да раніцы грае.

* * *

Блукаю сцежкамі Паўлінкі,
З тае далёкае часіны
Бары над Віліяй, сцяжынкі
Закуты ў светлыя ўспаміны.

Сто год таму на рыжай строме,
Што ля Міхалішак паблізу,
Амшэлы хутар невядомы
Узнёсся стрэхамі між хмызу.

І на Кемелішкі дарога
Праз лес вакольны праставала,
Па ёй не раз тут, збіўшы ногі,
Хадзіў віленскі госць Купала.

І тут, у шляхты засцянковай,
Падоўгу быў з душой адкрытай,
І акрыяў задумай новай,
Што стала п’есай знакамітай.

Што тут жыве народ такоўскі,
Паведаць кожны вам ахвочы.
Тут не адзін Адольф Быкоўскі
І сёння трапіцца на вочы.

Замес характараў — шляхетны,
Паны, падпанкі — хутаранцы.
Народ вясёлы і прыветны,
У працы дужы, гожы ў танцы.

А ўжо на селішчах Паўлінак —
Няхай сягоння і не густа —
Было калішняю часінай,
Як пер’я ў цешчыных падушках.

Палі — падзолы ды суглінкі,
А хутароў даўно не стала…
Блукаю сцежкамі Паўлінкі,
Жыву з героямі Купалы.

* * *

Адгорнута жыцця апошняя старонка,
І твой ужо сыходзіць век, лічы.
І хоць лагодзіць слых спеў жаваронка,
Ды вечнасць уручыць гатова ўжо ключы.

Удзячны я табе, зямля, за спешны побыт,
Дзён не багата ўсё ж ты кожнаму даеш.
Шчасліўцам быў і я — ішло каханне побач
І грэла мне душу, тварыла кожны верш.

За хмуры далягляд пайду зусім спакойна,
Малі ці не малі — не вернешся назад.
Хай будзе ён, зыход, і мужны, і дастойны,
Без слова і мальбы, сказанай неўпапад.

Зрабіў усё, што мог, не многа засталося,
Хаця б адным радком вярнуся па вясне.
Бярэцца ў сілу ўжо мая сівая восень,
Бы ў павуціне, я тану у сівізне.

Пратрубяць жураўлі апошнюю пуціну,
На сэрца пакладуць астатнюю журбу.
І я жывую кроў павылью у каліну
І ў іншасвет сыду, пачуўшы іх трубу.





Уладзімір ГАЎРЫЛОВІЧ

# СЭРЦА СВАЁ НЕ ПАДМАНЕШ...*

*Раман*

## Абпаленае неба

### Частка трэцяя

### 1

Ігнат ажно ўспацеў, пакуль паставіў апошнюю кропку, апісваючы вынікі працы калгаса за апошні, 1940 год. Цяпер з палёгкай уздыхнуў: калі саб'ецца раптам заўтра, то перад вачыма будуць усе лічбы, і проста прачытае тое, што напісаў гэтай бяссоннай і душнай ноччу. А ўвогуле людзі сталі жыць лепш: у іх ужо ёсць хлеб і да хлеба…

Нікіценка, які прыязджаў у калгас яшчэ ў пачатку чэрвеня, застаўся задаволены ўбачаным, пахваліў старшыню:

— Ну, вось, скажы мне, неразумнаму гарадскому чалавеку: чаму ты можаш у час і пасеяць, і ўбраць, а суседзі — не? — І не чакаючы адказу, працягваў: — Не памыліўся райкам у табе, Ігнат Сцяпанавіч. Гэта добра. Дык каб быў гатовы: паднімуць, абавязкова паднімуць цябе, рыхтуй справаздачу. Я сваё ж слова таксама скажу: не лайдачыце. На 22 чэрвеня прызначаны сход раённага актыву.

— А што за патрэба такая? — здзівіўся Адамчык.

— Звычайная справа: плануем абмеркаваць гаспадарчыя пытанні, звязаныя з заканчэннем вясенніх палявых работ і падрыхтоўку да ўборкі ўраджаю. Ну, трэба ж бачыць, як хто адносіцца да працы. Вось цябе і паставім у прыклад, каб астатнія падцягваліся.

І ён паехаў, пакінуўшы разгубленага старшыню калгаса, які ні за што не мог больш сёння ўзяцца. Хвалявала пачутае: не для пахвалы ж ён чыёйсьці робіць, а каб жылося ім, бечынцам, лепей, чым у старыя часы. І з партыяй, можа, не трэба было асабліва спяшацца?

Бяззорная і ўдушлівая ноч рашуча саступала свае правы дню, калі Ігнат, нарэшце, патушыў лямпу. Ён расчыніў дзверы і ціхенька прабраўся ў чыстую палову. Тут, за шырмай спалі падраслы Ванька і шчабятуха Нінка. Паўтарагадовы Васілёк смачна пасопваў побач з іх з Веркай ложкам, у самаробнай калысцы-чатырохножцы: некалі яе, глыбокую і шырокую, ён разам з бацькам

* Заканчэнне. Пачатак у № 1, 2018 г.

зладавалі яшчэ на хутары для іх першынца. І вось трэцяе дзіця Адамчыкаў гадуецца ў ёй.

Ігнат нахіліўся і пацалаваў у вільготны лобік сына. Ён не хаваў ад жонкі — зрабіла яго самым шчаслівым бацькам на зямлі, які гадуе свайго кроўнага сына. Так, і Ваньку Ігнат любіў, як сваё дзіця, але ж часам аднекуль з глыбіні яго памяці выплывалі думкі-згадкі пра сапраўднага бацьку хлопчыка. Часам Ігнат баяўся, каб хто чужы не сказаў, што вось хлопец зусім не падобны на яго, і тады раскрыецца ўся праўда, што не сваё дзіця гадуе ў хаце, а сябравага сына. Хаця ж гэта нічога не зменіць, ён ад Ванькі не адцураецца нізашто, бо, як думалася яму раней, да нараджэння Васілька, свайго сына яму Верка наўрад ці народзіць. І вось нечаканая радасць, яго Верка падаравала яму яшчэ адно шчасце — сына.

Яшчэ тады, калі яна вучылася ў МТС і ўпершыню прызналася мужу аб цяжарнасці, ён быў упэўнены, каго яна носіць пад сваім сэрцам. Жонка смяялася з яго ўпэўненасці, казала, каб не надта так спадзяваўся, і няблага было б, калі б з'явілася на свет яшчэ адна дзяўчынка-памочніца. Аднак ён і слухаць не хацеў. Ігнат верыў: у яго будзе ўласны сын, якога з такім трапяткім хваляваннем чакаў яшчэ той, першай іх зімой, калі яго мары, права на хуткае бацькоўства, былі знянацку парушаны. Нават праз гэтулькі гадоў, ён да дробязяў памятаў пачутае ў адрыне на хутары яго бацькі, як ён, прыехаўшы з Бечына, складваў збрую і душыўся горкімі, пякучымі слязьмі. Наноў перажывалася тое, мінулае: здавалася, ён зараз чуў размову за сцяной Веркі і Рыгора, іх збалелыя словы і прызнанні.

«Якая ты стала, Верка... Я шукаў цябе на хутары. Думаў: дзе яна, мая Верка? А ты тут… Што ты тут робіш, Верка? Зараз адпачну, і пойдзем, пойдзем дадому, праўда?» Рыгораў голас дрыжаў, зрываўся, пераходзіў на шэпт: «Пайшлі дадому, Верка... Цяпер я дайду, цяпер я буду жыць!..»

Ігната захапіла перажыванне: гэта ж перад якім выбарам стаяла яго Верка, што ў яе тварылася на душы, хто даў ёй сілы сказаць праўду, вырваць з сябе яе: «Замужам я... З Ігнатам жыву. Позна нам, Рыгорка...»

Нібы толькі што тое было, ён чуў, як яна плакала, сутаргава, натужліва. І вось ён, Рыгор, падалося, разгубіўся, не чакаючы такога страшнага для яго адказу, а потым сказаў ціха, разважліва: «Як ты магла... не дачакацца? Хаця — усё правільна. Жывому жывое, мне няма ў чым цябе папракнуць... Я не віню цябе, сам вінаваты ва ўсім. І няма таму мне долі на зямлі...»

Вочы Ігната памакрэлі ад слёз, калі глыбокая ноч нагадала просьбу сябра, каб Верка пацалавала таго на развітанне. Уявіў, як Рыгор агарнуў яе, Ігнатаву каханую, сваімі рукамі. «Што ж, сваю дарогу не мінеш. Бачыш… Жывіце шчасліва. Забудзь мяне — як не было. Нічога не было. Лепей яно так будзе... Мо і я ў дурным свеце дзе зачаплюся... Ідзі...»

І вось, вось зараз Верка скажа тыя словы, самыя важныя, магчыма, для Рыгора, бо старалася падтрымаць, выратаваць ім абодвум дарагога чалавека ад чагосьці страшнага, наканаванага: «Рыгор... Было, Рыгор. Усё было… І будзе ў памяці. Грубая я ад тае нашай ночы. Што не вернеш... Але з другім я. Позна, я не магу...»

Ён не ведаў, ці спынілі яе словы Рыгора, ягонага сябра, ці толькі глыбока паранілі яго, але толькі зараз на поўную моц зразумеў, чаго каштавалі Рыгору гэтыя не проста словы, а наказ: «Нарадзі сына, Верка... Іванам назаві. Перад бацькам я вінаваты. Хаця яшчэ невядома — хто больш перад кім... Там, на Бярэзным, за поплавам чатыры сасны... Адна, усярэдзіне, асобна стаіць. Там, скажы Ігнату, — золата. Сёння закапаў. Сыну будзе — ад мяне...

Ігнат стаяў над сваім родным сынам, які пасопваў у калысцы, і не саромеўся слёз, якія выкочваліся і выкочваліся з вачэй. І разам з тым ён успамінаў сваю апошнюю сустрэчу з Рыгорам, які баяўся за Верку, за яго і яе сына. Верка ж ужо была Ігнатавай жонкай, а іх сын — нібыта Ігнатавым сынам.

Тады Ігнат сказаў яму шчыра:

— Я ведаю, Рыгор, усё... ведаю. Нават Верка не здагадваецца пра гэта. І што дзіця — ад цябе. Я быў у адрыне, калі тады вы гаварылі з ёй за сцяной… Але ж — не руш. Так атрымалася, я кахаю яе, Рыгор. Гэта не тваё шчасце… Верка сама так вырашыла. А табе сыходзіць трэба. Калі што — памагу, але, даруй, толькі сёння, заўтра я сам заяўлю, што ты быў. У нас Васілёк, Зінкі, Верчынай сястры-нябожчыцы, сын. Калі цябе не знойдуць — яго забяруць. Міронччык і міліцыянер з раёна цябе шукаюць. У сельсавеце начуюць…

Ён памятаў, як тады горка ўсміхнуўся Рыгор, спытаў пра Грабаўцы, ці не яны выдалі, што сельсавет у яго хаце цяпер, а пасля выняў з-за пазухі невялікі скрутак і паклаў на воз.

— Што гэта? — здзіўлена спытаў Ігнат.

— Сыну. Золата. Не ўкраў — не думай благога. Бацькава. Хаваў. Верка ведала дзе. Але, мабыць, не было ей патрэбы. Вось выкапаў сам... Можа, спатрэбіцца. Я не крыўдую, Ігнат, што так атрымалася. Ты — мой сябар, быў і будзеш. А Верку — што зробіш — кахаў і кахаю… Каб не бацька — ажаніўся б. Так бывае. Ні яе, ні цябе не віню. Жывіце. Я сваё, мабыць, аджыў. І не крыўдуйце на мяне. Сына гадуй, як свайго. Ты мне, як брат. Ён і так твой. Будуць у вас яшчэ і свае дзеці. А за Зінчынага малога — не хвалюйцеся. Ён застанецца з вамі…

Ігнат зноў са шкадаваннем падумаў пра свайго сябра: можа, цябе, дружа, ужо і на свеце няма?

Цяжка ўздыхнуўшы, ён ціха лёг побач з жонкай, каб не пабудзіць яе. А засынаючы, згадаў пра тое золата, якое яму перадаў Рыгор. Выходзіла, зусім забыўся пра той яго «падаруначак». Аддаў тады ўсё Верцы, як яна акрыяла пасля родаў, і за гэтыя гады нават не пацікавіўся: выкінула альбо схавала дзе тое няшчаснае расевіцкае багацце? Ён проста забыўся пра яго. А жонка — разумная жанчына, ведае, што за цяперашнім часам яно нікому не дапаможа. Хіба скарыстаеш той напамінак пра сябра без пагрозы для ўласнага жыцця?

## 2

У гарпасялковым Доме сацыялістычнай культуры ўжо з раніцы было надзвычай душна. Ігнат Адамчык сядзеў побач з Прохарам Купрацэвічам, мужчыны ціха перамаўляліся паміж сабой. Той надоечы атрымаў вымову райвыканкама за зрыў пачатку сенакосу і быў не ў гуморы. Ігнат не кранаў балючай для суседа тэмы, але распытаў пра будаўніцтва новай фермы, якую той вось-вось збіраўся распачаць, цікавіўся, колькі ўсё гэта будзе каштаваць суседзям. Праўда, слухаў пуханцоўскага старшыню не надта ўважліва.

Сход, які быў назначаны на 8.30 гадзін раніцы, чамусьці ў аб’яўлены час не пачаўся. Адамчыка здзівіла яшчэ адна акалічнасць. Звычайна Нікіценка раней за іншых, за паўгадзіны да назначанага часу, прыходзіў сюды, і з кожным кіраўніком стараўся пагутарыць асабіста. Сёння гэтую традыцыю ён парушыў — чамусьці першага сакратара райкама не было зусім. Адамчыка

непакоіла, як пройдзе абяцаная сустрэча пасля сходу. Ён хацеў прасіць Нікіценку не спяшацца, і, калі магчыма, перанесці гэтую справу надалей, тым больш што і Вераб'я, сакратара парткама, нечакана выклікалі на курсы ў вобласць. Аднак цяпер выходзіла так, што сустрэча ўвогуле адменіцца, і Ігнат гэтаму быў рады: ён пакуль не гатовы да гэтага адказнага кроку — уступіць у партыю.

Нарэшце, крыху са спазненнем, сход адкрыў другі сакратар райкама партыі Іван Чарняўскі. Каржакаваты, невысокі, ён спачатку ціхім, крыху сіплаватым голасам паведаміў, што першы сакратар райкама партыі накіраваны ў Мазыр на ваенныя зборы, а ад яго імя абавязкова ён пазней агучыць важныя заўвагі таварыша Нікіценкі. Аднак толькі Чарняўскі распачаў абвестку дня сходу, як шырока расчыніліся дзверы, і ў залу рашуча ўвайшлі двое.

Аднаго з іх Адамчык не ведаў. Гэта быў высокі вусаты пагранічнік, афіцэр. А побач з незнаёмцам пазнаў Андрэя Коршака, які накіраваўся акурат да стала прэзідыума і нешта паведаміў Чарняўскаму.

Нават адсюль, з глыбіні залы, было бачна, як другі сакратар знянацку пачырванеў. Выслухаўшы Коршака, ён насоўкай выцер з ілба пот. Затым, з хвіліну памаўчаўшы, дрыжачым голасам прамовіў:

— Таварышы! Вымушаны сход раённага актыву спыніць. Слова мае новы начальнік раённай міліцыі капітан Коршак...

Пагранічнік тым часам сеў побач з Чарняўскім і нешта заклапочана казаў другому сакратару. У зале ўсталявалася напружаная цішыня, нечаканая адмена сходу здзівіла людзей. Яны спачатку зашумелі, але праз імгненне сціхлі: што ж такое важнае скажа новы начальнік міліцыі?

А Коршак, адчувалася, моцна хваляваўся, ад напружанасці нервова торгаўся яго падбародак. Нарэшце, акінуўшы вачыма залу, гучна паведаміў:

— Таварышы члены актыву раёна. Толькі што стала вядома, што фашысцкая Германія, парушыўшы мірныя дагаворы з Савецкім Саюзам, напала на нашу краіну. Вайна, таварышы.

Гэтае паведамленне ашаламіла ўсіх...

І зараз, калі Ігнат дабіраўся дадому, з яго галавы не выходзіла: як такое можа быць? Як немец пасмеў парушыць савецкую мяжу?

Ігнат зноў і зноў згадваў тое, што адбывалася і пра што гаварылі яшчэ з гадзіну таму ў Міткавічах. Начальства было разгубленым, аб'явілі перапынак. Чакалі раённага ваеннага камісара і Нікіценку, якія павінны былі хутка вярнуцца з Мазыра: яны маглі ведаць дакладна, што рабіць. Але тых не было.

Нечакана слова папрасіў стары бальшавік, загадчык аддзела сацыяльнага забеспячэння Антон Берасцецкі.

— Таварышы, дазвольце мне сказаць... Канешне, гэтая вайна — ганьба для фашысцкай Германіі, але нам няпроста будзе вярнуць ворага назад, у яго логава, — пачаў ён. — Я быў радавым салдатам царскай арміі, удзельнічаў у грамадзянскай вайне, і таму ведаю, што кажу. Нам, каб супрацьстаяць агрэсару, трэба ўспомніць вопыт той вайны.

— Што вы маеце на ўвазе, Антон Пятровіч? — здзіўлена прамовіў усхваляваны Чарняўскі.

— Я ўпэўнены, што на барацьбу з ворагам уздымецца ўвесь народ. Але ўжо зараз мы не павінны чакаць, трэба арганізаваць у раёне спецыяльны атрад і накіраваць яго на фронт. Такія атрады самаабароны трэба неадкладна ствараць сёння ж у кожным калгасе, у кожным сельсавеце. Вось што я маю на ўвазе, — закончыў Берасцецкі сваё выступленне.

— Не будзем пакуль спяшацца, таварышы. Прапанова паважанага намі Антона Пятровіча слушная, і гэта, мабыць, трэба зрабіць. Але толькі тады, калі будзе прынята адпаведнае рашэнне і раён перавядуць на ваеннае становішча. А пакуль мы не маем адпаведных распараджэнняў, прымаць ніякіх паспешных рашэнняў не трэба. Хутка сітуацыя праясніцца, перакананы, што нашы абаронцы выганяюць ужо фашыстаў за межы нашага вялікага Савецкага Саюза, — раптам вельмі бадзёра прамовіў другі сакратар.

А далей Чарняўскі прапанаваў усім вярнуцца ў свае гаспадаркі і расказаць людзям аб тым, што здарылася. Кіраўнікам загадалі, каб днём і ноччу нехта быў ля тэлефона, пасля ім перададуць патрэбныя рэкамендацыі. Людзі разыходзіліся са сходу з цяжкім настроем, нават не развітваліся...

Надвор'е было сонечным, стаяў гарачы летні дзень, калі старшыня калгаса «2-я пяцігодка» вярнуўся ў Бечын. Ён разумеў, што трэба рыхтавацца да горшага. Але як, з чаго пачаць, як увогуле сказаць людзям пра страшную навіну? Быў бы побач Верабей, той хоць патрымаў у грамадзянскую вайну стрэльбу ў руках, не тое што ён, Адамчык, пораху ніколі не нюхаў. А Салавейчык — хіба яму дарадчык? Вось і сёння на сход у раён чамусьці не паехаў, праз жонку наказаў раніцай, што раптам захварэў. Увогуле, нібы хаваецца ад яго, на вочы не паказваецца апошнім часам. Але чаму? Аднак у сельсавеце ён, Салавейчык, улада, а ўсе члены праўлення былі на сенакосе. Выйсця не было, Ігнат сказаў возчыку ехаць на канюшню, а сам застаўся ў канторы.

Там быў толькі рахункавод Касабуцкі, мужчына на многа старэйшы за яго, Ігната. Спытаў у таго:

— Дзядзько Ілля, ніхто не званіў з раёна, пакуль я ехаў дадому?

— Не, Ігнат, ціха было.

— А радыё што, маўчыць?

— Ды ліха яго разбярэ — з раніцы трохі нібыта сіпела, а потым зусім змоўкла.

Касабуцкі адказваў і адначасова лоўка адбіваў костачкамі на лічыльніках, а потым акуратна запісваў атрыманы вынік у ведамасць. І толькі цяпер, скончыўшы, узняўшы на лоб свае круглыя акуляры, уставіўся на старшыню:

— А што, Сцяпанавіч, здарылася? Нешта рана вы вярнуліся.

Ігнат, не рашаючыся сказаць рахункаводу праўду, прамовіў:

— Дзядзька, нікуды з канторы не адыходзьце. Чакаю важнага званка. З райкама партыі. Калі што, я тут недалёка. Да Салавейчыка схаджу. І назад. Я хутка.

Але не паспеў Ігнат адысці ад канторы, як з яе выбег рахункавод:

— Сцяпанавіч, чуеш, радыё загаварыла. Наркам замежных спраў Молатаў будзе гаварыць, сказалі...

...Хата Івана Салавейчыка стаяла недалёка ад канторы. Вуліца была пустой, а сонца ўсё больш прыпякала, дыхаць не было чым, з-пад ног курэў пыл. Але Ігнат на гэта не зважаў, цяжкія думкі не пакідалі яго. Дайшоўшы да хаты старшыні сельсавета, спыніўся, хаваючыся ад спякоты пад старымі слівамі.

Акно ў хаце Салавейчыка было расчынена, значыць, гаспадар быў дома. У двор аднак не зайшоў, паклікаў яго з вуліцы:

— Іван, ты дома?

— Хто ета там? — пачулася з хаты, затым у акне з'явілася галава Салавейчыка.

— Адамчык, хто... Выходзь, размова ёсцека... — Ігнат сеў на лаўку перад веснічкамі і стаў чакаць старшыню сельсавета.

З хаты пачулася крыху незадаволенае і адначасова здзіўленае:

— А што гэта ты так рана вярнуўся? На цэлы ж дзень нібыта звалі...

— Давай, кажу, хутчэй сюды. Важнае тут дзела... — Адамчык выцер узмакрэлы лоб і цяжка ўздыхнуў. Але калі ўбачыў жоўта-сінія разводы пад вокам Салавейчыка, ажно затросся ад смеху, не маючы сіл спыніцца.

— Чаго скалішся? Паглядзеў бы я на цябе, калі б... — злосна буркнуў Салавейчык, плюхнуўся побач на лаўку і адвярнуўся ад Ігната. А той ніяк не мог супакоіцца.

— І хто ж гэта пасмеў... нашай уладзе такіх фенціляў навешаць? Няўжо жонка?

— Але ж, табе б такую дурную бабу, як мая. Разумнік знайшоўся, рагоча тут. А мне знаеш, як крыўдна? Ну, не хадзіў я да той Евы, каб ёй ліха...

— Так і не хадзіў, таварыш Салавейчык? — пасур'ёзнеў Ігнат. — А я ж то думаю, чаго Макарэвічава дачка пакруглела? Дык ты, мабыць, у тым яе шчасці віноўнік...

— Каб на цябе ліха! Такое ж прыдумаў. Я па бабах завязаў, будзеш хадзіць, калі Нікіценка так наехаў, што гразіцца з партыі выгнаць. Каб у Бога верыў, то перахрысціўся б, што не я там... — Іван ледзьве не плакаў.

— А твая Надзя — ох, яшчэ тая мастачка! Гэтак размалявала, рознымі фарбамі. Баба-гром! — зноў засмяяўся Адамчык, пераканаўшыся, што старшыня сельсавета не схлусіў яму. — Такой раўнівіцы яшчэ пашукаць трэба.

— Паскуда гэтакая... Каб не партыйны быў, то развёўся б. А дзеля чаго з ёй жыць? Бясплодная, і як трэска. Вунь твая Верка — то ж жанчына: і дзетак трое, і лепшая ў раёне трактарыстка. А мая, цьфу!.. А яшчэ просіцца: з брыгады на пошту перавядзі, ты ж улада. Ліха табе на задніцу, а не пошта!.. — злосны Салавейчык сплюнуў на зямлю. — І як цяпер мне з гэтым харaством на людзі выйсці, скажы ты мне, га?

— Ну, тут нікуды не дзенешся, ад людзей усё роўна не схаваешся. Ды ты не перажывай, усе ведаюць: яна за цябе любому горла перагрызе, толькі зачапі, — усміхнуўся Адамчык.

— Дурнаватая трохі, так, але не да яе, бачу. Кажы, недарэмна ж прыйшоў. Не пра Надзьку ж тары-бары чыніць. Нешта і праўда хутка вас адпусцілі, — Салавейчык уважліва паглядзеў на спахмурнелага Ігната.

— Бяда здарылася... — прамовіў той, цяжка падбіраючы патрэбныя словы.

— Дык што такое, Ігнат? — спалохана заміргаў Салавейчык.

— Бяда для ўсяго народа. Фашыст палез... Вайна. — Адамчык глядзеў на старшыню сельсавета і нібыта не бачыў яго, нібы заглядваў у будучыню.

— Маць тваю!.. Чула маё сэрца, што не будзе ладу з гэтым Гітлерам. Папёр-такі, паскуда! А мы туды, самыя багатыя — і масла, і хлеб везлі, выкармілі паскуд нямецкіх. Ну, нічога, нашы хутка за каўнер немца возьмуць, у нас самая моцная армія. Слухай, але ж у «Праўдзе» заява была, што проста правакацыя нібыта... — Салавейчык быў надта ўзбуджаны.

— Бачыў, чытаў. Не правакацыя. Гэта Сталін, мабыць, не верыў, а паведамілі ўжо, што бамбяць Брэст і Кіеў...

— Што сказалі ў раёне? — старшыня сельсавета ўскочыў на ногі, сутаргава захадзілі яго сківіцы.

— Сказалі, што трэба паведаміць людзям пра тое, што здарылася. І дзейнічаць, як будзе рэкамендавана. Трэба, каб людзі дзяжурылі ля тэлефона, з канторы не адлучацца. І ты дома не сядзі, ніхто не будзе з цябе смяяцца, не да тваіх разборак з жонкай, — ціха прамовіў Адамчык і ўстаў. — Вечарам будзем збіраць людзей. Вераб'я няма, таму нам трэба самім.

— Ясна. Хутка буду ў канторы, — толькі і знайшоў, што адказаць узрушаны Салавейчык.

## 3

Апоўдні ў райаддзеле міліцыі сабраліся ўсе супрацоўнікі. У памяшканні было душна, але вокны не раскрывалі: на вуліцы стаяла невыносная бязветраная спякота. Па радыё толькі што аб'явілі аб выступленні намесніка старшыні Савета народных камісараў Саюза СССР і народага камісара замежных спраў. Нарэшце, пачуўся голас Вячаслава Молатава, і ўсе лавілі кожнае яго слова.

Трансляцыя закончылася, радыёперадатчык змоўк. Збялелы, крыху разгублены начальнік міліцыі капітан Коршак звярнуўся да падначаленых:

— Таварышы! Кожны з вас зразумеў, што адбылося: сёння ў чатыры гадзіны раніцы нямецка-фашысцкая Германія сухапутнымі войскамі перайшла нашу дзяржаўную мяжу ад Балтыкі да Карпатаў. Авіяцыяй нанесла ўдары па многіх прыгранічных аэрадромах і ў глыбокім тыле па гарадах. Ідуць моцныя баі на прымежных тэрыторыях, — усхвалявана пачаў ён. — Нашы войскі, якія знаходзяцца на прыкрыцці мяжы, гераічна адбіваюць націск фашысцкіх войскаў. Абстаноўка вельмі складаная, у многім няясная. Мне даручана растлумачыць сур'ёзнасць надзвычайнай абстаноўкі ўсяму асабоваму саставу. У сувязі з тым, што аб'яўлена мабілізацыя, дзейнічаем па адпаведных планах. Як прадпісвае службовая інструкцыя, мной ускрыты сакрэтны пакет Наркама ўнутраных спраў БССР. Звяртаю вашу ўвагу на наступнае...

Коршак прыглушаным голасам зачытваў, хто накіроўваецца ў войска, а хто па «броні» пакінуты для аховы парадку ў раёне і таксама пераводзіцца на ваеннае становішча. Завяршыў ён сваё выступленне ўпэўненасцю, што на барацьбу з ворагам падымецца ўвесь савецкі народ, а яны, супрацоўнікі органаў унутраных спраў, таксама зробяць усё для таго, каб перамога была хуткай і вораг быў знішчаны як мага хутчэй.

Калі ўсё было скончана, узрушаны Андрэй Коршак распусціў супрацоўнікаў і пайшоў у службовы кабінет.

Дзяжурны далажыў:

— Таварыш капітан, вас чакае жонка... І з Мазыра прасілі пеpазваніць.

— Добра, зараз жа звяжуся.

Заплаканая Жэнька стаяла ля акна і трымала на руках двухгадовую дачушку.

— Ну, што ты, каханая? Не трэба плакаць... — Коршак падышоў да жонкі, пацалаваў яе і сонную дзяўчынку. — Не трэба, дурненькая. Не пужай Святланку.

— Божа, Андруша, што ж гэта будзе? Няўжо фашысты дойдуць да нас? Што тут будзе? — у яе вачах стаялі слёзы і роспач. — Паглядзі ў акно...

На вуліцы перад будынкам райаддзела сабраліся жонкі міліцыянераў, многія былі з дзецьмі. Аказваецца, яны даўно ўжо стаялі пад таполямі, і праз фортку чулі выступленне Молатава. Жанчыны былі ўстрывожаныя, плакалі. Да іх падыходзілі мужы, супакойвалі і адпраўлялі дадому. Адна з жанчын —

мабыць, ёй толькі што сказалі, што заўтра муж адправіцца на фронт, горка заплакала.

Коршак адвярнуўся і падышоў да стала.

— Жэнька... — пачаў ён, і разгубіўся, сустрэўшыся вачыма з жонкай. — Ты павінна супакоіцца...

— Як, скажы, гэта зрабіць? Ты ж таксама, мабыць, на фронт?

— Пакуль не. Але ў такіх абставінах, любая, прызнаюся табе шчыра, не ведаю, які лёс чакае мяне. На фронт мабілізаваны нашы лепшыя супрацоўнікі, мы не ведаем, ці хто выжыве. Толькі для мяне, каханая, зараз важна адно: як зберагчы вас, цябе і Светку. Думаю, што нашы сем'і будуць эвакуіраваць...

— Дык ты дапускаеш, што гэта можа быць? — Жэня спалохалася, і ў яе сініх вачах зноў нарадзіўся страх і выкаціліся слёзы.

— Я не выключаю гэтага, хаця спадзяюся на лепшае. Мы не чакалі гэтай вайны, разумееш. Дакладней, мы не думалі, што яна будзе гэтак хутка. А нечаканасць яна робіць сваё... — ён апраўдваўся перад жонкай, нібыта перад цэлым светам, разумеючы, што менавіта яна, яго Жэнька, і гэтае дзіцятка было гэтым светам, самым галоўным у яго жыцці.

— Ты хочаш нас адправіць адсюль? Нікуды не паеду! Чуеш! Я настаўніца, камсамолка, жонка міліцэйскага начальніка! Які прыклад падначаленым, Андруша? — Жэня села на табурэтку, пагладзіла дачушку па лбе і ўважліва глядзела на мужа.

— Ведаў пра тваю ўпартасць... — зазлаваўся Андрэй. — Як ты не зразумееш, калі фашысты прыйдуць сюды, яны найперш расправяцца з камуністамі і іх сем'ямі.

— Як і ты, я сірата. Акрамя цябе, у нас са Светкай нікога няма, чуеш. Ва ўсім белым свеце — нікога! І куды ты нас адправіш?.. — яна таксама зазлавалася, але цяпер гаварыла ціха і спакойна, каб не спалохаць соннае дзіця.

— Але і тут табе заставацца небяспечна. Адно хіба радуе: ты з другога раёна, мала хто тут пакуль ведае, толькі хіба ў школе. Лепш, канешне, каб ты паехала з усімі…

— Сказала табе, не паеду!

— Можа стацца так, што мяне пакінуць у тыле, хаця пакуль пра гэта гаварыць рана. У нас ёсць інакшае выйсце. Я зранку думаў пра гэта. І гутарыў з адным добрым чалавекам. Я давяраю яму… Мы накіруем цябе настаўніцай у Бечынскую школу. Гэта глухамань, але людзі там добрыя. Вось там дакладна цябе ніхто не ведае.

— Гэта дзе? За Чырвоным возерам, там, дзе балоты?

— Ну, не зусім глухамань, там добры калгас, падняўся за два апошнія гады. І таварыш у мяне там ёсць, старшыня, Ігнат Адамчык. Добры хлопец, амаль наш пагодак. Яго жонка — першая трактарыстка, у «Прымежным камунары», памятаеш, пра яе пісалі?

— А, дык гэта тая Верка Адамчык, што ўступіла ў саперніцтва са сваёй сяброўкай з пуханцоўскага калгаса і перамагла мінулай вясной... — успомніла Жэня.

— Ага. Яны добрыя людзі. У Ігната таксама бронь, як кіраўніка гаспадаркі. Яны цябе падтрымаюць. Нікому не скажуць, хто і адкуль. Дыплом у цябе на дзявочым прозвішчы — дык і будзеш Сямёнавай, а не Коршак. Пра мужа скажаш, калі чапляцца хто будзе: забралі ў войска перад вайной, чакала, што вернецца, а тут вайна... Можа, з Ігнатам прыдумаем, што ты нейкая іх даўняя радня, каб людзі хутчэй паверылі...

— Калі інакш ніяк, Андруша, то я буду збірацца.

— Збірайся, любая. І зразумей мяне: я сабе не належу.

— Ведаю ўсё, Андрэй. І не крыўдую. Зробім па-твойму...

Яны пацалаваліся, і Жэнька з дзіцём пайшла ў інтэрнат. Коршак глядзеў ім услед, і сэрца сціскалася ад любові і горкай роспачы, нібыта ўжо зараз павінен развітвацца з самымі дарагімі яму людзьмі на свеце.

Нечаканы званок з Мазыра перарваў яго думкі. На тым канцы дроту пацвердзілі ранейшыя ўказанні аб пераходзе на ваеннае становішча. Прыйшло распараджэнне падрыхтаваць да эвакуацыі сем'і супрацоўнікаў, а таксама тэрмінова вывезці сакрэтныя дакументы ў Мазыр і прыняць меры па знішчэнні ўсіх архіваў. Гэта пацвердзіла яго здагадкі: Чырвоная Армія адступае.

Коршак набраў нумар тэлефона дырэктара райпрамкамбіната Ігнаценкі, дамовіўся, што той прышле ў райаддзел міліцыі палутарку. Праз некалькі гадзін аўтамабіль з поўнасцю загружаным кузавам спыніўся перад качагаркай. Там толькі што спалілі архіў райвыканкама і райкама партыі, а цяпер пад непасрэдным кантролем начальніка міліцыі качагары кідалі ў полымя печы паперы, якія не павінны дастацца ворагу. Коршак назіраў за яркім полымем і нервова курыў. Міма яго прайшоў немалады качагар, які валок жоўтыя папкі. Адна з іх выпала якраз пад ногі капітану.

Качагар пайшоў, не звярнуўшы на гэта ўвагі, а ён яе падняў, прачытаў і не паверыў сабе: гэта была справа ворага народа Рыгора Расевіча, таго самага бечынскага хлопца, які двойчы ўцякаў ад яго і сам, на яго, Андрэя Коршака, шчасце, здаўся. І зараз, стоячы перад гарачай пашчай печы, начальнік міліцыі падумаў, што ўсё тут шыта белымі ніткамі, ні ў чым гэты малады хлапец, які атрымаў пятнаццаць гадоў без права перапіскі, з высылкай з тэрыторыі БССР, не вінаваты, бо ні людзям, ні дзяржаве злога не зрабіў, а проста хацеў жыць па-чалавечы на роднай зямлі. Няўклюдны зласлівы час і людзі зрабілі яго чужым на Палессі. Коршак нічога з гэтым зрабіць не мог і не можа, і ён, адкідваючы шкадаванне да таго бечынскага хлопца, злосна кінуў у полымя сведчанне яго віны.

Ніхто з жыхароў гарадскога пасёлка не звярнуў нават увагі, што па абедзе спякотнага чэрвеньскага дня і да позняй ночы з трубы качагаркі райпрамкамбіната валіць чорны густы дым. Усіх хвалявала адно — што чакае іх заўтра?

## 4

Прайшоў тыдзень людской трывогі і надзей, што вайна хутка скончыцца. Аднак супярэчлівыя весткі, якія прыходзілі ў Бечын, непакоілі палешукоў усё больш і больш.

Ігнат Адамчык вяртаўся гэтымі днямі дадому на змярканні. І сёння яго доўга не магла дачакацца Верка.

Дзеці даўно спалі, а яна, хоць і натамілася на сенакосе, ніяк не магла заснуць. Верка прыслухоўвалася да кожнага гуку, спадзеючыся, што, нарэшце, Ігнат прыйдзе дахаты. Штораніцы яна з жалем і спадзяваннем выпраўляла яго ў кантору, не ведаючы, калі ён вернецца. За дзецьмі днямі наглядала Агапка, і Верка, вярнуўшыся надвячоркам з сенажаці, пыталася ў свякрухі, ці быў Ігнат дома, ці абедаў? І вельмі перажывала, што ходзіць ён галодны, клопатаў у старшыні было шмат, ды амаль штодня — няблізкі свет — выклікалі ў раён.

Як толькі пачула, што муж пастукаў у акно, жанчына хуценька ўсхапілася і кінулася адкідваць засаўку на дзвярах. Раней Верка не баялася нікога, а цяпер нейкі неўсвядомлены страх пасяліўся ў яе сэрцы, і гэтая засаўка нібы абараняла яе ад няпрошанага, ад таго зла, якое хоць і віхурыла пакуль далёка ад іх вёскі, але здавалася ўжо зусім блізкім і страшным, несла пагрозу яе малым дзеткам.

— Ты, Ігнатка? — перапытала ў сенцах.

— Я, Вера... — адказаў з вуліцы Ігнат.

Яна адкінула засаўку і адчыніла дзверы мужу, якога зусім не было відаць у начной летняй цемрадзі.

— Вер, слухай сюды... Тут людзі. У нас заначуюць. Нінку возьмеш да сябе, а я за печчу на ложку лягу. І Ваньку да сябе забяру, — ціха прамовіў ён.

— Пераначуюць у нас? Хто ета? — здзівілася яна.

— Потым, Верка, усё потым...

Ігнат пайшоў некуды, а яна вярнулася ў хату, запаліла лямпу. Пачутае яе ўсхвалявала. Толькі паспела за печчу апрануць спадніцу і сукенку ды вярнуцца ў пярэднюю, як у хату ўвайшла маладзенькая прыгожая жанчына з дзіцём на руках. А за ёю парог пераступіў высокі мужчына ў форме. Ён нёс чамадан, а Ігнат, які ўвайшоў апошні, трымаў у руках невялікі клунак.

— Добры вечар... — прамовіла жанчына.

— Вечар вам добры, Вера... — таксама прывітаўся і чужы чалавек.

Толькі зараз, калі гаспадыня добра прыгледзелася, пазнала яго: так, гэта ж той самы міліцыянер Коршак! Здаецца, Андрэем яго звалі. Бачыла яго неаднойчы. Апошні раз на судзе, на якім апраўдалі іх брыгадзіра і вартаўніка. Успомніла, як яшчэ, можа, месяц таму, Ігнат ёй паведаміў, што Коршак цяпер вялікі чалавек, начальнік міліцыі. Але ўсё гэта было малазначным для яе. Важным было хіба тое, а яна гэта хавала, як стрэмку ў сваім сэрцы, што ён, а не хто іншы, вышукваў і ў рэшце рэшт павёз на згубу яе былога каханага. І гэтага, як бы яна не хацела, не магла забыцца і дараваць яму, нават цяпер. Хоць і разумела, што, магчыма, ён добры чалавек. І Ігнат з ім, здаецца, пасябраваў, выходзіла, што Коршак ні ў чым перад ёй не вінаваты. Але… Толькі ж з якой нагоды міліцыянер і, мабыць, яго жонка і дзіця, сярод ночы прыйшлі ў іх хату?

— І вам таксама добры... — Вера разгубілася, але ў тую ж хвіліну саўладала са сваімі думкамі, і праявіла гасціннасць. — Што ж вы ета ў парозе? Праходзьце, праходзьце, сядайце...

— Дзякуй вам, Вера... — на запрашэнне першай адгукнулася жанчына з дзіцём. Яна, відаць, хацела нешта яшчэ сказаць, але яе апярэдзіў Ігнат:

— Верка, Нінку перакладзі да сябе ў ложак, а Яўгенія Паўлаўна...

— Калі ласка, завіце мяне проста Жэня, — усміхнулася Верцы жанчына па-свойску, нібы ведала яе даўно, а не ўпершыню пераступіла парог гэтай хаты.

— А Яўгенія... Жэня... там размесцяцца з маленькай... — паведаміў жонцы Ігнат. Ён аднёс у цёмны кут і паклаў на лаву клунак, а пасля падышоў да жонкі.

— Васілька я потым перанясу да сябе. Добра?

— Канешне, канешне, — пагадзілася Верка, і ціха сказала жанчыне: — Жэня, ідзіце са мною, а то дзіця разбудзіце...

Як толькі жанчыны пайшлі ў чыстую палову хаты ўладкоўвацца, Коршак паставіў ля лавы чамадан, і падышоў да Ігната, які крыху разгублены стаяў пасярод хаты.

— Разумееш, Ігнат, у мяне няма выхаду. Я проста не ведаю, куды іх адправіць. Для мяне, Ігнат, яны ўсё. Жэня, як і я, сірата. Раслі разам у дзіцячым доме. Пасля вось сустрэліся, пакахалі. Ды што я кажу... — голас Коршака задрыжаў, яму перахапіла дыханне. — Прымі яе. Я мала каму давяраю на гэтым свеце. А ты, не сумняваюся, не выдасі. Ды і Верка твая за жыццё шмат нацярпелася.

Ён памаўчаў. Ігнат не ведаў, што на гэта сказаць.

— Яна не Коршак, засталася на сваім дзявочым прозвішчы, так атрымалася, працавала настаўніцай. У школе, ведаю, у вас ёсць месцы, калі што. Толькі трэба прыдумаць версію, як яна ў вас апынулася, каб ні адна жывая душа не дазналася, хто яна на самай справе...

— А што тут думаць? Будзем лічыць яе жонкай майго малодшага брата Мікалая з Мазыра. Бечынцы ведаюць, што ён пазалетась ажаніўся з нейкай настаўніцай, узяў жонку з дзіцём, я так і сам не зразумеў — яго тое дзіцё ці не яго, але так атрымалася, што дагэтуль мы нават яе не бачылі. Абяцалі гэтым летам прыехаць, ды брата некуды на курсы адправілі, паведаміў бацькам. Людзям скажам, што адправіў жонку да нас пагасціць, а тут вайна. Захоча — у нас будзе жыць, захоча — на хутары ў бацькоў, каб хутчэй бечынцы паверылі... — прапанаваў Ігнат.

— А калі сапраўдная нявестка заявіцца? — засумняваўся Коршак.

— Наўрад. За два гады брат не прывёз яе нават пазнаёміцца. Бацькам, зразумела, праўду скажам. А Верка ўжо, бачу, Жэню прыняла.

— Я ўсё думаў, ці не памыляюся? Цяпер бачу, што не, — з удзячнасцю сказаў начальнік міліцыі, моцна пацiснуў Ігнату руку. І паведаміў:

— А я заўтра на фронт, ледзьве згоду далі. Цяпер не ведаю, як Жэньцы сказаць. А можа, і не трэба нічога гаварыць, ціха сысці.

Навіна ашаламіла Адамчыка. Ён нават разгубіўся і не ведаў што адказаць.

— Тут, браце, нічога не параю. Думай сам. Але ж і я, мабыць, доўга не затрымаюся, хоць і беспартыйны...

— Затрымаешся. Можа, увогуле цябе не возьмуць, хоць ты і прызыўнога ўзросту. Не ведаю, які там далей будзе расклад, але зразумей, ты галавой адказваеш за дзяржаўныя пастаўкі, з вас шкуру здымуць. І другое, самае важнае...

Коршак замаўчаў на хвіліну, а потым дастаў са сваёй камандзірскай сумкі вялікі пакет. Перадаў яго Адачыку.

— Прывёз табе позвы з ваенкамата: усе здаровыя мужчыны 1905—1918 гадоў нараджэння ў 8 гадзін раніцы 1 ліпеня павінны быць у ваенкамаце.

— Дык гэта фактычна ўсе мае калгаснікі, — цяжка ўздыхнуў Ігнат. — Эх, не чакаў я, што так павернецца ўсё, верыў, дадуць адпор нашы.

— Учора немцы захапілі Мінск. Ты павінен усё зразумець і зрабіць вывады. Не так проста. Мы пакуль адступаем. Веру, што часова. І сюды вораг не прыйдзе. Таму арганізоўвай працу без іх. У раёне застаецца Нікіценка. Ён па загадзе з вобласці стварае знішчальны батальён, у які ўвойдуць не прызваныя ў армію актывісты і прызнаныя нягоднымі да страявой службы, пагранічнікі і міліцыянеры, — сказаў начальнік міліцыі.

— А хутка ж жніво. Жыта ж якое стаіць, а проса... І ўсё сёлета паказвае на такі багаты ўраджай. А тут такое ліха — вайна... — ніяк не мог супакоіцца старшыня калгаса.

— Будзеце самі нeяк спраўляцца, — адказаў міліцыянер і сумна ўсміхнуўся, устаў, паглядаючы на дзверы, напэўна, чакаў, калі выйдуць з пакоя жанчыны.

— Дык ты не заначуеш? — здзівіўся Ігнат.

— Хутка поўнач, а ў 6 гадзін мне быць на вакзале. Я не сабраўся, не хацеў казаць Жэньцы праўды.

— Андруша, ты... Ты... Я сама пра ўсё здагадалася...

Коршак азірнуўся і ўбачыў перад сабой заплаканую жонку.

— Даруй мне, каханая. Я не мог, — ён абняў яе, моцна тройчы пацалаваў. — Беражы Святланку, наша рыжае сонейка. Беражы сябе. Трымайцеся тут усе разам. Вера, прабачце, калі што, проста нам больш няма да каго звярнуцца. Муж вам усё растлумачыць.

І ён рашуча пайшоў з хаты.

Цяпер заплакала і Верка. Яна падышла да Жэні, абняла яе. Жанчыны, нібы родныя, плакалі разам.

Ігнат не мог трываць гэтых слёз і выйшаў з хаты.

## 5

Як прачнулася сонца і заняўся новы дзень, слёзы не мінулі ніводнай бечынскай хаты. Незайздросная місія была ў Ігната Адамчыка. Большасць бечынскіх хлопцаў прызыўнога ўзросту імкнулася на фронт. Старэйшыя мужчыны, якія добра разумелі сваю адказнасць перад сем’ямі, ставіліся да гэтага больш цвяроза: мабілізацыя давала льготы, але ж калі вораг прыйдзе сюды, што будзе з жонкамі, дзецьмі, з бацькамі. Ды, нават, калі не быць тут немцу, як яны будуць жыць?

Незадаволена сустрэла Ігната Адамчыка і жонка Салавейчыка:

— А цябе, Ігнат, выходзіць, пакідаюць на гаспадарцы, а мой — на фронт? Ты ж пагодак майго Івана. Ды і партыйны ён. Як жа так?

— Змоўч, Надзя! — прыкрыкнуў на яе старшыня сельсавета. — У цябе на шыі калгас? Ты мне траіх дзяцей нарадзіла, як яму Верка? Пражывеш. Не зважай, Ігнат.

Адамчык нават разгубіўся, пачуўшы гэта, хацеў нешта запярэчыць, але жанчына бразнула дзвярыма і вылецела на вуліцу. А Салавейчык горка ўсміхнуўся:

— Здаецца, і маладыя яшчэ, і каханне тое было. Ды не зажылося нeяк. Няма ў нас з ёй таго шчасця, як у людзей. Хаця ж, што цяпер пра шчасце. Табе сельсавецкі скарб сёння перадаць?

— Сказана ў раёне: Вераб’ю.

Ігнат больш нічога не сказаў, узрушаны пайшоў далей — у кішэні яшчэ ляжала з дзясятак позваў. І ніхто з людзей не радаваўся яго прыходу. Шмат было і такіх, што з непрыхаванай нянавісцю глядзелі на старшыню калгаса, які ў хату нясе такую страшную паперу, але маўчалі.

Назаўтра з раёна прыехала пяць палутарак. А палове шостай раніцы ў цэнтры вёскі каля сельсавета на мітынг сабралася ўся вёска. Усе прыціхлі, калі слова на дарогу тым, хто ішоў на вайну, сказаў сакратар парт’ячэйкі Верабей, які толькі што вярнуўся з Мазыра:

— На абарону Краіны Саветаў паўстаў кожны калгаснік, які сумленна выканае свае абавязкі, ускладзеныя на яго партыяй і ўрадам у гэтыя гіста-

рычныя дні. Землякі! Не дапусціце фашысцкіх вылюдкаў на родную зямлю! Ганіце іх прэч у сваё логава! А тут, у Бечыне, вашы родныя і блізкія будуць стаханаўскай працай на палях усяляк дапамагаць вам, і ўсім нашым слаўным лётчыкам, танкістам, чырванафлотцам, кавалерыстам, пехацінцам, каб хутчэй разграміць ворага.

Прагучала каманда «па машынах». Галасілі жанкі, праклінаючы Гітлера, на іх руках плакалі спалоханыя дзеці. Праз некалькі хвілін аўтамабілі вырульвалі з вёскі, пакідаючы пасля сябе сцяну горкага пылу. Не зважаючы на гэта, услед за імі доўга беглі жанчыны і дзеці. Тут, ля сельсавета, засталіся толькі нямоглыя старыя, якія абапіраліся на кійкі, і знямела пазіралі на машыны ды хрысцілі ўслед сваіх родных, спадзеючыся, што Бог верне іх назад жывымі і здаровымі.

## 6

Нікіценка злаваўся на Адамчыка, крычаў у трубку:

— Што значыць, не паспяваеце? Коней па плане перадалі? Трактар эмтээсаўцы забралі?

— Шостага ліпеня ўсё як трэба па акце перадалі. І коней. Яшчэ нават не вярнуліся гуртаўшчыкі. Учора на досвітку адправілі свіней. Ды іх у раёне ніхто не прымае, — таксама злосна ў адказ першаму сакратару даводзіў сваё старшыня калгаса.

Сувязь раптам перарвалася. Адамчык нецярпліва чакаў, калі яна адновіцца, аднак тэлефон маўчаў.

За сталом канторы сядзеў расчырванелы Верабей.

— Што чутна? — сказаў ён і заклапочана паглядзеў на Ігната.

— Зразумеў толькі, што на чыгунцы не да нас. Грузавыя аўтамабілі перададзены арміі. Заўтра трэба эвакуіраваць кароў, сваім ходам. Крычыць, шкуру здзярэ, калі хоць адна жывёліна прападзе — персанальная адказнасць на мне...

— Пра немцаў што?

— А нічога. Ні слова.

Верабей маўчаў. Думалі абодва пра адно і тое ж: што будзе з людзьмі, са старымі, жанчынамі, дзецьмі, калі немцы так хутка наступаюць і не сёння-заўтра будуць тут?

— Вазьму трох-чатырох старшакласнікаў і пагонім кароў. Толькі невядома пакуль куды: у Мазыр, ці на станцыю ў Калінкавічы?

— А з цялятамі — што думаеш?

— Зараз распараджуся: хай разбяруць даяркі па хатах. Яны не дойдуць і палову дарогі. Яшчэ за падзёж да сценкі паставяць…

— Мабыць, будзе правільна, Ігнат Сцяпанавіч, калі раздадзім цялят людзям, — пагадзіўся Верабей і сумна ўсміхнуўся.

Нарэшце, зноў запрацавала сувязь. Нікіценка цяпер гаварыў больш спакойна: паведаміў, што калгасных свіней пагрузілі ўжо ў вагоны, а бечынцаў, якія іх прыгналі на станцыю, адправілі дадому. Таварных вагонаў больш не будзе. Эвакуацыю кароў арганізаваць заўтра ж сваім ходам.

— Каля Петрыкава будуць аб’ядноўваць іх у большыя гурты. Перададзіце пад распіску ўпаўнаважаным ці вайскоўцам. Астатняе вырашайце самі.

Пакліч Вераб'я, — Нікіценка, адчувалася, быў вельмі стомлены, і цяпер гаварыў ціха.

Ігнат перадаў трубку сакратару парт'ячэйкі, і заўважыў, як той змяніўся ў твары, стаў бледны, нібы палатно. Нарэшце Верабей павесіў трубку і злосна мацюкнуўся.

— Што такое, Антон Сцяпанавіч? — не на жарт занепакоіўся Ігнат.

— Поскудзі. Ну, хіба ж гэта людзі? — Верабей застыў на месцы.

— Ды што там? — не адставаў Адамчык.

— З прызыўнога пункта драпанулі пяцёра. З нашага сельсавета...

— Бечынцы ёсць?

— Двое. Піліп і Цімох Аксёнавы. Во паскуды, — зазлаваўся той. — А бацька ж яшчэ памочнік брыгадзіра, ты хацеў у праўленне яго.

— Дык гэта ж бацька, не хлопцы, — спакойна адказаў Адамчык.

— Дрэва пазнаецца па пладах, — цвёрда прамовіў Верабей. — Калі заявяцца, трэба паведаміць у аддзел. Судзіць трэба гадаў.

— Хавацца будуць. Але ж шукай цяпер ветру ў полі.

— Усё жыццё не будзеш хавацца ад людзей. Што скажу, браце: час зараз будзе выпрабоўваць усіх, хто чым дыхае.

Ён памаўчаў, потым спытаў у Адамчыка:

— А чаго сам маўчыш? Кажуць, радня заявілася? Мікалай сваю жонку да вас выладзіў?

— Дапялася да нас, ага. За настаўніцу вывучылася. Ды дзіцё зусім малое на руках.

— Не ў добры час, але ж куды дзенешся, так? Брата ж прызвалі ў армію?

— Кажа: ужо 23 чэрвеня забралі. Ён жа ў пашпартным стале служыў. Паспеў жонку з дзіцём на таварняк пасадзіць. Хто-хто, а бацькі мае рады: нявестка ўсё ж.

— Мда... Хто ж ведаў, што такое здарыцца? Бяда. Але і тут, чуе маё сэрца, не цукар будзе. Лепш бы ў Расію ён яе выправіў. Жывёлу во вывозім туды, а невядома, што тут цяпер са сваімі людзьмі будзе.

Ён хацеў падзяліцца тым, пра што баяўся і думаць, але не стаў працягваць далей гэтую гутарку і раптам пачаў збірацца ў сельсавет.

— Паступіла распараджэнне тэрмінова ліквідаваць архіў парт'ячэйкі і сельсавета, найбольш важныя дакументы я ўжо адправіў у раён. Потым прынясу акт. Падпішаш. Партыйных жа ў сельсавеце не засталося.

— Падпішу, Антон Сцяпанавіч... — адказаў Ігнат, узрушаны пачутым ад старога бальшавіка. Ён быў згодны з ім: ніхто яшчэ і слова не сказаў, як жыць людзям, іх жа ніхто не эвакуіруе. Што іх тут чакае, калі раптам Чырвоная Армія адступіць.

Але думаць асабліва не было калі. Спачатку дамовіўся з камсамольцамі, з якімі на досвітку, калі вёска яшчэ будзе спаць, каб не было слёз і галашэння, пагоняць калгасны статак. На фермерскім двары застаў Нюрку Аўдзейчыкаву, якую з паўгода як праўленне прызначыла новай загадчыцай.

Тая спытала:

— Ігнат, мо што чуваць пра нашых мужыкоў? Ты ж у раёне быў.

— Не, Нюрка, іх жа з ваенкамата адразу ў Мазыр павезлі, а потым каго куды. Можа, напішуць хутка, — адказаў ён занепакоенай жанчыне.

— А што ж гэта ў нас будзе? Той ноччу недзе збоку ад Слуцака так грымела, так страшна... — Нюрка спалохана глядзела на мужчыну, а той не ведаў, што і адказаць.

— Будзем спадзявацца, што спыняць навалу. Я пайду, Нюра, мая там звялася, мабыць.

Ён ішоў праз усю вёску дахаты, і, здавалася, не пазнаваў яе. Быццам вёска такая ж, як і ўчора, у дварах корпаліся куры, а сям-там старыя кабеты на градах палівалі гуркі, нехта сушыў на падворках сена, прывезенае з ўзбалотка, недзе рыпеў калодзежны журавель, але ўсё было не так, як раней… Сёння вёска Ігнату падалася ціхай і пустой, нават сабакі сцішыліся і не брахалі так, як раней.

З цяжкім настроем Адамчык прыйшоў дадому, дзе яго каля ганка даўно чакаў бацька і гутарыў аб нечым з унукам Іванам. Ігнату ўсё ніяк не выпадала гэтымі днямі з ім пагаварыць, а старому карцела шмат пра што даведацца ў сына.

— Здароў, тата... — першым прывітаўся Ігнат, і накіраваўся да калодзежа, напіўся з карца вады.

— Здароў, сынку, — сказаў стары, але нават не глянуў на яго, усім выглядам паказваючы, што сын у нечым правініўся перад ім. — Ідзі, унучак, пагуляй, пазней табе вуду зробім. Мы тут з бацькам пагаворым.

Хлопчык паслухаўся:

— Потым пазавеце, дзеду? Добра?

— Добра, галубок!

Ігнат сеў насупраць бацькі на калодзе. Уважліва паглядзеў на старога. Выгляд у таго быў кепскі: бацька моцна схуднеў, адны выцвілыя вочы былі па-ранейшаму жывыя, учэпістыя.

— Зусім ты на старых ды на сям'ю сваю забыўся, бачу... — пачаў Сцяпан Адамчык і з непрыхаванай крыўдай у вачах паглядзеў на сына.

— Бацька, вы ж ведаеце, якое ў мяне зараз жыццё.

— А гэты савецкі хамут ні я табе, ні маці, ні жонка, ні дзеці не накідвалі на шыю, каб так мучыцца... — стары, адчувалася, заводзіўся, яму карцела выказаць сыну ўсё тое, што ў яго было на душы. — Табе, ужо ж бачу, нямала ад таго старшынства прыбавілася ў гаспадарцы, каб не бацька, то дзеці галадалі б.

— Ты зноў пра гэта будзеш? Сказана-пераказана. Не памерлі б і без вашай помачы, людзі ж неяк выжываюць, — запярэчыў Ігнат, але слоў не хапала, разумеў, праўду кажа стары: цяжка было б ім з Веркай, каб бацькі не дапамагалі.

— Неслух. Вось што. Хоць сам хутка пасівееш раней часу. Стараешся кожнаму з дабром, а людзі, ведаеш, шэльмы, яны не такія, як табе здаюцца. Яны пра сваё ўсё роўна дбалі і будуць дбаць, а не пра калгас. Ды яшчэ глядзі — наводзяць усякую сволач, — стары раптам закашляўся, нібы натыкнуўся на нейкую перашкоду.

— Бацька, ведаеце, час які? Вайна, немцы на парозе, а вы ўсё пра сваё, — раззлаваўся сын. — Браты ўжо ў войску, і мяне забяруць, бронь гэта часовая...

— Ды я пра тое і кажу, што свет перакуліўся. А ты пацерпіш першы, пакуль яшчэ той немец прыйдзе.

— Што ты ўсё кругамі? Кажы, што надумаў?

— Ноччу ў мяне былі... Ледзь жыццё не вытраслі... — бацька ўважліва паглядзеў на сына, і той убачыў у вачах старога слёзы.

— Хто? — зніякавеў Ігнат.

— Твой знаёмец, Зміцер Аскерчык, які жыццё ў цябе ледзь не забраў,

памятаеш? З яго братамі… ляснымі. На вуліцу вызваў, абрэз да шыі прыставілі, — стары заплакаў. — Добра, што маці наша глухая стала, спала, не чула нічога.

— Што гэты бандыт хацеў?

— Цябе папярэдзіць. Сказаў так: калі хоча, каб усё добра было, да таго, як немцы прыйдуць, дабро калгаснае каб людзям раздаў, не вывозіў у раён. І пра яго радню не забыўся. Зробіш так, як казаў — немцы нікога не зачэпяць.

— Гад! Я табе гаварыў, перабірайся ў вёску, а ты ўпёрся. У вёску поскудзь гэта не сунецца.

— Сунецца. Ён з нейкімі такімі як сам, здалёку прыходзяць. Сынок, глядзі, цяпер усе незадаволеныя савецкай уладай падымуцца, помсціць будуць. Хоць ты і беспартыйны, але ж...

— Ваўкоў баяцца — у лес не хадзіць, тата. Заўтра ў калгасе і фермы не будзе — усё астатняе ўжо вывезлі, — сказаў сын. — Сёння ж перабірайцеся да нас, бакоўка пустая, тут жывіце.

— Не, сынок. Ды і маці не згодзіцца. Тут у цябе і жанчына з'явілася з дзіцем. Што гэта за размовы, нібыта яна нявестка наша, Міколава жонка? — насцярожана спытаўся стары.

— Так трэба, тата. Гэта жонка добрага чалавека. Ніхто пра гэта не павінен ведаць, што Жэня не наша, — ціха адказаў сын.

— Ну,ето табе відней. Мы са старой будзем маўчаць. Але ж каб ліха не будзіць, можа, не забудзь пра Аскеркаву цётку — Хрысціну. Не дарэмна еты гад прыходзіў, каб чаго не выйшла. Чалавек жа яе памёр, адна дзяцей паднімае. Больш тут у яго, здаецца, няма радні...

— Каторая? Міраковічава? Яна ж няблага робіць у брыгадзе. Не верыцца, што магла памагаць Аскерчыку.

— Ніхто не ведае, што і як. Але радня ва ўсе часы застаецца раднёй. Памятай гэта, — сурова адказаў бацька. — А ў вайну асабліва. Кажуць, з райцэнтра людзі бягуць на Усход. Начальства даўно ўсіх сваіх жонак і дзяцей вывезла. А астатнія, што — прападай тут, пад немцам. Як тут бальшавікоў зразумець? Даагітаваліся, тваю маць…

— Тата, калі і так, то ўладзе лепей відаць, што ў гэтай сітуацыі рабіць. Хаця ніхто не ведае, што будзе заўтра.

— Спалохалася яна, твая ўлада, вось што. А мы за яе адкажам перад немцам, жыццём адкажам, папомніш, сыне.

Стары не застаўся начаваць, а паехаў на хутар.

## 7

Росным досвіткам, калі толькі пачалі адзывацца галасістыя і задзірыстыя пеўні, бечынскія камсамольцы выгналі жывёлу з прыфермскага двара. Разам з пагоншчыкамі на ферму прыйшлі і даяркі, хаця Адамчык не прагаварыўся Нюрцы дакладна, у які час будуць выганяць кароў. Жанчыны разам са сваёй загадчыцай стаялі ля агароджы, з вачыма, поўнымі слёз, Нюрка раптам загаласіла, і астатнія — за ёй.

Ігнат звычайна рэдка злаваўся на людзей, цяпер жа не мог стрымацца і накрычаў на жанчын. У самога сэрца было не на месцы, а тут памочніцы аб'явіліся. Ён казаў кабетам, каб ішлі дадому, аднак тыя не слухаліся яго,

супакоіліся і ішлі за статкам крыху воддаль яго. Пайшоў следам і Ігнат, баючыся сустрэцца вачыма з каторай з іх.

Справіцца са статкам аказалася справай нялёгкай. Першацёлкі, у якіх на ферме засталіся цяляты, не хацелі падначальвацца паганятым, імкнулі назад, на ферму, а калі іх разварочвалі, жудасна рыкалі. А за імі, быццам зразумеўшы, што назаўсёды пакідаюць родныя мясціны, нібы згаварыўшыся, паднялі вэрхал, заўпарціліся астатнія каровы, і ніяк не хацелі ісці туды, куды гналі іх людзі. Тыя ж не здаваліся: падганялі не шкадуючы, балюча хлясталі пугамі, цкавалі сабакамі, і жывёла, нарэшце, сабралася ў статак, які хоць і марудна, але ішоў наперад. А неўзабаве адбылося тое, чаго старшыня баяўся больш за ўсё.

А здарылася вось што: вяскоўцы, яшчэ здалёк заўважыўшы чорна-рудую хмару пылу ля лесу, здагадаліся пра ўсё, і беглі ад сваіх хат да прылеску, да прасёлачнай дарогі, якая выходзіла за вёску, каб спыніць статак. А калі зразумелі, што спазніліся, спыніліся каля апошняй хаты, акружанай роўнымі радамі маладых бярозак, спыніліся і моўчкі, сумна глядзелі яму ўслед, — нібыта праводзілі ў апошні шлях. І як тут не зразумець людзей: жывёла паіла, карміла іх і ў багаты год, і ў недарод. І вось нажытае ў сумеснай працы, самае вялікае багацце для палешука, што спрадвеку сведчыла аб яго заможнасці, сыходзіла з вёскі.

Вяскоўцы доўга стаялі на вуліцы, забыўшыся на свой ранішні клопат, пра няпаленыя печы, пра сваіх кароў, якіх тым часам трэба даіць і карміць, даглядаць, і з жалем у вачах глядзелі туды, дзе з лесам, нарэшце, параўняўся калгасны статак і неяк адразу знік у ім, быццам яго тут і не было зусім.

Але нават цяпер, калі ўлады эвакуіравалі калгаснае дабро на Усход, нікому з бечынцаў не хацелася верыць, што вайна ўжо блізка, лічы, каля парогаў іх хат. Не хацелася думаць, што яна прыйдзе сюды, у палескую глуш, у іх вёску.

## 8

Прайшоў тыдзень, а Ігнат з хлопцамі не вярталіся дадому. Знерваваныя мацяркі адна за адной прыбягалі да Адамчыкавых, каб спытаць у Веркі: можа, весткі якія ёсць? Даўно ж павінны вярнуцца, нейкіх пяцьдзясят вёрст да таго Петрыкава, куды хлопцы пагналі статак; няхай дзень туды, дзень сюды, але ж даўно час быць дома. І хоць Верка і сама цяпер была слабая на слёзы, але хавала іх, не ведала, што казаць аднавяскоўкам.

Калі яны сышліся ля іх двара і сёння, яна не ведала, што і думаць. І толькі Жэня, нявестка Сцяпана Адамчыка, старалася супакоіць баб:

— Жанчынкі, не думайце кепска... Ці мала што адбылося? Можа, у Петрыкаве не так што пайшло, глядзіце, каб у Калінкавічы не давялося гнаць статак. Усё можа быць, — супакойвала яна аднавяскоўак. — А адтуль, пагадзіцеся, паспрабуй вярнуцца за такі час, ага! Гэта ж больш за сотню кіламетраў, ды пешшу. Можа, на цягнік які там сядуць ды прыедуць у раён. Ці па Прыпяці, на кацеры ў Тураў. Дык і з Турава да нас няблізка… Не думайце, Ігнат не такі, не кіне вашых дзяцей. Хутка павінны вярнуцца.

— Каб жа так было, як ты кажаш, маладзічка, — вохкалі кабеты.

— А ты, Верка, як думаеш? — усё не адставалі ад жонкі старшыні калгаса жанчыны.

— Так, затрымала іх нешта. Але на добрае спадзявацца трэба. Вернуцца. Не сёння, дык заўтра, — казала жанчынам Верка, хаця сама ўжо не верыла ў гэта.

Паступова жанчыны супакойваліся. Пачыналі гаварыць пра жыта, якое хутка паспее, і яго неяк трэба жаць. А як за гэта возьмуцца, калі толькі некалькі старых, нямоглых кабыл засталося. А што будзе з бульбай, якая добра адцвітае? Пасля ж, нібы згаварыўшыся, пачалі распытваць прышлую маладую жанчыну-настаўніцу, якая гаварыла з імі проста, як раўня, і бечынцам гэта падабалася.

— А як твая дзевачка? Ці прывыкае ў нас?

— Нічога, цётачкі. Прывыкне, — адказвала тая. — Ды і Верчына Нінка нянька, што трэба. Калі ўсё добра будзе, то, можа, і настаўнічаць пайду ў верасні, калі... — прамовіла Жэня і нечакана абарвала сваю думку, падумаўшы, што дарэмна сказала пра тое, аб чым людзі баяліся цяпер гаварыць, пра вайну.

— Ну то бывайце, будзем чакаць.

Жанчыны пайшлі, а Верка раптам рашуча сказала Жэні:

— Схаджу гэта я да Вераб'я. Ён цяперака ў нас і за старшыню сельсавета, і, лічы, за галаву калгаса. Няхай пазвоніць Нікіценку. Нешта ж там не так — як праваліліся скрозь зямлю.

— Мо і мне з табой, Вера? — спытала Жэня.

— Не, будзь дома. Дзеці прачнуцца, малачка я ў печы напарыла. Куццю прыставіла. Вярнуся хутка.

На вуліцы стаяла паўдзённая спёка, не прадыхнуць, але Верка не звяртала на яе ўвагі. Думала пра мужа і дзяцей-падлеткаў, якіх ён узяў з сабою: толькі б нічога кепскага не здарылася з імі, людзі тады не даруюць.

Вераб'я ўбачыла здалёк, ён якраз выходзіў з сельсавета. Мужчына перайшоў вуліцу і спыніўся ля канторы, сцішыўся чамусьці пад маладой ліпай. Калі падышла бліжэй, паклікала:

— Сцяпанавіч, вы што ето...

Верка не дагаварыла, бо вельмі здзівілася: упершыню бачыла, каб Верабей курыў.

— Ну, і куды гэта годна? Я са сваім столькі ваявала, каб кінуў гэтае зелле, а тут сакратар партыйны прыклад паказвае.

Толькі калі Верабей, высокі мужчына з рана пасівелым чубам, азірнуўся, у Веркі пахаладнела ўнутры: здагадалася, што нешта здарылася.

— Божачкі, ды што ж такое?

Верабей не ведаў куды падзець вочы, але мусіў сказаць тое, пра што толькі даведаўся сам:

— Верка, родная... Набярыся мужнасці. Бяда. — Верабей глядзеў ёй у вочы, у якіх бачыў толькі адно: спачуванне і боль. — Не вернецца Ігнат. Няма яго...

— І што гэта вы такое прыдумалі, дзядзька Антон? — не зразумела жанчына. — Што значыць, не вернецца?

Верка раптам падумала пра тое, што не выходзіла ў яе з галавы ўсе гэтыя тыдні: Ігната ж, канешне, таксама забяруць. Другога не дадзена. А цяпер і ад калгаса, лічы, мала што засталося, шмат чаго вывезлі, нават трактар ёй прыйшлося гнаць у Міткавічы, перадаваць вайскоўцам.

— Што? Яго забралі? Толькі ж як гэта несправядліва: і дадому не выпала вярнуцца, адразу, мабыць, у ваенкамат... — яна спалохалася таму, што сказала, нават у сэрца закалола.

— Пад Мазыром яны доўга чакалі, пакуль прымуць у іх статак. А тут раптам нямецкая авіяцыя...

— І што? — яна няўцямна пазірала на Вераб’я.

— Хлопцы, на шчасце, цэлыя, толькі з гадзіну якую, як вярнуліся...

— А Ігнат дзе, дзядзько Антон? З імі, у канторы?

Верка ўжо хацела кінуцца праз дарогу да канторы, але Верабей спыніў яе.

— Вера, паслухай. Ён каля статка заставаўся, а іх, маладых, у прылесак адправіў, у цень. Дык вось і параніла яго. Сур’ёзна, мабыць. Ігнат пры іх так і не прыйшоў у сябе. Хлопцы сказалі, некуды павезлі старшыню, можа, у бальніцу, а іх ваенныя адразу дадому выправілі. Пашанцавала якраз ім, на кацеры да Петрыкава па рацэ плылі, адтуль пехам ужо.

— Гэто няпраўда! Гэтага не можа быць! — заплакала Верка. — Дзе яны? Я сама распытаю...

Верабей абняў яе, здзіўлены: адкуль сілы ў такой худзенькай жанчыны, з выгляду зусім яшчэ дзяўчо. Не верылася, што гэтая маладзічка паспела нарадзіць Ігнату траіх дзетак, чаго ён, Антон Верабей, так і не дачакаўся ад сваёй жонкі. Як дачку, ён гладзіў Верку па галаве, угаворваў:

— Не плач, не перажывай, Верка... Жыў будзе наш Ігнат. Ён крэпкі. Выдзюжыць...

— Ён моцны, ага... Толькі б не забілі б, праўда? — яна глянула Вераб’ю ў вочы, шукаючы ў іх пацвярджэння таму, што сказала.

— Не, не забілі. Жыць будзе. Я звязаўся з Нікіценкам. Знойдзем нашага старшыню, не перажывай так. Хлопцы казалі, што нейкі капітан забраў Ігнатавы дакументы, там ведаюць, хто ён. Ну, што ж ты, дурніца? У цябе ж дзеткі, не трэба так убівацца, падумай пра іх.

Маладзіца роспачна плакала на яго плячы, а ён зусім разгубіўся, не ведаючы, што зрабіць, каб яе, гаротную, суцешыць.

— Дзядзька Антон, можа, вы яшчэ пазвоніце? Можа, яго ў абласную бальніцу адвезлі? — Верка адхінулася ад Вераб’я і надрыўна заплакала.

— Пачакаем крыху, дачка. Прабач, не курыў гадоў дзесяць, а тут, бачыш, сарваўся... — Верабей кінуў на зямлю цыгарку, затаптаў яе, і яны разам пайшлі ў кантору.

Аднак дазваніцца ў раён так і не ўдалося, тэлефон упарта маўчаў.

Са збалелым сэрцам жанчына вярталася дахаты. Жэня ўжо ведала пра бяду, знерваваная, чакала сваю гаспадыню і сяброўку — нехта з мацярок хлопцаў, якія былі з Ігнатам і вярнуліся, прыбягаў да Адамчыкавых, распавёў ёй, як усё было. Аднак Верка цяпер не плакала, толькі спыталася ў Жэні:

— Ты камсамолка?

— А як жа? — здзівілася тая.

— І я... Але, мабыць, я няправільная камсамолка... — горка ўсміхнулася Верка.

— Што ты прыдумала? Ты ж вунь перадавічка ў нас! На ўвесь раён слава... — здзівілася тая.

— А я на могілкі зайшла. У нас там да рэвалюцыі царква была. Ды спалілі яе. Я малілася, верыш. Як мамка вучыла, малілася... Прасіла Бога, каб не забіраў ад мяне Ігната. Аднаго ўжо забраў...

— Каго забраў? Ты пры розуме, дзеўка?

— Ды быў у мяне каханы такі. Рыгоркам звалі. Да Ігната яшчэ. Дарэчы, твой Коршак яго і арыштоўваў. Ці то Бог развёў нас з Рыгоркам, не, хутчэй людзі. Думаю, цяпер не можа ж быць так, калі зноў падараваў Бог мне шчасце, ды раптам зноў забраў? Не можа, разумееш, такога быць,

Жэнька! — Верка гаварыла ціха, але ўпэўнена. — І мой Ігнат вернецца, вось пабачыш!

— Канешне, ён хутчэй за ўсё ў бальніцы, дык паправіцца, — пагадзілася названая братавая.

— І абавязкова вернецца, — з болем усміхнулася Верка, пачуўшы яе словы.

— Гэта табе таксама... Бог сказаў? — здзівілася Жэня.

— Гэта мамчын Бог. Ён, ведаеш, не схлусіць... Я ж ад свайго адцуралася.

Стомленая, яна пайшла ў хату.

Апошнія словы Веркі вельмі ўразілі Жэню. Яна ж не прызнавалася нікому, што з тае начы, як Андрэй пакінуў яе ў Бечыне, яна таксама, штовечар кладучыся спаць, малілася...

## 9

Размова па тэлефоне была цяжкая.

— Я ж камуніст, ваенны чалавек, павінен быць у войску! Як жа людзям у вочы буду глядзець? — Нікіценка быў узрушаны, пачуўшы тое, што казаў яму першы сакратар Палескага абкама КП(б)Б таварыш Лявіцкі. А сказаў той важнае.

— Змагацца з ворагам, таварыш Нікіценка, можна не толькі на фронце, у радах Чырвонай Арміі, а і тут. Вось і вам партыя загадвае быць тут. Вы чулі, што сказаў таварыш Сталін.

— Але ж…

— Паслухай мяне, Андрэй…— Лявіцкі памаўчаў, а пасля прамовіў тое, што, мабыць, нікому яшчэ не гаварыў. — Гэта вайна надоўга. І яе зыход будзе вырашацца не толькі на фронце, але і ў тыле. Мы вінаваты, што не можам абараніць свой народ, пакідаем яго сам-насам з ворагам. А гэты народ нам верыў. Калі мы хочам перамагчы і сцвердзіць нашы сацыялістычныя ідэалы, трэба дзяліць з ім гора і радасць папалам, чуеш? Хто калі не мы павінны падымаць сваіх людзей на барацьбу з ворагам у тыле, ды так, каб зямля гарэла пад нагамі акупантаў?

— А як жа, яна гарыць… — Нікіценка злосна чмыхнуў у трубку. — Тураў, суседні раён ужо, лічы, заняты, пасёлак Ленін, Мікашэвічы, таксама, нашы пагранічнікі вядуць баі за подступ да райцэнтра, у пяці кіламетрах…

— Не трэба паддавацца паражэнчым настроям. Будзе цяжка. Вораг пад Смаленскам і месцамі нават прарываецца да Кіева. Але гэта часова… Ты ж ведаеш, у Мазыры таксама поўным ходам ідзе эвакуацыя. Трэба разумець, што наша справа святая, і перамога, як бы нам цяжка ні было, будзе за намі. І нам з табою не схавацца. Фарміруецца падполле, партызанскія атрады. Гэтая барацьба будзе на Палессі не менш жорсткай, чым на фронце. І ты ведаеш цяпер сваё месца. — Лявіцкі чамусьці закашляўся, а пасля дадаў. — Трымай сувязь з пагранічным атрадам. У знішчальны батальён, пакуль ёсць час, трэба ўключыць не прызваных у армію актывістаў і прызнаных нягоднымі да страявой службы. Калі немцы, так атрымаецца, пацясняць нашы войскі, сыдзеце ў балоты, пад Булеў Мох. Ведаю, там у вас непраходныя мясціны...

— Ёсць, таварыш Лявіцкі! Мне ўсё зразумела, — ціха прамовіў Нікіценка. Хацеў пакласці трубку, але раптам успомніў, што яшчэ карцела запытацца ў першага сакратара. — У мяне просьба. Я вам раней казаў…

— Ат, забыўся, таварыш Нікіценка. Мне сказалі, што твой старшыня жывы, але, мабыць, не жылец. Надзеі мала. Цяжкую аперацыю перанёс. Хіба маладосць дапаможа яму. 13 ліпеня эвакуіравалі яго ў Гомель, у шпіталь. Бывай, — прыглушана паведаміў Лявіцкі, і адразу ж у трубцы пачуліся кароткія гудкі.

Нікіценка моўчкі стаяў ля стала. Яму было шкада Ігната Адамчыка. Але што зробіш? Вайна. На сэрцы так балюча, шкада і мірных, безабаронных людзей, якія не сёння-заўтра сам-насам застануцца з ворагам. Аднак Вераб'ю Нікіценка павінен быў паведаміць, што іхні старшыня знайшоўся, каб Верабей неяк сказаў гэта яго жонцы, якая, мабыць, ужо спакутавалася, чакаючы мужа. Ды і дзеці таксама.

Але думкі Нікіценкі перарваў ваенкам Буйкіч, камандзір знішчальнага батальёна, які з парога нервова паведаміў:

— Таварыш Нікіценка, полк маёра Бандарэнкі адступае ад Мікашэвіч, войскі і пагранічнікі адыходзяць… Не сёння-заўтра баі пачнуцца на нашай тэрыторыі.

— Ясна, Мікалай. Кругласутачнае дзяжурства па гарадскім пасёлку ўзмацніць на гэтую ноч. Падключыць камсамольцаў. Заўтра, 16 ліпеня, з раніцы заняць абарону каля чыгункі. Падняць усіх, хто можа трымаць у руках зброю.

— Ёсць, таварыш Нікіценка. — Буйкіч крыху разгублена паглядзеў на Нікіценку. — А што далей будзе, Андрэй Мікалаевіч? У лес?

— Быць гатовым да ўсяго…

— Нават да здачы пасёлка?

— Нават, калі прыйдзецца адступіць… часова. Ты ж вайсковы чалавек… Дзейнічаем па плане, як дамовіліся.

— Зразумела. Дазвольце выконваць?

— Ідзі, Мікола. Мне трэба яшчэ ў Бечын пазваніць.

Верабей доўга не падымаў трубку. Нарэшце, пачуўся яго хрыплы голас.

— Слухаю.

— Гэта Нікіценка.

— Слухаю, таварыш першы сакратар... — адказаў той.

— Як абстаноўка ў сельсавеце, таварыш Верабей? — пацікавіўся сакратар райкама, стрымліваючы хваляванне.

— Пакуль ціха, таварыш Нікіценка. Але людзі хвалююцца.

— Што кажуць?

— А што тут казаць… Баяцца. Апошніх мужыкоў забралі. Вось толькі мяне, калеку, пакінулі на здзек ворагу.

— Ну, што вы так ужо… Трэба ж некаму і на гаспадарцы быць.

— Няхай так, што мне ўжо, прастрэлены ж увесь у грамадзянскую яшчэ. Тут не пра гэта размова. Каторы ж дзень абозы з людзьмі са слуцкага і любанскага накірункаў ідуць праз Бечын. Хто галодны, накормім.

— Што яны кажуць?

— Адзін тут учора з сям'ёй ехаў. З-пад Любані, кажа. Прыгледзеўся я: ці не старшыня сельсавета з Арэсы? Не, даводзіць, памыліўся ты, чалавеча. Рабочы я чалавек, кажа, у армію не ўзялі, бо стары, а хата згарэла. Дык на Браншчыну, да сястры перабіраемся.

Але, думаю, нешта не так. Бачыў яго да вайны недзе, можа, на якой нарадзе ў рэспубліцы. З-пад Арэсы ён, гад такі… Толькі, вось як у некага вочы пазычыў — бегаюць, а малака дзецям папрасіў. Шкада, пяцёра малых. Каму-

ніст, яснае дзела. Дык ён паведаміў, што раён акупіраваны немцамі, у райцэнтры нямецкі гарнізон, у вёсках таксама бываюць наездамі. Раённае кіраўніцтва з'ехала, сувязі ні з кім няма.

Верабей збіваўся, але, нарэшце, сказаў тое, што стрэмкай ныла ў душы:

— Кажуць, і ў нашым раёне не сёння-заўтра…

— Што я вам скажу, дарагі чалавек. Можа, сёння і я апошні раз з вамі размаўляю. Выступаем на абарону гарпасёлка.

— Як гэта? — голас на тым канцы дрота аціх.

— Праўда ў тым, што нашы войскі адсупаюць. Не сёння-заўтра будуць баі за раённы цэнтр. У выпадку адыходу вялікая група райактыву сыдзе ў лес. Па ўсёй Беларусі разгортваецца партызанскі рух… — Нікіценка хацеў яшчэ нешта сказаць старому бальшавіку, але сумеўся.

— Дык што нам рабіць, тут, на месцах, з бабамі і дзецьмі? — разгублена спытаўся Верабей. — На полі такое жыта, а толькі пару дохлых кабыл засталося, ды ў людзей некалькі коней на ўсё такое сяло.

— Будзем спадзявацца, што мірнае насельніцтва не пацерпіць. Вырашайце на месцы па абстаноўцы. І пра Адамчыка…

— Ці ж жывы наш Ігнат?

— Жывы. Лявіцкі сказаў, цяжкую аперацыю перанёс, эвакуіравалі ў Гомель. Толькі вельмі слабы.

— Гэта ж добра, што жывы. Верка, яго жонка, пачарнела ўся за гэтыя тыдні. Можа, выкараскаецца хлопча. Ды яшчэ паваюе, — уздыхнуў ці то радасна, ці то засмучона бечынец.

— Цяпер ва ўсіх жонак адзін клопат: што-небудзь пра мужоў даведацца. Можа, і паправіцца Адамчык, — пагадзіўся Нікіценка. — Дык бывайце, таварыш Верабей. Думаю, развітваемся ненадоўга.

— Дзякуй вам, таварыш першы сакратар. Гэта самая лепшая ад пачатку вайны вестка. Наша Верка будзе шчаслівая.

Узрадаваны, ён адклаў усе справы, і пайшоў у другі канец вёскі, да Адамчыкаў. Разумеў: нічога не ведаючы пра мужа і бацьку, там звяліся ўсе.

## 10

Калі Міколу Аўдзейчыка разам з усімі мужчынамі забралі на фронт, ён перадаў канюшню пад уладу сваёй жонцы. Пасмяяўся нават: яшчэ адна ферма на твае рукі… Там мала што засталося з калгаснага дабра, а з жыўнасці — тры стараватыя кабылы, адна з якіх была жарэбнай. Але як пакінуць іх без нагляду?

На апусцелай ферме ў той дзень сышлося нямала баб. Чакалі, калі ж падзеляць цялят. Верабей, які застаўся галоўным тутэйшым начальствам, перагледзеў яшчэ складзены Ігнатам Адамчыкам спіс. Зразумеў: галавой думаў хлопец, пра бяднейшых. Аднак раптам самым апошнім у спісе заўважыў прозвішча былой хутаранкі Хрысціны Мірановіч, і нават пачырванеў ад злосці: на табе, выслужылася нечым перад Адамчыкам гэткая краля хутарская!

Ніхто цяпер і не памятаў, што некалі да яе, роднай сястры-прыгажуні багацея Аскеркі, у свае рэдкія прыезды ў Бечын, заляцаўся маладжавы Іван Верабей. Спадабалася Хрысцінка хлопцу. Але адмовіла яму, пайшла за багацейшага. Іван узяў тады не любую яму сірату Маланню, бо прыйшоў

час ажаніцца. Аж потым Хрысцінка паплацілася: яе мужа за шкодніцтва арыштавалі, аддалі пад суд, дабро ў гаспадарцы звялося, і ёй не было іншай дарогі, як у калгас. Хрысцінка адна паднімала дзяцей, а гэта таксама для Вераб'я было як нажом па сэрцы: Маня губляла навароджаных, і ўрэшце, стала зразумела, што яна ўвогуле больш не зможа нараджаць. Сваю злосць на Хрысцінку Верабей хаваў шмат гадоў, і вось цяпер нечакана ўскіпеў і выкрасліў яе са спісу.

Калі нарэшце жанкі разабралі ўсіх цялят, ён убачыў, як заплаканая Хрысцінка цяжка ішла да свайго двара, не зважаючы на людзей, і зразумеў, што зрабіў няправільна. Спахапіўся, Нюрцы сказаў:

— Дагані Міронічыху, скажы: няхай забярэ парася на свінаферме, а як Лыска ажарэбіцца, і жарабя ёй аддамо.

Аднак Хрысцінка адмовілася ад ласкі Вераб'я, не пайшла па тое парася, якое невядома было, ці выжыве, бо свінаматка ад недагляду здохла. Хрысцінка, калі яе спыніла Нюрка і сказала пра парася, злосна бліснула вачыма на яе і глуха адказала:

— Каму дык здаровае цяля, а маім дзецям — дуля? Няхай тую дахляціну такі добранькі сам спажывае!..

…Праз нейкі час Нюрка Аўдзейчык, даведаўшыся ад людзей, што Ігнат Адамчык выжыў, на досвітку збегала да Веркі, каб падтрымаць сяброўку. Наплакаўшыся разам на двары, раптам сказала Верцы пра тое, што яе хвалявала:

— Трэба Вераб'ю сказаць, можа, хто забраў бы гэтых кабыл. Хоць старыя, але ж работу цягнуць сваю…

— Правільна. Што ты будзеш з імі рабіць? Ён зранку ў праўленні звычайна, забяжы, скажы яму, — падтрымала Верка.

…Ужо зырка свяціла жнівеньскае сонца, калі Нюрка дайшла да канюшні. Звычайна, убачыўшы на дзвярах замок, яна міжвольна пускала слязу, успомніўшы, што тут да ўсяго дакраналіся рукі яе Міколы: дзе ж ён цяпер, ці жывы, ці здаровы? На душы было трывожна, на вочы накаціліся слёзы. І зноў яе вочы памакрэлі. Але Верка хоць весткі дачакалася, ведае, што не прапаў яе чалавек, лечыцца ў Гомелі, а пра астатніх бечынскіх мужыкоў, як забралі на вайну, так нічога невядома…

Нюрка выпусціла кабыл на вуліцу, напаіла, спутала, каб далёка не адыходзіліся, а пасвіліся на выгане, які быў побач з канюшняй, да вечара. І накіравалася ў кантору.

Дзверы канторы былі расчынены, і толькі яна збіралася ступіць на парог, ногі падкасіліся, у вачах пацямнела: у праёме дзвярэй у пятлі вісеў скрываўлены Верабей. Яна знямела, ледзь не страціла прытомнасць, а калі ачомалася, убачыла, што вокны ў будынку былі выбіты, кантору і сельсавет яўна разрабавалі. Ад страху Нюрку страшна затрэсла, калі яна ўбачыла на дзвярах пакінуты забойцамі крывавы надпіс: «Не аддаў людзям не сваё…»

І адразу ж у памяці ўсплылі злосныя словы цёткі Хрысціны, якія тая сказала ёй: «Няхай тую дахляціну цяпер сам спажывае…», і Нюрка здагадалася, хто і за што павесіў Івана Вераб'я: канешне ж сын былога кулака, Зміцер Аскерка...

Жудасная смерць апошняга бальшавіка ў вёсцы напалохала бечынцаў. Выходзіла: чакаць бяды цяпер трэба было не толькі ад немцаў, але і ад бандзюкоў, якім савецкая ўлада так і не здолела скруціць галаву.

Першае трагічнае пахаванне з пачатку вайны прайшло ў Бечыне моўчкі. Людзі нібы пазбягалі адзін аднаго, каб не сустракацца вачыма. Несуцешная была толькі жонка нябожчыка Малання…

Старыя мужчыны па просьбе Сцяпана Адамчыка збілі труну, а жанчыны выкапалі магілу. Хавалі Вераб'я недалёка ад яго былога калегі Іллі Міронччыка. Развіталіся без лішніх слоў. Толькі стары Адамчык сказаў: «Добры быў чалавек. Царствіе яму нябеснае!» І перахрысціўся. А за ім перахрысціліся ўсе астатнія. І сталі апускаць дамавіну ў зямлю.

Па абедзе 17 ліпеня ўдалечыні папаўзлі над векавым борам клубы чорнага дыму. Людзі, заўважыўшы іх, здагадаліся: гарэў раённы цэнтр. І думкі бечынцаў цяпер былі горкія: а што ж чакае іх заўтра?

## У снежную буру

### Частка чацвёртая

### 1

Браўся задзірысты перадкалядны мароз. На хутары стаяла затоеная цішыня. Адамчыкі моўчкі вячэралі.

Бульбяная каша, засквараная салам са смажанай цыбуляй і запечаная ў грубцы, смачна пахла. Аднак старыя елі яе неахвотна.

Нарэшце Сцяпан паклаў лыжку на стол, напіўся са жбанка адвару з ліпніку і дзікай шыпшыны.

— Чуеш, Агапа, што скажу… — прамовіў ён, уважліва паглядзеўшы на задуменную жонку.

— Га, Сцяпанка? — жанчына адарвалася ад сваіх дум, падняла на мужа вочы. — Пад'еў хіба ўжо? Мо яшчэ з'еш, і палову ж не агаралі.

— Наеўся, дзякуй. Я не пра тое…

— А пра што, сакол ясны?

— Дык свята ж сёння… — усміхнуўся Сцяпан. — Толькі вось не шчадруе ніхто…

— А каму ж цяпер, калі такое гора вакол, шчадраваць, Сцяпанка? Прыдумаў ты… — здзівілася кабета.

Жанчына хацела сказаць, пра што падумала ў той момант, але збаялася: у добрыя ж часы сваты Расевічы з сям'ёй, ды і з вёскі шчадроўшчыкі завітвалі да іх на хутар, а яны ніколі не шкадавалі гасцям ні ласункаў, ні самагонкі. Так спрадвеку было заведзена. А цяпер — вайна праклятая. І яна толькі цяжка ўздыхнула і зірнула на абраз у куце.

— Я і кажу, Агапа, што свята сёння. А мы нават да ўнукаў не паехалі, — мужчына горка ўсміхнуўся.

— Дык заўтра паедзем. Я таго-сяго прыхавала, гарбузікаў, мёду трохі ёсць, масла сёння збіла. Заўтра, Сцяпанка, — пагадзілася жонка, і зноў замаўчала.

— Ось, бяда якая. Днямі, чуеш, старая, Гарадзяцічы палілі, вялікую частку сяла спляжылі, — з сумам паведаміў Сцяпан.

— Як… спалілі? А, людцы мае, што ж гэта дзеецца? На ентых немцах крыжа няма, — старая спалохана глядзела на мужа, на яе вочы адразу наплылі слёзы.

— Каб жа не так. Нашы, антыхрысты. Рабаўнікі, наваспечаныя паліцаі. Усіх, хто актыўнічаў пры савецкай уладзе, у агонь, кажуць, пакідалі…

— Што ты кажаш, Сцяпанка? Як жа гэта, людзей, жывымі?.. — войкнула старая.

— Мало хто ўцалеў, нібыта за падазрэнне ў сувязі з партызанамі расстрэльвалі. Якія ж такія партызаны? Няўжо саветчыкі каторыя пахаваліся, а цяпер паказваюць манер? Дык, думаю, за гэта людзей і скатавалі… А за што ж тады, іначай? Гітлер жа заявіў, што габрэяў знішчаць будзе, а тут і нашых людзей, палешукоў, на звод. Аскерка цяпер са сваімі іх дабро спажывае. Накалядавалі, як ніхто, звяры. Як зямля іх носіць…

— Звяры, Сцяпанка, дальбог, звяры, як ёсць. А іх жа матка нарадзіла, — пагадзілася старая.

— Гэта ж падумай: Аскерка падобных сабе сабраў, павяртанцаў і прадажнікаў, многа пуханцоўскіх, з Хвойнішчаў ды з суседніх вёсак, дык цэлы гарнізон арганізаваўся. Волю немцы ім далі поўную. Вось і здзекуюцца з людзей, а гняздо сабе ў Бечыне аблюбавалі. Не дай бог да Веркі нашай з дзецьмі дабяруцца. Ды і Жэня гэтая нам нібыта ўжо не чужая…

— Свят, свят! — завохкала Агапка і пачала хрысціцца. — Не дапусці, Божа, памілуй! — І нашых хлопчыкаў падтрымай у ліхую гадзіну…

— Усё, завялася! Казаў: не згадвай пра сыноў. Ат, дурніца! Адной табе карціць!.. Вернуцца хлопцы, не завывай моцна! Ідзём спаць! — стары раззлаваўся, сплюнуў на падлогу і, злосны на жонку, пайшоў класціся.

— А я ж што, Сцяпанка, я ж нічого… — ціха заплакала жанчына.

Не звяртаючы ўвагі на мужа, яна яшчэ некаторы час бажкала і вохкала, потым стала прыбіраць са стала. Калі ж закончыла сваю няхітрую справу і намерылася патушыць лямпу, пачула, як на вуліцы люта ўсхадзіўся сабака.

— Сцяпанка, нехта ў нас па двары ходзіць… — спалоханая не на жарт Агапка паклікала мужа.

— Не трасіся, зараз я ногі ў валёнкі ўсуну…

Праз імгненне ў акно кухні моцна пастукалі.

Адамчык выйшаў з чыстай паловы хаты і наблізіўся да акна.

— Каго ета там носіць такой парой? — спытаў спецыяльна незадаволена.

— Шчадроўнікі прыбылі да вас. Ці не пусціце ў хату? — знадворку пачуўся мужчынскі голас.

— Хто вас ведае, што за шчадроўнікі вы? А мо, бандыты якія? — засумняваўся дзед.

— Не перажывайце, дзядзька Сцяпан. Мяне добра ведаў ваш сын, старшыня бечынскага калгаса Ігнат Адамчык. Я — Нікіценка, першы сакратар райкама партыі, — пачулася з вуліцы.

— Пачакайце, пачакайце, таварыш… Зараз… А то мы са старой думаем, што за шчадроўнікі тут такія… — усхваляваны, Сцяпан выйшаў у сенцы.

Праз хвіліну ён вярнуўся ў хату, а за ім ўвайшлі двое рослых мужчын. У адным Агапка адразу пазнала былога кіраўніка іх раёна: памятала, як ён некалі выступаў у клубе, на судзе, як пра Ігната хараша сказаў. Толькі цяпер мужчына выглядаў не такім бадзёрым, быў схуднелы.

— Добры вечар вам у хату, — Нікіценка прывітаўся за руку з Адамчыкам, затым усміхнуўся гаспадыні. — Прабачце, маці, што вось так, знянацку.

— І вам, добрыя людзі… — адказала Агапка. — Не стойце ў парозе, сядайце на лаву, у нагах праўды нямашака…

— На самай справе... — усміхнуўся і другі, высокі чарнявы малады чалавек. — Цёпла ў вас. А на вуліцы мароз бярэцца не на жарт, аднак.

— А вы праходзьце, да стала, сядайце. Агапка, што ў нас там ёсць, сабяры, людзі такія ў хаце, — распарадзіўся стары Адамчык.

Жанчына хуценька знікла на кухні, старалася запаліць перад печчу лучыну, але яе спыніў начны госць.

— Не турбуйцеся, маці. Мы не галодныя. У нас справа да вас, дзядзька Сцяпан, — ціха прамовіў Нікіценка.

— Дык вы распраніцеся, здаецца, у хаце не так холадна, як на двары, — настояў гаспадар. — Сядайце, ды пагамонім, што вам спанадобіцца.

Мужчыны-такі паслухаліся, павесілі на цвікі свае кажухі і шапкі.

— То хоць ліпніку з дзічкай ды малінавым цветам выпіце, у мяне гарачы ў грубцы стаіць, — прапанавала бабуля. — Вы ж з марозу. Ды і віхура разгулялася, вецер ажно свішча.

— Ну, давайце, маці,— згадзіўся Нікіценка. — Пагрэемся, пакуль…

— Дык якая ў вас патрэба, добрыя людзі? — спытаўся, адкашляўшыся, стары Адамчык і прысеў на лаву побач. Ён падкруціў лямпу, і ў хаце стала зусім светла.

— Чуў, што ў нас партызаны з’явіліся. Толькі што жонцы пра тое казаў. Ці не вы гэта будзеце?

— Мы, бацька. Утойваць не буду, бо Ігнату давяраў, як сабе. А яго бацькі, ведаю, не прададуць, — адказаў Нікіценка.

— Ой, сыночкі мае, а дзе ж той Ігнатка? Прапала дзіцятко маё… — ледзь загаласіла старая. — Як пагнаў каровы, ранілі няшчаснага, а цяпер не вядома, ці жывы хоць.

— Змоўкні, Агапа. Мужчыны слова трымаюць. Не да бабскіх слёз, — сказаў, як адрэзаў, Адамчык. — Давай свой настой, ды за печ ідзі.

Жанчына адразу аціхла, паставіла на стол конаўкі і гладыш з гарачым напоем, і ціхенька знікла за печчу.

— Крута вы гэта з жонкай, дзядзька, — сказаў маладзейшы, наліў у конаўку гарачы пахучы напой і ўважліва паглядзеў на старога. — Але да справы. Вы добра ведаеце Бечын, мы з просьбай…

— Хочаце паскуд гэтых трасянуць? Вырадкаў, што людзей спалілі?

— Ведаеце пра гэта? — здзівіўся Нікіценка. — Вы ж, наколькі мне вядома, у вёсцы даўно не былі.

— Вось табе на! Нават пра гэта ведаеце… Ляжаў сам тыдні з два, і старой нездаровілася. Нявестка была. І так людзі бываюць…

— Вера, здаецца. Так вашу нявестку завуць. Памятаю, а як жа, вядомая трактарыстка... Як яна?

— Ды змэнчылася ўся, счарнела, страх вочы падняць на яе паглядзець. Перажывае за Ігната. Мо жывога няма ўжо… Пакуль гэтыя гады не чапаюць, хоць злыдзень Аскерка страшчаў: прыйдзе час, разбярэцца з ёй і з дзецьмі, — стары раптам не вытрымаў, заплакаў.

— Не трэба, дзядзька Сцяпан. Трымайцеся. Жывы Ігнат, — ціха паведаміў Нікіценка.

— Адкуль вам вядома? Ці ж праўда гэта? — вочы ў старога адразу высахлі, ён узрадаваўся.

— Праўда, дзядзька. Толькі… — Нікіценка раптам апусціў вочы, не ведаючы, як мякчэй сказаць старому.

— Кажыце, таварыш Нікіценка, як ёсць, — прамовіў маладзейшы. — Бацька ўсё зразумее.

— Не паспелі параненых эвакуіраваць з Гомеля. Ігнат, мяркуючы па ўсім, у лагеры для ваеннапалонных. У Гомелі такіх лагераў некалькі, дакладна не вядома дзе, але па некаторых звестках, недзе ў цэнтры горада. Нашы людзі ёсць там у паліцыі, дык бачылі яго. Нават перакінуліся словам. І не толькі яго…

— Божачка, а як жа яго ратаваць, людцы? — спалохаўся зноў дзед.

— Хлопцы не раз збіраліся збегчы, але ўвесь час зрывалася, — сказаў Нікіценка. — А днямі да нашых суседзяў, не буду казаць да якіх, гэта зараз няважна, прыбіўся з Гомеля чалавек. Паведаміў пра сёе-тое. Быў ён там, у паліцыі. Выратаваў яго адзін наш таварыш, вывез за горад… Пазаўчора была сустрэча. Аказалася: ён быў разам з Ігнатам і яшчэ двух-трох нашых людзей бачыў. Яны там, у лагеры, у палоне, трымаюцца разам. Хочуць гомельскія хлопцы іх вызваліць, але пакуль няпроста гэта. Дык вось: Ігнат на словах перадаў, што Вера і жонка брата Мікалая ведаюць, як іх вызваліць. А забыліся — хай Вера сходзіць да жонкі Салавейчыка, — паведаміў Нікіценка.

— А як жа гэта, Верка знае ды нам нічога не сказала? Не можа тое быць…— здзівіўся Адамчык.

— Можа, і не ведае, але здагадаецца, калі пра гэта ёй сказаць. Павінна здагадацца, як дапамагчы.

— Вось я сабе думаю: а ёй тое адкуль вядома? Яна ў Гомелі ані ў жысць не была. Ну, заўтра, канешне, скажу ёй тое. Але ж пры чым тут жонка Салавейчыка, вось што, чалавеча. Івана ж першым на вайну забралі, малады, бяздзетны, — сказаў стары і на хвіліну задумаўся, але раптам ажывіўся, прадоўжыў. — За гэтую навіну вам дзякуй, канешне. Але не толькі дзеля гэтага вы прыйшлі да нейкага хутаранца, які так і не падначаліўся савецкай уладзе, не пераехаў у вёску, хоць і сын старшыня калгаса.

— А вы сапраўды кемлівы чалавек, — сказаў другі госць. — Як вы разумееце, мы не адны тут. Сышліся людзі з розных краёў. Даём адпор немцам. Ды іхнім прыслужнікам. Дасталі ж усіх мясцовыя паліцаі. На іх — сотні жыццяў, кроў людзей нашых. Таму хочам зранку гняздо паліцэйскае бечынскае знішчыць. І галоўнае, каб не выпусціць самага ярага, гэтую погань Аскерку…

— Здагадаўся сам, хлопчыкі мае, як прыйшлі, зразумеў, якая прычына ў вас наведаць вёску, мяне, — Адамчык уважліва паглядзеў на партызан і дадаў: — Ён, погань гэтакая, у цёткі сваёй кватаруе, п’яніца пракляты. Дык і цётку было збіў на порхаўку, бо самагонкі пашкадавала. Гэта ж трэба, каб у Аскеркі такі вырадак нарадзіўся, га.

— Дык паможаце, дзядзька Сцяпан? — узрадаваўся Нікіценка.

— Памагу, сынок… На пошце, чуйце, там штаб іх, паліцэйскі. Там нібыта трое з іх начуюць. Немцы, калі прыязджаюць, то толькі днём, не застаюцца нанач. Мабыць, баяцца. А так усе гэтыя гады — па хатах. Дзе гаспадароў паціснулі, дзе самі жывуць. У нас, калі вайну аб’явілі, дзве сям’і яўрэйскія зніклі бясследна, быццам і не было іх. Выбраліся самі за ноч. А хаты добрыя засталіся. Там кватаруюць. Але ж іх, паліцаяў, нямала, каля трыццаці ў Бечыне. Як жа справіцеся? — здзівіўся Адамчык.

— Не бойцеся, бацька. У нас сіла ёсць. Галоўнае, каб ціха на досвітку падысці. Наша разведка данесла, што яны зараз ваўсю Каляды святкуюць, самагонка ажно ракой льецца. Хаця выставілі ахову. Няхай святкуюць, у апошні раз, — прамовіў незнаёмец.

— А вы, прабачце, што пытаю, здалёк, чалавеча? Чую, не нашага, не палескага, говару, — пацікавіўся дзед.

— Вы — свой чалавек. Таму не буду хаваць. Гэта камандзір партызанскага атрада з Любаншчыны, таварыш Далідовіч, — сказаў Нікіценка. — Калі што, запомніце яго.

— Так, так, усе мы людзі. У добрую пару зладзеяў выкурыць рашылі. Са снегам такім спадручней, слядоў не застанецца. Пакажыце фашысцкім паслугачам, дзе ракі зімуюць, — прамовіў Адамчык.

— Справядлівая заўвага, дзядзька Сцяпан, — пагадзіўся са старым Нікіценка.

— Але вы мне толькі скажыце, людзі добрыя: пагонім назад немцаў? Тут жа рознае брэшуць, нібыта і Маскву ўзялі, — спытаўся дзед, хітравата прыжмурыўшыся.

— Пагонім. Маскву не аддадзім. Цяжка будзе, але дайце час. Выкурым гэтую набрыдзь. Навечна дарогу да нас забудуць… — упэўнена прамовіў Далідовіч.

— Дай бог, каб так было, — адказаў стары Адамчык.

## 2

Апоўначы разгулялася віхура. Свістаў вецер, паднімаючы густыя клубы снегу. Але ў хаце Сцяпана Адамчыка, у якой гэтай ноччу ніхто так і не заснуў, цешыліся непагадзі.

Гэта быў апошні ранак для паліцэйскага гарнізона. На досвітку больш як сотня байцоў з двух партызанскіх атрадаў сышліся перад вёскай. Стары Адамчык быў здзіўлены, убачыўшы, што партызаны добра ўзброеныя, у іх на павозках нават было тры кулямёты, ён расказаў, у якіх хатах у вёсцы кватаруюць паліцаі.

Калі ўсе групы занялі зыходныя пазіцыі, партызаны незаўважна падкраліся ў Бечын і ціха знялі вартавых.

Паліцаі моцна спалі, прыняўшы напярэдадні ладную дозу самагонкі. Цёпленькіх і сонных, іх ціха, па адным, бралі па хатах. Як і думаў дзед, супраціўленне было аказана толькі на пошце, дзе заселі гітлераўскія служакі. Там распачаўся бой, але паліцыяў адтуль хутка выбілі. Калі ўсё было скончана, Нікіценку і Далідовічу далажылі, што ў выніку аперацыі знішчылі 27 паліцаяў, у якасці трафеяў захапілі стралковую зброю, абмундзіраванне і харч. З боку партызан страт не было, прастрэлілі хіба толькі шапку аднаму з любанскіх байцоў. Аднак была адна прыкрасць — сярод забітых не аказалася Зміцера Аскеркі.

Сцяпан Адамчык развітаўся з Нікіценкам і Далідовічам, як з роднымі. Ён не ведаў, што ў той жа дзень, 14 студзеня 1942 года, быў разгромлены нямецкі гарнізон ў Белым Пераездзе, а на наступную раніцу партызаны апынуліся ўжо ў Капаткевіцкім раёне, пад Навасёлкамі, і штурмам узялі гэты буйны населены пункт. Цяпер, праўда, ён зразумеў, што немец памыліўся, зноў прыйшоўшы на гэтую зямлю. І быў упэўнены, што і пад нагамі здраднікаў яна таксама будзе гарэць.

Аднак гэтыя думкі адыходзілі на іншы план. У бядзе быў старэйшы сын, і яго трэба было неяк ратаваць. Толькі як? Пачынала світаць, стары вярнуўся на хутар, дзе яго чакала знерваваная жонка.

— Ну, што там, Сцяпанка?

— Пабілі нелюдзяў, — скупа адказаў стары, распрог кабылку і даў ёй цёплае пойла, ужо прыгатаванае Агапкай.

— Усіх? — ціха спытала жанчына, і перахрысцілася.

— Аскерка, мабыць, уцёк. А можа, у раёне дзе занурыўся?

— Госпадзі, што ж гэта робіцца? Свае на сваіх пайшлі.

— Кінь, старая. Дзе ты бачыла сваіх? Падонкі! Воўчае мяса. Туды ім і дарога, — ён сплюнуў, завёў кабылу ў стойла, затым вярнуўся назад.

— Дык немцы ж могуць адпомсціць, Сцяпанка. Не партызанам, людзям… — зноў спалохалася Агапка.

— Могуць. Трэба дзевак з дзецьмі на хутар забраць. Мо ў лесе цішэй будзе. Але ж думаю, што ворагі пакуль пабаяцца сунуцца. Ты не ведаеш, якая сіла ў партызан, ого!

— Але ж у немцаў сіла большая, калі да Масквы дапяліся.

— Не, не будзе па-іхняму. Я цяпер гэта дакладна ведаю. Бачыў.

Пра сына Сцяпан Адамчык пакуль не рашыўся сказаць жонцы — ёй і так даліся ў знакі гэтыя паўгода вайны: ні пра аднаго з трох сыноў не было ніякіх звестак…

А раніцай на хутары з’явіліся спалоханыя нявесткі з дзецьмі. Узрадаваная Агапка кінулася іх распранаць ды частаваць:

— А мае ж крывіначкі, мы з дзедам сёння збіраліся ў Бечын, гасцінцаў сабралі.

— Ой, бабка Агапка, у нас вайна… У нас стралялі ноччу, — першай паведаміла маленькая Нінка. — Нам страшна было ў хаце.

— А дзетачкі ж мае! Як жа вас напалохалі, яй-яй… — залямантавала старая. — Распранайцеся, ды ў чыстую палову бяжыце. Я там грубку выпаліла, каб днём цёпла было, як чула маё сэрца, што вы прыедзеце.

Дзеці пайшлі са старой, а Вера паведаміла Адамчыку:

— Пабілі ўсіх ноччу. Партызаны наляцелі. Няма паліцаяў больш...

— І мы ж такога страху нацярпеліся, што не дай бог! — узрушана прамовіла Жэня. — Цяпер усе баяцца, што немцы наляцяць, людзі хто куды ўцякаюць з вёскі, каб перачакаць. Мы да вас, дзядзька Сцяпан. Нанач з Веркай дадому вернемся, а дзеці няхай у вас заначуюць, тут, можа, спакайней будзе.

— І ўнукі, і вы, дзеўкі, заставайцеся, месца хопіць усім, — згадзіўся стары.

— Не, тата, мы з Жэнькай пойдзем, там жа і курачкі, і кароўка пазаўчора ацялілася. Двойню прынесла, бычка і цялічку. Як пакінеш без нагляду? — сказала заклапочаная Верка і зноў вярнулася да ранейшага. — Гэта ж так смела з гадамі расправіліся. Кажуць, на пошце ажно чатырох палажылі…

— Толькі шкада, што аднаго не звялі. Быць з-за яго бядзе, — узрушана сказаў Сцяпан Адамчык, забыўшыся, што нявесткі не ведаюць пра яго ўдзел у начной вылазцы партызан.

— А вы гэта скуль ведаеце? — здзівілася Верка.

— А ў нас, нявестухны, ноччу шчадроўшчыкі былі. Адтуль, з балот, — ціха, каб не пачулі дзеці, сказаў стары.

— Няўжо, партызаны, дзядзька Сцяпан, тут, у вас… — здзівілася Жэнька. — І многа іх было? Можа, хто знаёмы…

— Ну, былі і знаёмыя, але не пра тое гаворка. Я зразумеў адно: саветы не дрэмлюць. Людзі ў лес, у балоты пайшлі, у іх шмат зброі, яны не дадуць немцам тут спакойна жыць. Але мне сказалі, што ўжо ёсць і банды, несапраўдныя партызаны. Іх трэба баяцца, адшчапенцаў гэтых, — распавёў

Адамчык. — А дурная слава пра Аскерчыка ідзе ўжо здалёку. Сваім пакуль не шкодзіў, але ў суседзяў — паўжывымі людзей у калодзеж кідаў. Прыбярэ Бог і яго. Вам трэба асабліва берагчыся: абое жонкі няпростых людзей, і ён гэтага не забыўся.

— Так, будзем асцярожныя, — пагадзілася Верка. — І можа, праўда, на хутар трэба перабрацца, мне не прывыкаць жыць асобна ад людзей. Толькі вось як ты, Жэнька?

— Я сірата, тут не так боязна. Толькі каб дзеці не чулі таго, пра што тут гаварылася.

Стары і Верка са спачуваннем паглядзелі ёй услед. Аднак Адамчыку карцела сказаць нявестцы пра тое, што ноччу пачуў пра свайго сына, а яе мужа.

Калі стары ўсё расказаў ёй, Верчынаму шчасцю і здзіўленню не было межаў.

— Калі гэта праўда, і жонка Салавейчыка ведае нешта, я распытаю яе. Толькі вось, тата, адкуль жа ёй тое вядома?

— Каб жа я знаў. Толькі вось што падумаў: яна са сваім Іванам, мабыць, мае сувязь. Ці не пра яго казаў мне тут таварыш, што наш чалавек ёсць у Гомелі. Можа быць, і старшыня сельсавета мае да гэтага дачыненне. Дакумекаў сам — тут няпроста ўсё…

— Няпроста? А можа, гэта самае простае? — раптам здагадалася нявестка. — Можа, Ігнат шапнуў таму чалавеку аб тым, што яго можна выкупіць. Можа, за харч, грошы ці…

Верка не дагаварыла, бо раптам успомніла пра золата, пра якое даўно забылася. Яго як непатрэбшчыну яна схавала, золата перадаў ёй муж адразу пасля таго, як нарадзіўся Ванька. Але перадаў той, каго яна доўга не магла вырваць з сэрца. Няўжо пра гэта, пра золата, зараз нагадвае ёй Ігнат, знаходзячыся на мяжы жыцця і смерці?

— Пры чым тут Салавейчыха? Галавы не прыкладу, — зноў паўтарыла Верка.

Адамчык думаў сваё, але праз нейкі час ажывіўся і сказаў:

— Што б там ні было, а тое, што ведае яна, можа нейкім чынам ўратаваць нашага Ігната. Знайдзі яе сёння, Верка. Не будзем адкладваць. Паснедаем разам, а там крыху адпачнём і я вас з Жэняй мігам адвязу ў Бечын. Сам пачакаю ў вашай хаце. А дзеці будуць тут з Агапкай — за іх не хвалюйцеся.

— А калі немцы ў вёсцы? — спалохалася Вера.

— Мы паціху паедзем. Акуратна. Каля вёскі пастаім, будзе чуваць, калі што… Можа, немцы яшчэ і не ведаюць, што партызаны звялі бечынскую паліцыю, — сказаў Адамчык. — Партызаны ж на Белы Пераезд накіраваліся. Думаю, там сёння паліцыі будзе тое ж, што і нашай. Але нам важна, каб Салавейчыха нікуды не сышла, важна, каб і ты магла даведацца, што там і як…

— Ага, толькі б была яна дома… — задуменна прамовіла нявестка.

Дамовіўшыся з нявесткамі, як далей дзейнічаць, Сцяпан Адамчык паклікаў жонку, каб гэтай снежнай каляднай раніцай паснедаць вялікай сям'ёй.

## 3

Набліжаўся поўдзень, але надвор'е было змрочным. Сонца сёння зусім не паказвалася, бухматыя хмары і вецер зноў прынеслі злосную віхуру, на зямлю сцяной слаўся густы снег. Здавалася, вёска, добра прысыпаная белым

покрывам, вымерла, і жанчыны няспешнай хадой, мінаючы хаты, не сустрэлі на сваім шляху ніводнага бечынца.

Час ад часу азіраючыся па баках, яны стараліся ўгледзець хоць нешта перад сабой, але далей выцягнутай рукі нічога нельга было ўбачыць з-за небывалай снежнай аблогі. Нічога не паказвала, што на світанні ў вёсцы здарылася нешта незвычайнае.

Месячы валёнкамі некрануты цалік, Верка і Жэня дайшлі да цэнтра вёскі, а адтуль адразу скіравалі налева, туды, дзе непадалёку, праз некалькі пабудоў, у акружанай занесеных снегам слівамі хаце адзінока жыла жонка былога старшыні сельсавета.

Салавейчыха была на падворку. Расчырванелая, трымаючы ў руках шырокую лапату якраз адкідала ад веснічкаў снег. Відаць, працавала жанчына даўно, бо доўгі панадворак адсюль да самага парога хаты ўжо добра быў ачышчаны ад снегу і вакол нешырокай дарожкі груваздзіліся вялізныя, амаль метровыя бурты снегу.

— Во прэ, зноў залье па вясне, як жыць тут, паплывём, бабы, — замест прывітання, убачыўшы жанчын, прамовіла яна, і, звяртаючыся да Веркі, паказваючы на Жэню, спытала: — А гэта хто? Міколава будзе жонка?

Салавейчыха ўважліва, з ног да галавы агледзела Жэню, тая ажно засаромелася.

— Пашанцавала старому хутаранцу на нявестак, гляджу. Абедзве — лялькі, — нават не даўшы Верцы і слова сказаць, выпаліла яна. — І во, шчасце, якое — дзеткамі, унукамі Бог Адамчыкаў не пакрыўдзіў. А я, як тая ялаўка, столькі гадоў пражыла са сваім камсамольцам: ён жа ўсіх вучыў як жыць, а вось як дзіця зрабіць, дык — няўмека. Не даўмелася, якога другога мужыка прыгрэць, тады б мо і не кукавала б тут адна.

Верка, ведаючы, калі Салавейчыху не спыніць, дык тая будзе балбатаць без супынку, перабіла яе:

— Людзі сказалі, што ты мне можаш памагчы.

— А што? Чакала цябе я, Верка. Пайшлі ў хату. Там размаўляць будзем. І ты заходзь. Жэня, здаецца? — Салавейчыха зноў пільна, нібы вывучала, паглядзела на гарадскую нявестку Сцяпана Адамчыка.

— Так… — пацвердзіла Жэнька.

Гаспадыня бярозавым венікам змяла снег з шырокага адкрытага парога, і прапусціла маладзіц у сенцы.

У прасторнай цёплай хаце смачна пахла свежым хлебам. Салавейчыха прапанавала жанчынам распрануцца і знікла за печчу.

— Гэта добра, што на Каляды ў хаце госці. Частаваць буду, — сказала яна адтуль.

— Мы ж не па гэта прыйшлі, — хацела запярэчыць ёй Верка, але тая, паказаўшыся з-за печы, злосна бліснула чорнымі вочкамі, маўляў, ніякі адказ не прымаецца, і працягвала: — Ды мы не толькі адсвяткуем, а і памянём. Столькі душ пайшло на той свет. Хоць і гадаў, але ж яны — свае гады. Раніцай ведаеце, што тут было?

— Што пабілі паліцаяў — чулі, — суха адказала Верка.

— Дык гэта не навіна. На машынах зранку прыехалі немцы. Аскерчык з імі бегаў па хатах, пытаў, ці хто што бачыў, як усіх паліцэйскіх пабілі. А таксама выпытваў, адкуль з'явіліся партызаны? Але хто што мог яму сказаць? Такая ноч была — галаву скруціш. А многія людзі зусім сышлі з хат, у склепы пахаваліся ці ў лес, далей ад бяды пайшлі. Так і не дабіліся Аскер-

чык і немцы анічога, пагрузілі забітых ды павезлі некуды. Суседка потым прыбегла да мяне, казала, толькі пошта згарэла. Хаты цэлыя. Ну і цішком: «Партызаны наляцелі з розных бакоў, расправіліся з тымі ў адзін мэнт, ціха з хат выклікалі іх, нібы на збор, ды на той свет сонных валаклі». — Во як… — па-змоўніцку паведаміла кабета. — Да мяне ж таксама Аскерчык прылятаў. Аге ж… А што я? Кажу: спала, нібы проса прадаўшы, гаспадаркі ў мяне той — парася ды кураня. Чаго рана ўскокваць? Колькі хацела, спала. Дык я ж і праўда ўчора з суседкай за шчодрыкі чарку-другую ўзяла, дык без задніх ног звалілася. І ні пра што не здагадвалася. А прачнулася, хіба, ад стрэлаў, мабыць, на пошце тых выбівалі. Ой-ёй, страшна, бабы, не паверыце, ага, вельмі страшна. Толькі тады, як добра развіднела, з хаты на двор выйшла, а так баялася. А тут і госць, на табе, прыпёрся — Зміцер Аскерчык. Ну, з чым прыйшоў, з тым пайшоў…

Пакуль Салавейчыха паведамляла Адамчыкавым нявесткам пра падзеі, пра якія гаварылі ўсе бечынцы, на стале з’явілася смажананая бульба і салёныя гуркі, квашаная капуста і тушаныя белыя грыбы ды крыху няпоўная бутэлька чыстай, як крышталь, самагонкі і свежы хлеб.

— Ото, сядайма, ды вып’ем! — запрасіла яна жанчын і сама першай уселася на кароткай лаве ля акна. — Сядайце, не саромцеся.

— Дзякуй, Надзя, не чакала… — Верка села насупраць гаспадыні, а збоку, на табурэцы, ля яе — Жэня. — І праўда, Каляды, як жа хораша раней гулялі: і вясковыя, і хутаранцы разам збіраліся, шчадравалі.

— За тое пякучкі і вып’ем, за жыццё наша ранейшае, — Салавейчыха наліла самагонкі ў чаркі крыху больш чым па палавіне, тым самым спалохаўшы Жэню, якая адразу замахала рукамі:

— Надзюша, мне толькі на донца! Я ж не п’ю яе зусім.

Але тая толькі ўсміхнулася:

— Нічога, гарадская ты наша нявестухна, прывыкай. Гэта таксама трэба ўмець: трэба ўмець не толькі дзяцей навукам у школе вучыць. Чуй, кажуць, што школу немцы збіраюцца хутка адкрыць.

— Няўжо? — яшчэ больш здзівілася Жэня. — Дык жа настаўнікаў няма?

— А ты на што? Аскерка неяк тут рассыпаўся ў мяне, што немцы толькі супраць яўрэяў і камуністаў, а дзетак, маці і старых крыўдзіць не будуць. І што па вясне школы адкрыюць. А сам, паскуда, што творыць па навакольных вёсках. Але не будзем пра гэта. Вып’ем за сустрэчу, а там паговорым.

Яна залпам выпіла самагонку, нават не скрывілася, і пачала закусваць. Верка ж змагла адпіць толькі палову, і адразу з яе вачэй пасыпаліся слёзы, яна кінулася запіваць гарэлку вадой, чым дужа рассмяшыла расчырванелую Салавейчыху.

— А ты думала, я жонцы старшыні калгаса сівуху пастаўлю? Пяршак! Лічы, жывы спірт, даваенны яшчэ, — засмяялася яна. — Гэта ж зімой, лічы, першыя лекі.

— Ну, Надзя… Крапчэзная, каб на яе ліха, унутры ўсё спяклося, вой, вой, — завойкала Верка, і яе падтрымала Жэня:

— Дужа пячэ.

— Так, дзеўкі, прыкусвайце, — разышлася Надзя, і зноў узяла ў рукі бутэльку.

Верка збіралася запярэчыць, але Салавейчыху спыніць было немагчыма.

— Я ж кажу, за свята выпілі. А цяпер, за душы заблудлыя, каторым дапамаглі на той свет пайсці. Царствіе ім там… Я ж, дзеўкі, паглядзела, хто там,

у той паліцыі: дык усе, чыіх бацькоў выселілі, хто бандытам не па сваёй волі стаў. Каб далі жыць па-людску, а нашы ж людзі цягавітыя, сябе кармілі і другім памагалі звеку, то столькі незадаволеных савецкай уладай не было б. Я са сваім колькі сварылася: чаму нізашто людзей сагналі з нажытых месцаў? Ніхто ў нас, у Бечыне, не скажа, што тыя нашы багацеі жылі як паны. Жылы рвалі, як і ўсе. Ну, карова лішняя, кабыла ці авечка. Дык што з таго? Дзяцей жа процьма. Я, дурная баба, выпіваю многа, але Сталін няправільна тут зрабіў. Ось што кажу і буду казаць! А цяпер усе пакрыўджаныя павылазілі, помсціць будуць. Каму, пытаю? Саветы сышлі. А з каго здзек? Хто застаўся, каму дзецца няма куды. Вось каму. Мне, жонцы партыйнага, табе, жонцы хай беспартыйнага, але ж старшыні калгаса. Кінулі нас тут, на згубу.

— Што ты такое вярзеш, Надзя? Хіба пры калгасе ты кепска жыла? — запярэчыла Вера. — Хіба ж калі мы такія ўраджаі мелі, як быў у нас за год да вайны? Хіба я магла думаць, што на трактары вывучуся? Я з дзяцінства на хутары гібела, лішняга кавалка хлеба не было. А табе вядомыя Лейбы лепшую зямлю ўхапілі. Справядліва гэта было? І скажы, ты ж ведаеш: ці нажыла шчасця мая сястра Зіна са сваім багацеем-мужам? Яна ж ад яго рукі і на той свет сышла… Людзі розныя, хто і сваіх суседзяў ненавідзеў, нават радню, былі і такія... І пад адзін грэбень трэба было ўсіх стрыгчы? Вось твой жа Іван разабраўся, што і як: і камсамольскім важаком быў, і партыйным, і сельсавет яму партыя даверыла, а людзей стараўся не крыўдзіць. А гэтыя ўсе — бандыты, здраднікі, яны не толькі супраць людзей, супраць зямлі сваёй пайшлі…

Надзя моўчкі выпіла, прыкусіла гурком. Верка выказалася і змоўкла.

Жэня апусціла вочы, стараючыся не ўмешвацца ў размову дзвюх аднавясковак. Але раптам Салавейчыха, якая, адчувалася, хутка сп’янела, сказала:

— Ты ось, Верка, гаворыш, мо, і правільна, але ж не ведаеш, дзе цяпер той камсамолец, камуніст і старшыня сельсавета? А, можа, ён таксама ворагам стаў?

— Не мялі лішняга, Надзя! Ведаю, дзе твой Іван — на фронце. Як і амаль дзве сотні нашых бечынскіх мужыкоў. — Верка была здзіўлена такой размове. Падумала, што Надзя проста ап’янела, таму кажа і на мужа так. Падумала, што і Надзя таксама перажывае за свайго, як яна, Верка, за свайго.

— Каб вы, бабы, толькі ведалі. Гэты ж гад мой таксама ў паліцыі. У Гомлі… — сказала са злосцю Салавейчыха тое, што ёй карцела сказаць, і зноў наліла, выпіла паўчаркі самагонкі. — Во, дзе ён, паскуда!

У хаце на хвіліну ўсталявалася цішыня. Ад пачутага госці разгубіліся, Верка цяжка выдыхнула:

— Не, Надзя, памыляешся. Не можа быць такога, каб Іван, ды…

— А ты думаеш, чаго гэты Аскерчык да мяне, як дадому, прыходзіць?

— Ну, хто ведае чаму? Раней ты яму падабалася, але Салавейчык дарогу яму перабег, — усміхнулася Верка.

— Ат, дурное. Калі тое было? Затое ён мне ніколі не падабаўся, ды і малая была. Але кумекай: ён ведае, дзе мой мілы, дзе мой гад гэты даражэнькі цяперака. Ён мне і сказаў: уцёк твой Ванька з войска, прыстроіўся на службу ў паліцыю, лічы, начальнік там, прыліп, сабачы сын, да некай там спадніцы. І во табе — камсамол, во табе — партыя, во табе — жонка: прападай адна ў бечынскім балоце… — са злосцю вымавіла ап’янелая Надзя.

— Ой, не кажы глупства. Нагаворы… — Верка няўцямна пазірала то на гаспадыню, то на маўклівую і задуменную Жэню.

— Але больш я вам нічога не скажу, — раптам заплакала Салавейчыха. — Не трэбо было вам і гэтага ведаць. Гэта мой крыж.

— Надзя, ён спецыяльна так, Аскерка. Усё ж, кажу, мужчына, а ў маладосці заляцаўся да цябе, нагаварыў абы чаго на твайго Івана, а ты, дурніца, веры таму дала, — у Веркі перасохла ўсё ў роце, і замест вады яна раптам асушыла чарку з самагонкай. А як зноў нечакана апякла нутро, вачыма паказала Жэні на ваду: тая хуценька падала ёйконаўку, Верка выпіла і, таксама ўжо расчырванелая, ледзьве прамовіла:

— Вой, людцы… Пякельны агонь унутры гарыць. Цяпер да хаты, мабыць, не дайду.

— Дойдзеш, хмель ад гарэлкі добры, да зямлі не цягне, — зарагатала задаволеная Салавейчыха. — А што па тваёй справе, то мой вырадак перадаў праз знаёмца аднаго…

— Што? — ужо спалохана спытала Верка.

— Сказана так: пярсцёнкі, каштоўныя ўпрыгожванні трэба — і можна выкупіць твайго Ігната. Жывы ён. Дабіраешся ў Гомель, шукаеш, ведаеш ужо каго, яму што маеш аддаеш. Вяртаешся, чакаеш. Можа, пашанцуе, і жывы твой вернецца. Усё, што ведаю, я сказала. А цяпер, калі не хочаце выпіць са мной, ідзіце з Богам. Я буду памінаць свайго Салавейчыка. І яму такая дарога хутка будзе — наесца з чужога карца…

Верка ад пачутага знямела. У галаве яе пранеслася: а здагадалася, сама здагадалася, як магу ратаваць мужа, сама дапетрыла. Але пайсці з хаты проста так не магла, каб не пераканаць аднавяскоўку ў тым, што тая памыляецца, калі кажа пра мужа, як пра здрадніка.

— Тут нешта не так, Надзя. Ты гэтак не перажывай. Не можа быць, каб Іван Салавейчык ды сам, знарок здаўся, пайшоў на службу да немцаў. — Верка ўстала з-за стала, а за ёю паднялася і Жэнька, дадала: — Не такі ён чалавек. І табе, як жонцы, веры даваць рознаму нельга. Хто, як не ты, яму верыць павінна, больш, чым каторы чалавек? Падумай: а можа, у яго заданне такое? Калі ён там, то, можа, каб савецкіх людзей ратаваць? Чаму ты пра гэта не падумала? А дарэмна — столькі гадоў з чалавекам сваім пражыла, а чым дыхае ён, так і не зразумела.

— Няўжо, Верка, такое можа быць, як ты кажаш? — Надзю нібыта халоднай вадой аблілі, яна ўскочыла, падышла да аднавяскоўкі. — Ты, праўда, мяркуеш так? А мне ж, ведаеш, людзям у вочы сорамна глядзець. Усё думаю: а калі даведаюцца ў Бечыне? Хоць павеся ад такіх думак. І таго паскуду Аскерчыка ўсё паіла, прасіла нікому не казаць.

— Трэба верыць, што так. І не трэба зводзіць сябе гарэлкай, яна нікога яшчэ не выратавала. Вазьміся за розум, Надзя, — Верка накінула кажушок на худыя плечы.

— Ой, Верачка, я ж галоўнае табе не сказала, — Надзя заплакала і праз слёзы дадала. — Я ж не верыла доўга, пакуль чалавек адзін ад Івана не прыйшоў і не перадаў на словах пра Ігната. Тады і схітравала, пачала насядаць на Зміцера: дай мне паперку, каб самой дабрацца да таго Гомля, ды самой пераканацца ў тым, што мой любы ў сабак вочы пазычыў. Дык ён як мае быць выпісаў такую паперчыну, надоечы прынёс.

Надзя дастала паперку з-за абраза і дрыжачымі рукамі працягнула яе Верцы.

— Тут па-нямецку напісана, што я жонка паліцэйскага і маю права наведаць па месцу службы свайго мужа Івана Салавейчыка. Калі ты рашылася,

то табе яе аддам. Ніхто не разбярэцца, прапусцяць цябе, і ў Гомлі, у паліцыі, знойдзеш яго. А я заўтра гасцінец яму збяру. Толькі ж дзе ты тое золата знойдзеш?

Яна раптам нешта ўспомніла, жвава кінулася ў чыстую палову хаты. А Жэня, якая ўвесь час моўчкі слухала размову жанчын, ціха спытала ў Веркі:

— Няўжо ўсё праўда?

— Калі б я не ведала, мяне б сёння ў гэтай хаце не было, — таксама ціха адказала ёй Верка, і глянула на Надзю, якая з нечым у заціснутай руцэ вярнулася да жанчын.

— Бяры, Верка, — сказала Салавейчыха і расціснула руку, у якой ляжалі залатыя завушніцы.

— Ты што, Надзя? — разгубілася тая.

— Бяры, кажу. Мой, як пажаніліся, падарыў. Так і праляжалі… Ратуй свайго. Не вядома, можа, яшчэ трэба, і гэтага будзе мала, — было бачна, што жанчына ўпэўнена, што робіць правільна.

— Не трэба, Надзюша… У мяне і свякрухі таксама ёсць сёе-тое, усё аддамо. Хопіць, думаю, каб вызваліць чалавека.

— І ў мяне заручальны пярсцёнак ёсць, — сказала Жэня. — Я аддам, Верка.

— Дзякуй вам, абедзвюм. Не чакала, Надзь, што ты такая. А ты — чалавек… І не думай пра Івана кепска. Ён — наш, — дрыжачым голасам сказала расчуленая Верка.

А неўзабаве жанчыны пайшлі, пакінуўшы Салавейчыху ў роздуме. Тая доўга не магла зразумець, ці праўду сказала Верка пра яе мужа. Ці праўда, што ён, яе Іван, не проста паліцэйскі?

## 4

Верка дабралася ў Гомель напрыканцы студзеня. Машыніст паравоза, які пашкадаваў яе і з Рэчыцы за плату падвёз да першых гомельскіх будынкаў, асабліва ні пра што не дапытваўся. Але папярэдзіў, што на чыгуначным вузле дзейнічаюць жандарскія і паліцэйскія ўправы, а паліцэйскія тут яшчэ горшыя, чым нямецкія салдаты.

— Кажух, гляджу, у цябе, дзеўка, добры, з цэльнай аўчыны. Беражыся…

— А што такое, дзядзько? — здзівілася Верка.

— Дык ты паляшучка, гляджу? — усміхнуўся пажылы машыніст. — Мая жонка таксама адтуль, говорка ў вас такая адметная. Куды дабіраешся, нябога?

— Ды, дзядзько, мужа шукаю. Кажуць, прыгрэла тут яго нейкая саломіна. Недзе побач з вакзалам жыве. Шукаю, дзеці галадаюць, а енты паразіт уздумаў любошчы, — праўдападобна схлусіла Верка.

— Ну, бывае, бывае, — усміхнуўся машыніст, але папярэдзіў, каб была ўважлівай. — У горадзе аб’явілі збор цёплых рэчаў, вось пра што табе кажу, маладзіца, а кажух у цябе зайздросны.

— Дык што ето, могуць адабраць? Сярод зімы? — Верка здзівілася пачутаму.

— Адбяруць і не пікнеш! Немцы стварылі спецкаманды з паліцэйскіх, каб забяспечыць сваіх салдат зімовым абмундзіраваннем. Ну, каб выратаваць іх ад лютага марозу, яны ж да халадоў не прывыклыя, як мы. Сама разумееш, доб-

раахвотнікаў апранаць іх салдат знайшлося не шмат. Дык гэтыя паліцэйскія каторы дзень абыходзяць хаты і забіраюць адзежу, абутак, прадукты, фураж. Ды і немцы, гляджу, не грэбуюць нічым. Вунь жонка мне ўчора расказвала, праз акно бачыла, як на вуліцы гэтыя марадзёры мужчыну і жанчыну распранулі ажно да ніжняй бялізны. А ўсё ад беспакаранасці…

— Страшна… — спалохалася Верка і замаўчала.

Калі пад’ехалі да Гомеля, машыніст расказаў ёй, як дабрацца да вакзала, мінаючы тыя месцы, дзе могуць быць немцы ці паліцэйскія. Заадно сказаў, калі не знойдзе бадзягу-мужа, то хай заўтра на досвітку прыйдзе да гэтага месца, і ён яе падбярэ, давязе да Рэчыцы, калі яна ўздумае вяртацца.

Верка падзякавала добраму чалавеку, развіталася з ім кавалкам сала і невялікай вязкай сухіх белых грыбоў. Той з задавальненнем узяў, сказаў, што назад плаціць ёй не трэба будзе.

Верка паслухала машыніста, пайшла, памятаючы яго парады. У вялікім горадзе ёй яшчэ не даводзілася быць, але цяпер яна зразумела, што і тут шмат амаль вясковых вуліц, толькі дарогі раўнейшыя ды акуратныя платы.

Мінаўся поўдзень, але яна рэдка сустракала прахожых на сваім шляху. Калі ж наблізілася да чыгуначнага вакзала, упершыню ўбачыла немцаў, якія праходжваліся па пероне і вельмі моцна гергеталі.

Спалохаўшыся, Верка вярнулася назад, і вырашыла абысці вакзал з другога боку, як сутыкнулася з трыма паліцэйскімі.

— Глядзі, якая краля тут прагульваецца! — зарагатаў адзін, высокі і рыжы, і як абцугамі ўхапіў яе за руку.

Верка яшчэ больш спалохалася, калі паліцэйскія абступілі яе.

— Хто такая? Дакументы! — нахабныя вочы зусім маладога паліцэйскага, у якога толькі пачалі прабівацца вусы, свідравалі яе нібыта наскрозь.

— Дык я ж ето, хлопчыкі, да мужа. Мужа свайго шукаю. — Верка ледзьве знайшла сілы, каб выдавіць з сябе: ажно перацяло дыханне.

— А нашто ён табе? Давай я цябе сёння абслужу, як трэба, — рыжы зноў зарагатаў, але маладзейшы злосна зыркнуў на яго, і той змоўк.

— Дакументы ёсць? — старшы паліцэйскі яўна быў не ў гуморы.

— Дык ёсць жа, хлопчыкі, выдалі мне, сам раённы бургамістр выдаў.

Верка ліхаманкава развязвала вузялок, у якім зверху была даведка.

— Ото, паглядзеце, не хлушу вам, — яна разгарнула яе, крыху памятую і працягнула паліцэйскаму, які з такім недаверам і нават непрыхаванай злосцю паглядаў на яе.

Паліцэйскі ўзяў паперку, прабегся па ёй шэрымі вачыма, ён ведаў нямецкую мову, і перакладаў напісанае.

— Так, значыць, вы жонка, — бачна было, што паліцэйскі здзівіўся таму, што прачытаў.

— Аге ж, Івана Салавейчыка жонка. Да яго дабіраюся, з Палесся я, — пацвердзіла Верка і дадала: — Надзежда Карпаўна Салавейчык.

— А муж ведае, што вы да яго? — малады чагосьці спачатку сумеўся, і раптам рашуча аддаў ёй паперку. — Але гэта не маё дзела. Семянчук, адвядзі жанчыну ў першую ўправу. Прывітанне Салавейчыку, калекцыянеру жонак.

Паліцай раптам і сам зарагатаў і, нешта весела абмяркоўваючы з рыжым, пайшоў на вакзал.

Трэці паліцэйскі, які ўвесь час маўчаў, крыху незадаволена прамовіў:

— Давай клунак, я панясу. Ідзём.

Верка з палёгкай уздыхнула, пайшла ўслед за ім. З галавы не выходзіла толькі што пачутае. Калекцыянер жонак… Падумала: значыць, Іван усё-такі

кінуў сваю Надзю, папраўдзе жыве з другой. І як ёй, Верцы, цяпер трэба будзе паводзіць сябе, калі ён сапраўды прадаўся немцам, і ўсё, што казала пра яго Надзя і паліцаі, не падман? Але ж не можа такога быць: Нікіценка сам свёкру сказаў пра Ігната, сказаў, каб Верка схадзіла да Надзі. Мабыць, Салавейчык вядзе гульню, і гэтая гульня вельмі сур'ёзная, іначай навошта ўсё? Яна ж, Верка, і яе Ігнат Івану Салавейчыку ніколі ворагамі не былі.

Ішлі нядоўга. У Веры сцяла дыханне, калі ўбачыла разбураны бамбёжкай каменны дом, на месцы якога, нягледзячы на моцны мароз, працавалі людзі. А калі заўважыла ахову — нямецкіх салдат з аўчаркамі, зразумела, што гэта арыштанты, ваеннапалонныя. На іх страшна было глядзець: худыя, скура ды косці, зарослыя, парваная вопратка…

Сэрца яе сціснулася ад болю: хіба ж так можна з людзьмі?.. Можа, дзе і Ігнат там, сярод іх, бедалага, разбірае на гэтым пякельным марозе цэглу? Але колькі ні ўглядалася, знаёмай постаці не заўважыла.

Каля ўвахода ў паліцэйскую ўправу, якая знаходзілася ў трохпавярховым будынку непадалёку ад чыгункі, паліцэйскі аддаў Веры клунак і выклікаў дзяжурнага.

Зусім малады хлапец з'явіўся на парозе і пацікавіўся:

— Што трэба?

— Жонка Салавейчыка. Адвядзі да начальніка, — суха сказаў паліцэйскі. — Няхай не бадзяецца па вакзалах.

Той здзівіўся, але выцягнуўся, нібы перад ім сапраўды з'явіўся начальнік управы ці ўсёй гарадской паліцыі.

— Праходзьце.

Ён прапусціў Веру перад сабой у будынак, ціха зачыніў дзверы. Верка, зайшоўшы ў доўгі калідор, у нерашучасці спынілася, прыціснулася да сцяны. Дзяжурны яе апярэдзіў і павёў далей, углыб будынка. Нарэшце, яны спыніліся перад шырокімі дзвярыма, і дзяжурны пастукаў у іх. З-за дзвярэй пачуўся знаёмы Верцы голас, праўда, адчувалася, што крыху прастуджаны:

— Вайдзіце…

Дзяжурны зайшоў, пакінуўшы Верку ў калідоры. За дзвярыма нягучна гаварылі, але пра што Верка разабраць не змагла. Нарэшце, дзяжурны вярнуўся, сказаў:

— Праходзьце, Іван Мітрафанавіч чакае вас.

Калі яна ўвайшла ў прасторны пакой, адразу поглядам наткнулася на спіну невысокага каржакаватага мужчыны, які стаяў ля акна насупраць дзвярэй і курыў.

Верку здзівіла, што ў паліцэйскіх, якія сёння яе затрымалі, былі перашытыя, яўна савецкія, шынялі шэрага колеру, фрэнчы і шапкі-кепі, а гэты быў апрануты ў новенькую чорную ўніформу з жоўтым крыжам на павязцы на рукаве, што выдавала — перад ёй няпросты чалавек.

Праз хвіліну паліцэйскі павярнуўся да Веркі, глянуў на яе і стрымана ўсміхнуўся, а яна пазнала: так, перад ёю не хто іншы, як аднавясковец, Іван Салавейчык.

— Дзяжурны! Нас не турбаваць! — камандным голасам распарадзіўся Салавейчык і падышоў да дзвярэй, зачыніў іх. Пасля ціха сказаў: — Праходзь, Вера. Сядай. У нагах праўды няма.

— Ну, здрастуйце, Іван Мітрафанавіч, — Верка прайшла ўглыб пакоя, паклала на табурэтку свой невялікі клунак, села насупраць грубкі. Усміхнулася. — У вас цёпла, аднак, таварыш, а не, прабачце, пан начальнік…

Яна, супакоіўшыся, уважліва разгледзела прасторны пакой: злева стаялі дзве шафы, а пасярод яго шырокі стол, справа — некалькі табурэтак і два крэслы.

Салавейчык незадаволена чмыхнуў, яго твар увачавідкі пачырванеў, але не паказаў, што чамусьці незадаволены. Ён моўчкі дакурыў цыгарэту, сеў насупраць, і толькі тады лагодна сказаў:

— Не трэба, Вера, ты ж разумная жанчына. Зразумей, дзе зараз. І я табе не абавязаны нічога тлумачыць.

— Дык я ж нічога, Іван Мітрафанавіч. Прывітанне ад Надзі. Тут і пасылачку вам яна сабрала…

Вера развязала хустку, скінула яе на плечы, расшпіліла гузікі кажушка, цяжка ўздыхнула.

Салавейчык раптам узняўся і хуценька выйшаў з кабінета, але хвіліны праз дзве вярнуўся з кубкам гарачага чаю, з якога ішла пара, паставіў на край стала перад госцяй.

— Кіпяточку з дарогі, давай. З цукрам… — лагодна прамовіў ён, і сеў на сваё крэсла.

— Дзякуй за ласку, — Вера зрабіла глыток, паставіла кубак на стол. — Гарачы вельмі.

— А ты не спяшайся. Ну, як там Надзя? — Салавейчык не зводзіў з яе вачэй.

— Плача. Кажа, знайшлі тут сабе новую саломіну.

— А калі і так, то што? — нечакана ўспыхнуў Салавейчык. — Я, можа, шчаслівы цяперака. Жысць пабачыў. А яна мне ногі спутала.

— Няўжо пан начальнік неразумным жарэбчыкам быў і яму ногі спутвалі? — пажартавала Верка, і зноў адпіла глыток кіпеню.

— Так, ты гэта… кінь. Усё! Калі бабскае падтрымліваеш! А як там Бечын?

— А што, Бечын? Адны бабы, дзеці ды старыя і калекі. Немцы нібы на развод цэлы гарнізон мужыкоў падсялілі былі, дык тыдні два таму яны так замачылі Каляды, што многія і не прачнуліся. І як асіraцілі нас, так бы мовіць. Цяпер і абараніць, у выпадку чаго, няма каму, ніякай, лічы, улады, — старалася пажартаваць Верка.

— Чуў ужо. Начальства гудзе: партызаны тут і там, спакою няма, — усміхнуўся Салавейчык. — Падазроныя ўсе сталі. Чула навіну?

— Якую?

— Паражэнне пад Масквой. Нямецка-фашысцкія войскі адкінуты далёка на захад. Гітлераўцы вымярзаюць у акопах, як і напалеонаўскія салдаты некалі. Зараз такія маразы, а нямецкія часці да іх не прывыкшыя, во, збіраем усё зімовае.

— Ваня, скажы прама: ты з нашымі ці з імі? Надзя звялася. Ды і гэты Аскерчык яе дабівае… — Верка смела спытала Салавейчыка, гледзячы яму ў вочы.

— Калі ты яшчэ не ў немцаў, то кумекай сама. Больш нічога не скажу. Надзі скажы, каб трымалася. Баек няхай не слухае. З гэтым усё! — ён зноў закурыў, паглядзеў праз акно на вуліцу, і пацікавіўся: — Як дабіралася ў такое надвор'е?

— Свёкар падвёз да Старушак, а там да Калінкавіч пашчасціла на цяплушцы. Нядзеля была, там з кірмаша людзі ехалі, на воз з сабой узялі. Заначавала ў іх. Потым яшчэ нейкі добры чалавек трохі падвёз. Яго знаёмы, аказалася, праз дзень дабіраўся ў Рэчыцу. А адтуль на поезд упрасілася, добры машыніст

аказаўся, падвёз. Лічы, тыдзень дабіралася. Толькі б праўда было тое, што сказалі, — Верка заплакала.

— Слабы быў твой Ігнат, калі была магчымасць арганізаваць уцёкі. Але выжыў, сяк-так падтрымліваем яго, — паведаміў Салавейчык.

— А можна неяк пабачыць яго? — вочы ў Веркі адразу высахлі.

— Ты мо здурэла? Хоць разумееш, дзе ён? Там строга ўсё кантралюецца немцамі. Людзі паміраюць кожны дзень, дзясяткамі, немцы ўжо не ведаюць куды трупы дзяваць, збіраюцца печы рабіць, каб спальваць. Хапаюць любога падазронага, толькі хто паглядзіць убок тых баракаў, а ты… — Іван раззлаваўся, і яна зразумела, што сказала пра немагчымае.

— Бачыла, як нябогі гэтыя цэглу на марозе носяць, — Верка цяжка ўздыхнула.

— Заўтра палова іх не выйдзе, а праз дні два наогул нікога з іх на свеце не будзе, душы ўверх адляцяць. А Ігнат твой там не адзін. Яшчэ ёсць добрыя людзі, яго на работы водзяць на завод. Там у памяшканні робіць, ды і гарачае калі даюць. Немцы запусцілі ўжо некалькі заводаў, — ціха паведаміў Салавейчык. — З лагера цяжка вызваліць. З завода таксама ўцячы складана. Кругом ахова. Застаецца адзін варыянт, пра які наказаў. Калі ты тут, то сабрала нешта. Я не верыў, што ты зможаш.

— Іван, не буду хавацца, не збірала, не прасіла. Хаця твая Надзя завушніцы аддавала, тыя, што ты некалі ёй падарыў. У мяне схованка была. Даўняя... — Верка азірнулася на дзверы, баючыся, каб ніхто не ўвайшоў.

— Не бойся, дзяжурны не прыйдзе. І немцы тут рэдка бываюць… Паказвай. — Ён адвярнуўся, пакуль Верка даставала хусцінку, якую дома прывязала на цела.

— Глядзі, Іванка…

Яна паклала хусцінку на стол і разгарнула яе. Там была яшчэ адна. Салавейчык нават вачам сваім не паверыў: перад ім ляжалі чатыры царскія залатыя манеты. Ён аж успацеў, выцер рукавом лоб.

— Адкуль? Гэта ж «мікалаеўкі», 1899 года. Не, не буду пытацца, твая з Ігнатам справа. Важна адно: не толькі Ігната, але і Міколу, брата яго вызвалім, і Коршака, калі паспеем. Ды што там, чатырох хлопцаў гарантавана выцягнем. Ёсць праз каго, — Салавейчык ад радасці гатовы быў расцалаваць яе.

— Як? І Мікола там? І Коршак? — не так здзівілася, як спалохалася Верка.

— Там тысячы людзей, Вера. Ты не ўяўляеш. А калі запусцяць печы, то ўсе... Увесь Гомель усеяны лагерамі, адкрыты гета для яўрэяў. Першымі знішчаюць камуністаў, камсамольцаў, былых актывістаў. Людзі галодныя, паміраюць штодня, для гэтага трэба спальваць трупы. А лагеры папаўняюцца кожны дзень за кошт мясцовага насельніцтва. Нас толькі часам прыцягваюць да аховы то тут, то там, але не асабліва паліцыі давяраюць. Вакол кулямётныя вышкі, надрэсіраваныя сабакі, гатовыя разарваць любога, — Іван гаварыў сцішана, а жанчына знямела глядзела яму ў вочы і не магла прамовіць ні слова ў адказ.

Нарэшце, пацягнулася па кіпень, які крыху астыў, і глытнуўшы, перавяла дыханне.

— Ігнат, я зразумела, на заводзе. А Мікола? А Коршак? — спытала Верка.

— Мікола ваш таксама там. У лагеры. Толькі ў другім бараку. Ён жа афіцэр. Там і Коршак. Прыгналі іх аднекуль з Арла, часць здалася. Яшчэ мінулай

восенню. Каго ў вагоны пагрузілі ды ў Германію. А ім удалося ўцячы, у лесе за Бранскам сустрэліся, разам дабіраліся дадому. Ды не пашанцавала: нарваліся на паліцаяў, вось так і апынуліся тут. Я падрабязнасцей не ведаю, сам з імі не гаварыў, ты ж разумееш, толькі праз надзейнага чалавека вяду перамовы. Падкармліваю яго, ды, так скажам, як бы да яго сястры прыстаў на кватэру. Нібы за радню лічыць. А ў іх там бацька быў немцам, дык ён хутка выйшаў у давер ды выбіўся пры новай уладзе. Потым і я падлез куды трэба па яго падказцы, пад вочы фашыста аднаго. Вялікі начальнік аказаўся, ад замаху на яго, нібыта, выручыў. Ну, і вось вынік: управай кірую. А Коршак быў, мне перадалі, хворы, каб толькі запаленне якое не падхапіў. Тады кранты. Толькі нікому пра гэта, чула?

Іван згроб залатыя манеты і схаваў у шафу.

— Сёння ж перагавару з так званым родзічам. Ён за пярсцёнкі, ланцужкі многіх адтуль вывеў куды трэба. А за царскае золата, за гэтыя дзесяцірублёўкі, лоб разаб’е, а зробіць усё, як трэба. Хлопцаў будзем выводзіць, хаваць, а потым паціху адпраўляць у лес. Ёсць канал. Калі ўсё атрымаецца, то праз месяц чакай добрай весткі.

— Дык мне што, вяртацца дадому? — расчаравана ўздыхнула Верка.

— Я сёння дзяжуру, заначуеш тут. У нас ёсць пакой з ложкам, памыцца ёсць дзе. Ніхто не падумае лішняга: усё ж не хто-небудзь, а жонка прыехала. Добра, што Надзя выпрасіла даведку — цяпер калі дакумент ёсць, то будзеш жыць. А заўтра, чуў, пойдзе машына ў Петрыкаў. Я пастараюся дамовіцца. А там глядзі, сама дабірайся.

— Дзякуй, Іванка, што ты такі… — заплакала зноў Верка, — што не змяніўся. Я і Надзю тваю пераконвала, што ты за савецкую ўладу.

— Пра гэта — не плявузгаць. Я паліцэйскі і ўсё! Нічога не чула! Калі што, май на ўвазе, па-зямляцку пашкадаваў. Увогуле, золата вось тваё, напрыклад, сабе забяру, што тады скажаш? Во табе і свой.

— Хоць сабе, хоць каму, а выратуй мужа! Атрымаецца — усіх выратуй, Ваня. Я зямлю пад тваімі нагамі буду цалаваць, — Верка ніяк не магла супакоіцца, толькі выцірала краем хусткі ўзмакрэлыя вочы.

— Хопіць, дурная, раўці. А падарункі тут пакінь. Хлопцаў пасля пачастую — усё ж не хто чужы, а баба мая наведвалася. Скажу: не засталася, бо прыраўнавала ды плюнула на мяне, бо другую займеў, і назад дахаты падалася.

— Так, так, Ваня, — пагадзілася крыху супакоеная Верка, нібы яна і сапраўды жонка Івана Салавейчыка.

А праз нейкі час яна, не распранаючыся, заснула ў ложку ў цёплым пакоі, дзе была добра напаленая грубка.

## 5

У сне, кароткім і трывожным, Верка чамусьці развітвалася са сваімі роднымі…

Гарэла хата, была яна ў чорным лесе. Недзе далёка, на краі зямлі, над якой патухлі той ноччу зоры.

Сутаргавай грымасай, агіднай і брыдкай, спярша заглядваў у вокны панурай старой сядзібы руды дым, і толькі пасля яе захапіў спачатку няроўны, барвова-фіялетавы агонь. Але з-за дзікага, неўтаймаванага ветру полымя раз’юшвалася,

стала ўсёпаглынальным, шалёным, цяпер перамешвалася з густой сцяной беламалочнага снегу, які імкнуўся засыпаць сваім дабром усю гэтую несправядлівасць, затушыць яго страшныя языкі, і злосна гарэлі сцены, дах…

А ў двух акенцах той хаты, нібыта нічога і не здарылася, усміхаліся яе, Верчыны, дзеці: шасцігадовая шчабятуха Нінка і двухгадовы Васілёчак. У адным акне свякруха Агапка расчэсвае Нінцы русыя валасы ды нешта напявае ёй, вясёлае, радаснае, а дачушка загортвае ў белую тканіну драўляную ляльку, якую толькі што сваёй унучцы выстругаў дзед. А ў другім акенцы неслух Васілёк імкнецца вырваць з рук свёкра Сцяпана арэхавую палку, з якой той аддзяліў кавалак і выразае маломў свістульку. І раптам гэтая арэхавая палка ў руках хлопчыка страляе, а Васілёк шчасліва сакоча, замахваецца ёю на Зміцера Аскерку, які стаіўся побач і назірае, як слуп дыму і агню сягае вышэй лесу…

Густы дрымучы лес, зацягнуты дымам, пераходзіць у вялізнае, дрыгвянае балота. З яго на ўвесь рост падымаецца Ігнат і ідзе як па цаліку, крок за крокам, набліжаючыся да яе, Веркі. Але не, не яна стаіць перад сваім мужам, а… Гэта ж кватарантка Жэня, жонка Андрэя Коршака. Яна трымае на руках сваю Святланку. Дзяўчынка не бачыць мужчыну, яе чымсьці забавіў падрослы Ванька, яе старэйшы сыночак. А Ігнат спыняецца за некалькі крокаў перад борам і кажа ёй: «Няма больш Андрэя, Жэня! Няхай будзе ў цябе Мікола. Ты ж і так, людзі ведаюць, жонка майго брата».

І раптам хлюпкая бяздонная багна, разрываючы пад нагамі мох, пачала расступацца, на ёй не ўстояць — і стала засмоктваць у сваю рудую гнілую ваду яе Ігната. Адкуль толькі тут ўзяўся Рыгор, яе Рыгорка, такі ж малады, высокі і прыгожы, працягнуў Ігнату руку: «Давай, брат! Не здавайся!..»

…Верка прачнулася недзе сяродначы. Спусціла ногі з ложка і ціха сядзела, доўга ўспаміна ла, дзе яна, чаму тут, у гэтым дзіўным пакоі. І ачомалася толькі тады, калі раптам пачула за сцяной голас Салавейчыка, які некуды званіў па тэлефоне.

На століку, што стаяў побач з ложкам, зямляк пакінуў яшчэ з вечара чайнік, шклянку з чаем, хлеб і тонкія крышанчыкі сала, два вараныя яйкі. Але есці ёй не хацелася. Яе сэрца шалёна калацілася, і Верка раптам заплакала, успомніўшы такі трывожны сон.

Крыху супакоіўшыся, моўчкі прасіла Бога, каб захінуў ад бяды дарагіх ёй людзей.

Неўзабаве да яе зайшоў Салавейчык і паведаміў, што час ісці на станцыю, адкуль у сем гадзін раніцы пойдзе машына на Петрыкаў. І папярэдзіў аб канспірацыі: «Развітваючыся, абавязкова пацалую цябе. Як жонку. Мы ж тут ноч з табой правялі, нібыта. Усе пра гэта ведаюць. Толькі як мне яшчэ са сваёй кватэрнай мадам сёння ўсё ўладзіць, каб хвост не падымала надта — не ведаю…»

## 6

У грузавік пад зялёным тэнтам у Гомелі загрузілі дзве скрыні і прыставілі да іх двух немцаў. Салавейчык неяк дамовіўся з афіцэрам, каб яго жонка ехала ў цёплай кабіне, а немцы ў кузаве.

Пасля нядаўняга снегападу дарога была слаба ўтаптаная, таму грузавік ехаў павольна. Верка раніцай зразумела, што машына была чужая, не савец-

кая палутарка. Ды і надпіс заўважыла: Mercedes-Benz. Такая тэхніка ёй падабалася. Карцела спытацца ў вадзіцеля: колькі конскіх сіл пад капотам? Але той, хутчэй за ўсё, вольнанаёмны, быў не гаваркі. Гэты малады і хударлявы хлопец, якому на выгляд крыху больш як дваццаць гадоў, час ад часу закурваў папяросы, і яна так і не асмелілася спытацца, баялася выклікаць падазрэнне: жанчына, а цікавіцца тэхнікай.

У кабіне было цёпла. Маркотна і нудна працаваў рухавік, а яна згадвала свой трактар, які перад прыходам немцаў перадалі вайскоўцам. Добра на ім працавалася.

Думала доўгую нудную дарогу пра Салавейчыка: верыла, што слова сваё ён абавязкова стрымае. І Рыгорава золата, якое ён пакінуў іх сыну, павінна выратаваць чалавека, які прыняў яе адзінокую, пакінутую, цяжарную ад іншага. Так, выратаваць таго, хто пакахаў і абагрэў яе гаротную, хто ўзяў за жонку. Хто ж ведае, як бы склаўся яе лёс, калі б тады не Ігнатава падтрымка? Як бы яна жыла цяпер адна з дзіцём… Ехала і ў думках малілася Богу, прасіла яго, каб заступіўся за дзяцей, мужа, за яе, і тады на сэрцы станавілася лягчэй, нібыта тое, аб чым прасіла Усявышняга, ужо здзейснілася.

Апошні дзень студзеня быў марозны, бясснежны і сонечны. Перад уездам у Калінкавічы машыну спынілі немцы. Вадзіцель папярэдзіў: праверка дакументаў. Двое з аўтаматамі стаялі перад машынай, а трэці, відаць, афіцэр падышоў да грузавіка.

Вадзіцель не глушыў грузавік, выйшаў з машыны і працягнуў таму карычневую скураную папку, дзе ляжалі дакументы на груз. Немец падазрона пагартаў іх, абышоў машыну ззаду. Верка пачула, як ахоўнікі ў кузаве ўскочылі, голасна павіталіся:

— Heil Hitler!

— Sieg Heil! — адказаў той і падышоў да дзвярэй кабіны, дзе сядзела жанчына.

— Bitte, Ausweis! — адчыніўшы дзверцу, загадаў ёй.

— Даведку сваю давай! — прашыпеў незадаволена вадзіцель.

Верка дрыжачымі рукамі падала паперку і спалохана пазірала на нямецкага афіцэра.

— Kein problem, frau? — ён вярнуў ёй даведку, акуратна зачыніў дзверцы і кіўнуў салдатам. Тыя адступіліся, і грузавік рушыў далей.

Успацелая Верка толькі спытала ў вадзіцеля: а што ён сказаў, аддаючы ёй паперку. Той засмяяўся:

— Што ўсё ў парадку, жанчына…

— А я так спалохалася, дурніца.

— Чаго табе было палохацца, у цябе ж мужык — паліцэйскі, — пацiснуў плячыма той.

— Ага, усё роўна страшна, — пастаралася выціснуць з сябе Верка.

Яна маўчала ўсю дарогу, пакуль вадзіцель не паказаў паваротку, за якой ён скіруе налева, а там Петрыкаў.

— Табе трэба ўвесь час прама. Можа, у Петрыкаў, там заначуеш, а заўтра будзеш дабірацца, — раптам пашкадаваў ён яе.

— Не, сонца яшчэ высока, вёскі ж па дарозе ёсць, няпраўда, пусцяць пераначаваць, палешукі — людзі добрыя.

— Ну, то шчаслівa.

Грузавік паехаў сваёй дарогай, а Верка з хвіліну яшчэ стаяла, глядзела яму ўслед. Потым перавязала хустку і пакрочыла па заснежанай дарозе.

Калі барвова-чырвонае сонца апусцілася за сасоннік, яна ўвайшла ў вёску і папрасілася да адзінокай жанчыны пераначаваць, а на самым золаку пакрочыла далей. Ёй пашанцавала: па дарозе яе дагнаў на санях нейкі стары, падвёз амаль да Малых Сялючыц, гэта вёрст дзесяць, а адтуль яна хутка выйшла на шлях, што вёў у Бечын. Зноў ёй пашчасціла: з Міткавіч ехала ў Хвойнішчы кабета, і ўзяла яе ў сані. Прыцемкам Верка нарэшце дабралася да роднага селішча.

## 7

Жэня ўжо спала, калі Верка пастукала ў акно. Бразнула засаўка на дзвярах, і стомленая жанчына пераступіла парог сваёй хаты. Жэня кінулася запальваць лучыну на прыпечку:

— Верачка, як адчувала, што ты сёння павінна вярнуцца. Мы ж звяліся ў чаканні: ці дабралася, калі вернешся? Дзеці пра маму толькі і пытаюць, — Жэня запаліла лучыну, у хаце адразу пасвятлела, і абняла сяброўку.

— Жывая, Жэнька, здаровая. Ці ўсё добра дома? Малыя паснулі? — з удзячнасцю Верка пагладзіла Жэньку па галаве.

— Ды ўсё добра, галубка мая. Сёння быў дзядзька Сцяпан з бабкай Агапай, Нінку і Васілька забралі на пару дзён на хутар. А Ванька — мужчына ж расце! — адмовіўся. Кажа: цёці Жэні і Святланцы адным будзе страшна, застануся з імі. А раптам заўтра мама вернецца. Некаму ж трэба яе сустрэць дома. Уяўляеш, характар! Давай, галубка, распранайся, — Жэнька дапамагла сяброўцы скінуць цяжкія валёнкі, і паставіла іх сушыцца на прыпечак.

Тым часам Верка зняла кажух і хустку, з палёгкай уздыхнула: дома ўсё ў парадку.

— Табе ж з дарогі паесці трэба, — спахапілася Жэня, вярнуўшыся ад печы. — Ёсць печаная бульба ў мундзірах, кіслае малако.

— Толькі піць, есці нічога не хачу.

— Ёсць у грубцы, так як ты робіш, я ў чыгунку напарыла ліпніку і малінніку. Будзеш?

— Гэта тое, што трэба, Жэня.

Яны селі на лаўку каля прыпечку, на кухні. Верка невялікімі глыткамі піла настой, а Жэнька памяняла дымную смалістую лучынку на новую, і нецярпліва чакала, калі сяброўка пачне расказваць пра тое, як з'ездзіла ў Гомель.

— Сагрэлася трохі? — раптам спытала яна ў Веркі.

— Аге ж, Жэня. Ніколі б не падумала, што ледзь не за трыста вёрст падамся. Не ведаю, ці людзі, ці Бог дапамагалі мне, але ўсё зрабіла. Думаю, Салавейчык не падвядзе. Свой ён быў і сваім застаўся, Надзя дарэмна перажывае. Заўтра раніцай пайду да яе, — сказала Верка.

— А можа, хоць вокам удалося пабачыць Ігната?

— Каб жа… — Верка раптам заплакала. — Там нікога да тых баракаў не падпускаюць. На работы пад канвоем водзяць, страх божы…

— Але ж жывы, здаровы? Што казаў Салавейчык? — Жэнька хацела ведаць пра ўсё.

— Кажа, выкараскаўся… — Верка раптам ажно папярхнулася і пачырванела, згадаўшы тое важнае, што павінна сказаць ёй, Жэньцы.

— Толькі б ты не захварэла, гэтага нам не трэба! — спалохалася тая.

Верка адкашлялася і засмяялася:

— Не, Жэня… Я вінавата перад табою, успомніла…

— Што такое, сяброўка? — насцярожылася Жэня.

— Твой Андрэй там. З Ігнатам разам працуюць, але ў лагеры ў розных бараках яны. Ён жа — афіцэр. Вось што, — Верка зноў, як і пры сустрэчы, пагладзіла Жэньку па галаве. — Хворы, але жывы.

— Няўжо? Ён жа на фронт збіраўся, — сяброўка не ведала ці то радавацца, ці плакаць. Урэшце, заплакала.

— Супакойся, мілая. Мужыкі нашы разам, гэта галоўнае. Жывыя. Там нават сярод ворагаў ёсць многа харошых людзей, тых, хто за савецкую ўладу. Падтрымліваюць адзін аднаго, — Верка, як магла, старалася супакоіць Жэню, але тая сутаргава плакала ў яе на плячы. — Так, дзеўка, вытры слёзы, кажу! Бог дасць, выратуюцца.

Жэнька аціхла, толькі спыталася:

— А ці хопіць таго, што ты аднесла, каб выкупіць двух?

— Салавейчык сказаў, што не толькі двух, больш людзей удасца адтуль выцягнуць.

— Верачка, я разумею, гэта вялікі сакрэт, калі не хочаш, можаш не расказваць, але ж адкуль у цябе тое золата?

— Гэта, Жэнька, асобная гісторыя. Некалі я табе раскажу, калі хлопцы нашы вернуцца ці вестку адкуль дадуць, што жывыя і здаровыя. А цяпер — давай спаць, дарагая мая. Мяне ногі ўжо не трымаюць.

Яны памаўчалі, Жэня потым сумна згадала пра навіну:

— Я ж забылася, сёння суседкі забягалі. Сказалі, што на сельсавеце аб’ява вісіць: каб заўтра ўсе дарослыя сабраліся ранкам ля яго. Хто не з’явіцца, будзе аб’яўлены пасобнікам бальшавіцкага рэжыму. Якраз тут былі твае свёкар і свякруха. Дзядзька Сцяпан сказаў, што таксама з цёткай прыедуць, дзяцей ранкам прывязуць.

— Што гэтыя гады надумалі яшчэ? — засынаючы, прамовіла Верка.

— Кажуць, новую ўладу прызначаць.

Але Верка ўжо заснула і не чула апошніх слоў сяброўкі.

…Апоўначы, калі на хутары ўсе спалі, у кухоннае акно гучна пастукалі.

Сцяпан Адамчык адразу прачнуўся. Ён прастыў і кашляў увесь вечар, жонка нават паставіла яму банькі і пакінула старога на печы, каб што благое не перакінулася на малых, а сама з дзецьмі легла ў чыстай палове хаты. Стары злез з печы, падышоў да акна, запытаўся:

— Хто гэта там?

— Сцяпан Адамчык? — рэзка пачулася з вуліцы.

— Я гэта… А вы хто будзеце?

— Выйдзіце на двор. Размова ёсць, — загадаў той самы голас.

— Што? Канец свету?.. Да раніцы не церпіць гэтая ваша размова? — здзівіўся Адамчык.

— Не хочаш, каб падпалілі хату, выходзь, стары, па-добраму, а то горш будзе!

Старому Адамчыку падалося, што голас яму знаёмы, але ніяк не мог прыгадаць, чый. І раптам успомніў — голас падобны на голас Антона Аскеркі, багацея з далёкага адсюль хутара пад Пуханцамі, што каля Князь-возера. Успомніў і апошнюю сустрэчу на судзе, калі кум, Іван Расевіч, судзіўся за сенажаць за Воўчым Логам з гэтым Аскеркам. Тады ён, Сцяпан Адамчык, з іншымі людзьмі быў у сведках, пацвердзілі, хто церабіў тую сенажаць,

карчаваў ад алешніку і кустоў. Ведаў таксама і пра лёс няўдзячных сыноў Аскеркі, калі яго раскулачылі, то пры гэтым і старэйшы яго сынок быў Паўлюк, кажуць, прысутнічаў, якога потым нехта падстрэліў. А малодшы, Зміцер, казалі людзі, заўжды любіў красці, таму і стаў вельмі сквапным бандытам. І калі Сцяпан Адамчык накідваў на плечы кажух, а затым ішоў у сенцы, ён ужо разумеў, хто чакае яго за дзвярыма.

Ён выйшаў на ганак. Неба было бяззорнае, але светлае, чыстае.

Адамчык не памыліўся: парода выдала ў барадатым мужчыне, які стаяў перад ім, Аскеркавага сына, вечна незадаволенага, пыхлівага і ганарлівага. Ён усё сваё жыццё з-за сквапнасці цураўся людзей. Адамчык таксама заўважыў, што са Зміцерам Аскеркам было некалькі, таксама, як і ён, узброеных паліцаяў. Прывітаўся.

— Добрай ночы, Зміцер. І вам хлопцы.

— Бачу, пазнаў-такі, — злосна заскаліў зубы Аскерчык, які стаяў пад грушай, кроках у трох ад старога.

— А як не пазнаць. Ведаў добра бацьку твайго. Гаспадар быў, — спакойна сказаў Сцяпан. — Мы не варагавалі ніколі, дзе мой хутар, а дзе возера і Пуханцы. Рэдка, канешне, бачыліся.

— Ды метка, аднак. На судзе за сенажаць супраць бацькі хто пайшоў? Думаеш, забылася ўсё? — Аскерка злосна сплюнуў на снег. — Але тое старое, Бог з ім. За тое, што паслухаў твой Ігнат і цётку маю не крыўдзіў, у спісы ўключыў, калі цялят дзялілі, тая віна з цябе знімаецца. Дужа абараняла цётка твайго сынка. Хоць і падстрэліў я яго, ды жывучы аказаўся. Ладна, хоць ён і паскудзь бальшавіцкая, сям'ю яго не зачаплю. Але ж ты, падла старая, кажуць, навёў партызан на маіх братоў — выкасілі ўсіх за адну ноч.

— Няпраўда гэта, прыдумаў нехта, — ускінуў вочы Адамчык на Аскерку. — Не было такога. Нічога не ведаю.

— Не ведаеш? А людзі на цябе паказалі. Бачылі, як абдымаўся з партызанскай набрыддзю.

— Якія людзі, Зміцер? Пабойся Бога! Дома я быў, шчэдрыкі святкавалі, выпіў, грэшны, а каб на людзей… — Адамчык хацеў адгаварыцца, але зразумеў: не за тым яны прыйшлі сюды сяродначы.

— Ну, па-добраму размовы, бачу, не атрымаецца, — Аскерка з усяе сілы ўдарыў кулаком старому ў жывот, той ледзьве не ўпаў, сагнуўся, схапіўся рукамі і застагнаў.

— За што, Зміцер? — толькі і змог вымавіць Адамчык, і атрымаў яшчэ адзін удар збоку у пах. Стары распластаўся на снезе і сціх, страціўшы прытомнасць. Але праз хвіліну апрытомнеў, аднак сілы пакідалі яго, было балюча паварушыцца, і пачуў, як Аскерка скамандаваў:

— Гэтага ў сенцы! Салому, сена, салярку сюды! Да ветру гэтую паскудзь, каб не смярдзела пад нагамі…

Хутка вакол патыхала едкім дымам, у хаце пачуліся страшныя крыкі Агапкі і плач дзяцей, якія, стары яшчэ ўсведамляў, ад спалоху кідаліся да ахопленых агнём вокнаў, але з вуліцы пачуліся аўтаматныя чэргі, і ў хаце ўсё адразу сціхла. З вачэй старога выкаціліся слёзы роспачы і шкадавання, а вусны малілі:

— Дзяцей, дзяцей пашкадуйце…

Але ў тое ж імгненне пылаючая бэлька ўпала на яго.

Гэтая бяззорная ноч была для іх апошняй на зямлі. На досвітку ўсчалася завіруха, якая хоць і старалася, але доўга не магла схаваць сляды страшнага начнога пажару на былым хутары…

## 8

Раніцай, так і не дачакаўшыся старых, Верка і Жэня вырашылі ісці ў вёску самі. Верка разбудзіла сына, і сказала яму легчы побач са Святланкай, каб тая не спалохалася, калі прачнецца. А як падымуцца, каб паснедалі разам і з хаты — ні нагой.

Ванька вельмі ўзрадаваўся, што маці вярнулася дадому, павіс у яе на шыі. Затым неахвотна перабег на ложак, дзе соладка спала дзяўчынка. І як толькі дакрануўся да падушкі — зноў адразу заснуў.

Калі выйшлі на вуліцу, гэтаксама, як і вечарам Жэнька пачала распытваць сяброўку пра тое, як яна ездзіла ў Гомель, пра хваробу Андрэя, і Верка ўжо была не радая, што расказала ёй пра яе мужа ўсё, што сама ведала. Таму цяпер Верка — яны ж учора прагаварылі пра гэта — зазлавалася на сяброўку:

— Набярыся цярпення, Жэня. Ведаць пра іх — адно. Цяпер трэба спадзявацца, што ў Салавейчыка ўсё атрымаецца. Але ні пры бацьках, ні пры дзецях больш пра тое не заікайся. Абое маўчым. Для ўсіх ты — жонка Міколы, што б там ні было. Нічога не ведаем: ні пра мужоў, ні пра партызан — жывём, як усе. І ні слова пра Гомель: на вуліцу я не паказвалася, бо раптам захварэла, таму і дзеці ў бацькоў на хутары. Слухай, а пра мяне ніхто гэтымі днямі не пытаў?

— Не, здаецца, — адказала, здзіўленая ад такога наступу Веркі Жэня.

— Вось і добра. Была я дома. Хварэла. І кропка. Зразумела? — цвёрда адрэзала сяброўка і дадала: — Так і было, канешне. Хварэла…

Неўзабаве яны прыйшлі да будынка былога сельсавета. Людзей тут ужо сабралася нямала. Яны стаялі купкамі, ціха перамаўляліся між сабой. У асноўным гэта бабы, старыя дзяды ды некалькі хлапчукоў і дзяўчынак, якія павінны былі цяперашняй вясной закончыць школу.

Да Веркі і Жэні, убачыўшы іх, адразу падалася заўважна схуднелая Нюрка. Падышла, спачатку пацалавала Верку, затым крыху насцярожана прывіталася з Жэнькай.

— Даўно цябе не бачыла, сяброўка, — звяртаючыся да Веркі сказала Нюрка. — Думала, прыйсці пакалядаваць, дык страшна цяперака. А тая ноч увогуле, ой, лепш не ўспамінаць.

Нюрка, сказаўшы гэта, спуджана глядзела на Верку, згадаўшы начную партызанскую расправу над паліцаямі.

— Не кажы, Нюра, страх такі, — пагадзілася з ёй Верка. І спыталася пра дзетак: — Як твае малыя?

— Не хварэюць, і тое добра, — адказала Нюрка. — А твае?

— І нашы нічога. Ваня са мной, старыя забралі малых на хутар, я мо з тыдзень нікуды з хаты не выходзіла, прычапілася нешта хвароба, галава як адказвала.

— То прастуда такая, кажуць, ломіць ногі і рукі, галава расколваецца. У маёй суседкі было такое. Таксама адлежала колькі дзён…

У гэты момант з будынка колішняга сельсавета выйшлі чатыры паліцаі. Верка старалася іх разгледзець, але нікога не пазнавала. Усе чужыя, а твары ва ўсіх былі апухлыя.

— Глядзі, у сённяшняга нашага начальства морды памятыя. Ноч, мабыць, самагонку глушылі, — здагадалася Нюрка.

— Цішэй ты. Пачуюць, бяды не абярэшся, — ціха прашаптала ёй на вуха Верка.

Раптам па парозе сельсавета з'явіўся Зміцер Аскерка. За гэтыя месяцы, як Верка ўпершыню сутыкнулася з ім ў Бечыне, старшы паліцэйскі паспраўнеў. Яго маршчыністы, нават зморшчаны твар стаў масіўным і мясістым. Але ўбачыўшы зараз Аскерку, яна падумала, што на іх, мясцовых паліцаях, немцы эканомяць: апрануты ва ўсё звычайнае, не так як у Гомелі. Відаць, не такі ты, Аскерка, і вялікі паліцэйскі чын, сам вунь у скрадзеным паўкажушку ходзіш. Не тое што Іван Салавейчык, той ва ўсім форменным, новенькім нямецкім амбундзіраванні. Яшчэ раз агледзела ўсіх чужынцаў: толькі павязкі на рукавах з двайным крыжом сведчаць пра службу ў паліцыі, а ўсё астатняе, што ёсць на злыднях, яны, мабыць, нарабавалі ў вёсках.

Аскерка падаўся ёй стомленым, з накінутага на плечы паўкажушка былі відаць расхрыстаныя валасатыя грудзі. Ён падняў з-пад навіслых броваў шэрыя вочы, агледзеў усіх беглым панурым позіркам, і раптам непрыхавана холадна ўпіўся вачыма ў Верку і нечакана збялеў. У жанчыны ад такога глыбокага, уедлівага пагляду па ўсім целе пайшлі дрыжыкі-мурашкі. Нешта нядобрае нёс ён ёй, нейкую злосную і мсцівую пагрозу, але сёння ўсё кепскае яна адганяла ад сябе: яна ж чакае радасных навін аб вызваленні мужа і яго сяброў…

Аскерка спачатку дружалюбна голасна чытаў з паперкі:

— Па загадзе нямецкага камандавання павінен быць праведзены збор зімовага адзення для франтавых часцей. Насельніцтва павінна праз гэты збор выказаць сваю падзяку за вызваленне ад бальшавіцкага іга. Зімовым адзеннем лічацца: кажух, футра, валёнкі, ваўняныя рэчы новыя альбо тыя, якія добра захаваліся, мала паношаныя. Гэта, панове бечынцы, распараджэнне гебіцкамісара горада Петрыкава і раённага бургамістра. Рэчы павінны быць дастаўлены ў раённы цэнтр не пазней 26 лютага 1942 года…

Ён раптам спыніўся, зноў затуманена агледзеў усіх вяскоўцаў.

— Нямецкая ўлада — справядлівая ўлада. Сабраныя рэчы будуць адпаведна аплачаны. Будуць прымацца тут, у сельсавеце, у добраахвотным парадку на працягу двух тыдняў. І гэта датычыцца кожнай хаты.

— Вымярзаюць фрыцы пад Масквой, паспрабавалі нашай зімы, — ціха пачалі перагаворвацца паміж сабой людзі.

— Думалі, ураз ухвацяць. З'елі і закусілі.

— Аге ж, дачакаюцца. Тут самім няма чаго насіць.

Верка раптам успомніла самае галоўнае, пра што яна забылася сказаць Жэні. Але спачатку сказала тое Нюрцы:

— Немцаў пад Масквой разбілі, яны адступаюць. Кажы тым, каму давяраеш.

— Адкуль ведаеш? — здзіўлена залыпала вачыма Нюрка.

— Сарока на хвасце прынесла.

— Ясна… — узрадавалася сяброўка, і яе вочы засвяціліся.

Аскерчык, пачуўшы бязладны шум сярод бечынцаў, паківаў галавою.

— Я так разумею, тут некаторыя сумнявацца ўздумалі над рашэннямі справядлівай нямецкай улады. Дык запомніце, — ён марудным цяжкім поглядам акінуў усіх і зноў нечакана спатыкнуўся, як апёкся, ад пагляду жонкі былога калгаснага старшыні: Верка глядзела на яго смела, так і не адвёўшы вочы, і ад таго Аскерка яшчэ больш зазлаваў. — Многія з вас жывыя яшчэ толькі таму, што я, старшы паліцэйскі Зміцер Аскерка, пры-

знаю вас за землякоў. Цаніце гэта. Асабліва тыя, што бальшавіцкім духам пранізаны. Тут не партыйны ці камсамольскі сход. Нямецкі парадак — ён дакладны і канкрэтны парадак, які трэба строга выконваць і падначальвацца. Зразумела гэта?

— А што ж тут не зразумець, Зміцер. Памятаеш, як капытцамі сваімі вытанцоўваў у маёй хаце на танцах? Цябе ж мы добра ведаем… — падала голас раздабрэлая Параска Сядуха, і тым выклікала ва ўсіх рогат.

— А ты, цётка Сядуха, дужа не скалься. Я для ўсіх вас цяпер тут улада. І вось што. Расплата не міне нікога, хто будзе супраць мяне выступаць. Тое, што адбылося ў Бечыне у ноч з 13 на 14 студзеня 1942 года, калі астаткі бальшавіцкіх банд загубілі нашых паплечнікаў, мы не забылі… — гаварыў Аскерка злосна, самаўпэўнена. — У нас сваё следства, новыя законы. Хто з намі супрацоўнічае, той пад нашай абаронай. А ўрокам для ўсіх вас, бечынцаў, будзе наступнае. За тое, што лясным бандытам было выдадзена распалажэнне паліцэйскіх, сёння прыведзены наш начны прысуд. Вядомы ўсім хутаранец Сцяпан Адамчык сёння ноччу разам са сваім вывадкам з дымам пайшоў на неба…

— Д’ябал! — толькі і паспела ў роспачы крыкнуць Верка і страціла прытомнасць. Яе падхапілі на рукі сяброўкі, акружылі бабы.

— Няправільная твая ўлада, Зміцер! — закрычала Параска. — Мо дзед у чым перад табою і вінаваты, а дзеці, дзеці… Гэта ж чыстыя душы, навошта іх звёў?

— Маўчы, сцерва старая! І вы, бечынцы, не забывайце: так будзе з кожным, хто будзе памагаць партызанам і бальшавіцкім прыхвасням. Сход закончаны!

Паліцэйскія і Аскерка зніклі ў сельсавеце, а бабы, галосячы, акружылі Верку. Жэня абцірала збялелую жанчыну снегам, стараючыся вярнуць ёй прытомнасць. Побач на снезе сядзела на каленях і п’янаватая Надзя, жонка Івана Салавейчыка, якая прыгалошвала:

— Няшчасная ты мая, сірацінка… Пайшлі твае дзетачкі да Бога…

— Адпомсцяць нашы мужыкі. За ўсё адпомсцяць. Вернуцца. Немцы ўжо выдыхаюцца, пад Масквой драла далі, нашу сілу пачулі — верныя звесткі… — казала Нюра. Пры гэтых яе словах Надзя як абмякла, зніякавела. Галасілі жанчыны, усхліпвалі старыя мужчыны, Верка па-ранейшаму была непрытомнай...

Зміцер Аскерка, незадаволены прайшоўшым сходам, стаяў ля акна і свідраваў вачыма невядомую яму маладую жанчыну, што ратавала Ігнатаву жонку. Нацешыўшыся з Салавейчыкавай, якая цвярозай ніколі з ім у ложак так і не легла б, ён цяпер вырашыў пераключыцца на малодшую нявестку толькі што загубленага ім Сцяпана Адамчыка.

## 9

Страшнае, непапраўнае гора застыла назаўсёды ў вачах Веркі. Першыя дні пасля таго, як у адной магілцы там жа на хутары аднавяскоўцы пахавалі абгарэлыя астанкі яе дзяцей і старых свёкра і свякрухі, Верка анямела. Яна, нібы нябожчыца, ляжала ў хаце або з закрытымі вачыма, або глядзела ў адну кропку ў столі.

Да маці лашчыўся Ваня, лажыўся побач з ёю, гладзіў яе па галаве, але яна быццам не адчувала сына, не адказвала на яго словы, нават рукой не паварухнула, каб дакрануцца да свайго дзіцяці. Няўцешны хлопчык плакаў, яго, як маглі, супакойвалі абедзве цёткі — Жэня і Нюра. Яны, змяняючы адна другую, сядзелі каля Веркі, расказвалі ёй усе навіны, нават не цураліся плётак, але тая ні на што не рэагавала: здавалася, што душа жанчыны сапраўды памерла, але пакуль яшчэ цялесная абалонка была жывая.

Нарэшце, Нюра зразумела, што ўгаворамі тут не дапаможаш: трэба нешта рабіць, бо сяброўка сапраўды памрэ. Аднойчы яна выставіла з хаты Жэню з дзецьмі, і зрабіла тое, што даўно выношвала ў сабе. Нюрка вырашыла — не паможа, то і не пашкодзіць. Трэба было пайсці на хітрасць, каб выбавіць жанчыну з чорнага гора, прымусіць яе ўстаць і жыць далей. А калі той суджана памерці — то што б хто ні рабіў, яна ўсё роўна памрэ.

Ненадоўга Нюрка выйшла ў сенцы, абдумала, што і як скажа, а пасля нібы на крылах уляцела ў хату ды як закрычыць-загалосіць:

— Ой, Верка! Чаго ж ты ляжыш тутака? Ігнат жа твой вярнуўся, саколік твой ясны, вярнуўся. На хутар пайшоў, памянуць бацькоў сваіх ды дзетак вашых кроўных. А ты тутака ляжыш ні мертва, ні жыва… Што ж ты мужа не сустракаеш, дурніца ты гэтакая? Каб мой Аўдзейчык вярнуўся, я б на край света за ім пабегла…

— Ты што ето прыдумала, дурніца? Падмануць мяне вырашыла? — цяжка прамовіла Верка і расплюшчыла вочы. Яна прыўстала, апусціла ногі з ложка. — Дай мне вады папіць… Кепско мне, галава…

— Чакай, чакай, галубка, я зараз! — узрадаваная Нюра пабегла ў пярэднюю і хутка прынесла ёй поўную конаўку вады. — Не халодная, пі, галубка.

Белы твар Веркі паціху напаўняўся жыццём, яна спакваля выпіла ўсю ваду, і раптам загаласіла, ды так, што ў Нюры ажно сціснулася сэрца:

— А дзетачкі вы мае любыя! А крывіначкі вы мае родныя!.. А не ў той час маці ваша неразумная пакінула вас!.. А даруйце вы мне, сонейкі ясныя, ластачкі паднябесныя, бо без вашага даравання не будзе мне жыцця на белым свеце. Анёлачкі вы мае верныя, а глядзіце вы зараз на вашу маці бесталковую. Лепш бы я замест вас згарэла, а вы жылі, адно другога падтрымлівалі… А пакінулі браціка вашага сірацінкаю адною, а сваю матку на здзек людзям…

— Вера! Хопіць! Я табе сказала!!! — Закрычала Нюрка, і нават спалохалася сама свайго крыку.

Яна сядзела на табурэтцы і не разумела, адкуль узяліся сілы, каб так закрычаць, калі і ў яе душа збалелася, і ёй самой хацелася галасіць. Падумала: відаць, цярпенне скончылася, і бачыць сяброўку ў такім стане больш не магла. Але ж дапамагло.

— Але ж, ужо і паплакаць мне не дае, сяброўка верная, — праз слёзы адказала ёй Верка.

— Два тыдні прайшло, а ты ні жывая, ні мёртвая ў хаце. Ваньку пашкадуй — звялося дзіця: татка на вайне, маці розум страціла ад гора. Яму маці трэба!

— Усё, хопіць. Адляжалася. Ідзі дадому, Нюра. У цябе таксама дзеці. Іх беражы, а не мяне… — Вера цяжка ўстала на ногі, хістаючыся, паціху выйшла ў пярэднюю, здзівілася. — А дзе ж мой сынок?

— Ну, слава богу, вярнулася. На вуліцы з Жэняй і Светкай, я выгнала пагуляць. Пакуль цябе падымала… — Нюра падала сяброўцы валёнкі, дапамагла апрануць кажух і завязаць хустку. Затым яны разам выйшлі на вуліцу.

Сонца, яркае, прамяністае, асляпіла Верку. Ногі яе трымалі слаба. Нюра падтрымала, павольна давяла да плота.

— Мамка, ты ўстала! Мамка, ты ходзіш! Мамачка мая, я так чакаў цябе, каб ты паправілася, — сынок, пакінуўшы цётку і Святланку, што ёсць сілы кінуўся да маці. Але за некалькі крокаў да Веркі, якая працягнула насустрач яму рукі, паслізнуўся і ўсім целам бразнуўся на зямлю.

Спалоханая маці падалася насустрач сыну, забыўшыся на сваю слабасць, падняла яго на ногі. Ваня хныкаў, бо ўдарыўся і не зважаючы на тое, што з яго носа пацякла кроў, быў шчаслівы: яго адбымае маці…

Назаўтра была нядзеля. Верка прачнулася раней звычайнага. Яна сама выпаліла ў печы, прыгатавала снеданне. Нягледзячы на маразы, дзве курачкі ўжо несліся, і Жэня сабрала два дзясяткі яек. Самі жанчыны абойдуцца печанай бульбай з кіслымі гуркамі ды посным кіслым баршчом, а дзеткам знайшла ў дне куфара жменю грэчневай мукі, якой з жанчынамі яшчэ восенню падзялілася нябожчыца Агапка, і напякла блінцоў, выбіла на патэльню дзецям па яйку.

Упершыню пасля такіх цяжкіх дзён, нібы нічога не здарылася, паснедалі. Святланка імкнулася пакарміць Ваню сваім блінцом, а той толькі смяяўся. Жэнька, радуючыся няхітрым забавам дзяцей, сур’ёзна сказала:

— Нешта мне падказвае, Верка, пройдзе час, і мы пажэнім нашых дзетак. І будуць у нас агульныя ўнукі.

— Толькі б пераажылі гэтую вайну. Хай будзе і так, — згадзілася Верка. — Прыгожая, думаю, будзе пара.

— І ўнукі будуць прыгожыя. Русыя беларусікі…

— Беларусікі-палешукі.

— Ага, твая праўда. Самыя што ні ёсць, беларусікі-палешукі.

Яны абедзве ўсміхнуліся — як родныя сёстры, як самыя блізкія людзі.

## 10

Вечарам наступнага дня ў хату нібы віхор уляцела Надзя Салавейчыкава. Жанчына была ўжо п’янаватая, у яе быў добры настрой. Верка і Жэня толькі што разам памылі ў начоўках на печы Святланку, пераапранулі дзяўчынку ва ўсё чыстае. Жэня яшчэ бавілася ля дачкі, а Верка пайшла сустракаць нечаканую госцю.

— Не чакалі? То — нічога. Надзя сама да вас дапялася. На сваіх дваіх, — яна дастала з-пад кажушка пляшку і з шумам пляснула яе на стол. — Давай чаркі, Вера, піць будзем! Прычына ёсць. Добра прычына, кажу.

— А без чаркі не абысціся, каб даведацца? — засумнявалася Верка ці варта піць, ды яшчэ ў панядзелак, і, як зразумела, не проста самагонку — чыстая вадкасць у бутэльцы нагадвала знаёмы ёй спірт-пяршак, які яна піла ўжо ў Надзі. — І дзе ты заўсёды знаходзіш такую самагонку — як шкло?

— Вось гэта сакрэт, нікому не раскажу.

— Ну, давай, скідай кажух. Жэня, хадзі сюды, у нас тут Надзя з гасцінцам, — паклікала Верка Жэньку і сама пайшла ў сенцы, адкуль вярнулася з невялікім кавалкам сала і качаном квашанай капусты.

— Ну што ж, калі так, то вып’ем. Толькі спяваць у маёй хаце, Надзя, не будзеш. Ведаеш: жалоба ў мяне, на ўсё жыццё рот закрыла…

— Не буду, Верка. Лепш сядайце, ды я вам сеё-тое раскажу, што ведаю. — Надзя, расчырванелая і пышнагрудая, ажно свяцілася ад радасці. — Налівай, Жэнька, крыху вып’ем за наша гэтае жыццё шалапутнае…

— За такое піць не трэба, Надзя. Якое яно шалапутнае? Гаротнае яно… Трэба за добрае, шчаснае... — запярэчыла Жэня.

— Ну, тады вып’ем за мяне! — прапанавала Надзя. — Я, дзеўкі, ужо п’яная, але сёння апошні дзень. Ёсць таму прычына…

— І што з табою здарылася? — Верка не зводзіла вачэй з Салавейчыхі.

— А цяжарная я. Вось што! Чулі!!! — Паведаміла тая і зарагатала. — Цяпер дзіця ў мяне будзе.

— Ад каго ето? — здзівілася ад нечаканай весткі Вера.

— Зразумела, не ад Салавейчыка. Ён жа не здатны. Цьфу, хіба ето мужчына? Пятнаццаць гадоў рабіў мне такі майстар, усё ялаўкай зваў, а сам пусты… — нядобра рагатала Надзя і ніяк не супакойвалася. — А цяпер ялаўка ды зусім не ялаўка. За тое і вып’ем. Заўтра, клянуся, не буду!

— А хто? Гэто еты бандзюк, твой майсцер! — ускіпела Верка. — Гэты забойца дзетак маіх? І ты… прыпёрлася да мяне. Вон!..

Яна ўскочыла і кінулася на яе, гатовая забіць зніякавелую жанчыну, але Жэнька перахапіла, убачыўшы ў яе вачах дзікі адчай.

— Святы Божа, дзеўка! Кінь дурное, пра вырадка гэтага і сама спакойна не магу думаць… — п’янаватая Нюрка, хоць і спалохалася, убачыўшы такія перамены ў Верцы, але і брывом не павяла. — Не ён. Чуеш? Выгуляў ён сваё, застудзіў, мабыць, па балотах шастаючы. Тут другі, ды хараша так адрабіў, ніколі такой радасці не мела. Як баба. Чэснае слова… А хто — маё права. Не прызнаюся! Давай вып’ем! — Нюрка залпам выліла ў рот стограмоўку і закусіла лістом квашанай капусты.

Верка глядзела на яе з недаверам. Але было відаць, што паверыла Надзі, удзячна паглядзела на Жэню і спакойна села за стол. А тая — у іншы момант хіба ад яе дакачаешся — сама прапанавала:

— Ну, хіба так, канешне, важная прычына. Каб вынасіла, радзіла здаровенькае… Давай, Верка, няхай усё будзе добра ў Надзі…

— Дзіва, гэта дакладна, Жэнька. Ну, давай… — пагадзілася Верка, і яны разам выпілі крэпкай пякучкі і хуценька прыкусілі.

— Ой, дзеванькі, кеб не гэта вайна. Можа, выжывем у гэтай віхуры якнебудзь. Ха, ось цяперака другі тост. А нямашака больш ентага Аскерчыка, губіцеля тваіх дзетак, Верка! Слава табе, Госпадзі!

— Як няма? Куды ж ён… падзеўся? — спалатнела Верка ад такой весткі.

— Здох. Учора вёз дабро, што сабраў у Бечыне і другіх вёсак здаваць у раён. Перанялі партызаны. Усіх пастралялі. Яго ранілі, павялі ў атрад. Атрад той недзе пад Акцябрскім, кажуць, у балотах. Туды, кажуць, немцам ходу няма, баяцца, як агню. А там прыгаварылі варажыну гету і расстралялі.

— За забойцу сваіх дзяцей, свёкра і маёй добрай Агапкі піць не буду… — ціха прамовіла Вера і заплакала.

— А ведаеш, хто прысуд выканаў? То навіна дык навіна…— зашоргала на стуле неспакойная Надзя.

Жанчыны застылі, уважліва паглядзелі на аднавяскоўку.

— Твой і твой, — яна п’янавата паказала пальцам на абедзвюх жанчын.

— Як гэта? Адкуль? — здзівіліся тыя.

— Ды ў атрадзе яны ўжо. Хутка сустрэнецеся. За гэта і вып’ем! Налівай, Жэнька!

— Ето праўда? — заплакала, яшчэ не да канца верачы Надзіным словам, Верка, але цяпер горкія слёзы радасці цяклі па яе скронях.

— І ты, ты… не хлусіш, Надзя? — зарумзала ад шчасця Жэня.

— Во, раскісліліся… Кажу, значыць, знаю. Чаго равеце, як каровы нядоеныя? Там нават трое ці чацвёра выратаваліся, а мо і больш. Салавейчык мой, ты, Верка праўду мне казала, не поганню фашысцкай аказаўся. А што вашы на волі, гэта дакладна… Ну, піць будзем? — Надзя набычыла свае блакітныя вочы на жанчын, гатовая іх пабіць, калі адмовяцца.

— Ну, калі праўду кажаш… — не верыла Верка. — Пабажыся!

— Чэснае камсамольскае! Цьфу, дурніца… Пакарай мяне Бог, калі хлушу…— Надзя разліла па стале самагонку і зазлавалася на аднавясковак. — Во, самыя залатыя кроплі першаку з-за вас пераўяла. А больш няма, гэто яшчэ з савецкага часу было прыхавана. Ну, будзем, бабы…

— Будзем, дзякуй табе… — прашаптала Жэнька.

Як выпілі, пачалі прыкусваць, хоць п'яная, але не згубіўшая галаву на плячах, Салавейчыха намерылася ўсё ж выпытаць:

— Цвярозая б, відаць, не спытала. Вера, я ўвесь час думаю… Ты ж за хлопцаў царскімі залатымі дзесяцірублёўкамі разлічылася… Я ж, як пачула, пад стол ледзьве не ўпала. Адкуль у цябе, голі перакатнай, такі скарб? Прызнавайся, а то памру ад думак, ну так карціць…

— Не, дзеванькі, не пытайце. Хаця чаго там хаваць: гэта слёзы майго першага кахання, плата за яго, нязбытнае. А большага ведаць нікому і не трэба.





**Алесь ЕМЯЛЬЯНАЎ-ШЫЛОВІЧ**

# КАЛІ ЗАЎТРА ПАТОП

## ПАРТРЭТ ПАЭТКІ

атрутна-пунсовы ветразь вуснаў
ледзь варушыцца на возеры твару
твайго штыль
стыль
схаваны глыбока на дне
дзесьці там у калюжыне
валюхаецца карабельчык з недапалка
хлопчык які табе падабаецца
наступае на тваё дзіцячае судна
узрушэнне
пасля якога ты нарадзіла
свой першы
праз колькі гадоў
на трэцяй сусветнай паэзіі
ты сустрэла яго
аказалася ён таксама паэт

---

***Емяльянаў-Шыловіч Алесь Віктаравіч*** *нарадзіўся 23 студзеня 1987 года ў горадзе Крычаве Магілёўскай вобласці. Скончыў біялагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (2013).*

*Друкаваўся ў часопісах «Маладосць», «Дзеяслоў», «Верасень», «Тэрмапілы», штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», альманаху «Тэксты», калектыўных зборніках. Аўтар кнігі вершаў «Парасонечнасць» (2014), кнігі перакладаў твораў Галіны Пасвятоўскай «Ідалапаклонніца» (2016).*

*Фіналіст конкурсаў маладых літаратараў імя Ларысы Геніюш (2010) і імя Чэслава Мілаша (2011), пераможца (1-е месца) конкурсу «Экслібрыс» імя Рыгора Барадуліна ў намінацыі «Пераклад» (2015), конкурсу «Экслібрыс» імя Францішка Скарыны (2-е месца, 2017) і конкурсу перакладаў «Лёгкае пяро» (2015). Пераможца (2-е месца) Міжнароднага конкурсу перакладу паэзіі Віславы Шымборскай на беларускую мову (2015).*

*Творы перакладзеныя на рускую, польскую, сербскую і ўкраінскую мовы.*

з той самай пары
— даруй — недарэчна мармыча ён
— што?
— ну той карабельчык памятаеш —
я проста хацеў каб ты звярнула на мяне ўвагу
звярнула
цяпер раўнуеш яго да кожнае рыфмы
майструеш караблі з чарнавікоў
і глытаеш соль чорнага мора сваіх вачэй

## ЗАВЕЯ Ў КАСТРЫЧНІКУ

Завея ў кастрычніку — крышачку дзіўна,
хоць з кліматам гэтым мажліва ўсё —
кволы снег на кляновай далоні
растае, нібы пацалунак на целе тваім

Паглядзі, як праз вейкі прывабных соснаў
свеціць скупое сонца
і хоча цалаваць табе шыю і шчокі,
а я і не ведаю, як яму не зайздросціць.

Чуеш вецер спявае тужлівы працяглы блюз?—
гэта я без цябе сумую…
Гэта я без цябе сумую,
мой Анёл,

а завея тым часам просіцца ў госці…

## ГЛОГ

ягады глогу
уздоўж дарогі
крыкам пунсовым
крычаць у траве

вазьмеце вазьмеце
хаця б у аптэку
на смецце на смецце
не пакі-

дайце не дайце не
дайце згнісці прапасці
не дайце не дайце
сканаць

у мікрараёне
уздоўж дарогі
жывыя знічы гарэць

## РОД

хіба што ў кіно схваткі бываюць знячэўку
у нас усё йшло па плане лекар
чакаць не хацеў і прымусіў маціцу скарачацца
я дагэтуль не ведаў што значыць на свет з'яўляцца
памятаю як ты сціскала маю руку і сцінулася адначасна
памятаю ў гэты момант не бачыў цябе няшчаснай
памятаю блявотную фарбу на сценах бальніцы
памятаю як рассякалі губу нажніцы
памятаю цябе на каталцы з бялёсым як крэйда тварам
памятаю выбухі ад напругі лопнулых капіляраў
памятаю тваю гартанную радасць
памяць не пакідае мне права на здраду
разумею што нават калі галаву мне сцяць
памяць не сэрца не выключыць не адняць

## ВЕРШ ПРА КОЎДРУ

жыць з табой пад адною коўдрай
так утульна і так лагодна
з ночы ў ноч дзень пры дні год за годам
брыдка на дварэ ці пагодна
быць з табой пад адною коўдрай
на канапе старой і роднай
нерыпучай маўклівай шчодрай
колькі хочаш калі заўгодна
спаць з табой пад адною коўдрай
хоць я часам храпу бязбожна
і штурхаюся так нягодна
я кахаю цябе як можна
калі спаць пад адною коўдрай

## UŽUPIS

ніколі не бачыў такой хуткаплыннай рэчкі
так думаў на мосце праз Вільню
на мяжы за якой рэспубліка
рэспубліка дзе вас не спыніць
пагранічны ці мытны кантроль

дзе няма грошай банкаў чыноўнікаў
мінюстаў мінлюбаў і мусаў
ёсць хіба прэзідэнт канстытуцыя
з тузін салдат
музыкі мастакі паэты
паўвыспы волі
і цэлая выспа свабоды
ці трэба болей
так разважаў стоячы на мяжы

## МЯЖА

ці бывае ў маны мяжа?
ліха, варожасць, жах —
край мяжы.

ці бывае ў вайны мяжа?
гвалт, пакуты, жаль
і крыжы.

ці бывае ў віны мяжа?
межаў гэтых не бачыў ніхто,
на жаль.

а ці ёсць мяжа ў любові?
каб яе не было —
ні віны, ні вайны, ні маны
не ведалі б мы.

## * * *

уверх зірні
там неба высокае
не зважаючы што зіма
на голых галінках таполевых каралі ліловыя
уверх зірні
не бойся што плюхнешся долу
як гэтая кропля
прызнайся сабе
што не ўмееш падаць
бо развучыўся ўставаць
памятаеш як у маленстве
ты падаў і не баяўся
смяяўся

бегучы па лужах
пазіраў на аблокі
а яны ўсміхаліся з вышыні

## ДАПАТОПНЫЯ

час будаваць каўчэг надышоў
не са сталі не з дрэва не з гумы
каўчэг
з пачуццяў і словаў
такіх як розум
радасць
любоў
і неістотна
хто за стырном
і ці будзе ўсім пара
галоўнае —
розум
радасць
любоў
час надышоў





Таццяна БУДОВІЧ-БАРАДУЛЯ

# ПРЫСТУПКІ

*Апавяданне*

## I

«Дзякаваць богу, што не ў сярэднявеччы нарадзілася, — паспытала б на сабе ўсе прыдумкі тагачасных інквізітараў, — з жахам думала Тэці, разглядаючы страшныя малюнкі ў нядаўна купленай кнізе пра ведзьмаў. — Калі жанчына важыла менш за сорак сем кілаграмаў, яе спальвалі на вогнішчы, бо лічылася, што яна можа вылятаць праз дымаход і лётаць над местам. А я, хоць і люблю піроржныя са шкодным тлустым крэмам, ніяк не папраўляюся, каб выдаваць не на падлетка, а на нармальную дзеўку».

У гэта імгненне дзверы працоўнага кабінета расчыніліся, на парозе з'явіўся начальнік. Яна і не памкнулася схаваць кнігу, што не мела ніякага дачынення да тэмы артыкула, які мусіла здаць праз пару гадзін. І ў адказ на позірк, поўны пагрозы, уключыла «дурніцу»:

— Уяўляеце, Зміцер Лявонцьевіч, у мінулым жыцці я была ведзьмай і мяне спалілі на вогнішчы!

— У якім гараскопе вы вычыталі гэтую лухту?

— Ні ў якім! Я праходзіла сеанс гіпнозу, і вопытны спецыяліст вярнуў мяне ў тыя змрочныя часы, я ўсё згадала…

— Дык вось, калі праз паўгадзіны ваша праца не будзе ў мяне на стале, я сам вас спалю. На патэльні падсмажу… — бразнуўшы дзвярыма, Лявонцьевіч пакінуў яе ў спакоі.

Артыкул быў напісаны, але яна марудзіла, каб не «павесілі» чагосьці яшчэ. Зусім не хацелася напружвацца ў гэты па-сапраўднаму вясновы дзень, калі ў вокны глядзелі галіны бэзу, вось-вось гатовыя выбухнуць пульхнымі гронкамі… Хацелася толькі кахаць, шкадаваць, туліць да сябе аднаго-адзінага, самага патрэбнага чалавека… «Ах, была б я насамрэч ведзьмай! Варта было б падумаць, уявіць яго ў сваёй галаве — і ён абавязкова з'явіўся б у маім жыцці, мы сустрэліся б і ніколі больш не расставаліся! — марыла Тэці. — А так — думай не думай — ніякага выніку!» Тэці адкрыла на працоўным камп'ютары фота з мерапрыемстваў, дзе быў і Эдвард, аб'ект яе платанічнага

---

*__Будовіч-Барадуля Таццяна Васільеўна__ нарадзілася 12 студзеня 1977 года ў горадзе Мінску. Скончыла гістарычны факультэт БДУ (2005) і Інстытут журналістыкі БДУ (2016). Вершы і апавяданні друкаваліся ў рэспубліканскіх выданнях, калектыўных зборніках. Аўтар кнігі паэзіі «Дуэль паглядаў» (2002) (як Таццяна Будовіч). Працавала ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча. Цяпер — у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва».*

кахання. Зблізку ўглядаючыся ў яго бледнаваты, стомлены твар, яна вярэдзіла душу разважаннямі: ну як ён не зразумее, што яму патрэбна менавіта я, толькі я змагу клапаціцца пра яго найлепш, гатаваць яму карысную ежу, што не дадае лішніх кілаграмаў і халестэрыну (не хлапчук ужо, дзякаваць богу, пра здароўе трэба больш задумвацца)… А ўвечары мы прагульваліся б пад ручку ў парку, што ля яго дома, і дзяліліся б чымсьці істотным або проста маўчалі… Я не ўказвала б яму: рабі тое, рабі гэта… Я кахала і паважала б яго ўсё жыццё, колькі там адпушчана Богам!.. Як бы вось гэтыя рукі абдымалі мяне, прыціскалі б да грудзей! А я гладзіла б яго па галаве, як дзіцятка, неадрыўна гледзячы ў вочы — адзіныя ў свеце такія вочы…

…Бэз расцвіў; на дварэ стаяў ледзь улоўны водар, тонкі, празрысты, як абяцанне шчасця, што вось-вось з'явіцца з-за павароткі. Тэці ішла на чарговы «круглы стол» у якасці карэспандэнта. Яна ведала: сярод удзельнікаў будзе і Эдвард, таму апранула сваю найлепшую сукенку, якая маскіравала хваравітую худзізну, вузкія сцёгны, ледзь не дыстрафічна тонкія рукі. Яна загадзя падрыхтавала ўсмешкі і фразы, якія спатрэбяцца ёй у размове з Эдвардам, якія дапамогуць назаўсёды зачараваць яго…

Калі іх вочы сустрэліся, усё прадуманае, падрыхтаванае нібы правалілася ў невараць — яна залілася чырванню, быццам ён мог ведаць пра яе пакутлівыя думкі, быць сведкам яе выкрутасаў перад люстрам. Апусціўшы позірк, Тэці не знаходзіла ў сабе сіл паглядзець яму ў твар, калі ён наблізіўся павітацца. Разам з ім падышоў нейкі шэранькі, непрыкметны маладзён.

Раптам Тэці ледзь не страціла прытомнасць: замест прывітальных слоў Эдвард моўчкі ўзяў яе руку, схіліўся… і злёгку кранууся сухімі вуснамі. «Няўжо спрацавала сіла думкі?!» — пранеслася ў яе галаве.

— Тэці… Я доўга вагаўся, перш чым звярнуцца да вас… Але… вы здаўна ў маім полі зроку: спачатку былі маёй аспіранткай, потым мы нейкі час працавалі ў адной групе... Я ведаю, вы зразумееце правільна. Хачу прадставіць вам… майго найлепшага аспіранта. Гэта — Дамінік. Вы паразумеецеся. Ён надзвычай сціплы і датклівы… Для яго немагчыма проста так падысці да дзяўчыны і пазнаёміцца. Але, я ўпэўнены, вы паладзіце… Ён, як і вы, спецыялізуецца на шумерскім эпасе, вы знойдзеце агульную мову… — Цяпер чырванню заліўся Дамінік, а Эдвард ужо аддаляўся, паскараючы хаду, быццам баяўся, што яго аспірант пабяжыць за ім.

## II

Расчараванню не было мяжы. Нашто ён так абышоўся з ёю? Няўжо спужаўся, што яна ўчэпіцца ў яго, як клешч? Не было на тое ніякіх падстаў! Тэці ўмела трымаць сябе ў руках, і якія б жаданні ні жылі ў яе фантазіях, яна ніколі не падавала выгляду, што неабыякавая да свайго былога кіраўніка.

І што цяпер рабіць з гэтым, як яго… Дамінікам? Стаіць побач, лыпае вачыма, дыхае напаўраскрытым ротам. Вусны пульхныя, вільготныя… Цялё! А вейкі… сапраўды цялячыя: доўгія, густыя, як шаўковыя… «Цьфу, на чорта мне ён здаўся!? Каціўся б куды далей!.. І лыпаў бы сваімі веямі…» — Больш за ўсё Тэці хацелася застацца адной, нікога не чуць і не бачыць.

Дамінік нібы зразумеў яе настрой:

— У Эда на працы праблем вышэй даху. Праверка за праверкай, кагосьці з суседняй кафедры ўзялі пад следства, інкрымінуюць карупцыю, дык цяпер усё і ўсіхператрасаюць… У яго з-за нерваў гастрыт абвастрыўся, на таблетках жыве...

— Нішто сабе! Але ён моцны, у яго жалезная сіла волі, ён справіцца!

— Так, канешне! — Дамінік прамаўляў роўна, без ніякіх эмацыйных адценняў, быццам адказваў сумны ўрок. Астэнічны тып… Усё сведчыць на тое, што гіпатонік. Вечна нізкі ціск, агульная млявасць і як вынік — абыякавасць да жыцця.

Тэці стрэльнула ў голаў: а што, калі напаіць яго чырвоным віном ці хоць бы кавай, паглядзець, які ён у сапраўднасці? Калі ўжо сам Эдвард даручыў ёй яго, свайго лепшага аспіранта (і тут упершыню яна адчула штосьці падобнае да рэўнасці).

— Адкуль ты ў курсе яго спраў? Асабістым сакратаром падрабляеш?

— Ды не, нашы ўсе гавораць… — Дамінік не зрэагаваў на кпіны. — Можа, прагуляемся крыху? Ці ў кавярню зазірнём? Тут недалёка ёсць адна. Там заўжды да кавы свежыя піроржныя даюць. З масляным крэмам…

— Пачакай… Няўжо ты ў курсе і маіх кулінарных слабасцяў? Што, Эд прасвяціў? — Тэці раззлавалася. Замест таго, каб самому запрасіць яе хоць куды-небудзь (яна і на край свету паехала б за ім!!!), ён «сплавіў» яе гэтаму недарэку… Яшчэ і наплёў чорт ведае што!

— Не, я заўважыў, як ты на іх глядзела падчас кавы-брэйк! — Дамінік нявінна, неяк па-дзіцячы ўсміхнуўся, а Тэці стала сорамна за сваю агрэсію. Зрэшты, можа, ён толькі з выгляду цялё, а насамрэч з ім будзе цікава?

— Хадзем. Толькі часу ў мяне не вагон: яшчэ справаздачу па мерапрыемстве пісаць!

Як хораша, думала Тэці, ідучы побач з ім, калі не хочаш спадабацца. Калі маеш раскошу быць сабой — без напружання, пакутлівага ўнутранага маналогу: як сказаць, як паглядзець, з чаго пажартаваць, каб цябе правільна зразумелі і не пакрыўдзіліся. Калі няма эмацыйнай залежнасці, не кранае, што пра цябе думаюць. Побач з Дамінікам ёй было лёгка. Хаця б таму, што, калі б гэта сустрэча сталася апошняй, — яна нічога не адчула б і больш не згадвала.

Дзіўна: колькі разоў хадзіла яна тут, але ніколі не звяртала ўвагі на маленькую шыльдачку напаўпадвальнага памяшкання. «Мроі Іштар»! І хто толькі выдумаў гэткую назву? А ўнутры, меркавала Тэці, усё будзе банальна, як і паўсюль: няма чым завабіць наведніка, дык акадскую багіню за вушы прыцягнулі, чыя выява красавалася на сцяне ля ўвахода. Але настрой пагоршыцца не мог: не было куды, а Дамінік ужо расчыняў дзверы, прапускаючы яе наперад.

Памяшканне патанала ў прыцененым мяккім святле, гучала нейкая трансавая музыка, і курыўся дымок сандалавага дрэва з прымессю чагосьці ледзь улоўнага, падобнага на язмін. Толькі адзін з чатырох столікаў быў заняты: у самым куце бокам да ўваходу сядзеў перад ноўтбукам нейкі тып — ён нават не павярнуў галавы. Яны занялі месца насупраць. Тэці разглядала памяшканне, адкінуўшыся на спінку крэсла. Ёй было ўсё абыякава: той, пра каго яна марыла, ясна даў ёй зразумець, што яна для яго — нішто. Але, як ні дзіўна, з той нагоды не хацелася ні плакаць, ні паміраць — наадварот, яна адчула нязвычную, нязнаную дагэтуль лёгкасць. Цяпер не трэба было «трымаць вышыню» і адпавядаць нейкаму ідэалу. Можна не баяцца, што яе не так зразумеюць альбо не зразумеюць увогуле, — нішто, нічога не мае значэння.

— А можа, да кавы чагосьці мацнейшага замовіць? — Дамінік аддана глядзеў ёй у вочы, гатовы выканаць любы загад.

— А давай! Чырвонага паўсалодкага! — яна адразу ж пагадзілася. Пабачым, на што ты здатны, мільганула падспудная думка.

Афіцыянт узнік як з-пад зямлі, імгненна матэрыялізаваўшыся каля іх століка. Яўна не славянскай знешнасці, на дзіва прыемны, тонкі, высокі, падоб-

ны да азіята. Чорныя вочы як два агеньчыкі гарэлі на бледным твары. Заказу доўга чакаць не давялося: літаральна праз хвіліну перад імі вырасла горка пірожных і два фужэры з чырвоным вінам. Перш чым афіцыянт знік, Тэці не вытрымала, запытала:

— А што, гаспадар гэтай установы — аматар шумерскай міфалогіі?

Той няўцямна глядзеў на яе, быццам не разумеючы.

— Ну, чаму назва такая — «Мроі Іштар»?

Замест адказу афіцыянт паклаў перад ёю візітку, дзе на чорным фоне белымі дробнымі літарамі па-ангельску, а з другога боку — па-арабску было нешта напісана. Пакуль Тэці яе разглядала, ён знік гэтак жа імгненна, як і з'явіўся, — быццам распаўся на атамы. Нават паветра не зварухнулася.

— Ну і месцейка… — вымавіла Тэці. — А ты, значыць, тут не ўпершыню?

— Зайшлі аднойчы з кампаніяй на каву. Пірожныя ўсім спадабаліся.

— Дык, значыць, «кампанія» ўжывала пірожныя… Што за кампанія? Прыўкрасныя паненкі?

— Ага, і паненкі таксама! — Дамінік адказваў на кепікі, што міжволі вырываліся ў Тэці, з самым сур'ёзным выразам, быццам не заўважаў іх.

Узнялі фужэры. Прыемны водар, ноткі карыцы, ледзь улоўныя — ружы і чагосьці яшчэ, такога далёкага, невытлумачальнага, як быццам дотык промня знічкі — імгненны і, магчыма, толькі прымроены…

— Смачнае! — сказала Тэці, зрабіўшы першы глыток. — Цікава, а як называецца?

Нібы ў пошуках адказу на пытанне, Дамінік азірнуўся па баках. Тут жа бязгучна, як кот на мяккіх лапах, аднекуль выслізнуў афіцыянт. Быццам пачуўшы іх размову, ён лёгка, без ніякай напругі, выдыхнуў:

— Асалода Іштар.

— Іштар — імя багіні вайны і кахання, якую акадцы наследавалі з шумерскай спадчыны. У шумераў яна звалася Інанай, — нагадаў Дамінік, як забыўшыся, што Тэці не магла таго не ведаць.

— Вайны і кахання… Супрацьлеглыя паняцці. Каханне мае вынікам працяг роду, нараджэнне новага жыцця, скарэнне недасяжных вышынь… — раптам замаркоціўшыся, згадаўшы Эда, прамовіла Тэці. — А вайна — вынішчэнне ўсяго жывога, без разбору, без сантыментаў…

— Гэта толькі з гледзішча чалавека. Насамрэч прырода сама ў сабе не ведае ні дабра, ні зла, але заўжды плюс кампенсуецца мінусам, і наадварот. — Мяккая далонь хлопца быццам незнарок апусцілася на Тэціну.

— Раз ты такі аматар паразважаць, дык вось адкажы: нашто гэта самая Інана-Іштар, толькі стаўшы жонкай бога-пастушка, юнага і пяшчотнага Думузі, папёрлася ў падземнае царства, з якога няма выйсця? Яна ж туды проста так пайшла, яе ніхто не гнаў… — Тэці адчула, як са дна душы падымаецца хваля бесшабашнасці і ўсёдазволенасці. — А як яе хацелі там пакінуць, бо нікому, хто туды ўвайшоў, нельга назад, то ўзмалілася, каб замест яе ўзялі Думузі? Яна ж і выдала яго дэманам, што гналіся за ёю, і тыя, спачатку кінуўшы яго ў бруд і моцна збіўшы, павалаклі з сабою. І гэта называюць каханнем…

— Напэўна, такім быў кон… Каб Юда не прадаў Ісуса, не здзейснілася б воля Бога-Айца… А можа, усё куды больш проста. Да шлюбу з Думузі яе каханкам быў земляроб Энкімду. Па парадзе свайго роднага брата яна рассталася з ім і стала жонкай юнага прыгажуна. Але ж… што прыгажосць, калі няма большага — духоўнай еднасці? Вельмі хутка яна пашкадавала аб сваім вераломстве!

— А па-мойму, яна проста с…ка! — мусіць, Тэці выгукнула гэта гучней, чым трэба, бо тып перад ноўтбукам за супрацьлеглым столікам неўразумела

павярнуў голаў у іх бок. Абсалютна лысы чэрап, невыразны твар, толькі вочы бліснулі злавеснымі вугалькамі, перш чым зноў утаропіцца ў экран.

Пірожныя аказаліся сапраўдным далікатэсам. «А вось прывёў бы мяне сюды Эд — не змагла б я так бесклапотна іх струшчыць, у горла не палезлі б… Бо ён падумаў бы, што праз пару гадоў такога харчавання стану таўстухай… — у галаве Тэці не змаўкаў маналог. — Ну і д'ябал бы з тымі пірожнымі, калі б Эд быў са мною! Што ж ты, Эд, зараз робіш… Усё аддала б, каб апынуцца з табою побач…» Між тым Дамінік расплаціўся па рахунку, працягнуў Тэці руку, і яны скіраваліся да выхаду.

Цёплы вясновы вечар атуляў пяшчотай. Так хацелася жыць, адчуваць гэта жыццё кожнай жылкай, кожнай клетачкай! Дадому не цягнула. Што там работа? За пару гадзін справіцца! Не ў першы раз! Тэці намацала ў кішэні візітоўку, што даў ёй афіцыянт, пачала разглядаць яе.

— Бач ты, — са здзіўленнем прамовіла яна. — Офіс таго «шумеролага» знаходзіцца якраз па дарозе да майго дома, тут па-ангельску напісана: Багдановіч-стрыт, сто сорак сем. А гэта якраз раён, што зараз забудоўваецца. Зазірнём дзеля цікаўнасці? Што там можа быць пасярод будоўлі?

— Паехалі! — Дамінік, напэўна, адказаў бы так, нават калі б яна прапанавала махнуць на Месяц або яшчэ далей — на Марс.

І вось яны блукаюць паміж навабудаў. Некаторыя з іх ужо заселеныя, некаторыя яшчэ толькі чакаюць першых жыльцоў. Вось Багдановіча, сто сорак пяць. Побач — сто сорак дзявяты дом. Акурат на тым месцы, дзе мусіць быць сто сорак сёмы, высіцца невялікая пабудова, падобная на падземную паркоўку. Дарога ідзе пад шлагбаум унутр памяшкання, побач у сцяне жалезныя дзверы, зачыненыя на кодавы замок. Няўжо там яшчэ офісы могуць быць, пранеслася думка. Ці ўвогуле памылка?

Яны стаялі ў нерашучасці ля дзвярэй, гатовыя забыць свой намер. Што ім за справа да нейкага дзівака? Ну, неяк жа мусіў ён абазваць сваю кавярню! Іштар дык Іштар, магла б называцца «Сном Афрадзіты», «Вачыма Астарты» — ды як заўгодна.

Раптам аднекуль збоку вынырнула жанчына на абцасах, хуценька націснула на некалькі кнопак кодавага замка, дзверы адчыніліся, і яна знікла за імі. Тэці нават не паспела разгледзець яе. Заўважыла толькі, што прыгожая, цёмнавалосая, у доўгай балахоністай сукні. І пачула, як дзынькнулі пярсцёнкі на яе руцэ, калі яна ўзялася за жалезную ручку дзвярэй. Раздумваць не было калі. Тэці прытрымала цяжкія дзверы, праслізнуўшы ўслед за жанчынай, а потым увайшоў і Дамінік. Яны яшчэ крыху пастаялі, узяўшыся за рукі, перш чым рушылі ўслед за незнаёмкай. У сцяне справа быў ліфт, якім, хутчэй за ўсё, ніхто не карыстаўся. Уніз вялі звычайныя прыступкі. Змрок і прахалода. Але недзе наперадзе ўпэўнена гучаў стук абцасаў, таму яны пайшлі ўслед, падсвечваючы экранамі мабільнікаў. Не згаворваючыся, рухаліся не надта хутка, каб не выклікаць падазрэнняў, — а раптам тая жанчына спыніцца і, дачакаўшыся іх, запытаецца: а вы да каго, маладыя людзі? На кожным паверсе месціліся шырокія пляцоўкі для парковачных месцаў, але не было відаць ніводнай машыны. І ніякіх офісаў, натуральна. І толькі гулкія крокі незнаёмкі сведчылі, што ўсё гэта — рэальнасць, не сон.

Тэці падалося, што яны ідуць ужо цэлую вечнасць. Зрабілася халодна, яна пачала дрыжэць. Трэба ж, як глыбока хаваецца пад зямлёй гэтая будыніна, а з выгляду дык і не скажаш, нічога асаблівага — цяпер часта робяць такія падземныя гаражы побач з элітным жыллём. Але ж некуды яны мусяць прыйсці, у рэшце рэшт! «Бачыў бы мяне зараз Эд… — міжволі думала Тэці. — Сказаў бы, што ідыётка ненармальная!»

Раптам няяркае святло мабільнікаў намацала… ваду! Прыступкі хаваліся пад ёю. Ніхто не адзначыў таго моманту, калі знік стук абцасаў. Дамінік заўважыў, што Тэці б’юць дрыжыкі, і зняў пінжак, каб накінуць ёй на плечы. Яна моўчкі павярнулася да яго плячыма, але ў гэты самы момант падвярнула нагу ці аступілася. Здзервянелыя ад холаду мышцы не зрэагавалі на сітуацыю належным чынам. Коратка ахнуўшы, Тэці плюхнулася ў ваду.

## III

…Напаўзмрочнае памяшканне было заліта срэбным прыглушаным святлом. Куды падзеўся Дамінік, не магла даўмецца Тэці. Чаму яна адна? Дый увогуле, як сюды трапіла? Раптам згадала: яны спускаліся па прыступках, яна не ўтрымала раўнавагу і ўпала ў ваду. Перад ёй тут жа, як на экране, узнікла карцінка: Дамінік сядзіць на прыступцы, трымаючы на руках… яе! Паўсюль змрок, цішыня, яе белая сукенка і белая кашуля Дамініка ўжо не белыя. Дамінік выцягнуў яе з вады і быццам набіраўся сіл перад новым рыўком: ён мусіў вынесці яе адтуль, а наперадзе — нялёгкі шлях.

Яна паспрабавала ўзняцца, але цела засталося нерухомым. Тым не менш яна адчула нейкі рух і зразумела, што… некуды перамясцілася. Змяніўся ракурс, цяпер яна глядзела на Дамініка і на… сябе з іншага кута. Ёй не было ні холадна ад мокрага адзення, ні страшна. Толькі вось стала шкада айфона. Падарунак бацькоў на яе трыццаты дзень народзінаў. Напэўна, утапіўся, думала яна. І тут нечакана ён зазваніў! Рэзка прагучала мелодыя, і гэта падалося самым ірэальным, што толькі магло тут адбыцца. Айфон ляжаў на прыступцы, побач з Дамінікам. Ён схіліўся на званок. Тэці адразу ж зразумела: звоніць Эд! Дамінік у нерашучасці ўзяў тэлефон у руку, быццам думаў: адказваць ці не. Што ён скажа? Што яны сядзяць дзесьці глыбока пад зямлёй, Тэці ў мокрым адзенні ў яго на каленях без прыкметаў жыцця? …Цікава, чаму ён пазваніў? Яна таго зусім не чакала. І раптам усю яе істоту працяў неймаверна востры жаль да Эда, невыказная пяшчота, цеплыня, шкадаванне. Яна гатова была заплакаць ад пякучага пачуцця, ад нядзейсненасці і незваротнасці, але… не атрымалася.

І тут з’явіўся нехта яшчэ. Жанчына. Непрыбраныя, ніжэй пояса, валасы, доўгая сукня складанага крою, ненатуральна-белы твар: усе рысы быццам правільныя, але прыгожым назваць нельга. Наадварот, глядзець на яго было вусцішна…

— Што ж, вітаю! Спадзяюся, ты ўжо здагадалася, куды трапіла? — самае дзіўнае было тое, што голас, які прамовіў гэтыя словы, ліўся з усёй прасторы адначасова, а на твары жанчыны не адбілася ніякай эмоцыі і не зварухнулася ніводная мышца. Тым не менш, Тэці ведала, што незнаёмка звярталася менавіта да яе.

— Я… гэта ўжо ўсё? — думкі блыталіся, але іх быццам нехта агучваў, бо яны загучалі ў прасторы. Дакладней, прастора загучала імі. — Так… нечакана?

— Спадзявана-неспадзявана, а ты што, падрыхтавацца не паспела? Бог мой, якое нудоцце з усімі вамі…

— Не можа быць! А як жа… Эд? Я кахаю яго, разумееш?!

— Забудзь! Пры падзенні ты ўдарылася скроняй аб востры кавалак арматурыны, што тырчаў у сцяне збоку, цябе не ўратуюць! — перад Тэці быццам успыхнула карцінка: Дамінік ужо ўздымаўся ўверх, трымаючы яе на руках. Цвёрда, упэўнена ён пераадольваў прыступку за прыступкай. Кашуля ўся ў плямах крыві: разбітай скроняй ён прыхінуў яе да грудзей.

Тэці заплакала б ад бяссілля і шкадавання, але… Яна зразумела: усё, няма ніякага ні сэнсу, ні надзеі. Толькі зараз яе працяў неймаверны жах, бяздонная багна роспачы засмоктвала яе беззваротна. «Эдвард, дарагі Эдвард, мы больш ніколі не пабачымся!» — ізноў прастора загучала яе думкамі.

— Дастала ты ўжо! Добра, хай будзе па-твойму! Магу цябе выпусціць, але… Не здагадваешся, што будзе потым? — слабы, прывідны цень нейкай магчымасці мільгануў для Тэці ў гэтых словах. — Кацiся да свайго Эда, мне дык больш даспадобы твой спадарожнік! Вазьму замест цябе яго! Які ён мілы!

У поўнай няўцямнасці Тэці чакала, што будзе далей.

— Хаця… На тваё шчасце, я сёння ў добрым гуморы! Сама выбірай, хто будзе замест цябе! Магу дапамагчы нават! За мной! — яны абедзве, як па ўзмаху рукі, кудысьці панесліся.

Тэці адчула, што яе быццам усмоктвае ў нейкую гіганцкую трубу. Яна нічога не магла зрабіць… Вось яны апынуліся ў іншым памяшканні, якое нагадвала неабсяжную, суцэльную картатэку. Не было ні столі, ні падлогі: толькі бясконцыя сцены з шыльдачкамі. Калі жанчына працягнула руку ў кірунку адной з іх, адтуль выехала шуфляда. Адразу ж яна павялічылася ў шмат разоў, адпаведна іншыя зніклі ў мораку. Жанчына выцягнула з яе нейкую таблічку:

— Та-а-ак… Лёс Дамініка. Адна з магчымых альтэрнатыў… Вы будзеце жыць доўга і шчасліва. Ён будзе цябе кахаць усё жыццё, задавальняць любы капрыз, даруе ўсё, што б ты ні вычварыла. З-за тваёй халоднасці ўвесь час будзе адчуваць комплекс непаўнавартасці, недалюбленасці і, кампенсуючы яго, стане сусветна вядомым даследчыкам. Цяпер паглядзім пра Эда… — яна выцягнула другую картку. — А вось гэты тып — адналюб. І аб’ект яго пастаяннай любові, адной на ўсё жыццё — ён сам. Да цябе ён мае нешта ў сваёй чэрствай душы, але… Каб гэта ўсвядоміць, зразумець і прызнацца ў тым сабе самому, яму спатрэбіцца яшчэ гадоў пяць… А зараз яму колькі? Не так і мала… Лічы сама, узважвай, наколькі табе яно трэба. Пры ўсім тым цябе ён будзе кахаць толькі рэшткамі тых душэўных рэсурсаў, што пойдуць на яго ўласнае «я». Карацей, прапаную вось што: цябе я выпушчу, невытлумачальным чынам раптам атрымаецца, што ў цябе нічога істотна не пашкоджана, ты апрытомнееш, як толькі Дамінік вынесе тваё цела пад промні сонца. Я ж вазьму Эда: будзе мне разумны суразмоўца на цэлую вечнасць...

— Не смей!!! — Тэці аж здзівілася, наколькі пагрозліва гэта прагучала. — Лепш я сама застануся.

— Ідыётка! Не кожнай дурніцы я раблю такія прапановы! Ладна, не хочаш Эда, хай застанецца Дамінік! Удвая ідыётка! Не раз яшчэ ты мяне згадаеш, калі не атрымаеш ад свайго Эда належнага… Але будзе позна…

Жанчына раптам наблізілася да Тэці, і тая аж скаланулася ад жаху і агіды: толькі цяпер заўважыла, што непрыбраныя валасы — гэта змеі, тонкія, слізкія, выгінаюцца ў розныя бакі, быццам абшнырваюць прастору ледзянымі вачыма. Пачварына раптам зарагатала д’ябальскім сіпатым смехам. Тут упершыню яна адкрыла свой рот — нейкі правал, чорная яміна ўнутры крывавых вуснаў… Не ў сілах гэтага вынесці, Тэці быццам сціснулася ўся, спрабуючы адхінуцца далей, і тады тая істота працягнула да яе свае рукі — гэта былі павялічаныя ў шмат разоў кіпці драпежнай птушкі, доўгія, чорныя, вострыя, загнутыя на канцах. На кожным з трох такіх пальцаў на абедзвюх кісцях красаваліся пярсцёнкі ў выглядзе чалавечых чэрапаў. Яна перамясцілася і завісла ў паветры акурат над Тэці, якая не магла зрушыцца з месца. Так страшна ёй

не было яшчэ ніколі, хаця шмат разоў трапляла яна ва ўсялякія рызыкоўныя і небяспечныя прыгоды. Але гэта было ў … тым жыцці.

— Хай замест мяне … будзе… Дамінік… — не тое што выціснула з сябе, але падумала Тэці, прычым думкі сталі цяжкімі, непаваротлівымі, варушыліся марудна, быццам дашчэнту з'едзеныя іржой шасцярэнькі. Слабы перарывісты шэпт ледзь прагучаў, і ўсё сціхла. Але перш чым знікнуць, пачварына ўсёй сваёй істотай дакранулася да Тэці, быццам пацалавала яе, паставіла сваю метку.

## IV

Штосьці цёплае капала на яе твар, казытліва сцякаючы на шыю. Перш чым расплюшчыць вочы, яна адчула цяжкое, перарывістае дыханне Дамініка. Ён плакаў, усхліпваючы, седзячы прама на траве. Тэці ляжала побач, галавой на яго каленях.

— Які ж я дурань, якога д'ябла павалок цябе туды? Даруй мне, ідыёту, толькі даруй, калі ласка!

Значыць, усё было сном, зразумела Тэці. Трызненнем хворай галавы. Усяго толькі відзежа, якую падкінула ёй уражлівая свядомасць — абрыўкі ўяўленняў пра тое, што складала аб'ект яе навуковага інтарэсу. Тая страшная цётка са змяінымі валасамі — Эрэшкігаль, валадарка царства памерлых у старажытным Шумеры. Менавіта такія яе выявы можна сустрэць у спецыялізаваных даведніках, слоўніках і хрэстаматыях. Але ж… як усё было рэальна! У сэрцы яшчэ адчуваўся нейкі холад, быццам яно — пад прыцэлам тых жудасных вачэй… І галава страшэнна балела… Яна паспрабавала ўзняцца і толькі тут заўважыла, што кашуля Дамініка ўся ў крыві.

— Пацярпі крыху, мілая, я выклікаў «хуткую». Якое шчасце — ты жывая! Век сабе не дарую, што дапусціў такое! — яго голас дрыжаў ад хвалявання.

Разрываючы прастору, мацнелі гукі сірэны. Далей усё адбывалася нібы ў тумане. Пад'ехала «хуткая», з яе выскачылі два медыкі, аглядзелі рану, паклалі Тэці на насілкі і паімчалі ў лякарню. Дамінік у сваёй акрываўленай кашулі ўвесь час знаходзіўся побач, трымаў яе за руку. Як жа ён, бедны, у такім выглядзе дабярэцца дадому, мільганула думка. Але яе ўласныя праблемы захінулі сабою гэты прывідны цень непакою за сябра.

Рану зашылі, зрабілі неабходныя даследаванні, і хоць нічога сур'ёзнага яны не выявілі, было вырашана пакінуць пацыентку ў лякарні на некалькі дзён. Развітваючыся з ёю, Дамінік паабяцаў заўтра ж раніцай прынесці чыстае адзенне, цікавыя кніжкі, піражных і ўсё, што яна папросіць. Медсёстры на змене так пранікліся да яго даверам і павагай, што хуценька адшукалі кашулю і нават джынсы яго памеру — бо ўласныя таксама аказаліся мокрымі і запэцканымі.

Уночы яна нібы праваліласся ў змрочную твань: сноў не было, але адпачынку таксама — прачнуўшыся, адчувала сябе ўшчэнт разбітай, быццам пасля цяжкай працы. Нічога не хацелася есці, нікога бачыць. Час цягнуўся марудна, у паўдрымоце. Дамінік не прыходзіў. Ну і Бог з ім, пэўна, адсыпаецца пасля прыгод, думала Тэці. І адразу ж згадала, што яны так і не абмяняліся нумарамі мабільнікаў. Нічога, захоча — ведае, дзе яе шукаць. Калі захоча… Яе тэлефон з выключаным гукам ляжаў побач з ёй. Тэці праверыла: пара званкоў з працы, адзін — ад Эда. Дырэктару давялося перазваніць, а вось з Эдам размаўляць не было сіл — распавядаць, што з імі адбылося і якія тое мела наступствы.

Калі ж Дамінік не прыйшоў на наступны дзень, яна злёгку занепакоілася. Увесь дзень пераконвала сябе ў тым, што той, пераасэнсаваўшы апошнія падзеі, проста вырашыў парваць з ёю ўсялякія адносіны — балазе, магчымыя пачуцці да яе былі яшчэ кволымі, забіць іх цяпер, у зародку, не так балюча, як потым — рэзаць па-жывому… А хіба маглі быць сумненні, што з такой вар'яткай, як яна, нічога добрага не атрымаецца?

Потым яна пачала чакаць яго. Ды і медсёстры пыталіся, як, маўляў, адчувае сябе жаніх. Вось дык боўдзіла, меркавала Тэці, хоць бы пазычанае адзенне вярнуў. Але паступова ў яе душы пасялілася цьмянае пачуццё трывогі. Штосьці падказвала ёй — не мог ён проста так знікнуць, нешта тут не тое…

Між тым стан яе здароўя быў стабільным, ніякіх кепскіх сімптомаў не выявілася, таму яна настояла, каб яе выпісалі пад распіску як мага хутчэй. Так і паехала ў маршрутцы праз увесь горад з забінтаванай галавой, як толькі што з фронту…

Дзе ж дзеўся Дамінік? Яна лавіла сябе на тым, што не можа ні пра што больш думаць… Вымушана была пазваніць Эду — быццам па справе, удакладніць нейкія навуковыя звесткі, патрэбныя ёй для чарговага артыкула. Ледзяны холад працяў яе наскрозь, калі Эд адразу паведаміў ёй, што з Дамінікам здарылася бяда. Мінула ўжо чатыры дні, як яго знайшлі на праезджай частцы — збіты машынай, у непрытомным стане, са шматлікімі пашкоджаннямі ён сцякаў крывёй. Зараз — у рэанімацыі, у стане комы. Рыхтавацца да горшага — апошнія парады дактароў. Сэрца закалацілася так моцна, што яна не магла нічога вымавіць. Моўчкі дыхала ў слухаўку, і слёзы каціліся з вачэй.

Згадаўшы свой нядаўні «сон», адразу зразумела, якім коштам ёй удалося вырвацца з абдымкаў смерці. Ад усведамлення незваротнасці здзейсненага нямілым стаў белы свет.

## V

…Хаця чаму незваротнасці? Пакуль Дамінік жывы, пакуль ён дыхае, надзея ёсць… Толькі б не спазніцца! Тут недалёка…

Ад слабасці не засталося і следу. Рашучасць надавала сіл, і некалькі прыпынкаў, што аддзялялі яе дом ад той падземнай паркоўкі, Тэці пераадолела ледзь не подбегам. Хутка знайшла патрэбнае месца. Невялікая квадратная будыніна без нумара, што месцілася акурат паміж сто сорак пятым і сто сорак дзявятым жылымі дамамі, стаяла на сваім месцы. Па-ранейшаму апушчаны шлагбаум, дверы на кодавым замку. Тэці ўзялася за жалезную ручку, згадаўшы, як нечакана ў той вечар з'явілася жанчына, якая набрала нейкія лічбы і дзверы адчыніліся. Як жа Тэці здзівілася, калі гэтым разам яе рука не сустрэла супраціву — дзверы аказаліся не зачыненымі! Быццам чакалі, пакуль яна пераступіць парог. Мяжу, што аддзяляла яе ад звыклага жыцця…

Яна ўвайшла, ляснулі за спінай дзверы, і яна апынулася ў поўнай цемры. Мабільнік! Набрала Эда. Яшчэ раз пачуць любімы голас… Эд якраз збіраўся ў лякарню да Дамініка. З-за мяжы яму перадалі нейкія дэфіцытныя лекі для хлопца — на іх былі ўсе спадзяванні.

— Я ўпэўнена, і гэта не проста словы, што з ім усё будзе добра! Калі пабачыце яго, перадавайце ад мяне прывітанне! Ён — светлы, добры, ён — самы лепшы з тых, каго я сустракала… — яе голас ледзь не сарваўся на плач, але яна пераадолела сябе.

— Ого! Ды ў нас тут каханне!

— Хацела б я кахаць такога, як Дамінік! Мусіць, мяне… доўга… не будзе… Так што перадайце яму, што ён — цудоўны!

— Самі перадасцё, калі вернецеся.

Ну і дзяцел! Працягваць размову не мела сэнсу. Яна адключылася і, як і тады, падсвечваючы экранам, пайшла ўніз па прыступках. Тады было зусім не страшна, наадварот, забаўна, неяк бесшабашна, здавалася, любое мора па калена. Побач з Дамінікам… Цяпер жа ён ляжыць у рэанімацыі пад крапельніцамі, і паказчыкі яго жыццядзейнасці падаюць… Толькі б не спазніцца!..

Вось і вада. Стыла, зябка, пахне цвіллю. Гулка, мерна падаюць кроплі. Цікава, куды падзелася жанчына, што тым разам ішла тут перад імі? І ўвогуле… ці была яна? А можа, яе бачыла толькі Тэці? Але якая розніца? Яна мусіць зрабіць тое, што мусіць… Усё адно не зможа жыць, хай сабе і побач з Эдам, з усведамленнем сваёй віны… Кожны дзень яна будзе ўспамінаць, што аддала Дамініка замест сябе той… пачварыне. Не!!! Толькі б паспець!

Яна ўжо ўваходзіла ў ваду — брудную, халодную… Раптам згадала пра свой мабільнік, што па-ранейшаму трымала ў руцэ. Павярнулася, зрабіла некалькі крокаў назад, паклала яго на сухую прыступку. І з яшчэ большай рашучасцю зноў пайшла ў ваду. Што ж, так трэба, такі, значыць, кон. Толькі б Дамінік ачуняў!.. А Эд хай жыве сваім жыццём… Без яе… Нашто яна яму патрэбна?.. Слёзы каціліся, яна дрыжала ад холаду і страху, але апускалася ўсё ніжэй і ніжэй…

Вада стулілася над яе галавой, на паверхні засталася толькі белая павязка, якою перабінтавалі рану яшчэ ў лякарні. Як вянок, яна ледзь заўважна пагойдвалася, перш чым прамокла і пайшла на дно ўслед за гаспадыняй…

## VI

…Нібыта тое ж самае памяшканне, залітае прыглушаным срэбным святлом. Тыя ж прыступкі… І… Дамінік сядзіць акурат на тым самым месцы. Толькі… што сталася з яго прычоскай? У яго былі доўгія, ніжэй за лапаткі, светла-русыя валасы, звязаныя ў хвост, а цяпер ён… лысы! Ён заўважыў яе і слаба ўсміхнуўся. Але Тэці чакала іншай сустрэчы. Яна не стала спыняцца ля сябра, бо спяшалася.

— Эрэшкігаль! Я вярнулася! Эрэшкігаль!!! — гулкая цішыня была адказам. Па-ранейшаму кроплі вады мерна, як гадзіннік, выстуквалі рытм вечнасці. Тэці спускалася ўсё ніжэй і ніжэй. Цяпер не адчувалася супраціву вады, яна перамяшчалася лёгка, варта было толькі падумаць, куды ёй трэба, — і цела само плыло туды.

Раптам яна нешта пачула. Было падобна, што хтосьці, не ў змозе сцярпець боль, скрозь сціснутыя зубы стагнаў. Яна пайшла на гукі.

…Вось урэшце прыступкі скончыліся агромністай авальнай залай. Пасярод яе стаяў вялікі раскошны ложак пад срэбным балдахінам, на ім ляжала Эрэшкігаль. Рукамі яна абдымала свой вялікі жывот, ногі былі сагнутыя ў каленях. Тэці ўсё зразумела.

— Трымайся, я табе дапамагу!

— Што ты тут робіш, няшчасная? Нешта ты хутка нацешылася сваім каханкам! — скрозь боль здзекавалася парадзіха.

— Хай яны будуць шчаслівыя… І Эд, і Дамінік. Не хачу быць прычынай іх бедаў… Адпусці Дамініка, а я дапамагу табе…

Злавесны смех скалыхнуў прастору, перш чым перайшоў у стогн.

— Не верыш? Давай паспрабуем! Мая бабка была знахаркай, ведала ўсе замовы, да яе з усёй вобласці людзі ехалі… Яна мяне ўсяму навучыла, я ведаю, што рабіць… Толькі адпусці Даменіка… Якая табе ад яго карысць?

— Ну ладна! Толькі, як не дапаможаш, я пакіну вас абаіх! Ну, хутчэй жа…

Тэці з дзяцінства адчувала пэўную сілу ў сваіх далонях. Яна магла, напрыклад, хутка зняць галаўны боль, павадзіўшы рукамі над чалавекам, «дакрануцца» да нейкай рэчы з адлегласці і нават ссунуць яе з месца — варта было накіраваць руку і пэўным чынам засяродзіцца. Альбо патрымаць раскрытую далонь над здымкам любога, нават незнаёмага — і перад вачыма паўставалі кавалкі з яго жыцця альбо тое, на што ён хварэў, з'яўлялася адчуванне яго душы. Яна не карысталася гэтым, ніяк не развівала, а цяпер позна пра тое думаць…

Давялося сабраць сябе ў жменю. Гэта было пытанне жыцця і смерці, як ні парадаксальна для месца, дзе разгортваліся падзеі.

Уся воля, усе адчуванні Тэці сканцэнтраваліся зараз у яе руках, на кончыках пальцаў. Яна вадзіла імі над жыватом Эрэшкігаль, у думках молячы ўсе сілы сусвету дапамагчы. У імя любові, у імя святла і жыцця.

— Як свечка дагарае, так боль твой сціхае… Злыя вятры на сухія лясы адлятаюць, пакуты з сабой забіраюць… Хвалі сівыя на востраў Буян сплываюць, мукі жаночыя як соль у сабе раствараюць… Жалезныя дзверы расчыняюцца, новыя людзі праз іх паяўляюцца… — як бы цяпер спатрэбіліся ёй тыя словы, што шмат разоў чула ў дзяцінстве, пакуль жыла яе бабуля.

Як ні дзіўна, рукі і ногі Эрэшкігаль разагнуліся, яна заціхла і, ушчэнт знясіленая, спакойна заснула. Тэці таксама адчула сябе як выціснуты лімон. Яна згадала пра Даменіка, раптам захацелася яго пабачыць. Знайшла выхад і пачала ўздымацца па прыступках уверх. Даменіка ўжо не было. «Дзякуй богу, значыць, усё спрацавала належным чынам!» Упершыню за апошні час яна адчула сябе шчаслівай. Быццам цяжар зваліўся з яе душы. Як на крылах, яна ўздымалася вышэй і вышэй. Так, незаўважна для сябе, у адзін міг пераадолеўшы ўсе падземныя паверхі, яна апынулася пад блакітным небам. Світанне пяшчотнымі адценнямі ўпрыгожвала яго. Толькі-толькі пачынаў хадзіць транспарт, пішчалі адзінокія паўпустыя тралейбусы. Па справах спяшаліся рэдкія мінакі. Але яны не заўважалі Тэці, праходзілі міма, быццам яе не існавала. Што ж, так яно і было. Для фізічнага свету. Яна не магла пакуль звыкнуць да свайго новага стану. Але варта было да кагосьці наблізіцца, і яна імгненна счытвала думкі, разумела эмацыйны стан чалавека. Вось дзяўчына спяшаецца на працу, наперадзе — дзелавыя сустрэчы, перамовы з патэнцыйнымі пакупнікамі. Яна сабраная, наструненая, гатовая ў бой. А вось маладая маці ідзе з двума малымі — яна адвязе іх да бацькоў і паедзе ў камандзіроўку за тысячу кіламетраў. Яна выхоўвае дзяцей адна, без мужа — той не вынес пастаяннага шуму дзіцячых гульняў, бясконцых прастуд, тэмператур, сварак, яго нервовае напружанне зашкаліла, і ён падаў на развод. Зараз бавіць час у абдымках чарговай пасіі. Таму яна мусіць разлічваць толькі на сябе. Каб яе дзеці ні ў чым не мелі патрэбы, працуе з ранку да ночы.

Каля Тэці спынілася аўто, і з яго выйшаў стомлены чалавек. Хірург, вяртаецца з начной змены. Цяжкое было дзяжурства. Некалькі аперацый… Але, дзякаваць богу, усё абышлося добра, усе яго пацыенты ачуняюць і будуць жыць… Будуць жыць… А як жа Дамінік? Ці ёсць нейкія змены ў яго стане?

Варта было Тэці так пранізліва падумаць пра яго, як яна апынулася ў палаце побач з ім. Усё яшчэ падключаны да апаратаў, але штосьці змянілася — быццам знік прывідны цень смерці, што накрыў яго той ноччу. Сама атмасфера

была іншай — у ёй адчувалася пульсацыя жыцця. Ён злёгку ўсміхаўся — так, як тады, калі сядзеў на прыступцы і ўгледзеў яе. Ледзь паторгваліся доўгія шаўковыя веі… Галава была перабінтаванай — вось чаму, значыць, давялося абрэзаць валасы. Нічога, потым зноў адгадуе!

На калідоры драмаў Эд. І тут Тэці ўбачыла, якая светлая, высакародная, бескарыслівая ў яго душа! Быццам у ззянні промняў сонца, сама — як маяк, што асвятляе жыцці іншых, такіх, як яна, як Дамінік і шмат, шмат хто яшчэ… Да Дамініка ён прывязаўся як да сына, якога ніколі не меў… Адчуў у ім нешта роднаснае... Згадаў сябе шмат гадоў таму — тую ж юнацкую чысціню, наіўнасць і бясстрашша, гатоўнасць да рызыкі і прыгод… «Бог мой, калі Ты толькі ёсць, дапамажы ім, хай яны будуць шчаслівымі! Бо хто ж, як не такія, вартыя шчасця? І будуць шчаслівымі тыя, хто побач з імі!» — словы малітвы загучалі ў прасторы Тэціным голасам, і яна адчула, як зноў, па-за воляй, імкліва і беспаваротна ляціць у гіганцкую, усёпаглынальную бездань.

## VII

Эрэшкігаль сядзела на сваім царскім ложку, абапёршыся на спінку. Цяпер яна была свежая, вясёлая, адразу відаць — добра адпачыла.

— Што ж, дзякуй! Дапамагла мне твая замова! Даўно не было мне так добра, як зараз!

Тэці напружана чакала працягу.

Эрэшкігаль пазяхнула, пацягнулася і ляніва прамовіла:

— Хацела б я пакінуць тут цябе назаўсёды, а раптам яшчэ спатрэбішся — ды Сам Вышэйшы загадаў адпусціць цябе. Нейкія ў Яго свае планы, мне было сказана не ўмешвацца.

— Няўжо…

— Ужо-няўжо! Як бачыш, і нада мною ёсць начальнік! Праўда, рэдка калі Ён заходзіць у маю парафію…

— Гэта значыць, што…

— Гэта значыць, што ў вас з Эдам праз некалькі гадоў павінна нарадзіцца дачка, якая стане… Ой, прагаварылася… Будзе мне цяпер па шапцы! Валі давай, пакуль я добрая!..

…Ізноў тая ж труба, імклівы рух і… усё згасла.

Той раніцай яе знайшлі рабочыя, якіх адправілі разбірацца з затапленнем масіву падземных гаражоў. Ніхто не ведаў, колькі яна праляжала ў вадзе, высветлілі, што апошні званок з яе мабільніка быў зроблены напярэдадні ўвечары. Надзеі амаль не было, хаця, пакуль ехала «хуткая», зрабілі ўсё належнае ў такіх выпадках — вылілі са страўніка ваду, штучнае дыханне, масаж сэрца. Але ўрачы, паклаўшы на насілкі, усю яе накрылі прасцінай. Запісалі патрэбныя паказанні і з’ехалі, не ўключыўшы сірэны — значыць, спяшацца ўжо не мела сэнсу. І толькі калі падрулілі да патолага-анатамічнага аддзялення, адзін малады доктар звярнуў увагу, што ў «нябожчыцы» трохі зменшылася сінюшнасць на вуснах, на твары… Рана на скроні пачала ледзь-ледзь крывавіць… Ён пераканаў супрацоўнікаў у неабходнасці правядзення рэанімацыйных працэдур, за што потым атрымаў павышэнне па службе і падвойную прэмію. Моцны бронхаспазм, выкліканы нервовым узбуджэннем, быў прычынай таго, што вада не трапіла ў дыхальную сістэму. Таксама незвычайная прага да жыцця маладой жанчыны — нішто больш не магло вытлумачыць цуд яе неверагоднага вызвалення.



Іна ФРАЛОВА

# АКРЫЛЕНЫЯ НЕБАМ ЦЯГНІКІ

* * *

Шалеюць восенню вятры, —
Іх кліча памяці дарога.
Гады, сляды — усё да Бога,
Усё да Вечнасці парога,
Туды — усё, назад — нічога.
...Блакіт вышынь, святло, абрыў...
І толькі знак за небакраем —
Дуб-адзінец, вядун стары,
Трымае людскасці муры,
Што нам — жывым — здаюцца раем.

## У ПЕРШЫ ДЗЕНЬ ВЯСНЫ

Ноч напярэдадні спеўнай вясны
Ўжо даглядае апошнія сны.
Недзе далёка вакзал, мітусня,
Недзе здарожана спіць цішыня…
Толькі вось я і ўскудлачаны шпак,
Як вартавыя, не спім аніяк.

---

*__Фралова Іна Мікалаеўна__ нарадзілася 6 жніўня 1972 года ў горадзе Мінску. Скончыла Мінскі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя М. Танка (1996), працавала ў сістэме адукацыі. Зараз — супрацоўнік Мінскага гарадскога аб'яднання Саюза пісьменнікаў Беларусі.*

*Аўтар паэтычных зборнікаў «Чакаю першы снег» (2011), «Там у светлых барах» (2012), «Белы бераг» (2016).*

*Лаўрэат Міжнароднага конкурсу «Сям'я — Яднанне — Айчына» (2014), Міжнароднага літаратурнага конкурсу, прысвечанага Дню яднання народаў Беларусі і Расіі (2018), літаратурнага конкурсу «Радзіма мая дарагая», прысвечанага 100-годдзю Алеся Бачылы (2018).*

Гэтых прадранішніх колькі хвілін
З ім засталіся адзін на адзін.
Птушкам і людзям азначаны лёс:
Подых вясновы на крылах ты нёс.
Я з нараджэння — нябога-паэт,
Разам з табой апяваю Сусвет.
Браце, акрылены мой, памаўчы!
Зараз, прашу цябе — не шчабячы!
І без цябе колькі сну перашкод —
Чырвань фарбуе дачасна усход,
Скардзіцца колам з калюжын вада
Ды яшчэ ёсць усім бедам бяда:
Сэрца грукоча шалёна ў грудзях,
Як у сілках б’ецца спуджаны птах.
Браце крылаты, крыху памаўчы,
Шчасце заснула ў мяне на плячы.

## МАЙ

Прачнуўся май. Бэз ап’яняе пахам.
Прачнуўся май у росквіце вясны.
Над белаю зямлёю белым птахам
Ляціць у свет, мае трывожыць сны.

Ляціць, каб зноў каханне заспявала,
Па тых садах, дзе першацвету ўслед
Я некалі, як вэлюм, прымярала
Буйны і пахкі яблыневы цвет.

Каб зноў танула раніца ў пяшчоце,
Дурманіла, кружыла галаву;
Каб салаўінаю тугой у адзіноце
Кранала сэрца ў сне і наяву.

## ЦІШЫНЯ

***Вёсцы Шунёўка, спаленай 22 мая 1943 г.***

Не абудзіць над вёскай цішыню
Ні крыкам пеўня, ні ахрыплым ветрам.
Яна аглухла ў дымную вясну,
Адчай схаваўшы пад маўчання нетры.

Падмуркі хат, што спяць, як курганы,
Агорне ціша стомленай салдаткай.

Маўчы, Сусвет! Няхай дагледзяць сны
Малыя дзеткі, шчэ жывыя маткі.
Маўчыце людзі! Хай паспяць яны…
Бо майскай раніцай, ад квету белай,
Згараць усе ў тым полымі вайны,
Як стос лістоты ўлетку адшумелай.

## З УРАЛЬСКАГА ДЗЁННІКА

Мне доўга будуць сніцца цягнікі.
Імчаць штоноч яны праз бальшакі,
Праз радасць злататканых рэк,
Праз векавы Уральскі абярэг…
Закружыць галаву, як дурнап'ян,
У сне таежны сіні акіян.
І зарапады цёплых шчырых слоў
Святлом абудзяць ціхую любоў.
І сніцца зноў: нясуцца нацяньні
Акрыленыя небам цягнікі.



**Янка МАЎР**

# ДЗЯЎЧЫНА-МАЦІ

*Раман (урывак)*

## З любоўю да дзяцей і кніг

*11 мая 2018 года споўнілася 135 гадоў з дня нараджэння Янкі Маўра — Івана Міхайлавіча Фёдарава — вядомага пісьменніка, аднаго з заснавальнікаў беларускай літаратуры для дзяцей і юнацтва. Яго творчая спадчына мнагазначная і разнастайная: аповесці, апавяданні, першы дзіцячы раман, фельетоны, публіцыстычныя творы. Янка Маўр — пачынальнік прыгодніцкага і фантастычнага жанраў у беларускай літаратуры.*

*У 1934 годзе на ўсебеларускім конкурсе на лепшую кнігу для дзяцей яго аповесць «ТВТ» была адзначана першай прэміяй. У гэты час у Расіі, ва Украіне таксама пачалі больш звяртаць увагі на дзіцячую літаратуру.*

*«Тады і нашы дарослыя пісьменнікі, — пісаў Янка Маўр, — часцей сталі пісаць для дзяцей, і літаратурная грамадскасць адзначала гэта як з'яву дадатную; творы гэтыя абгаворваліся, улічваліся, папулярызаваліся. На жаль, гэта не датычылася прафесіянальных дзіцячых пісьменнікаў. Паміж іншым, нікому не магло прыйсці ў галаву, каб дзіцячы пісьменнік мог мець, скажам, такое самае снабжэнне, як дарослы, пры аднолькавым літаратурным багажы». Да дзіцячай літаратуры Янка Маўр ставіўся вельмі сур'ёзна, бо менавіта ў дзяцінстве фарміруецца любоў да кнігі і літаратуры. Аднак, статус дзіцячых пісьменнікаў і тых, хто пісаў для дарослых, быў зусім розны.*

*«У гэтым сэнсе, — пісаў Я. Маўр, — цікавым быў мой прыезд у Маскву ў 1943 годзе. Сакратар ЦК БССР Гарбуноў сустрэў мяне славамі: «Наш дзіцячы карыфей прыехаў». Сказаны былі гэтыя словы жартаўліва, але без насмешкі. У сталоўцы пісьменнікаў «карыфея» запісалі ў лік пачынаючых. З беларускіх пісьменнікаў у гэтай катэгорыі быў толькі адзін Краўчанка. Што абед для нас быў трохі горшы — не бяда. Больш непрыемным было сустракацца са сваімі рускімі, украінскімі, літоўскімі калегамі, гутарыць з імі за сталом, але абедаць з імі не мець права. Пры гэтым я ведаў, што ўсе гэтыя мае калегі і стаж мелі меншы за мой і напісалі менш як я. У гэты час у мяне зарадзілася думка перакваліфікавацца на дарослага пісьменніка. На навагоднім банкеце (на 46 год) я нават «афіцыйна» абвясціў аб гэтым».*

*Гэтыя словы падаюцца з тонкім маўраўскім гумарам, і, сапраўды, Янка Маўр напісаў некалькі апавяданняў для дарослых, але гэта былі апавяданні аб дзецях, у лёс якіх увайшла вайна. Сярод іх — апавяданне «Завошта», у аснову якога пакладзены сапраўдны факт — гібель жонкі і сына Міхася Лынькова, драматычнае і хвалюючае апавяданне «Максімка» і іншыя.*

*Ваеннай тэме прысвечана і значная частка ненадрукаванай спадчыны пісьменніка. Незавершаным і неапублікаваным застаўся твор «Дзяўчына-маці» (1946—1947), рукапіс якога знаходзіцца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва. У гэтым творы, адзначала Эсфір Гурэвіч, найбольш выявілася здольнасць Янкі Маўра як псіхолага, ён змог паказаць рух пачуцця дзяўчыны, яго дыялектыку, калі агульначалавечае пачуццё становіцца сваім, балюча асабістым, выпакутаваным, кроўна-мацярынскім. На жаль, гэты твор быў адкладзены, відаць у сувязі з той вялікай працай Янкі Маўра па падрыхтоўцы да выдання славутай кнігі «Ніколі не забудзем». Прапануем сёння гэты твор нашым чытачам.*

***Марыя МІЦКЕВІЧ, унучка Янкі Маўра.***

## I

На дварэ бразнулі варотцы. Маці і дачка ўздрыгануліся. Чаго — самі не ведалі. Дагэтуль іх ніхто не трывожыў, і небяспекі яны не бачылі. Але такі ўжо час.

— Паглядзі, Ліза, хто там...

Дачка кінулася да акенца, што выходзіла на двор. Праз восеньскі туман ледзь вызначаўся спарахнелы плот з голай вішняй, чарнеўся бульбянік на маленькім гародчыку, а хата суседа Максіма зусім расплылася ў імгле.

Ля вакна мільганула галава дзяўчыны ў чорнай шапачцы.

— Дзяўчына? Да каго? — здзівілася маці.

— Можа, да Варапаіхі, а можа, і да нас, — спакойна адказала Ліза.

— Хто ж такі можа ісці да нас? — пачала меркаваць маці. — А да Варапаіхі, здаецца, ніякая дзяўчына не ходзіць.

Тым часам у сенцах пачуліся крокі, затым стук у дзверы — і дзяўчына ўвайшла ў пакой.

— Маня?! — усхапілася Ліза і кінулася абдымаць госцю. — Якім чынам?

— У мяне ёсць да цябе справа, — сказала дзяўчына такім тонам, што Ліза адразу спахмурнела.

— Хадзем тады ў мой куток, — сказала яна.

Куток гэты быў за перагародкай, якая нават не даходзіла да столі. У ім маглі змясціцца толькі ложак, маленькі стол, крэсла ды яшчэ скрыня. Як і належыць дзявочаму кутку, ён быў чысценька прыбраны і ўпрыгожаны па густу і мажлівасцях гаспадыні: два вазончыкі з кветкамі, стаячае люстэрка, каробачкі, стосік кніжак, у тым ліку некалькі падручнікаў для IX класа. На сценах, з падранымі блакітнымі шпалерамі, некалькі партрэтаў, фотаздымкаў і ілюстраваных паштовак. Звычайна такі прытулак маюць адзіныя, любімыя дочкі ў сціплых сем’ях.

Відаць было, што Ліза — вучаніца старэйшага класа сярэдняй школы. Яна была невысокага росту, але з развітай акруглёнай фігурай. Светлыя валасы, блакітныя вочы, белы мяккі твар ды яшчэ светлае плацце рабілі яе ўсю нейкай светлай, сонечнай. Прыдзірлівае вока магло б заўважыць, што носік яе мог і крыху большым быць, а рот крыху меншым, што было б лепш, каб твар яе быў больш авальным, але звычайны чулы чалавек гэтага не заўважыў бы. Ён проста сказаў бы, што прад ім прыгожая і надзвычай мілая дзяўчына гадоў сямнаццаці. Ён яшчэ заўважыў бы, што яна адначасова

здаецца і вясёлай, і сур’ёзнай, а як гэта выходзіць — пэўна не мог бы растлумачыць. Не бярэмся і мы.

Яе сяброўка больш высокая і строгая, здавалася старэйшай за яе, хоць яны вучыліся ў адным класе. Відаць было, што яна ўсхваляваная, устрывожаная. Сцішыўшы голас, сказала:

— Ведаеш, я бачыла Рэню.

— Дзе? Як? — зацікавілася Ліза.

— Там... У гэта... Я ішла па вуліцы — і раптам чую: «Маня!». Гляджу — за дротам яна, і з дзіцём на руках. Я азірнулася — немца не відаць. Падышла. А яна са слязьмі кажа: «Мне засталося жыць можа якія гадзіны... Але страшней за самую лютую смерць — ведаць, што загіне яно, маё нявіннае дзіця... Каб хто выратаваў, узяў яго... Падумай, Маня!» Я скамянела і не ведаю, што казаць. У нас у хаце поўна дзяцей. Сама ведаеш, як мы жывем... Што скажуць бацькі?... Слёзы пакаціліся ў мяне з вачэй, а я не магу нічога сказаць. А тут немец павярнуўся і ідзе да нас. Тады яна кажа: «Я разумею цябе... Скажы Лізе. Яна для мяне самы блізкі чалавек. Можа заўтра не будзе позна... Заўтра, тут, у гэты час...» Яна заплакала наўзрыд і шпарка пайшла прэч.

Маня гаварыла дрыжачым шэптам, апусціўшы вочы, сутуліўшыся, нібы адчувала на сваіх плячах цяжар.

— Я не вінаватая... Я не магла адразу... І не паспела — немец падыходзіў. У нашай халупе мы змясціцца не можам, спім на падлозе... А яму толькі тры ці чатыры месяцы. Я сама не магла адразу...

Ліза, не варухнуўшыся, глядзела некуды ў кут і, мусіць, сама не ведала, што з вачэй яе павольна коцяцца слязінкі. Маня нясмела падняла на яе вочы.

— Што рабіць, га?

Ліза павярнулася да яе і строга сказала:

— Заўтра ты правядзеш мяне на тое месца.

— Добра, — пакорна адказала Маня.

І яны, дзве добрыя сяброўкі, адчулі, што ім больш няма аб чым гаварыць. Маня ўстала.

— Заўтра аб адзінаццатай гадзіне буду чакаць цябе на Мясніковай вуліцы, там, дзе бензінавая калонка, — сказала яна, выходзячы за дзверы.

Ліза нічога не адказала і засталася сядзець на месцы.

Перад яе вачыма паўстаў вобраз Рэні, жыццярадасны, блізкі. Асабліва яе вялікія чорныя вочы, такія глыбокія, ласкавыя. Так хацелася тады глядзець у гэтыя вочы. Рэня была старэйшая за Лізу на два гады, яна працавала піянерважатай у іхняй школе. Але розніцы ў гадах яны не адчувалі. Колькі задушэўных гутарак было ў іх! Шмат цікавага і каштоўнага для сябе вынесла Ліза з гэтых гутарак.

Летась Рэня выйшла замуж і перайшла на другую работу. Сустракацца яны сталі радзей. Хоць Рэня была тая ж самая, шчырая і ўважлівая, але адчувалася ўжо, што ў яе ёсць свае асаблівыя інтарэсы, для сяброўкі больш далёкія. Тады Ліза ўпершыню адчула, што яна значна маладзейшая за Рэню, нібы малая дзяўчынка перад старэйшай сястрой. Апошнія месяцы яны зусім не бачыліся. На лета Рэня кудысьці выехала. Ад знаёмых Ліза чула, што ў Рэні нарадзіўся сын, якога назвалі Феліксам. А калі пачалася вайна, Ліза ўжо нічога не ведала пра сваю сяброўку. І вось цяпер даведалася...

Яна там, куды загнаны тысячы людзей, і адкуль выхаду няма... Яна думае цяпер пра Лізу і спадзяецца на яе... Лізе здавалася, што яна сама чула голас Рэні: «Скажы Лізе...» Трэба пагаварыць з мамай.

Але матчына сэрца ўжо само нешта адчула.

— Што ты зашылася там, як мыш? — пачуўся яе голас. — Што яна табе сказала?

І ў пакойчык увайшла шчуплая жанчына гадоў пад пяцьдзясят. Яна адразу заўважыла, што з дачкой нешта здарылася, і вочкі яе трывожна замітусіліся ў зморшчках, як мухі ў павуцінні.

— Што з табой? Кажы! — загаварыла яна, паклаўшы руку на плячо дачкі.

Ліза прытулілася да матчыных грудзей і сказала:

— Мама, ты ведаеш Рэню?

— Вашу важатую? Памятаю.

— Яна цяпер у гэта... Схопленая...

— Ох, колькі людзей там цяпер!.. — уздыхнула маці.

— І ў яе малое дзіця на руках...

— Не шкадуюць, людаеды, ні малых, ні старых, — сумна сказала маці.

— Мы павінны выратаваць хоць гэтае дзіця, — сказала Ліза, пазіраючы на маці знізу ўверх.

— Што ты кажаш?! — адхіснулася маці. — Як гэта зрабіць?

— Я заўтра пайду і вазьму яго.

— Куды ты пойдзеш? Цябе немцы заб’юць!..

— Узяць можна — праз агароджу.

Маці зусім разгубілася.

— Куды мы з ім дзенемся? Даведаюцца — і мы ўсе загінем.

— Трэба зрабіць, каб не ведалі. Дзіцё малое.

— А колькі яму?

— Тры ці чатыры месяцы.

Маці аж пляснула рукамі.

— Тры месяцы?! Што мы з ім будзем рабіць?

— Не ведаю.

Маці з дакорам паківала галавой.

— Вось у тым і справа, што ты кажаш, чаго сама не ведаеш. Яно зусім малое, ад маткі. Як і чым будзеш яго карміць?

— А хіба не бывае такіх выпадкаў?

— Вядома, бывае. Але хто добраахвотна возьме на сваю галаву такую бяду? Ды яшчэ ў такі час.

Цяпер ужо Ліза паглядзела на маці з дакорам.

— Мама! Там жа горшая бяда...

Маці заміргала вачыма і прамовіла:

— Ведаю я гэта, але што мы можам зрабіць? Колькі народу цяпер гіне ўсюды. Хібы мы можам усім дапамагаць?

— Чаму ж усім? — сур’ёзна адказала Ліза. — Мы можам выратаваць хоць аднаго чалавека, і гэта будзе добрая справа.

Маці горка ўсміхнулася.

— Які ж гэта чалавек? Ён яшчэ нічога не разумее, ні гора, ні страху, ні пакуты. А калі ўзяць яго ад маткі, тады для яго будзе больш пакуты. Ну як мы возьмем яго ў такі час і ў нашым становішчы? Ён і сам загіне і нас загубіць. А што важней: жыццё невядомага дзіцяці, ці трох дарослых?

— Навошта так думаць? — з болем прамовіла Ліза.

— Трэба думаць так, як яно ёсць, — строга сказала маці, — трэба праўдзе ў вочы глядзець. Калі хочаш, скажу табе прама: не на сваю галаву бярэш ты гэтае дзіця, а на маю. Хіба ты здолееш дзень і ноч важкацца з ім, не адыходзіць ад яго? На мяне гэта ляжа, а не на цябе.

— Не мама, я буду сама! — засупярэчыла Ліза.

Маці ўсміхнулася.

— Ну вось і відаць адразу, што ты сама яшчэ дзіця. Ты зусім не ўяўляеш, што гэта такое. Зусім яшчэ невядома, ці зможам мы ў сённяшніх умовах выратаваць і выгадаваць такое маленькае дзіця, але затое добра вядома, што ад свайго жыцця нам прыйдзецца адрачыся. Людзі не ведаюць цяпер, што рабіць са сваімі дзецьмі, а ты хочаш узяць чужое. Ці ведаеш ты хоць, якое яно — ці здаровае?

— Я яго яшчэ не бачыла, — прашаптала Ліза.

Маці зноў пляснула рукамі.

— А што ты будзеш рабіць, калі яно хворае, кволае? — усклікнула яна. — Адкуль яму быць здаровым, там... Ды яшчэ трохмесячнае. Эх, Ліза, Ліза, каб ты толькі ведала, што надумала!

Матчыны словы нібы абухам стукалі Лізу па галаве. А маці тым часам падышла да самага сур'ёзнага доваду:

— І нарэшце — нічога мы не можам вырашаць без бацькі. А што ён скажа — ты і сама ведаеш. Ці можам мы патрабаваць ад яго, хворага, беспрацоўнага, каб ён яшчэ ўзяў да сябе невядомае чужое дзіця?

Ліза зусім апусціла галаву. Маці пяшчотна стала гладзіць яе па валасах, даводзячы:

— Ты думаеш, я сама не шкадую? Ты думаеш, у мяне самой сэрца не заліваецца крывёю, калі я падумаю аб усіх гэтых жахах? Але трэба і аб сабе падумаць, трэба глядзець крыху далей, трэба ведаць, што і як. Я разумею, што цябе схапіла за сэрца, але потым ты і сама пашкадавала б. Выкінь, дачушка, з галавы гэтую думку і супакойся.

Маці пацалавала Лізу ў галаву і ціхенька выйшла ў свой пакой, нібы ад хворай.

Цяпер толькі ўбачыла Ліза, якая складаная гэтая справа. Адна рэч — захацець дапамагчы, а зусім другая — як гэта зрабіць. Колькі довадаў прывяла маці — і ўсе яны слушныя. Праўда, што галоўны клопат ляжа на маці, бо сама Ліза зусім не ведала, як абыходзіцца з такім дзіцём. Праўда, што ад бацькі нельга чакаць згоды. Ведае яна, як ускладнілася б тады ўсё іхняе жыццё. Разумее Ліза, што само дзіця для яе чужое. Яна шкадуе яго наогул, як кожнае дзіця, а ніякага асаблівага замілавання да яго не адчувае. Каб замест гэтага дзіцяці ёй далі другое, ёй было б усё роўна. Гэта Ліза разумее, але...

Заўтра Рэня будзе чакаць яе. Яна спадзяецца, яна ўпэўнена, што Ліза прыйдзе. Калі не прыйдзе, то для Рэні ўдар будзе горш за смерць. А Ліза тады ўсё жыццё сваё будзе пакутаваць... Не, яна не можа не пайсці!

Ліза выйшла да маці і зноў прытулілася да яе. Маці абняла яе і спытала:

— Ну, што, супакоілася, дзетка мая?

— Мама! — загаварыла Ліза перарывістым голасам. — Каб цябе захацела бачыць перад смерцю твая сястра ці лепшая сяброўка, ты адмовілася б пайсці да яе?

— Як гэта так адмовіцца? — здзівілася маці, але зараз жа сцяміла, куды хіліць дачка і паспрабавала нешта дадаць: — Бачыш... часам бывае...

Але Ліза прыпыніла яе:

— А каб яна табе сказала: «Вазьмі маё дзіця, а то яго кінуць у агонь». Ты магла б адвярнуцца ад яе?

Маці збянтэжана замармытала:

— Ну што ты гаворыш?.. Хіба так ужо ў агонь?.. Яшчэ невядома... А можа, што якое...

— Мамачка, ты ж сама ведаеш, што так яно і ёсць. Ну, можа не ў агонь, і так заб'юць — усё роўна. Скажы: ты магла б не ўзяць і адысці прэч? Ну, скажы, чаго маўчыш?.. Я ведаю — ты не магла б адмовіцца, і я не магу. Я ўсё роўна яго вазьму, мама. Усё роўна вазьму, — цвёрда сказала яна.

— А што скажа татка?

— Думаю, ён яго не выкіне. А папрокі я перацярплю.

Апошнія словы кранулі маці за самае сэрца.

— Дачушка мая! — сказала яна пяшчотна. — Ты вельмі добрая, і папракаць цябе грэх. Але што мы скажам, калі людзі пацікавяцца, адкуль узялося ў нас малое дзіця?

— Хто будзе цікавіцца такім дзіцянём? — адказала Ліза. — Хіба Варапаіха? Ну дык ёй можна сказаць абы-што: пляменнік ці ўнук, або хто-небудзь такі.

Маці апусціла галаву і задумалася. Ліза пачала лашчыцца да яе, кажучы:

— Ну, што, мамачка, згодна? Га? Я буду рабіць сама ўсё, што трэба, а ты будзеш толькі кіраваць. Добра? Падумай толькі, што значаць нашы турботы ў параўнанні з тым, што церпяць людзі.

Маці горка ўсміхнулася.

— Ведаю я ўсё гэта, дачушка. Каб магла, сама б пайшла на гэтых лютых немцаў. Але які будзе знак, калі мы нават і выратуем гэтае невядомае, чужое дзіцянё? Гэта ж пясчынка ў полі. А хлопчык ён ці дзяўчынка?

— Хлопчык, — весела адказала Ліза, — і завецца Фелікс, Феля.

— Феля? — устрывожылася маці. — Гэта яўрэйскае імя? Трэба будзе перамяніць.

— Не, гэта лацінскае імя. Фелікс — значыць, шчаслівы.

— Нездарма ён мае такую заступніцу, — дабрадушна сказала маці.

Ліза, як козачка, усхапілася на ногі, палажыла маці на плечы абедзве рукі і, блізенька нахіліўшыся да яе твару, сказала:

— Значыцца, мамка, ты згодна? Так?

— Пачакай, пачакай, хіба можна так адразу? — засупярэчыла маці, але Ліза ўжо бачыла, што пералом адбыўся.

Так яно і было. Да гэтай хвіліны маці не дапускала ні малой магчымасці пайсці насустрач непрадуманаму жаданню дачкі, і ўсе яе думкі, усе яе довады былі накіраваны на тое, каб даказаць ёй і сабе гэтую немагчымасць. А цяпер яна на адзін толькі міг дапусціла жаданне задаволіць дачку — і тады адразу самі сабой сталі лезці ў галаву довады таго, што гэта магчыма. Уся справа ў турботах, але ці ёй, працоўнай жанчыне, баяцца турботаў? Толькі першыя некалькі месяцаў будзе цяжка, а далей будзе лягчэй і, можа, нават прыемна. Калі ж адмовіць, то для Лізы будзе такая душэўная рана, якая невядома калі загаіцца. Ды яшчэ яна можа не паслухацца і наробіць горшай бяды. А справа ж добрая, чалавечная. І яшчэ, і яшчэ пайшлі падобныя думкі, нібы карыстаючыся тым, што для іх прыадчыніліся дзверы. Нездарма кажуць, што жаданне — маці думак.

— Ну, што, мама, згодна? — наступала Ліза.

— Ды, відаць, нікуды не дзенешся, — з цёплай усмешкай сказала маці. — Але бацьку пакуль што казаць не будзем. Будзем улагоджваць пасля таго, як дзіця з'явіцца.

— Дзякую, мамачка! — заскакала Ліза і пачала цалаваць увесь яе твар. — Я ведала, што мая мама добрая!

І добрай жанчыне здалося, нібы яна сама даўно ўжо думала, каб дзе знайсці і прытуліць якое няшчаснае дзіцё.

У хуткім часе прыйшоў бацька, з выгляду дужы, поўны мужчына з чырвоным тварам. Але паўната гэтая была нездаровая: яго мучыла ў сярэдзіне

нейкая хвароба ды апухалі ногі. Да вайны ён быў вартаўніком на гарадской электрастанцыі, а цяпер яшчэ не знайшоў сабе адпаведнай работы. Хоць рабочы чалавек усюды быў патрэбны, але цяжкая фізічная праца была яму не па сілах, а калі траплялася па сілах, то была не па нагах — далёка.

— Вось і рабі, што хочаш, — сказаў ён злосна. — Пакуль знойдзеш работу, немцы забяруць і пагоняць на катаргу. Палююць, як на звяроў. Могуць і да вас дабрацца. На кожны выпадак прыглядайцеся, дзе б зачапіцца, пакуль пройдзе гэтая навала.

Распрануўшыся, ён сеў за стол. Маці тым часам прынесла яму міску поснага баршчу і некалькі халодных нячышчаных бульбін. Бацька моўчкі, панура стаў есці.

На дварэ сцямнелася. Ліза пайшла зачыняць аканіцы. Запалілі капцілку. Кволы агеньчык бездапаможна хістаўся, вырываючы са змроку то будзільнік на камодзе, то чорны чыгун на прыпечку, то нікеляваную галоўку ложка, то даўгую сасновую лаву ля сцяны, аклеенай шпалерамі проста па бярвеннях.

Маці глядзела на сутулую спіну мужа, слухала яго абрывістыя словы і ўсё думала: ну як тут прыступіцца да яго? Які язык можа паварушыцца, каб прапанаваць гэтаму чалавеку ўзяць на сваю галаву яшчэ нейкае невядомае дзіцянё? Ён проста палічыць іх за вар’ятак. І навошта яна згадзілася?..

Цэлую ноч не спала бедная жанчына...

Хвалявалася і Ліза, але не з тае прычыны, што маці. Яна ўяўляла сабе, што цяпер робіць і думае Рэня. А разам з ёю многа-многа тысяч людзей, палова горада, таксама цяпер сядзяць у хатах і чакаюць смерці. А завошта — ніхто не ведае. Можа, цяпер, у гэтую самую мінуту, уварваліся да іх нелюдзі і пачалі страляць, рэзаць усіх, усіх...

Ліза задрыжала ўсім целам і схавалася пад коўдру...

На вуліцы пачуўся шум. Затым з грукатам расчыніліся дзверы — і ў пакой уварваліся немцы з вінтоўкамі. «І нам прыйшоў канец!» — з жахам падумала Ліза, і дзікі крык вырваўся з яе грудзей...

— Што з табой? — пачуўся трывожны голас маці.

— А!... Гэта сон!... — радасна прамармытала Ліза.

На вуліцы яшчэ не заціх грукат машыны...

## II

Дзень быў гэткі самы туманны, як і ўчора.

Ліза і Маня ішлі па вуліцы, нібы занятыя вясёлай гутаркай. З левага боку спяшаліся насустрач заклапочаныя людзі. Выходзілі і ўваходзілі ў дамы жыхары. З правага боку, за дротавай агароджай, быў другі свет. Людзей там было нават больш, як на гэтым свеце, але рухаліся яны нібы цені. Некаторыя стаялі каля агароджы і, калі вартавы адыходзіў далей, прапаноўвалі прахожым адзежыну за хлеб. Старая жанчына ў чорным адзенні ціха хадзіла вакол і, нічога не бачачы, нешта мармытала сабе пад нос.

Ліза жыла на другім канцы горада, за вакзалам, і ў гэтых месцах даўно не была. Яна не пазнала цяпер гэтых кварталаў, што былі адгароджаны дротам. Перш за ўсё здавалася, што тут ніякіх кварталаў і вуліц зусім не было. Гэта была адна вялікая плошча, дзе абы-як стаялі голыя дамы, без платоў, без надворных драўляных будынкаў; усюды смецце, хлам, бруд. Шыбы залеплены паперай, заткнуты рыззём, а часцей за ўсё проста ззялі чорныя дзіркі. З аднаго дому даносіўся дзіўны гул, завыванні: гэта маліліся старыя яўрэі, ківаючыся

ўзад і ўперад. Для іх было ясна, што Бог паслаў на яўрэйскі народ кару за грахі, галоўным чынам за грахі іх дзяцей, якія зусім забыліся на веру дзядоў. Ну, а калі сам Бог паслаў, то нічога не зробіш — трэба рыхтавацца да смерці. Маладых і здаровых не было відаць — яны ў гэты час былі на рабоце. Раптам пачуўся звонкі дзіцячы смех: некалькі худых, бледных дзяцей з захапленнем пускалі ў лужынах караблі. Яны адны маглі смяяцца...

— Вось там, — шапнула Маня.

За дротам, па тратуары, узад і ўперад хадзіла жанчына з дзіцём на руках. Ліза пазнала яе... Але акурат сюды падыходзіў вартавы. Давялося прайсці міма. Рэня заўважыла сваіх сяброўак, і твар яе засвяціўся радасцю. Хоць яны прайшлі міма, але яна ведала чаму.

Сяброўкі паволі ішлі далей, весела балбочучы. Паліцай завярнуўся і пайшоў следам за імі. Ліза паспела разглядзець яго. Гэта быў высокі, здаровы дзяцюк, у сіняй нямецкай куртцы з шырокім поясам, у пілотцы, з-пад якой вытыркаліся светлыя кучаравыя валасы, твар прадаўгаваты, энергічны, блакітныя вочы весела і задзірыста паблісквалі з-пад бялёсых брывей. Агульнае ўражанне ад гэтага хлапца было зусім нядрэннае.

— Мне здаецца, я недзе бачыла яго, — ціха сказала Ліза сваёй сяброўцы. — Пастарайся затрымаць яго, а я пайду.

Яны нібы развіталіся, і Ліза пайшла назад. Паліцай правёў яе вокам і падышоў да Мані, якая стаяла на месцы, нібы прыглядаючыся, што робіцца за дротавай агароджай.

— Што, паненачка, падабаецца наш звярынец? — галантна спытаў паліцай.

Хоць Маня была задаволена, што ёй не прыйшлося першай пачынаць гутарку, але, пачуўшы такія словы, не ведала, што рабіць далей. Абурыцца, спрачацца, плюнуць у вочы? Але нельга, трэба з ім размаўляць, затрымаць.

Пакуль Маня меркавала які ўзяць тон, паліцай зноў спытаўся:

— Можа сваіх знаёмых убачылі?

Маня стала так, каб засланіць сабой Лізу і сказала:

— А ў вас тут няма знаёмых, можа, нават прыяцелеў?

Паліцай гучна зарагатаў:

— Прыяцелеў? Можа калісьці і былі, а цяпер добра ведаю, дзе прыяцелі і дзе ворагі.

У Мані аж галава закружылася. Што гэта такое? Не можа быць у прыродзе такога вырадка!..

—А... а вы не немец? — прашаптала яна.

Паліцай жартаўліва пакланіўся і адрэкамендаваўся:

— Я — грамадзянін незалежнай беларускай дзяржавы, Сымон Шаціла.

Ну як падтрымліваць гутарку з такім «грамадзянінам»? Але нічога не зробіш, і яна спакойна сказала:

— Які ж вы незалежны грамадзянін, калі служыце нямецкаму фюрэру?

— Лепш фюрэру, чым бальшавікам, — адказаў ён самазадаволеным тонам. — А хіба вы інакш глядзіце?

Вось куды гне, падлюга!

— Гэта не залежыць ад нашага погляду, — дыпламатычна адказала Маня. — Вайна толькі пачынаецца і невядома яшчэ, што будзе.

— Невядома? — засмяяўся Шаціла. — Каму невядома, а каму вядома. Немцы пад Масквой ужо...

Маня асцярожна павярнулася, зірнула назад і з палёгкай уздыхнула:

— Выбачайце, мне трэба ісці.

І пабегла прэч.

Калі Ліза падышла да Рэні, тая адразу заплакала. То былі слёзы не толькі гора, але і радасці.

— Прыйшла!.. — загаварыла яна дрыжачым голасам. — Прыйшла!.. Дзякую табе... Возьмеш?

І яна з такой мальбой паглядзела на Лізу, што і ў той пакаціліся слёзы.

— Вазьму, вазьму, — паспяшыла яна адказаць.

— Бяры... хутчэй... А то ўбачаць і адбяруць.

Уся трасучыся, Рэня апошні раз прыціснула да грудзей сваё дзіця, а потым спешна пачала прасоўваць яго праз калючы дрот.

Ліза памагала рассоўваць калючкі. Крывавыя плямы — Рэніны ці Лізіны — зачырванелі на белай коўдрачцы.

— Хутчэй... хутчэй... — паўтарала маці, увесь час азіраючыся.

Калючка зачапілася, парвала коўдрачку. Дзіця заплакала.

— Нічога, нічога, — мармытала Рэня. — я яго накарміла, ён хутка супакоіцца. Ідзі, бяжы хутчэй, а то адбяруць...

Некалькі жанчын сабраліся на двары і моўчкі глядзелі на гэтую сцэну. Мусіць, не адна з іх зайздросціла і шкадавала, што не можа прасунуць праз плот і сваё дзіця. Але і яны са страхам пазіралі, ці не ідзе вартавы. Нейкі пажылы дзядзька ішоў па вуліцы, прыпыніўся, паківаў галавой і моўчкі пайшоў далей. Але знайшоўся і адзін малады, франтаваты «жартаўнік»:

— Што гэта? — усклікнуў ён. — Ці не дзіця выменьваюць на хлеб?

Рэня і Ліза са страхам азірнуліся.

— Нічога, нічога, — са смехам сказаў франт. — Не бойцеся, перашкаджаць не буду.

Калі дзіця было ўжо на руках Лізы, вочы Рэні заблішчэлі ні то радасцю, ні то злосным задавальненнем, яна ўсклікнула:

— А цяпер мне нічога не страшна!

Потым ціха і хутка загаварыла:

— Ты, Ліза, ашчаслівіла мяне, цяпер у мяне рукі развязаны. Цяпер я магу пайсці на ўсё. А пакуль што, я буду тут, кожны дзень аб гэтай гадзіне. Прынясі калі-небудзь яго сюды, паглядзець хоць здалёк...

Ліза паспела толькі сказаць: «Прыйду», як пачуўся нечы голас: «Немец!» Далёка па вуліцы ішоў нямецкі салдат.

Ліза пайшла. Яна не азіралася, але выразна адчувала, нібы нейкая нітка цягне яе назад. Заварочваючы за дом, яна паглядзела ў той бок. Рэня, склаўшы рукі, стаяла нерухома, уся падаўшыся наперад. Здавалася, вось-вось яна ўзнімецца ў паветра і паляціць за сваім дзіцем...

Вуліца, дзе жыла Ліза, называлася Палявой, бо выходзіла прама ў поле. Невялікія драўляныя домікі сярод садоў і гародаў рабілі яе ўтульнай, але ўвосень і ўвесну тут было такое балота, што ўсе жыхары праклінаді яе. Жыццё тут было, як у вёсцы: усе ведалі адзін аднаго, цікавіліся кожнай дробяззю жыцця не толькі блізкага, але і далёкага суседа, ведалі, хто што каму сказаў, хто што з'еў.

Лізе вельмі не хацелася, каб яе ўбачылі з дзіцем; яна то спяшалася, то прыпынялася, то пераходзіла на другі бок вуліцы, адзін раз нават узяла дзіця сабе пад пахі, каб паказаць, што гэта скрутак. А тут яшчэ дапамог туман — і яна, нарэшце, шчаслівα прыйшла дадому.

Бацькі, як звычайна, дома не было. А маці чакала яе з трывогай і з вялікім цяжарам на сэрцы. Якое было б шчасце, каб Ліза па той ці іншай прычыне дзіця не прынесла! Але яна прынесла...

— Ну, пакажы хоць, — сказала маці, і ў тоне яе міжволі адчувалася незадавальненне.

Лізе і самой хацелася хутчэй паглядзець, бо там было не да таго. Дзіця спала, зморшчыўшы лобік і сціснуўшы вусны. Калі яго паварушылі, яно зацмокала губамі і пачало тыкацца носам у падушку.

— Шукае, — уздыхнула маці. — Зараз прачнецца, а што мы яму дамо?

Гэтыя словы прагучалі для Лізы, як папрок, і ёй зрабілася ніякавата.

Ліза, вядома, часта бачыла такіх дзяцей на руках у матак. Маткі з гордасцю пазіралі на ўсіх, адчуваючы, што ў іх на руках такі скарб, якому кожны зайздросціць. І кожны ў такіх выпадках казаў:

— Ах, якое цудоўнае дзіця!

Ліза і сама адчувала нібы зайздрасць. У кожным разе добра бачыла і разумела шчасце маткі. І вось цяпер яна мае сваё ўласнае дзіця, але... радасці як быццам не адчувае. Перш за ўсё, ніяк нельга распазнаць «цудоўнае» яно, ці не. Зморшчаны тварык нічога не гаворыць, цёмныя валосікі і бровы нічога асаблівага не надаюць. Вузкі носік нагадвае дзюбку птушаняці.

— Мама, а прыгожае яно? — спытала Ліза.

— Дзіця, як дзіця, — адказала маці, перакладаючы пялёнкі. — Абы здаровае было, а хлапчуку больш нічога і не трэба.

Ліза міжволі пашкадавала, што гэта хлопчык, а не дзяўчынка. Усё ж такі дзяўчынка неяк бліжэй. Ліза яшчэ памятае, якое замілаванне яна адчувала да лялек. А лялькі заўсёды бываюць дзяўчынкамі. А тут ніякага замілавання не адчуваецца. Але нічога не зробіш, гэта ж яе абавязак, і яна будзе выконваць яго добрасумленна, памятаючы Рэню.

У скрутку знайшлі метрыку, дзе напісана было, што ў бацькоў Рэні і Барыса Гольдберг 14 чэрвеня 1941 года нарадзіўся хлопчык, якому далі імя Фелікс.

— Зараз жа знішчыць гэтую паперку! — спалохалася маці. — Калі яна трапіць каму ў рукі, то загінем і мы, і дзіця.

І яна тут жа парвала яе і кінула ў печку. Ліза збянтэжылася.

— Як жа цяпер будзе?..

— Нічога, абы другой бяды не было, — адказала маці.

Дзіця тым часам пачало выказваць сваё незадавальненне больш энергічна. Не расплюшчваючы вачэй, яно стала моршчыцца, круціць галавой і пакрыкваць.

— Пашукай хутчэй чысценькую анучку! — крыкнула маці, а сама знайшла маленькі кавалак хлеба і стала жаваць яго; затым памяшала з цукрам і сунула дзіцяці ў рот.

— Мама, што ты робіш? — крыкнула Ліза з жахам. — Гэта ж брыдка і шкодна!

— Мяне на гэтым выгадавалі, — спакойна адказала маці, — ты сама не раз каштавала, а бяды, як бачыш, ніякай няма. А тым часам пастарайся дастаць соску.

Дзіця крычала ўсё больш і больш. Маці ўзяла яго на рукі, пачала гушкаць, хоць гэта і мала памагала. Ліза нарыхтавалася зноў ісці ў горад, па соску.

У гэты момант увайшоў бацька ды так і прырос да зямлі.

— Што гэта? Адкуль? — прамовіў ён, пазіраючы то на маці, то на дачку.

А тыя так разгубіліся — не ведалі што сказаць. Ліза бездапаможна глядзела на маці. Тады маці, неспадзявана і для сябе самой, сказала:

— Ды вось падкінулі нам пад дзверы дзіця.

— Як гэта так падкінулі? — перапытаў бацька.

— Ды так, падкінулі — і ўсё.

— Навошта яно нам? — разгублена прамовіў бацька.

Маці нават засмяялася:

— Не спыталі нас і падкінулі.

— Што ж мы з ім будзем рабіць? — усё тым жа збянтэжаным тонам казаў бацька.

— Вось мы цябе і чакалі, каб абмеркаваць разам, — проста адказала маці.

І бацька замест таго, каб папракаць і вінаваціць іх, вымушаны быў разам абмяркоўваць, што ім усім рабіць.

Жонцы не цяжка было даказаць яму, што нічога іншага не застаецца, як ім самім гадаваць гэтае дзіця.

— Несці няма куды, а выкідаць не будзеш.

— Я, татачка, буду яму за маці, — дадала Ліза. — Я пастараюся, каб ён табе не перашкаджаў.

Бацька ўсміхнуўся і махнуў рукой:

— Ну, якая з цябе маці? Цябе саму яшчэ трэба даглядаць.

Меў голас у гэтай нарадзе і сам герой дня. Ён крычаў мацней за ўсіх. Часам хапаўся за хлебную соску, а потым зноў крычаў.

— Хутчэй бяжы па соску, — сказала маці Лізе; тая хутка сабралася і выйшла.

— А я атрымаў работу на станцыі пры складзе, — панура сказаў бацька. — Прыйшоў дадому, а тут новая бяда. Каб быў другі час, я нічога не сказаў бы, а цяпер...

Жонка пачала супакойваць яго:

— А гэта ўжо будзе наш клопат. Пацярпець прыйдзецца якіх месяцаў пяць-шэсць, а потым, можа, і сам будзеш рады.

— Ды што я? — усклікнуў муж. — Цябе я шкадую. На цябе ляжа ўвесь гэты цяжар.

— Нічога, наша жаночая справа ўжо такая! — дабрадушна сказала яна. — Ды іншага мы і зрабіць не можам, значыцца, не варта аб гэтым і думаць.

— Як не думаць? — не сціхаў бацька. — У такі час нават для родных бацькоў дзіця не шчасце, а тут... Глядзі, як заходзіцца, — спыніўся ён ад новага крыку дзіцяці.

Соска звалілася на падлогу. Стары, крэкчучы, падняў яе, пакруціў у руках і сказаў:

— Абмыць цяпер трэба.

— Дай спаласну, — сказала жонка.

— Дзе табе з адной рукой? Я сам. Ёсць згатаваная вада?

— У чайніку.

Ён спаласнуў соску і вярнуўся да дзіцяці. Яно схапіла яе і сцішылася.

— Пэўна яўрэйскае, — заўважыў бацька.

— Цяпер яно проста савецкае, — адказала маці.

— Колькі гіне цяпер такіх дзяцей! — уздыхнуў бацька. — Ды не толькі дзяцей... Я часам адчуваю сябе нібы вінаватым, што з нашай сям'і нікога на вайне няма.

Жонка ўбачыла, што надыходзіць момант, калі можна зрабіць наступны крок — раскрыць мужу ўсё. Яна зусім не збіралася падманьваць свайго друга і хаваць ад яго праўду.

— А калі мы не ваюем, — сказала яна, — то можам зрабіць карысць іншым спосабам: выратуем і выгадуем чалавека на змену загінуўшым.

Муж ціха засмяяўся і, паклаўшы руку на плячо жонкі, сказаў:

— А я і не ведаў, што ты ў мяне такая палітычна свядомая.

— А-м, якая тут палітыка! — адказала яна. — Проста чалавечае сумленне.

...Ліза тым часам прыбегла ў аптэку. Але сосак там не было. Яна ледзь не заплакала ад гора. Тады нейкая жанчына сказала, што можна купіць на рынку. Ліза пабегла на рынак і натрапіла там на нямецкага салдата, які прадаваў цэлы грос (144) сосак. Але адну ці дзве нізавошта не хацей прадаць. На шчасце, знайшлася жанчына, якая купіла ўсю каробку і тут жа прадала Лізе некалькі сосак па цане ў два разы большай.

Запыхаўшыся, прыбегла Ліза дадому і, калі ўвайшла ў хату, то здзівілася не менш, як перад тым здзівіўся бацька: маткі дома не было, а дзіця гушкаў на руках... сам бацька!

— Чаго вочы вылупіла? — буркнуў бацька. — Праз цябе ж усё гэта.

— Татачка, ты ведаеш усё? — са страхам спытала Ліза.

— Ды ведаю ўжо.

— І не злуеш?

— Каб мог бы злосцю паправіць бяду, то, пэўна, злаваў бы, — бурчаў бацька. — На, бяры сваё дзіця!

— Татачка, любы! — кінулася яму на шыю Ліза і пачала цалаваць, як тады маці.

— Ну, добра, добра, — бурчаў бацька. — Глядзі толькі, каб болей дзяцей не насіла, а то цяпер так многа сірот.

Увайшла маці і прынесла шклянку малака, якое яна пазычыла ў суседзяў. Пачалі раскладаць агонь, каб згатаваць гэтае малако; затым трэба было знайсці і падрыхтаваць бутэльку. Не менш важна было памыць дзіця. Бацька палез на гарышча даставаць начоўку, потым пайшоў па ваду. Ліза ўсяляк супакойвала дзіця, якое крычала на ўсю кватэру. Уся сям'я была загружана работай.

Ліза адчувала сябе вінаватай за ўвесь гэты хатні пераварот і, як магла, старалася памагчы, але ўсё неўпапад. Калі раздзела дзіця класці ў ваду, маці сказала, што трэба класці не голым, а загорнутым у пялёнку. Калі апусціла руку ў ваду паглядзець, ці не гарачая яна або халодная, маці сказала, што трэба спрабаваць не рукой, а локцем. А якой складанай справай аказалася само мыццё.

Калі Ліза стала спавіваць дзіця, то выявілася, што гэта таксама цэлая навука: трэба не проста загортваць, а спачатку абкручваць паасобку кожную ножку. Калі памкнулася наліваць малако ў бутэльку, маці ўскрыкнула:

— Што ты робіш? Хіба можна такому дзіцяці даваць цэльнае малако? Трэба дадаць палову засалоджанай вады.

І так на кожным кроку. А Ліза думала, што яна возьме сабе дзіця і будзе гадаваць, як коціка. Апрача таго, маці яшчэ вельмі непакоілася, як пройдзе гэты несвоечасовы пераход ад грудзей да штучнага кармлення, ды наогул, як удасца ўберагчыся ад розных дзіцячых хвароб. Адным словам, радасці нешта не відаць.

Памытае і накормленае дзіця, нарэшце, заснула з пустой соскай у роце. Бацькі глядзелі на яго спачувальна, але кожны з іх думаў, што ўсё ж такі лепей было б без яго.

Ліза такой думкі, вядома, дапусціць не магла. Яна толькі больш сур'ёзна стала глядзець на гэтую справу. Яна зразумела, што тут не гульня ў лялькі, а цяжкі і адказны абавязак. Як відаць, ніякага такога асаблівага шчасця і радасці ад дзіцяці няма. Мусіць, таму, што яно чужое. Але яна яго шкадуе не менш, як маці, і будзе даглядаць з такой жа ахвотай, як маці. І калі падумала, якую высакародную справу будзе рабіць, успомніла Рэню — тады адчула вялікае маральнае задавальненне. Дзеля гэтага варта жыць!

Калі кладіся спаць, маці хацела пакласці дзіця каля сябе, каб ноччу даглядаць яго, але Ліза не згадзілася.

— Я сама павінна з ім быць, — рашуча сказала яна.

— Ды ты і без таго змарылася за гэты дзень, — сказала маці. — Як жа табе ноччу мучыцца?

— Ты, мамачка, яшчэ больш змарылася, — адказала Ліза. — Я не маю права цябе мучыць.

— Паглядзім, як ты справішся, — прамовіла маці, ківаючы галавой.

Прачнулася Ліза досыць позна. Дзіця спакойна спала побач з ёю. Ліза ціхенька апранулася і выйшла ў другі пакой. Маці рыхтавала бацьку снеданне.

— Мамачка! — радасна ўсклікнула Ліза. — Ён мяне ні разу не турбаваў. Як учора паклалі, так і спіць.

Маці з бацькам пераглянуліся і ўсміхнуліся.

— Затое нас ён турбаваў усю ноч, — сказаў бацька.

Ліза зачырванелася і кінулася матцы на грудзі.

## III

Ліза з дзіцём на руках ішла па вуліцы ўздоўж дротавай агароджы. Яшчэ здалёк убачыла яна постаць Рэні. Здавалася, яна так, не зварухнуўшыся, і стаіць тут з таго часу, як пакінула яе Ліза...

Раптам маці затрапяталася і кінулася наперад. Вартавы здзіўлена паглядзеў на яе і нават азірнуўся ў той бок, куды памкнулася гэтая жанчына. Рэня заўважыла гэта і прымусіла сябе стрымацца. Яна спынілася і з абыякавым выглядам стала пазіраць навакол, нібы нічога яе не цікавіць.

Ліза раскрыла твар дзіцяці, павярнула яго да агароджы і як мага цішэй пайшла міма Рэні. Дзіця спала. Маці ўпілася вачыма ў твар сына і таксама паволі пайшла следам. Прайшлі каля вартавога. Той бачыў, што па вуліцы ідзе маці з дзіцём на руках, а за дротам, як непрытомная, пасоўваецца жанчына, — але злучыць гэтыя дзве з'явы яму ніяк не магло прыйсці ў галаву.

Так дайшлі да месца, дзе жанчына за агароджай не магла прайсці далей. Тады Ліза, нібы шпацыруючы, завярнулася назад. Павярнула назад і жанчына за дротам. Болей хадзіць было небяспечна — і Ліза пайшла дадому.

Калі Ліза расказала дома пра гэтае «спатканне», маці пачала хусцінкай церці сабе вочы, а бацька забарабаніў пальцамі па стале і стаў глядзець у вакно.

Пасля таго Лізе здалося, што бацькі сталі нібы цяплей глядзець на яе.

І сама Ліза адчула, што дзіця паступова пачынае цікавіць яе ўжо незалежна ад таго, што яна абавязана цікавіцца ім. Тварык яго ўжо не здаваўся ёй старэчым, а нос быў зусім прыгожым — роўны, правільны. Асабліва падабаліся вочы — вялікія, чорныя, глыбокія. Шкада толькі, што гэтыя вочы яшчэ не смяяліся. Спачатку хлопчык палохаўся незнаёмых яму людзей. Потым да людзей прывык, але сумаваў па матчыных грудзях. Ён увесь час адчуваў, што яму чагосьці не хапае. Ды і перамена ежы давала свае вынікі. Ліза гатова была думаць, што ён і заўсёды будзе так моршчыцца ды кгыкаць.

Праз дзень у хату сунулася Варапаіха, дужая жанчына гадоў пяцідзесяці. Яна была гаспадыняй гэтага дома і дамагалася, каб кватаранты павялічылі ёй плату, «бо цяпер ужо другія законы». Але пакуль што насядаць не адважвалася і напаміняла «далікатна».

У хаце былі маці і Ліза. Дзіця спала. Маці чакала, што Варапаіха пачне гутарку пра плату, але гаспадыні рупіла зусім другое:

— Добры дзень, — сказала яна лагодна.

— Добры дзень, — адказала маці. — Сядайце, калі ласка.

— Дзякуй. Я так, на хвілінку, — загаварыла яна, зыркаючы вачыма па хаце. — Я чую, у вас новы кватарант з'явіўся. Ды, відаць, гарласты, дай Божачка яму здароўя. Мусіць, хлопчык?

— Хлопчык, — нехаця адказала маці.

— Адкуль Бог паслаў? — салодка спытала госця.

— Ды з неба скінуў, — адказала маці, не ведаючы яшчэ што сказаць.

— Мусіць, радня якая?

— Няўжо ж з чужым будзем важдацца? — сказала маці, шкадуючы, што не паспелі загадзя падрыхтаваць тлумачэнне, і ўзялася за вядро, каб ісці па ваду. З ёю вымушана была выходзіць і Варапаіха.

— Часова, ці назаўсёды? — спытала яна на парозе.

— Мусіць, назаўсёды, — адказала маці, зачыняючы дзверы.

— Ой, і будзе вам клопату на старасці, Мартынаўна! — спачувальна сказала Варапаіха ў сенцах.

— Нічога не зробіш, — сказала маці, адчыняючы дзверы ў сенцах. — Калі трэба, то трэба.

— А што, ні бацькі, ні маці няма? — спытала Варапаіха на ганку.

— Няма, — адказала маці і пайшла па ваду.

Варапаіха пастаяла крыху і пайшла да сябе, глыбока задумаўшыся.

Вярнуўшыся ў хату, маці зараз жа пачала з Лізай складаць гісторыю дзіцяці. Хлопчык — сын малодшай мамінай сястры, што жыве ў Бягомльскім раёне. Бацька пайшоў на вайну, маці забіта бомбай.

— А як ён сюды трапіў? — спытала Ліза.

— Ну... ну, знаёмы чалавек прывёз.

— Хто?

— Ды хто так падрабязна будзе распытваць? Сцяпан ці Раман — усё роўна.

— А як прозвішча бацькоў?

— Тут і выдумляць не трэба, — адказала маці. — У Бягомльскім раёне, у вёсцы Мохавічы, сапраўды жыве мая сястра Малання, а прозвішча іх — Губарэвічы.

— А калі яна не забітая?

— А ну цябе! — раззлавалася маці. — Няўжо ты думаеш, што Варапаіха пойдзе туды пытацца?

— Можа і не Варапаіха... — задумліва сказала Ліза.

— Калі дойдзе да такога следства, ніякая гісторыя не дапаможа, — строга сказала маці. — Але каму гэта будзе рупіць? Ці да таго цяпер хоць бы і немцам? Важна, каб мы тут гаварылі аднолькава.

На гэтым пакуль што і парашылі.

Зноў Ліза пайшла на спатканне. І на гэты раз Рэня стаяла на сваім месцы. Але вартавы быў досыць далёка, і Ліза магла падысці да агароджы. Маці ўся засвяцілася, працягнула рукі і загаварыла, не чакаючы адказу:

— Пакажы, пакажы! Ці здаровы ён?.. Вельмі плакаў?.. Ці есць ён?.. Як спіць?.. Бліжэй, бліжэй!..

Ліза, азіраючыся па баках, падсунула хлопчыка бліжэй. Маці ў палкім імкненні пачала праціскацца праз дрот, каб пацалаваць яго. Калючка зачапіла за валасы, за лоб... Ліза спалохалася:

— Асцярожна — убачаць!..

Але маці цяпер нічога не чула, не бачыла, не разумела. Дзіця расплюшчыла вочы, паглядзела на маці, крыкнула — і тарганулася усім сваім звязаным целам наперад...

Ліза ўся дрыжала, з жахам азіралася і ўсё мармытала: «Асцярожней — убачаць!» Потым згледзела, што вартавы ідзе ў гэты бок, крыкнула: «Ідзе!» — і рэзка адсунулася ад плота. (Перад гэтым яна кінула праз плот пакунак з хлебам, салам і некалькімі варанымі бульбінамі).

Дзіця плакала на ўсю вуліцу. Ліза бегла прэч, не азіраючыся, дрыжучы ад хвалявання. Ёй усё здавалася, што за ёй гоніцца вартавы.

На Палявой вуліцы ёй трэба было пераходзіць праз адно гіблае месца, якое псавала жыццё ўсім жыхарам гэтай вуліцы. Гразкае балота перасякала яе на ўсю шырыню. Прайсці можна было толькі чапляючыся за плот ды пераскокваючы па каменьчыках. А ў Лізы дзіця на руках. Ідучы з дому, яна досыць папакутвала тут, а цяпер зноў трэба было рабіць тое самае. Яна спынілася і пачала рыхтавацца да пераправы. Раптам ззаду пачуўся мужчынскі голас:

— Дазвольце, я вам памагу.

І тут жа нехта ўзяў яе пад руку і, ступаючы ботамі па балоту, перавёў на другі бок.

Ліза павярнулася, каб падзякаваць яго, але язык не паслухаўся: перад ёю стаяў той самы паліцай, якога яна тады пакінула з Маняй.

— Чаго дзівіцеся? — са смехам сказаў ён. — Мы ж з вамі суседзі.

— Я вас не ведаю, — сказала Ліза і пайшла далей.

Паліцай ішоў побач з ёю і працягваў:

— А я вас ведаў, калі вы былі яшчэ малой дзяўчынкай. Ведаю, што вы жывеце вунь у тым доме.

У Лізы сціснулася сэрца. Яна не ведала, што ёй казаць.

— І вы мяне сустракалі, — казаў далей паліцай. — А цяпер у вас ужо дзіця. А муж у вас добры? Вы варты добрага мужа.

Лізе здавалася, што яны ніколі не дойдуць да яе хаты.

— Чаго ж вы маўчыце? — гучаў лагодны голас паліцая. — Хіба муж вам не дазваляе і слова сказаць з чужым мужчынам? Але, я думаю, яго цяпер няма, ён павінен быць на фронце. Так? Я ўгадаў?

Нарэшце наблізіўся яе дом.

— Выбачайце, я вас не ведаю, — паўтарыла Ліза і ўвайшла ў двор.

— А цяпер, спадзяюся, будзеце ведаць, — сказаў ён услед. — Усяго вам добрага!

Ліза прыбегла ў хату ўсхваляваная, устрывожаная. Яна расказала матцы пра сустрэчу з паліцаем і спытала, ці не ведае яна, хто ён.

— Гэта, мусіць, сын Кандрата Шацілы, што жыве за некалькі дамоў ад нас, — сказала маці. — Ён сапраўды павінен цябе ведаць. Некалькі гадоў назад ён за нешта трапіў у турму, а цяпер неяк вярнуўся.

— Можа, ён прычэпіцца?

Маці ўсміхнулася і сказала:

— У добрых злодзеяў ёсць такі закон, каб сваіх суседзяў не чапаць. Можа, і не будзе чапляцца да сваіх. А калі што якое, то мы ж з табой дамовіліся, што казаць. А пакуль што няхай сабе лічыць цябе замужняй.

Ліза супакоілася. Больш за ўсё яна баялася, ці не заўважыў ён тады, як яна брала дзіця. А цяпер, відаць ужо, што не заўважыў. Але ўсё ж такі гэтыя падарожжы такія цяжкія, такія рызыкоўныя. Трэба будзе папярэдзіць Рэню, каб яна не чакала часта.

Праз два дні надыходзіла Кастрычніцкае свята, самае вялікае свята савецкіх людзей. Колькі светлых успамінаў усплыло перад Лізай! Як лёгка тады было дыхаць! Усе людзі былі свае, блізкія; увесь горад быў нібы адна сям'я. Нават дамы здаваліся вясёлымі, а цьмянае надвор'е — яркім сонечным днём. А цяпер... Куды ўсё гэта падзелася?

Горад нібы мёртвы. Кожны сядзіць і дрыжыць у сваёй хаце, і чакае, чакае... Жывуць толькі чуткамі. А чуткі такія няпэўныя, такія супярэчлівыя: «Немцы занялі Маскву... Нашы ўзялі Гомель... Немцы забралі ў палон сто тысяч рускіх... Савецкія войскі разбілі нямецкую танкавую армію...» Дзе праўда?

І кожны верыў у тое, у што яму хацелася верыць. Шацілам вельмі не хацелася, каб вярнуліся бальшавікі — і яны ўпэўнілі сябе, што бальшавікі не вернуцца. Простыя людзі, што жылі вакол Лізы, нічога пэўнага не ведалі, але яны і думкі не маглі дапусціць, што нямецкія фашысты могуць тут абстаявацца назаўсёды, што вялікая савецкая дзяржава з імі не справіцца. Ім нават не трэба было ні верыць, ні запэўніваць сябе, як няма патрэбы чалавеку верыць і запэўніваць сябе, што пасля зімы будзе лета.

Ведала яшчэ Ліза, што ёсць недзе навакол людзі, якія не сядзяць, склаўшы рукі, а змагаюцца ўсякімі спосабамі, што ў падполлі ёсць партыйная арганізацыя, якая ўзначальвае гэтую барацьбу. Якія смелыя, якія мужныя гэтыя людзі! Ліза не магла б быць такой. На такую справу ідуць толькі самыя найлепшыя людзі, а яна — самая звычайная. Можа, яшчэ каб ведала каго, то памагла, як умела, а так — што яна можа зрабіць?

Ліза рашыла прапусціць два дні і пайсці да Рэні сёмага. Хай для яе гэты дзень будзе сапраўдным святам. Можа, да гэтага часу і дзіця будзе сябе лепш адчуваць, а то ўсё крывіцца ды плача. Ды і трэба дома больш памагчы матцы, а то яна, шкадуючы Лізу, усё сама ды сама робіць. З таго часу, як прыйшло ў дом дзіця, яны абедзве з маткай не маюць ніводнай вольнай хвіліны. А ночы якія пакутныя! Часам Лізе нават дзіўным здавалася, што ўсяго некалькі дзён назад яна была маладой бесклапотнай дзяўчынкай.

А тым часам да дзіцяці Ліза прывыкала ўсё больш і больш. Яна выконвала свой абавязак не толькі таму, што трэба было, але і ёй самой хацелася гэта рабіць. Яна не толькі шкадавала і любіла яго, як дзіця, але і цешылася з яго, ён даўно здаваўся ёй лепшым за другіх. Яна адчувала да яго пяшчоту не толькі таму, што ён сын Рэні, але і таму, што ён проста ёсць.

Два дні прайшлі вельмі хутка. Нікуды яна за гэты час не выходзіла, нікога не бачыла. Дзіцяці палепшала, яно зрабілася спакайнейшым. Ліза радавалася, што будзе чым пахваліцца перад Рэняй. Наогул, каб не было гэтай неадчэпнай, страшнай думкі пра Рэню, Ліза адчувала б сябе нядрэнна.

Узяўшы соннае дзіця, яна выйшла на вуліцу. Надвор'е было яснае, але навакол пуста, як заўсёды. Калі трапляліся людзі, то яны неяк спалохана беглі і хаваліся.

«Вось якое свята!» — з прыкрасцю падумала Ліза.

Яна выйшла на Маскоўскую вуліцу — і ледзь не выпусціла з рук дзіця: на слупах, уздоўж вуліцы, хісталіся павешаныя! Адзін, другі, многа...

Ліза пасунулася назад і спынілася. Ісці далей, ці не?.. Па вуліцы праходзілі нямецкія салдаты, праязджалі афіцэры. Яны смяяліся, весела падміргваючы рэдкім прахожым, нібы кажучы: «Палюбуйцеся!» Але нікога не чапалі.

Дык вось хто... святкуе наш Кастрычнік!..

Ліза ўспомніла Рэню і сцяўшы зубы, пайшла далей. Праз некалькі крокаў яна ўбачыла ля тратуара забітага чырвонаармейца, затым на пэўнай адлегласці другога, трэцяга. І па другім баку вуліцы было тое самае.

Праклятыя вылюдкі! Яны захацелі паздзекавацца не толькі над целам мёртвых, але і над душамі жывых!..

Ліза бегла, не гледзячы па баках. Насустрач ёй, стуліўшыся, прабеглі яшчэ некалькі жанчын. Мужчын не было відаць.

Ліза прайшла пад мостам на Савецкую вуліцу. Уздоўж яе на далёкай адлегласці відаць было такое самае «афармленне»...

Павярнуўшы ўлева, Ліза пайшла па вуліцы Мяснікова. Ліза ішла скамянелая, сціснуўшы губы. Слёз на вачах не было, нават жаху не адчувалася, а толькі нешта гарачае, сухое пякло ў сярэдзіне. Гэта былі гнеў і нянавісць. З вялікім хваляваннем выйшла Ліза на тую вуліцу, дзе было гета. Яна зараз жа ўбачыла Рэню, а Рэня іх. Але адначасова Ліза ўбачыла, як з другога канца вуліцы паўзе нібы змяя. Адзін за адным ішлі паліцаі і немцы і станавіліся ля агароджы. Калі Ліза падышла да таго месца, дзе была Рэня, ланцуг ужо стаяў паміж іх. Потым ланцуг завярнуў у сярэдзіну і разрэзаў участак на дзве часткі. Затым тыя самыя постаці замільгалі ззаду, за дамамі. Квартал быў акружаны. Адначасова пад’ехала некалькі крытых грузавікоў.

Людзі, што былі на дварэ, з крыкам і плачам кінуліся ў дамы і зачыніліся. За імі пабеглі салдаты. Затрашчалі дзверы, вокны. Але трэск і грукат былі заглушаны страшнымі крыкамі вязняў, у якіх ужо нельга было распазнаць паасобных чалавечых галасоў — гэта быў адзін суцэльны стогн. Стагналі ўсе дамы разам, стагнала зямля пад імі. Усё жывое навакол сціхла, стаілася; над усім горадам панаваў гэты адзіны жудасны крык.

І пад гэты крык салдаты пачалі выцягваць з дамоў людзей і кідаць іх у машыны. Часта чуліся стрэлы — і тады ў машыны валаклі забітага. Адзін мужчына вырваўся з рук, з незвычайнай спрытнасцю схапіў камень і ўляпіў яго ў твар салдата. А калі ён, працяты кулямі, паваліўся на зямлю, то на твары яго быў не страх смерці, а задавальненне, як у чалавека, выканаўшага свой абавязак. У другім месцы маладая жанчына ўпілася ў твар салдата пальцамі; калі яе, праколатую, адарвалі, то ў пальцах яе засталося вока немца...

Гружаныя машыны ад’язджалі адна за адной і вельмі хутка вярталіся пустымі, магілы, куды адвозілі людзей былі вельмі блізка. Адтуль чулася кулямётная стральба...

Побач, за той-жа самай агароджай, быў такі самы квартал, з такімі самымі жыхарамі, але там было ціха: «па плану» яны былі аднесены ў другую чаргу...

Немцы, відаць, ганарыліся «сваёй работай», бо не хавалі яе ад людскога вока. Рабілі сярод белага дня і не перашкаджалі насельніцтву глядзець, калі хто хоча. Але такіх ахвотнікаў бадай што не было.

Ліза ў першы момант кінулася на другі бок вуліцы і схавалася за варотамі. Але зараз-жа падумала, што ў такую хвіліну не павінна хаваць ад Рэні дзіцяці, ды і сама не магла адвярнуцца ад сваёй сяброўкі. Ліза асцярожна высунулася з-за варотаў.

Рэня нерухома стаяла на тым жа месцы ля агароджы, з тугой гледзячы на вароты, дзе схавалася Ліза. Бедная маці быццам не заўважала таго, што дзеялася вакол яе. Убачыўшы зноў Лізу, яна пасвятлела і паднялася на цыпкі, каб апошні раз убачыць свайго сына.

А той прачнуўся ў самым добрым настроі. Працяглы шум і грукат недзе зводдаль быў зусім не чутны для яго вушэй, захутаных у хустачку, цёплую шапачку ды яшчэ ў коўдру. А тое, што там мітусілася многа людзей, было нават цікава.

І маці ўбачыла яго вясёлы тварык. І ўсміхнулася яму. А ў гэты момант адзін паліцай спакойна выпусціў у яе дзве кулі...

Паліцай гэты быў — Сымон Шаціла.

Кажуць, што ў чалавека ў момант яго смерці так і застаецца ў зрэнках адбітак таго, што ён бачыў у апошнюю хвіліну. У такім разе Рэня пайшла ў магілу з адбіткам вясёлага тварыка свайго сына.

Застагнала Ліза і прыціснула да сябе дзіця. Хлопчык паглядзеў на яе і ... засмяяўся! Чаму ж яму не смяяцца, калі ён адчуваў сябе здаровым, паветра такое свежае, а тут яшчэ так пацешна тарахцяць і мітусяцца.

«Ты сапраўды шчаслівы, мой хлопчык, — прашаптала Ліза, — бо не ведаеш і не будзеш ведаць, што бачыў».

З вачэй яе цяклі ціхія слёзы...

## IV

Ля студні сышліся тры жанчыны.

Варапаіха з таямнічым выглядам казала:

— Чую крык малога дзіцяці і думаю: адкуль? Здаецца, ніхто да іх не прыходзіў, не прыязджаў. Не сцярпела, заходжу: сапраўды спіць дзіцянё, а апрача іх — нікога. І выгляд у іх такі, нібы ім вельмі непрыемна, што я сунулася. Лагодненька пытаюся — адкуль? — «Бог з неба скінуў», — кажуць. — «Радня якая?» — «Вядома, радня». — «Бацькоў няма?» — «Няма». І больш нічога не хочуць казаць. А радня ў іх недзе ў Бягомлі. І ніхто носу да іх за гэты час не паказваў.

— Можа, падкінутае? — сказала другая жанчына.

— Чаго ж тады хавацца ды туляцца ад людзей? — адказала Варапаіха.

— І я так думаю, — задуменна сказала трэцяя жанчына. — Тут нешта такое ёсць.

— А можа, яўрэйскае дзіця ўзялі? — прамовіла другая жанчына.

— І гэта можа быць, — сказала Варапаіха. — Але на што яно ім на старасць? І так жыць цяжка. Ды і не чула я ні пра якіх такіх прыяцеляў.

— А можа... дачка сваё дзіця прывяла? — хітра сказала трэцяя жанчына. — Ты нічога не заўважыла?

— Неяк не звяртала ўвагі, — адказала Варапаіха, — не думалася пра гэта.

— Такая маладзенькая, — уздыхнула другая жанчына.

— Усяк бывае на свеце, — уздыхнула і трэцяя жанчына. — Але грэх казаць, нічога не ведаючы.

— Вядома, вядома, — падхапіла Варапаіха. — І я так не думаю. Я кажу толькі, што ўся гэтая справа нейкая таемная. Але нам што — хай сабе людзі жывуць, як могуць.

— Не наша гэта справа, — падтрымала трэцяя жанчына. — Чыё і якое дзіця ні было б, а людзі ўзялі на сябе такі клопат. Хваліць за гэта іх трэба.

Пасля таго страшнага дня Ліза нібы пастарэла на некалькі гадоў. «Святкаванне» немцаў апаліла яе душу навекі. Яна сваімі вачыма ўбачыла не толькі тое, што ведала і чула да гэтага часу пра фашыстаў, але і такое, чаго яшчэ ніхто і ўявіць сабе не мог. Нямецкія фашысты здаваліся ёй ужо не народам ваюючай дзяржавы, а істотамі зусім другой, нечалавечай пароды, пра якіх нават нельга гаварыць, што яны дрэнныя, як смешна было б казаць, што ў нашых лясах жывуць дрэнныя ваўкі.

І яшчэ ўбачыла Ліза сваімі ўласнымі вачамі, што такія самыя ваўкі могуць быць і сярод нашых людзей, нашых суседзяў. А якім чынам яны маглі зрабіцца такімі — дзяўчына зразумець не магла.

Апрача таго, Ліза са здзіўленнем адчула, што смерць Рэні не зрабіла на яе такога ўражання, якога яна чакала і баялася. Пры такім маштабе смерць гэтая нібы патанула ў тысячах іншых смярцей. Калі Ліза думала пра сваю сяброўку, то не магла адчуваць нейкага гора ці жалю да яе асобна, не магла шкадаваць яе неяк іначай, бо зараз жа перад ёй паўставалі і тысячы тых людзей, што гінулі на яе вачах, і забітыя воіны ўздоўж вуліцы, і павешаныя патрыёты. Ці значыла гэта, што яна недастаткова шкадавала сваю сяброўку? Не. Гэта толькі значыла, што яна і ўсіх шкадавала гэтаксама, як Рэню. І калі Лізе здавалася, што яна не так востра перажывае смерць Рэні, то яна не ведала, што вастрыня застаецца такая самая ды толькі зліваецца з агульным вялікім горам. Так укол адной іголкі адчуваецца вастрэй, чым укол пучка іголак.

Ад гэтага самага дня Ліза стала і сапраўднай маткаю дзіцяці. І не таму толькі, што ў гэты дзень загінула яго родная маці. З тае хвіліны, калі дзіця ўпершыню ўсміхнулася ёй, Лізе, як сваёй, блізкай, паміж імі ўсталяваліся зусім новыя адносіны. Да гэтага часу Ліза і шкадавала, і любіла, і клапацілася аб дзіцяці зусім шчыра, але ў аснове гэтага было пачуццё абавязку. І для сваёй сяброўкі, і для дзіцяці, і для свайго сумлення Ліза павінна была так рабіць. І яна адчувала вялікае задавальненне, як кожны чалавек, які робіць высакародную справу. А цяпер яна адчула вялікае шчасце незалежна ад гэтага, адчула, што дзіця дорага і блізка ёй само па сабе, што яе захапляе кожны рух яго, што яна думае толькі аб ім і што болей нічога яе не цікавіць.

Так бывае з родным бацькам, які ў працілегласць матцы, у першыя дні адчувае толькі задавальненне (і то не заўсёды!), ведаючы, што гэта яго роднае дзіця, а сапраўдная бацькоўская любоў прыходзіць да яго толькі пасля таго, як ён «пазнаёміцца з ім асабіста».

Дні за днямі праходзілі ў хатніх клопатах. Хлопчык зусім паправіўся, зрабіўся жыццярадасным і цешыў не толькі Лізу і «бабулю», але і самога «дзеда». Усё было добра, калі ў хаце было добра. А калі бывала цяжка, калі на хлеб не хапала, то Ліза адразу адчувала сябе вінаватай. Кожнае слова аб іх становішчы здавалася ёй тады папрокам. Хоць бацькі яе не папракалі, але Ліза сваім, ужо матчыным сэрцам, адчувала, што часам яны гэта думаюць. Яна з усіх сіл старалася палегчыць працу матцы, ночы ўжо сама не спала. Тады бацькі былі незадаволены, што яна сама марнее. І гэта таксама было папрокам.

Зноў зайшла Варапаіха, каб паглядзець на дзіця. Хавацца далей было ўжо нельга. Ёй расказалі пра сястру з Бягомльскага раёна.

— Які цудоўны хлопчык! — усклікнула Варапаіха, разглядаючы дзіця з такой прагнай цікавасцю, што Лізе зрабілася няёмка. — А які чорненькі і далікатны, нават на сялянскага хлопчыка не падобны.

У Лізы сціснулася сэрца. На дапамогу прыйшла маці:

— Паглядзела б ты на яго бацьку, — сказала яна.— У нас на вёсцы нават празвалі яго «цыганом».

— Так, так, — казала Варапаіха спачувальна. — Шчасце яго, што ён трапіў да вас. А як яго завуць?

— Фелікс, — адказала Ліза. — Гэта імя акурат і азначае «шчаслівы».

— Фелікс, — задумліва паўтарыла Варапаіха. — Першы раз чую такое імя, Фелікс. Розныя імёны бываюць на свеце. А як ён да вас трапіў?

— Чалавек знаёмы прывёз, — адказала маці.

— Глядзі ты, — уздыхнула Варапаіха. — Так далёка і такое малое. Відаць, добры ён чалавек.

— Наш лепшы друг, — пацвердзіла маці.

Калі Варапаіха выйшла, маці і дачка некалькі мінут маўчалі, думаючы адно і тое. Нарэшце маці прамовіла:

— Ой, дачушка! Каб не было нам бяды ад усяго гэтага.

Ліза зноў адчула сябе вінаватай.

— Мамачка! — усклікнула яна. — Калі што якое, я сама ўсё вынесу.

— Што з таго? — уздыхнула маці. — Нам ад гэтага не будзе лягчэй.

Убачыўшы, што Ліза вельмі засмуцілася, яна ўсміхнулася і дадала:

— Але нічога — як-небудзь выгадуем.

Аднаго разу бацька, прыйшоўшы з працы, сказаў:

— Ну, маці, я для цябе службу знайшоў.

— Якую? — здзівілася маці.

— Будзеш у нас прыбіральшчыцай. Сама ведаеш, як цяжка нам чатыром пражыць на мае заробкі.

Лізу як нажом разанула слова «чатыром». Бацька казаў далей:

— А самае галоўнае — забіраюць тых, хто ў іх не працуе. А ў нас аж двое такіх. Вось я і дамовіўся ў нашай канцылярыі, каб узялі за прыбіральшчыцу маю жонку, а дома ў нас застануцца двое дзяцей — дачка, вучаніца, і маленькі сынок.

Бацька хітра падміргнуў жонцы, задаволены, што так лоўка прыдумаў.

— Ты што, гэта, стары, надумаўся? — нават зачырванелася маці, — нам жа з табой столькі гадоў.

— А хто там будзе лічыць твае гады? — сказаў бацька. — Хіба не бываюць дзеці ў саракапяцігадовых жанчын?

— Ды мяне там засмяюць, — саромелася маці. — Старая, ды з такім малым.

— А ты падчапурыся, падцягніся і сыдзеш за маладуху, — жартаваў бацька.

Лізе адлегла ад сэрца, калі яна ўбачыла, што бацька больш не злуе, а, наадварот, так шчыра клапоціцца аб яе Феліксу і нават жартуе.

— Можа, лепей было б мне лічыцца за матку, — сказала яна, каб выручыць маці.

— Што ты, што ты! — замахала рукамі маці. — Гэткі сорам!

— Які тут сорам? — наіўна адказала Ліза, не зразумеўшы, што падумала маці. — Што ж тут ганебнага, калі муж, скажам, пайшоў на вайну, а маладая жанчына засталася з дзіцём?

— Хіба так, — прамармытала маці. — Але ж мы ўжо ўсім сказалі, што дзіця чужое.

— Гэта нічога, — адказаў бацька. — Ніхто з канцылярыі не будзе распытваць тут пра дзіця. І ніхто з суседзяў не пойдзе туды правяраць, як мы сказалі. А калі сказаць, што дома замужняя дачка, то могуць зацікавіцца, а хто муж, а дзе ён, могуць яшчэ прыйсці распытваць у суседзяў, ды і наогул, замужняя дачка — гэта самастойны чалавек.

— Калі так выйдзе, як ты гаворыш, то можа будзе нам усім спакайней, — разважліва сказала маці. — Толькі як тады будзе Лізе адной?

— Нічога, нічога! — горача перапыніла Ліза. — Мне будзе лягчэй, калі я буду ведаць, што мы нікому не замінаем.

Яна і сама не заўважыла, як вырвалася ў яе гэтае «мы». Бацькі зірнулі адзін на аднаго, і ў абаіх, відаць, мільганула адна і тая самая думка: дачка з дзіцем ужо «мы», а бацькі, значыцца, — «вы». Адчула гэта і сама Ліза, але ніхто нічога не сказаў.

Для Лізы пачалося новае, чыста жаночае жыццё: дзіця, пялёнкі, хатнія справы. Гледзячы на яе, ніхто не падумаў бы, што гэта не жанчына, а ўсяго

толькі дзяўчына, вучаніца. Маці не давала ёй мыць пялёнкі, старалася сама ўставаць ноччу. Але Ліза, не вельмі пярэчачы супроць іншай дапамогі, ні ў якім разе не згаджалася турбаваць маці ноччу.

На дзіця бацькі не скардзіліся, Лізу не папракалі і самі ўсё больш і больш прывыкалі да хлопчыка, але часам гаварылі паміж сабой:

— Аддала сваё маладое жыццё гэтаму дзіцяці. Ні дзяўчына, ні маці. А што будзе далей?..

А Ліза нічога такога не думала, не лічыла свае клопаты за пакуту, зусім не думала, што робіць нейкую высакародную справу. Яна жыла сваім дзіцем, як кожная маці, толькі і думала аб тым, каб яму было добра. А калі хлопчык, убачыўшы яе, пачынаў смяяцца, трапятацца ды цягнуцца да яе, як кветка да сонца, тады Ліза адчувала, што большага шчасця ёй і не трэба...

## V

На гэта раз сустрэліся не тры жанчыны, а дзве. І стаялі не каля студні, а на вуліцы, ля плота.

Варапаіха казала:

— Гавораць, што дзіця з вёскі, ад сястры, а яно чорнае, як жук, і зусім не падобнае да сялянскіх дзяцей.

— Можа, яўрэйскае, — нібы здагадалася суседка, — ды яны баяцца казаць.

— І я так думаю, — згадзілася Варапаіха, — хоць яны і кажуць, што бацька яго быў цыган.

— Хлопчык, кажаш?

— Хлопчык.

— Дык яго ж пазнаць можна, калі ён яўрэйскі!

— Дзе ты пазнаеш, калі цяпер усе аднолькавыя пайшлі, — сказала Варапаіха.

— А ты ўсё ж такі прыгледзься, — раіла суседка.

— Ды ўжо ж трэба будзе, — сказала Варапаіха. — А дзяўчынка як любіць і даглядае яго! Ну проста, як родная маці.

— Чаму ж так яна? — зацікавілася суседка. — Хіба да яе прывезлі гэтае дзіця?

— Хто іх разбярэ? — паціснула плячыма Варапаіха.

Скажам прама: ні Варапаіха, ні яе суседка і ні другая суседка ніякіх злосных намераў не мелі. Ніхто з іх, каб пэўна ведаў, што дзіця яўрэйскае, і не падумаў бы ісці даносіць немцам. Яны самі пры выпадку схавалі б яго ад немцаў. Але таемнасць гэтай справы не давала ім спакою. Адкуль гэтае дзіця? Чыё? Як яно да іх трапіла? Чаму яны так неахвотна гавораць аб гэтым? Чаму такі шчыры ўдзел прымае дачка? Пакінуць усе гэтыя пытанні нявырашанымі не хапала сілы.

На Палявой вуліцы то ў тым, то ў другім доме заходзіла гутарка пра сям'ю Антона Карнейкі.

Так, напрыклад, у доме № 17 казалі:

— А Ліза Карнейка, кажуць, прывяла ў дом дзіця, невядома ад каго.

У доме № 21:

— Карнейкі ўзялі на выхаванне грудное яўрэйскае дзіця. Самі бедныя, а ўзялі. Добрыя людзі.

У доме № 14:

— Карнейкі на старасці абзавяліся дзіцём, і невядома чыё яно: ці то маткі, ці дачкі.

... Зімовы дзень быў такі ясны, ціхі і цёплы, што дзіўным здавалася, чаму снег не растае. У такі дзень вельмі не хочацца ісці ў хату. Не хацелася ісці і Лізе, хоць ёй і рупіла паглядзець на свайго «сына». Яна ж цэлую гадзіну не бачыла яго.

Яна не спяшаючыся ішла па сваёй Палявой вуліцы, якая пад снегам была такая прывабная, што не верылася, каб яе можна было праклінаць некалькі месяцаў у годзе.

Настрой у Лізы быў такі самы: ясны, ціхі і цёплы, як і надвор’е.

Раптам яна ўбачыла, што насустрач ідзе ён, той самы паліцай, Сымон Шаціла. Увесь яго выгляд сведчыў, што і ў яго настрой быў ясны, ціхі і цёплы.

Задрыжала Ліза, спынілася, пачала азірацца, куды б схавацца. Але схавацца не было куды. Шаціла тым часам, як стары знаёмы, ужо здалёк прывітаў яе:

— Добры дзень, паненачка! Кажу паненачка, бо ведаю ўжо, што вы незамужняя. Дазвольце ў такім разе праводзіць вас.

— Не, не, не! — замітусілася Ліза і пасунулуся ўбок, каб абмінуць яго, але ён са смехам загарадзіў ёй дарогу і сказаў:

— Ну чаго вы палохаецеся? Хіба я такі страшны?

— Страшны, страшны! — перарывістым голасам загаварыла Ліза. — У вас кроў на руках.

— Няўжо? — сказаў ён весела і жартаўліва паглядзеў на свае рукі. — Дзе? Адкуль?

— Я сама бачыла, як вы забілі жанчыну, — сказала Ліза.

— А-х, гэта! — бесклапотна прамовіў ён. — А дзе вы цяпер знойдзеце такога мужчыну, які каго-небудзь не забіў? На тое і вайна.

— Тут не вайна, а горш! У тысячу разоў горш! — крыкнула Ліза і зноў пасунулася яму ў абход.

Цяпер ён не затрымліваў яе, а пайшоў побач, хоць яна і спяшалася.

— Ну чаго вы так? — казаў ён ціхамірным голасам. — Каб вы захацелі выслухаць мяне, то ўбачылі, што справа зусім не такая, як вам здаецца. Вы прывыклі думаць так, як вас у школе прывучылі. А цяпер ужо можна паглядзець і з другога боку.

Ліза пусцілася бегчы. Гнацца яму не выпадала, і ён адстаў.

Калі Ліза з вялікім хваляваннем расказала аб гэтым матцы, тая спакойна сказала:

— Пакуль што нічога страшнага не бачу. Ніхто добры мець з ім справы не хоча, вось ён і стараецца з табой пазнаёміцца. Але хто цябе прымусіць весці з ім знаёмства? Можа, болей яго і бачыць не прыйдзецца.

— Я баюся, каб ён у хату да нас не палез, — сказала Ліза.

— Чаго ён палезе, калі яго не просяць? Ды, нарэшце, калі што якое, мы і да яго бацькоў можам звярнуцца — усё ж такі лічымся суседзямі, сваімі людзьмі. Хай ён сабе хуліганіць дзе-небудзь далей ад нас.

Аднаго разу бацька прыйшоў хмуры, як чорная хмара. Кінуў шапку і не здымаючы паліто, сеў каля стала. Маці і дачка са сціснутым сэрцам глядзелі на яго: якую бяду прынёс? Пасядзеўшы хвіліну, ён паглядзеў на іх і сказаў:

— А ці ведаеце вы, што людзі пра нас гавораць?

— Што? — стаіўшы дыханне, спыталіся разам маці і дачка.

— Гавораць, што наша дачка прывяла дзіця, — адчаканіў бацька.

— Ай! — пляснула рукамі маці. — Я так і думала! Як жа нам цяпер вочы людзям паказаць?

А ў Лізы нібы гара з плеч звалілася, і яна весела засмяялася.

— Што ж тут такога? — сказала яна. — Абы не ведалі, чыё яно.

Бацька і маці паглядзелі адзін на аднаго і ўсміхнуліся.

— Ох ты, дзіця яшчэ горкае! — сказала маці. — Ты нават не ведаеш, што гэта значыць. Гэта значыць, што цябе лічаць за сапраўдную маці без мужа.

Ліза пахмурылася крыху, падумала, а потым, крутнуўшы галавой, сказала:

— Ну і няхай сабе думаюць! Нічога мне ад гэтага не станецца.

— Не, Ліза, — сказаў бацька, — ад такіх плётак дзяўчына вельмі і вельмі можа пацярпець.

— Ты жывеш і будзеш жыць сярод людзей, — павучальна сказала маці, — і трэба думаць пра будучае. І з гэтым дзіцём цябе не захочуць браць, а калі яшчэ пойдуць такія чуткі... І навошта нам такое няшчасце?..

Ліза пачырванела.

— Мама! — сказала яна з дакорам. — Навошта ты так гаворыш? Хіба можна цяпер аб гэтым думаць?

— Калі ты не думаеш, то мы абавязаны думаць, — строга сказаў бацька.

— Плёткі, кажаш, — сказала далей маці. — А што ты будзеш рабіць, калі кожны добры чалавек, пачуўшы гэтыя плёткі, будзе цурацца цябе, як заразы? Не будзеш жа ты сама забягаць ды тлумачыць, што гэта плёткі.

Ліза гатова была скрозь зямлю праваліцца ад сораму. Не за сябе і не за плёткі, а за той паварот, які прыняла размова. Нешта такое крыўднае і зневажальнае для іх усіх адчувалася ў гэтых словах, а бацькі нібы гэтага і не заўважаюць.

— Мамачка! — усклікнула Ліза, хаваючы твар на плячы маткі. — Не трэба так гаварыць, не трэба.

— Дзеля твайго шчасця і чэсці трэба гэтае дзіця аддаць на выхаванне ў якія-небудзь яслі, — прамовіў бацька. — Мне казалі, што і цяпер недзе яны ёсць.

Лізу нібы хто па галаве стукнуў.

— Ніколі! — крыкнула яна, адхіснуўшыся ад маткі. — Ніколі!

— Ціха, ціха! — сказала маці. — Для хлопчыка нічога дрэннага не будзе. Ён жа нічога яшчэ не разумее і будзе гадавацца, як іншыя дзеці. Ты думаеш, мы не любім і не шкадуем яго? Але і цябе мы павінны шкадаваць: ты ж сапсуеш усё сваё жыццё, ты ж маладосці не бачыш.

Фелікс прачнуўся і крыкнуў. Ліза кінулася да яго. Насустрач ёй працягнуліся ручкі і засвяціліся шчаслівыя вочкі тым самым шчырым дзіцячым смехам, які можа скарыць усё жывое, калі не лічыць фашыстаў. Ліза прагна схапіла яго і прыціснула да сваіх дзявочых грудзей.

Бацька тым часам тлумачыў:

— Мы ж не скажам, хто ён такі. Мы як-небудзь аформім яго іначай. І будзе сабе ён жыць спакойна, не горш, як тут. Родныя маткі і то разлучаюцца са сваімі дзецьмі, а табе чаго псаваць сваё маладое жыццё?

— Не, татачка, — цвёрда сказала Ліза, — я яго не пакіну. А калі яму прыйдзецца ад вас ісці, то толькі разам са мной.

— Вось і рабі з ёю, што хочаш, — развяла рукамі маці.

Але ў тоне яе зусім не было суровасці. Хто-хто, а яна ў першую чаргу магла адчуць і зразумець усё тое хараство душы, якое выяўляла іх дачка.

Хоць і вельмі цяжкія мінуты пражыла Ліза ад гэтага неспадзяванага наступлення бацькоў, але барацьба была нядоўгай. Спачатку здалася маці, а потым яны, ужо разам, скарылі і суровага бацьку.

Жыццё пайшло па-ранейшаму. Але ў Лізы застаўся след, нібы яна дакранулася да чагосьці бруднага. Яна яшчэ больш стала ўхіляцца суседзяў; ёй усё здавалася, што на яе глядзяць неяк асабліва. Нават калі хто спачуваў і хваліў яе, ёй было непрыемна.

Толькі са сваім дзіцем яна адпачывала душою і забывалася на ўсе непрыемнасці. Ды яшчэ было вялікае шчасце, калі дайшлі звесткі, што немцаў разграмілі пад Масквой. Успыхнула надзея, што хутка скончыцца гэтая ноч, што прыйдзе з Усходу святло. Але паступова ўсё заціхла — ноч панавала...

## VI

Надыходзіў канец зімы. Палявая вуліца зноў пагражала ператварыцца ў балотную. Жыхары яе ўжо страцілі цікавасць да дзіцяці. Пасля меркаванняў усе згадзіліся ўсё ж такі на тым, што яно яўрэйскае. Ну і хай сабе жыве шчасліва! Каму патрэбна, каб яго забілі? Плёткі спыніліся, нават усё больш і больш было чуваць, што Лізу за гэта хваляць, паважаюць.

Адно толькі вельмі непакоіла Лізу: каб не даведаўся звер-паліцай. Яна сустракала яго яшчэ разы са два, але ёй удавалася загадзя схавацца. Часам яна бачыла, як ён ідзе каля іх дома і пазірае ў вакно. Яна з жахам адхінулася ўбок. Мусіць ён яшчэ не ведае. Але ці доўга так будзе?

І вось аднаго разу, калі бацькоў дома не было, яна ўбачыла, што па вуліцы ідзе ён і немец. Яны глядзелі на яе дом, а потым... завярнуліся на двор! Ліза вымушана была напружыць усе сілы, каб устаяць на нагах. Інстынктыўна кінулася да соннага дзіцяці і прыкрыла яго хусткай.

Страшныя крокі набліжаліся. Вось ужо стук у сенцах — і яны ўвайшлі ў хату.

— Добры дзень! — весела сказаў Шаціла.

Ліза нічога адказаць не магла, а толькі глядзела на іх вялізнымі вачыма. Немец моўчкі і сурова агледзеў пакой, зазірнуў у Лізін куток, але дзіця не заўважыў.

— Мы прыйшлі паглядзець, хто тут жыве, — сказаў Шаціла.

— Мае бацькі, я і... ды вось паперка, — і яна падала загадзя падрыхтаваную паперу немцу.

У ёй было сказана, што муж і жонка Карнейкі працуюць на чыгунцы, а дома ў іх дачка-вучаніца і васьмімесячны сын.

— Я, я, — сказаў немец, не пацікавіўшыся малым дзіцем, і павярнуў назад.

Але Шаціла прыпыніўся і спытаў:

— А дзе ж дзіця?

У Лізы заняло дух.

— Спіць, — ледзь вымавіла яна.

— Пакажыце, — сказаў Шаціла і пайшоў у другі пакой, дзе на ложку спала дзіця.

— Не чапайце! Яно спіць! — крыкнула Ліза і загарадзіла сабой ложак.

Немец пачуў, спыніўся і спытаў:

— Вер іст дорт?

— Кіндэр, — адказаў Шаціла і сцягнуў хустку.

Дзіця заплакала. Немец пераканаўся, што гэта сапраўды «кіндэр», і зноў павярнуў да дзвярэй.

— Дык вось якое чорненькае дзіця нарадзіла ваша маці на старасці! — засмяяўся Шаціла.

Ліза схапіла хлопчыка на рукі і стала перад паліцаем, гнеўная, прыгожая.

— Забівай тады разам! — крыкнула яна, апякаючы яго вачыма.

— Што вы, што вы! — сказаў ён лагодна. — Я толькі хацеў пацікавіцца. Жывіце шчасліва!

І ён пайшоў за немцам.

Ліза апусцілася на ложак знясіленая. Значыцца, ён ведае! І маўчыць... Чаму? І ці доўга ён будзе маўчаць? Можа, сёння, можа, зараз жа яны і вернуцца...

Нічога яшчэ не вырашыўшы, Ліза пачала збіраць у клунак свае рэчы. І тое хочацца ўзяць, і тое патрэбна — клунак выходзіць надта вялікі. А разлічваць трэба толькі на сваю спіну і на свае ногі. Ды і для дзіцяці патрэбна месца. Трэба прыстасаваць яго так, як ходзяць жанчыны на Усходзе, або цыганкі.

За гэтым засталі яе бацькі.

— Што ты такое робіш? — здзівіліся яны.

Ліза расказала, што адбылося.

— Трэба ўцякаць, — сказала яна. — Цяпер, зараз жа...

— А куды ты пойдзеш? — спытала маці, ужо не стрымліваючы сваіх слёз.

— Не ведаю, — адказала Ліза.

Вось яно, тое чорнае, страшнае, чаго так баяліся бацькі! Нават брудныя плёткі здаваліся цяпер нявіннай забавай. Куды ісці? Што чакае іх бедную Лізу? І дзеля чаго? Завошта? Што важней — ці адзіная маладая дачка, ці гэтае чужое дзіцянё? А праз яго дачка можа загінуць, а ў лепшым выпадку мець такія пакуты, якія горш за смерць.

— А каб аддаць дзіця, як мы казалі, то і яму было б лепей, і ёй, і нам, — выказаў сваю думку бацька.

— Татачка, я ж казала, што з ім не разлучуся, — упарта сказала Ліза. — Ды цяпер думаць аб гэтым позна. Зараз трэба пайсці хоць куды, каб пераначаваць, а потым, можа, да цёткі дабрацца.

— А як дабрацца? — сказала маці. — Па чыгунцы цяпер не прыедзеш. А па дарогах больш за сто кіламетраў. А зараз куды хочаш ісці?

— Да Мані, — сказала Ліза, спешна збіраючыся.

— Чаго так спяшацца? — заўважыў бацька. — А можа, ён нічога не думае рабіць? Маўчаў жа да гэтага часу.

— Я не ведаю, што ён думае, — адказала Ліза. — Ведаю толькі, што ён звер і здраднік, і ад яго ўсяго можна чакаць.

— А можа, пайсці да Кандрата і папрасіць іх, каб не чапалі? — нясмела прапанавала маці.

Бацька зморшчыўся і пацёр сабе лоб.

— Цяжкі чалавек, гэты Кандрат, — сказаў ён. — Ніколі мы з ім не былі прыяцелямі. Але ў такой справе можна было б паспрабаваць.

— Ні ў якім разе! — крыкнула Ліза. — Ды і не бацьку прыйдзецца прасіць, а сына. Гэта значыць, зусім аддаць сябе ў рукі звера. А ці можна спадзявацца на яго, калі ён нават і абяцае? Нават і без яго можа дайсці. Калі ён даведаўся, значыцца, ведаюць і гавораць іншыя людзі. Усё роўна кожную хвіліну прыйдзецца чакаць і дрыжаць. Вам самім давядзецца дрыжаць праз мяне... Я не магу так, не магу!..

Бацькі павінны былі прызнаць, што разважанні дачкі зусім слушныя.

— А чаму абавязкова сёння? — сказаў тады бацька. — Я думаю, што сёння смела можна пераначаваць. Трэба ж абмеркаваць, што і як рабіць.

Ліза крыху супакоілася, згадзілася. На сямейнай нарадзе пастанавілі: Ліза заўтра пяройдзе да сваёй сяброўкі, а бацькі будуць шукаць на рынках падводу, якая ішла б у бок Навасёлак, што на Бягомльшчыне, дзе жыве цётка Маланння. За некалькі дзён, з перасадкамі, даехаць можна будзе.

— І для адной такая дарога пакутная, — заплакала маці, — а з дзіцём як? Як яго карміць, спавіваць? Ох, Ліза, Ліза, што ты нарабіла!..

Ад гэтага папроку Ліза адчула сапраўдны фізічны боль.

— Мамачка! — Ліза прытулілася да маткі. — Мне прыйдзецца пацярпець толькі некалькі дзён. А якія ж гэта пакуты ў параўнанні з тым, што церпяць мільёны нашых людзей!

— Ім даводзіцца цярпець не па сваёй волі, а ты — па сваёй.

— Не, мама, і я не па сваёй. Ці было б гэта, каб не вайна? Немцы прымусілі і мяне, і вас, і ўсіх.

— Ну, добра, хай будзе так, — сказаў бацька. — Але што цябе там чакае? Як спаткае цябе гэта Маланння? Ёй самой, мусіць, есці няма чаго. Як ты думаеш, старая? — звярнуўся ён да жонкі.

— Я ведаю толькі, што сястра мая не адмовіцца памагаць, чым толькі можа, — адказала жонка.

— Аб гэтым не турбуйцеся! — падхапіла Ліза. — Абы прытулак, а зарабіць на хлеб я здолею.

— Не надта ты зарабляла да гэтага часу, — усміхнуўся бацька.

— Калі трэба будзе, здолею, — упарта паўтарыла Ліза.

Яна была ўпэўнена, што для свайго дзіцяці яна ўсё можа зрабіць. Абы толькі ўхіліцца ад гэтай небяспекі.

Доўга яшчэ гутарыла сям'я ў гэты крытычны для яе вечар. Самае цяжкае становішча было ў дачкі, а самае цяжкае гора ў яе бацькоў. Хоць яны даўно прымірыліся з «мацярынствам» дачкі, хоць самі яны шчыра палюбілі дзіця, але ў гэтыя мінуты яны аніяк не маглі адагнаць думкі: каб не гэтае дзіця, не было б ніякага няшчасця, жылі б яны па-ранейшаму, а цяпер...

На другі дзень Ліза пайшла да Мані. З ёю пайшла і маці. Яны прыйшлі да уросшай у зямлю трухлявай хацінкі. Кватэра, у якой раней жыла Маніна сям'я, згарэла ў часе бамбёжкі. Маці з дзіцем засталася на вуліцы, а Ліза ўвайшла ў хату, каб спачатку перамовіцца з сяброўкай. У нізкім цёмным пакойчыку Манін бацька, настаўнік, на нейкім прыстасаванні рабіў з бляхі каробачкі для ваксы, дзесяцігадовы хлопчык яму дапамагаў. Маці чысціла бульбу, ля яе поркалася шасцігадовая дзяўчынка. Мані дома не было.

Ліза не ведала, што ёй рабіць: ці прасіцца зараз самой, ці чакаць Мані, ці ісці па маці.

— А хутка яна прыйдзе? — нясмела спытала Ліза.

— Яна тут недалёка, — адказала маці. — Можна паклікаць. Схадзі, Віця.

— Дзякую, — сказала Ліза, — тады і я з ім пайду.

Сказаўшы на вуліцы, каб маці пачакала, Ліза пайшла з хлопчыкам. Праз некалькі двароў ён зайшоў у дом і выклікаў Маню. Ліза пачала тлумачыць ёй...

— Добра, я папрашу бацьку, — сказала яна проста і рушыла дадому.

Ліза і маці засталіся на вуліцы. Ім здавалася, што яны чакаюць доўга-доўга, нібы жабракі якія...

Нарэшце выйшла Маня і сказала:

— Заходзьце, калі ласка.

Калі яны ўсе ўвайшлі ў хату, то здалося, што больш ужо ніводзін чалавек не мог бы сюды праціснуцца.

— Як бачыце, у нас не надта многа вольнага месца, — горка ўсміхнулася гаспадыня. — Але нічога, будзем як-небудзь мірыцца.

— Мой ложак будзе вашым, — сказала Маня.

— А ты дзе? — спытала Ліза.

— А гэта ўжо не твая справа, — засмяялася сяброўка.

— Выбачайце нас, — сарамліва сказала Лізіна маці. — Мы вам нядоўга будзем перашкаджаць...

— Нічога, нічога, — сказаў бацька. — Свае людзі.

Маці Лізы пайшла дамоў з такім адчуваннем, нібы зрабіла нейкую прыкрую і недарэчную справу. Дома было яшчэ горш: ціха, пуста, сумна. Старыя адчувалі сябе так, нібы з хаты вынеслі нябожчыка. І зусім нецікавымі зрабіліся ўсе справы, якімі яны да гэтага жылі. Адна толькі думка ў галаве: якія пакуты чакаюць іх маладзенькую дачку? Можа, яна ніколі не вернецца? І аднекуль з глыбіні ўпарта лезла недаўменнае пытанне: навошта ўсё гэта патрэбна было?..

Ліза прасядзела ў Мані пяць дзён, пакуль бацька знайшоў чалавека, які мог падвесці яе кіламетраў трыццаць—сорак. Дні гэтыя здаваліся ёй цяжэйшымі за папярэднія: уціснулася да чужых людзей з дзіцем і сядзіць, не ведаючы, што рабіць. Хоць Маня завіхалася каля яе, хоць гаспадары глядзелі на яе спачувальна, Ліза адчувала сябе лішняй. Так непрыемна было, што яны перашкаджаюць людзям. Лізе ўсё здавалася, што гаспадары незадаволены. Часамі яна адчувала нібы здзіўленне: чаго яна тут? Чаго ёй некуды трэба ехаць? Чаму яна адарвалася ад роднага дому?

Лепей за ўсіх адчуваў сябе галоўны герой. Нібы разумеючы адказнасць становішча, плакаў ён толькі ў самых неабходных выпадках, калі ніякага другога выхаду не было. Мог досыць доўга ляжаць спакойна і паглядаць, што робіцца на свеце. Мог нават самастойна сядзець і займацца доследамі над рознымі карыснымі і бескарыснымі прадметамі, якія трапляліся яму ў рукі. Але ўсе з'явы і доследы зараз жа забываліся, калі перад ім з'яўляўся твар дарагой «мамы». Тады ўся яго радасць і шчасце, усе яго пачуцці накіроўваліся на яе адну і адразу праганялі ўсе яе згрызоты. І тады ўжо Ліза добра разумела, дзеля чаго яна адарвалася ад дому...

Нарэшце надышоў час ад'езду, яшчэ больш цяжкі, як гэтае сядзенне. Чалавек мог падвесці трыццаць кіламетраў, а далей Ліза сама павінна была шукаць выйсце...

— Хай будзе табе абаронцам і дапамогай гэтае дзіця, — сказаў на развітанне бацька. — Можа здарыцца, што там, дзе цяжка і небяспечна маладой дзяўчыне, будзе лягчэй жанчыне з дзіцем.

Бацькава пажаданне часткова спраўдзілася. Хоць дарога, перасадкі, чаканні выпадку, начлегі занялі цэлы тыдзень, але з дзіцем дзяўчына мела больш спачування і дапамогі, чым мела б адна.

***Першая публікацыя.***
***Падрыхтоўка тэксту Марыі МІЦКЕВІЧ.***

Алена ТУЛУШАВА

# ПОБАЧ ХОДЗІЦЬ

*Апавяданне*

Выходзячы з электрычкі, Антон адразу заўважыў яго. Здаецца, больш за год не бачыліся, ды яшчэ б столькі. Антон нават не разглядзеў твару Касціка, проста пабачыў бакавым зрокам знаёмы хваравіты жэст: мітуслівае прыглажванне касога чуба. Гэтай нервовай звычцы ўжо гадоў дваццаць. Касцік, захутаны ў нейкае рыззё, муляўся каля падножжа лесвіцы ў кампаніі двух падобных тыпаў. Яны як бы знарок падыходзілі да мінакоў і гэтак хутка адыходзілі, згорбіўшыся, калі ім адмаўлялі.

Антон азірнуўся. Іншага выхаду са станцыі не было. Да яго падыдуць дакладна, «сваіх» пазнаюць нават праз шмат гадоў. Антон прыгадаў хітрасць, калі трэба было ў старэйшых класах «зліняць» з ліцэя пасярод урокаў паўз уедлівых ахоўнікаў. Ён прыкладаў да вуха тэлефон і пачынаў выдаваць, што гаворыць з маці: «Так, мам, ага, бачу тваю машыну, бягу-бягу, прабач, доўга пераапранаўся». Звычайна ахоўнікі не чапалі.

— Так, Пётр Аляксеевіч! Канешне. Я вас зразумеў. Давайце паспрабуем нейкія іншыя варыянты. Вас якія даты цікавяць? Мы што-небудзь прыдумаем. У мяне пад рукой няма камп’ютара, зараз дабягу дадому, адразу змагу вам адпісацца! — стандартнага дыялогу хапіла на ўсю лесвіцу.

І вось Касцік неяк няўпэўнена аддзяляецца ад кампаніі і рухаецца ў бок Антона. Вось яны ўжо за два крокі адзін ад аднаго. Касцік намагаецца нязмушана ўсміхнуцца. Узнімае руку, напэўна, паляпаць па плячы. Антон, хутка сцяміўшы, ловіць руку Касціка і моцна паціскае. Ледзь адсунуўшы тэлефон, гучна шапоча: «Здароў, братан! Рады цябе бачыць! Сто гадоў! Як сам?» І, не дачакаўшыся адказу, спяшаецца: «Так-так, канешне, я з гэтым згодны. Але вы і маю пазіцыю зразумейце, гэта ж поўны абсурд атрымліваецца. Дзеянні

---

*__Тулушава Алена Сяргееўна__ нарадзілася ў 1986 годзе ў Маскве. Скончыла Інстытут псіхатэрапіі і клінічнай псіхалогіі і Інстытут псіхааналізу. Працавала ў Францыі і ЗША. Цяпер — старшы медыцынскі псіхолаг у Цэнтры па рабоце з падлеткамі (г. Масква).*

*Друкавалася ў часопісах «Наш современник», «Московский вестник», «Подъем», «Вертикаль — XXI век» (Расія), «Белая вежа», «Нёман», «Новая Немига литературная» (Беларусь), у літаратурных выданнях шэрагу замежных краін. Аўтар кніг апавяданняў «Чудес хочется» (Москва, 2016), «Виною выжившего» (Минск, 2016).*

*Лаўрэат V міжнароднага форуму славянскіх літаратур «Золотой Витязь».*

*Творы перакладаліся на арабскую, венгерскую, італьянскую, кітайскую, балгарскую, беларускую, сербскую мовы.*

супрацоўнікаў непрадуктыўныя». Яшчэ некалькі метраў Антон адчувае, што Косцік няўпэўнена пляцецца ззаду. Антон усё ідзе і ідзе, з цяжкасцю намагаючыся не пераходзіць на бег. Натоўп вячэрніх пасажыраў паступова распаўзаецца па завулках. Антон працягвае гаварыць гэтак жа гучна і абурана, пакуль не мінае кварталы тры. Пранесла…

Пранесла? Паварочваецца. З палёгкай уздыхае. І адразу ж аблівае жарам, быццам у лазню зайшоў, — накатвае пачуццё сораму. І следам — дзіцячыя малюнкі, эпізоды, жахі, бясконцыя кашмары апошніх гадоў… Яшчэ не вядома, што горш: гаворка з Косцікам ці іх агульныя ўспаміны.

І вось ужо Антон як быццам не на маркотнай зімовай вуліцы спяшаецца дадому пасля змены, а там, у нетаропкім леце, якое стала мяжой яго дзяцінства…

У той дзень яны малявалі поле бою: выводзілі на пяску размяшчэнне войскаў, падзялялі лініі фронту. З ганка іх паклікаў Мішка Батон. Мянушку такую далі, таму што тлустым быў. Перабудова, крамы пустыя, бацькі без грошай, пацаны ўсе худыя, а гэты — як калабок. Вось і пацвельвалі ад зайздрасці. Бацька Батона кіраваў нейкім судом, яго бачылі рэдка. А брат працаваў на заводзе, па вечарах хадзіў на падпітку і «адвешваў люлей» усім, на каго малодшы паказваў. Потым брату надакучыла малых лавіць, і ён змайстраваў Батону велізарную рагатку. Але каго ж здзівіш рагаткай, нават велізарнай? Залезь на дрэва (калі, канешне, пуза не перашкаджае) — наламай колькі хочаш гэтых рагатак. Потым брат змайстраваў яшчэ і асаблівыя «патроны». Вечарам Батон выйшаў са сваёй рагаткай на ганак. Хлапчукі былі захоплены гульнёй і толькі па звычцы павярнуліся на рыпенне дзвярэй пад’езда, але, убачыўшы Батона, агідліва адвярнуліся.

— Гэй! — крыкнуў Батон, але ніхто не паглядзеў на яго. — Зараз як стрэлю! — ён навёў рагатку на чародку хлапчукоў.

Першым выпрастаўся Лёха.

— Давай, страляй! Што, слабо?

Астатнія хлапчукі таксама пачалі падымацца і, дзелавіта расправіўшы плечы, сталі пацвельвацца з Батона.

— Круты, так? Стрэль, рызыкні!

— Патрапіш — трымайся!

— Дык зірніце, ён нават яе не зарадзіў! Ну, лашок! — Антон разам з усімі спаборнічаў у кпінах.

Батон патрымаў хлопцаў некалькі імгненняў пад прыцэлам і апусціў «зброю». Потым дастаў з кішэні жменьку патронаў і марудна прыцэліўся. Хлапчукі з цікавасцю глядзелі. Рагатка, ужо зараджаная, зноўку ўтаропілася на сяброў, потым няспешна павярнулася направа на стары патрэсканы дуб і крыху падалася назад ад моцнага нацяжэння. Хлоп. Батон адпусціў цеціву.

Далей… Антон памятаў толькі, як зусім побач з глухім ускрыкам зваліўся Косцік. Антон як быццам у замаруджанай здымцы павярнуў галаву і агаломшана пачаў узірацца ў сябра, што скурчыўся каля яго ног. Побач з ім валяўся акрываўлены «патрон» — завернуты гаплікам цвік.

Прывялі дарослых, пабеглі лавіць Батона. Антон прыгадваў урыўкамі. Проста кадры, адзін за адным, як быццам замерлыя назаўсёды. Ніхто не мог зразумець: ці то цвік адскочыў ад дрэва, ці то змяніў траекторыю, і, шалёна круцячыся, высвідраваў Косціку вока.

Антон потым ездзіў з мамай да Косціка ў бальніцу. Той сядзеў на ложку з залепленым бінтамі вокам і бойка балбатаў:

— Я цяпер як пірат, скажы?! Я сваіх папрашу чорную павязку набыць. Шкада, доктар сказаў, што хутка буду як новенькі — я б піратам застаўся! Вось мы наваляем гэтаму таўстуну!

Па дарозе дадому ў рыпучым трамваі Антон распавядаў маме, як яны Батону зробяць «цёмную». Мама чамусьці бязгучна плакала і абдымала Антона. А потым прыціснула да сябе і пачала шаптаць яму ў самае вуха хутка-хутка: «Маленькі мой, самы родны! Абяцай мне, калі ласка, ніколі… ніколі, чуеш? Не падыходзь да гэтага Мішкі! Калі ласка, ніколі больш не кпі з яго! Я табе набуду прыстаўку! Мы накопім і набудзем! Ужо ў наступным месяцы, чуеш? Толькі абяцай, што ніколі-ніколі не будзеш гуляць у вайну на вуліцы! Абяцаеш?»

Антон хацеў запярэчыць: «Як жа не гуляць у вайну? У што ж тады? І як наваляць Батону, калі да яго не падыходзіць?» Але мама ўсё плакала і плакала, і ўжо пасажыры неяк трывожна паглядалі на іх. Тады Антон пасунуўся і па-даросламу, як рабіў бацька, пагладзіў яе па спіне: «Мам, ты супакойся. Усё будзе добра. Я табе абяцаю».

Ці стала добра — цяжка сказаць. Стала па-іншаму. За пару месяцаў двор спусцеў. Некага выправілі да бабулі, некага трымалі дома, некага пачалі цягаць з сабою на працу.

Антону набылі прыстаўку. Як высветлілася потым, маці прадала свае завушніцы з рубінамі — падарунак бабулі. Даведаўся гэта Антон ужо будучы адлічаным студэнтам, калі яму кроў з носу патрабаваліся грошы. Дзікім і бязглуздым падаўся яму такі ўчынак маці. Дваццацігадоваму Антону, якога «паставілі на лічыльнік» за наркотыкі ў пазыку, здавалася, што менавіта тыя завушніцы, па-дурацку прададзеныя маці, змаглі б вырашыць усе яго праблемы…

Косціка выпісалі толькі праз тры месяцы. Потым ён яшчэ да самага Новага года ездзіў па розных санаторыях. Яго мара застацца піратам здзейснілася. Вока ўратаваць не змаглі, і Косцік хадзіў з павязкай.

А Батону так ніхто і не наваляў. На наступны дзень яго адвезлі ў вёску. Праз пару тыдняў некуды з’ехала і ўся яго сям’я. Больш іх не бачылі.

Антон і не заўважыў, як дайшоў дадому. Настрой стаў невыносным. Ён выцягнуў з кішэні жменю драбнаты ў пошуках ключа ад дамафона.

— Чорт, ключы! — ён зморшчыўся, убачыўшы на далоні ключы ад харчаблока. — Ідыёт, забыўся здаць ахове!

Антон разгублена замёр перад пад’ездам. Снег валіў вялізнымі шматкамі… Заўтра ў яго выходны. А цяпер? Не пакінуў ключы — зноў цягнуцца ў Маскву, а гэта, лічы, палова дня згубленая! Гэты вечны стрэс! Стрэс-с-с — слова якое ж агіднае! Як пазногцямі па школьнай дошцы.

Антону раптам захацелася плакаць. А следам накаціла злосць ад жалю да самога сябе.

Адчыніў дзверы кватэры, машынальна прамармытаў: «Прывітанне, дзед!» Позірк зачапіўся за родны скейт.

— А ну вас усіх! — ён шпурнуў сумку, схапіў дошку і, прыхлопнуўшы дзверы, збег па лесвіцы. Каля пад’езда прыгадаў, што забыўся ў сумцы плэер, і некалькі секунд стаяў у нерашучасці: вярнуцца ці не.

— Ды вашу маць! Надакучылі! — прашыпеў ён камусьці ў неба. — Ці супакоюся я сёння нарэшце?! Так пакатаюся, пляваць!

Ён ішоў па заснежаных вячэрніх вуліцах. Мінакі паглядалі на заціснуты пад пахай скейт, на яго двухдзённае шчаціннe.

— Чаго ўтаропіўся? — даваў ён у думках адпор кожнаму. — Скейта не бачыў, таўстун? А ты, сінюшны, толькі бухаць умееш? — пры гэтым Антон адводзіў позірк ці сарамліва ўсміхаўся, за што сердаваў на сябе яшчэ болей. Хацелася самоты. Толькі так, здавалася, можна было вызваліцца ад бясконцай няёмкасці і сораму. Перад роднымі, дзяўчынай, калегамі, знаёмамі.

Усё ішло не так. Ключы, забыты плэер, што вырак яго на дыялог з уласнымі думкамі. Гэтыя механічныя вуліцы, што кіруюцца насустрач, ліпкі слёзны снег, непатрэбныя мінакі. Вечар не задаўся! Ён ішоў, намагаючыся сціснуцца да кропкі, незаўважнай свету.

Нарэшце спыніўся. Ногі самі ўзгадалі дарогу: старая пляцоўка над цеплатрасай. Маленькая, канешне, і забруджаная, але затое снегу няма: ён раставаў, яшчэ не кранууўшы асфальту, пакідаючы мокрыя сляды. Праўда, Антон не адзін апынуўся такім разумным. Двое хлапчукоў гадоў трынаццаці развучвалі пераварот на скейце па відэа з тэлефона. Яны адарваліся было ад экрана, але, зірнуўшы на Антона з бессаромнай падлеткавай паблажлівасцю, адвярнуліся. Ён кіўнуў ім, нахіліўшыся, як быццам зацягнуць кеды.

— Чаравікі! Ну і прыдурак! — на ім былі зусім недарэчныя зімовыя чаравікі на ліпучках. Для прыліку ён іх паправіў, але сутнасці гэта не змяняла: чаравікі былі на тоўстай трактарнай падэшве, літаральна тыдзень таму выцягнутыя з антрэсоляў — надта ж зябка стала чакаць на ўсіх перасадках да працы.

— Пофіг, усё роўна ўжо! — прабурчэў ён досыць гучна. Пачуўшы сваё «пофіг», ён мімаволі ўсміхнуўся. І праўда, каму якая справа. Не «павырабляешся», вядома, у такім абутку, але праветрыцца можна.

З плэерам было б лягчэй! Антон стараўся не заўважаць хлопцаў, але адчуваў іх цікаўныя погляды. Ён перабіраў у галаве любімыя матывы. Чаравікі жорстка фіксавалі ўздым, праз падэшву амаль не адчуваліся рухі дошкі, але паступова ён перастаў нервавацца і, нарэшце, трохі выдыхнуў. Абрыўкі любімых матываў выціснулі калейдаскоп балючых успамінаў; ён круціўся на дошцы, трохі няўмела, але весела. Як быццам зноў быў падлеткам, які радуецца кожнаму нават нязграбнаму руху. Калі ён прысеў на парэнчы перадыхнуць, вакол ужо было пуста. Ён не заўважыў, як хлопцы кудысьці сышлі. Снег спыніўся. Ён адзін на гэтай чорнай асфальтавай выспе, а вакол усё як быццам беражліва запакаванае, загорнутае ў снег. Ціха. Прыслухаўся — быццам і на душы ўляглося. Цяпер можна дадому.

Ён ішоў назад. Струменьчыкі поту казыталі спіну пад талстоўкай, мокрыя пальчаткі калолі гарачыя далоні. Антон сцягнуў шапку. Прыемны халадок абдзімае. Настрой зусім выправіўся: думкі пра ўтульны вечар грэлі... Гарбаты з дзедам навернем! Пельменяў насмажу, з цыбулькай. Акурат яго футбол праз гадзіну пачнецца!

З дзедам жыць пацешна. Ды і лягчэй, чым з бацькамі. Асабліва калі табе пад трыццаць. Можна, калі што, казаць, што за старым проста нагляд патрэбны (а то сёння калі ў трыццаць жывеш з раднёй — ужо недаробак нейкі). Дзед добры маўчаннем, сваім рытмам. Дзверы ў кватэру зачыніш — і як адрэзала ад мітусні. Калі бабуля была яшчэ жывая, дом дыхаў жыццём, рухаўся. Дзед таксама ніколі без справы не сядзеў, але як аўдавеў, то быццам цішэйшы стаў, больш павольны.

І Антону падабалася гэтая марудлівасць, няспешнасць, гэтае адасобленае жыццё. Ён адчуваў сябе тут абароненым. Як быццам у дзяцінстве, але не яго рэальным, а ў дзяцінстве з кніжак Гайдара, савецкіх фільмаў, бацькоўскіх апавяданняў. У яго не было піянерскіх лагераў на тры змены і школьных

гурткоў, не было важатых або іншых старэйшых, якія б даглядалі, падтрымлівалі. У яго дзяцінстве былі трывожныя погляды мамы, яе слёзы і татавы бясконцыя падпрацоўкі, пошукі грошай. А потым падпрацоўкі скончыліся, з'явіліся татавы бутэлькі. У апошнія гады ў бацькоў неяк выраўнялася, але чамусьці, як толькі ён заходзіў у іх кватэру, унутры ўздымалася трывога, нават жах.

З дзедам было спакойна. Не, яны з бабуляй не назапасілі грошай на чорны дзень. Проста абое былі родам з ваеннага дзяцінства, і ўся гэтая змрочная марнасць дзевяностых успрымалася імі як нешта, што абавязкова схлыне, пройдзе. Не блакада! А ўжо з астатнім справіцца можна.

Антон падышоў да пад'езда, палез у кішэню і зноў узгадаў пра ключы ад харчаблока. Добра, што-небудзь прыдумаем. Значыць, у Маскву заўтра. Нічога, вазьму скейт, там, дарэчы, у цэнтры заўсёды расчышчана, удосталь пакатацца можна. Аліссы патэлефаную, у кавярню запрашу, яна любіць выбірацца ў цэнтр, — ён усміхнуўся простаму вырашэнню тых праблем, якія яшчэ пару гадзін таму здаваліся цяжкімі і невыноснымі. У апошнія гады ён навучыўся выдыхаць і даваць сабе час на абдумванне, замест таго каб адразу адчайвацца. Эх, гэтую б здольнасць пераадрасаваць Антону-падлетку, якому жыццё здавалася беспрасветным.

Паднімаючыся па лесвіцы, Антон заўважае цень на другім пралёце каля смеццеправода. Цень рухаецца. Ды ці мала хто! Антон спрабуе суняць трывогу.

— Прывітанне!

— А! Прывітанне, брат! — Антон адказвае як на аўтамаце, нават усміхаецца злёгку. — Рады цябе бачыць! Як сам?

— Ды гэта... нармальна, — Косцік па звычцы глядзіць кудысьці ўбок.

Антон і сам да гэтага часу з цяжкасцю прымушае сябе глядзець людзям у вочы.

— Даўно не з'яўляўся! Ужо год, напэўна! Лячыўся?

— Ды не зусім... Два два восем[1]. Ну, сам ведаеш. Паўтара гады далі. Калі б не папярэдняе, умоўны быў бы. Але суддзя дакапаўся. Не выкруціцца.

— Бывае.

— Але цяпер усё, лячыцца еду.

— Вось малайчына! А куды?

— Пакуль не вырашыў. Але цяпер дакладна. Цяпер ужо назусім.

— Малойца! Усё правільна! — Антон спрабуе паволі пачаць абыходзіць Косціка, каб падняцца далей. Тэлефон застаўся ў кватэры, таму нядаўні трук не пройдзе.

— А ты як? — Косцік няёмка спрабуе запхнуць рукі ў кішэні пацёртых джынсаў, пераступаючы з нагі на нагу. На куртцы кішэні абарваныя, не схаваць прыпухлыя кулакі.

— Ды нічога, як усе. Руціна, сам ведаеш.

— Ты ўсё з дошкай? Не халодна?

— Ды не, выдатна!

— А мне вось нешта халодна. Адзення цёплага не засталося. Раздаў хлопцам, калі зразумеў, што пасадзяць. А вярнуўся, і няма нічога. Паесці б, сагрэцца. — Косцік відавочна вагаецца: — Можа, будзе ў цябе рублёў дзвесце?

— Не, Касцян, я вось катаўся, з пустымі рукамі! — Антон ведае, навошта Косціку грошы. І ў той жа час так не хочацца цяпер псаваць настрой. А з кож-

[1] 228 — артыкул Крымінальнага кодэкса РФ «Незаконнае набыццё, захаванне, перавозка, выраб, перапрацоўка наркатычных сродкаў, псіхатропных рэчываў і іх аналагаў».

най хвілінай размовы ўсё больш зацягвае тое цёмнае, страшнае, даўняе, што працінае знутры. У задняй кішэні ёсць сотні тры дакладна. Сунуць бы — і далей. Косцік адліпне, і можна будзе забыцца... Але ж зразумела, дзеля чаго грошы. Забыцца не выйдзе. Потым зноў накрые, усярэдзіне будзе сорамам гарэць, раз’ядаць. За несумленнасць сваю, за слабасць.

— Разумееш, каб на працу ўладкавацца, трэба вопратку нармальную купіць. А грошай жа няма дзе ўзяць. Я пакуль чакаю, хлопцы абяцалі дастаць. Вось з ежай горш. Хоць сагрэцца б. Я магу пачакаць, калі ў цябе дома ёсць. Ты не думай, я аддам — Косцік прыгладжвае доўгі чуб на левы бок. Яго сальныя валасы моцна парадзелі. — Як на працу ўладкуюся, усе пазыкі раздам. Цяпер ужо дакладна зразумеў, што гэта не маё!

Антон глядзіць на Косціка, і млоснасць накатвае ад гэтага люстранога адбітку яго самога сямігадовай даўніны. Выразы, думкі, інтанацыі...

— Не, брат, прабач, сам гэткі жа! Зэпэ — ушчэнт. Ты ж разумееш, з маім мінулым толькі на капейкі ўладкавацца можна, усе праядаюцца, сам у пазыках. Хочаш — заходзь! Я цябе вячэрай накармлю! Дзед заўжды рады гасцям.

І вось на нейкае імгненне Косцік як быццам замірае. Быццам асвятляецца ўся яго постаць нечым чалавечым… Антону хочацца зажмурыцца і аказацца зноў там, дзе ім гадоў дзесяць... Яны, брудныя, прыцягнуліся да Антона дадому. Да Косціка нявартa — там крыклівая бабка. Маці Антона таксама, вядома, бурчыць: «Ізноў на пустку хадзілі? Бруду ж нанеслі! Адлупцаваць бы вас абодвух!» Але яе бурчэння надоўга не хапае. Выпраўляе рукі мыць, і за стол. Набіўшы раты, яны жартуюць, смяюцца...

У сям’і Антона любілі і засцерагалі Косціка, яму часта дазвалялі заставацца на ноч. Яго так ласкава і клікалі «Косцік», памятаючы пра яго дзіцячае гора. Пройдзе ўсяго тры гады, і гэтае сяброўства павернецца бясконцым кашмарам, ужываннем, раскаяннем, новымі дозамі.

Антон глядзіць на Косціка. Ён усё разумее. І Косцік разумее. Ад таго горбіцца мацней. Яму б збегчы цяпер ад сораму, ды праклятая цяга скручвае, прымушаючы да апошняга прыніжацца дзеля грошай. Антон усё гэта праходзіў. Разам праходзілі. І моташна ад гэтага, і бяссілле скрануцца з месца не дае. Маўчанне зацягваецца. Косцік таксама не рухаецца, глядзіць пад ногі.

Знізу чуюцца крокі. У абодвух як быццам адлягло.

— Чаго стаіш, ключы забыўся ці што? — дзед глядзіць на Антона, павольна падымаючыся па лесвіцы.

— Дзед! Прывітанне! Ды не, вось сустрэўся тут... А ты чаго? — Антон гатовы дзеда расцалаваць, своечасова ён прыйшоў.

— У краму хадзіў. Папяросы скончыліся. Чаго тут ацірацца, калі ключы ёсць?

Косцік ледзь чутна прамаўляе «добры дзень» і адварочваецца, як быццам глядзіць у акно.

— А чаго ж сябар твой не зайшоў? — дзед павольна сцягваў чаравікі, прысеўшы на абутніцу.

— Косцік? Ды не, ён не зойдзе. Ён з тых, даўніх.

Дзед пакасіўся на Антона:

— З благіх тваіх, ці што?

— Ну так, з... з тых, якія ўжываюць, — ізноў гэтае пачуццё віны, сораму.

— І чаго вам карціць... Маладыя мужыкі. Ты ж хаця ўжо не дурэеш? — дзед, крэкчучы, падняўся, сцягнуў куртку. Антон стаяў, як быццам вінаваты школяр.

— Дзед, я ж табе казаў. Я ўжо сем гадоў як чысты. Інакш я б цяпер не працаваў, а вунь... як Косцік. Ды грошы б у цябе цягаў.

— Я б табе пацягаў! Дзелавы, — дзед накіраваўся ў ванну. — А ён чаго? Паліць дрэнь гэтую?

— Колецца, — ціха вымавіў Антон. — Так, думаю, так.

Антон стаяў у роспачы. Так бывала заўсёды, калі ён бачыў былых сяброў, калі заўважаў на вакзалах гэтыя дрыжачыя рукі, маніякальныя погляды. Потым доўга яшчэ не адпускала.

Дзед выйшаў з ваннай:

— Чаго стаіш? Пайшлі! Вячэры яшчэ няма, а матч праз паўгадзіны. Вунь нацякло з цябе.

Антон машынальна распрануўся, сцягнуў намоклую талстоўку і праціснуўся ў кухню. Дзед наліў вады ў рондаль, паставіў на пліту і прысеў побач.

— Паліць будзеш?

— Ды не, дзед, я ж не палю, ты ведаеш.

— Ну, гэта я так. Не вельмі ж ты радасны ад сустрэчы з сябрам... Гэта той, які без вока?

— Ён самы, Косцік.

— І чаго дурань колецца! І так дзяўчыну не знайсці, а тут яшчэ наркаманіць.

— Дзед, ну ў яго ж траўма.

— Ды я памятаю, што без вока. Але і сляпыя вунь жывуць і нічога.

— Я пра псіхалагічную.

— Гэта што такое? — дзед дастаў папяросы, але прыбраў у кішэню. — Назавуць жа яшчэ разумнымі словамі.

— Разумееш, дзед, гэта ж як смерць так блізка бачыць. Мне самому дагэтуль страшна. Мажа, адтуль усё і пачалося.

— А чаго яе баяцца, смерці? Раз побач ходзіць — яшчэ не хутка зазірне. Відаць, не падыходзіш ты ёй.

— Ды ладна б на вайне, а мальца на ўсё жыццё проста так пакалечыла, крыўдна!

— Гэта заўсёды крыўдна. Я вось, памятаю, у нас таксама дзеці калечыліся, дый паміралі ні за што, у вучылішчы.

— У вайну? Дык ты ж у эвакуацыі быў, у Азіі, хіба там шмат памірала? Кармілі, пэўна ж, добра.

— Кармілі добра, гэта так. У курсантаў паёк, як на фронце, каларыйны. Трэба ж было гэтых рабят неяк выгадаваць... Вучылішча... Гэта ў нас пад Саратавам лётнае вучылішча было. А калі ў Туркменістан у сорак другім эвакуіравалі — адна назва засталася. Дый тое потым памянялі на «лётны лагер Кара-Бугаз». Уяві — пустэльня бязмежная. Да найбліжэйшага мястэчка Кізіл-Арбат кіламетраў семдзесят. Увесь лагер — дзясяткі два вайсковых намётаў ды пара дашчаных хатак — для начальства і гасчасткі. І вакол самалёты стаяць, брызентам прыкрытыя. Вось табе і ўсё вучылішча... А крыху далей могілкі... у месяц двух-трох дакладна хавалі. Мне тады колькі — гадоў дзесяць, атрымліваецца, было? Бацька заданне даў — на фанерцы зорку маляваць, імя і дату. Помню, спачатку цяжка было — пыхкаў, усё хацелася прыгажэй, а сам плакаў. Малюю, а перад вачыма твар гэтага Пецькі ці Лёшы. Яны ж са мной усе за руку віталіся, вучылі рознаму: хто на гармоніку граць, хто вершы якія. Бацька пасля кожных пахаванняў падоўгу, бывала, сядзе і маўчыць. А потым казаў, маўляў, трымайся, Воўчык, гэта вайна. Часам за тыдзень дваіх маглі хаваць. Таксама ўсё побач хадзіла, смерць гэтая.

— Заразу, ці што, чаплялі?

— Ды не, маладосць, відаць, іх губіла. Самаўпэўненасць, запал, у неба хацелі.

— А як жа іх у неба пускалі, непадрыхтаваных?

Дзед рассеяна папляскаў па пінжаку, потым ізноў вывудзіў з кішэні змяты пачак «Явы».

— А як ты яго не пусціш? Іх дасылаюць з паперкамі, што ўсю тэорыю прайшоў, і з указам у пэўныя тэрміны падрыхтаваць для выканання баявых заданняў. А яны да гэтага самалёты толькі па кніжках вывучалі. Хлапчукі, дваццаці не было, толькі-толькі з-за парты. Бацька, колькі мог, іх нацягваў. Ты ўяві, хлопец з якой Якуціі. А тут спёка кожны дзень — сорак! У мяне, у хлопца волжскага, галава да абеду гула ад спёкі. А ім жа ўвесь дзень заняткі слухаць, потым у машыне распаленай сядзець, адпрацоўваць. Дый самалёты, сам разумееш, лепшыя на фронт адпраўлялі. А нам — старызна ды што прасцей. А калі яшчэ бура пясчаная...

Дзед пакруціў папяросу, крэхчучы пацягнуўся па запалкі, нечакана гучна працягнуўшы:

— Дзеці гэтыя — усе на фронт ірваліся! Эх, як куражыліся яны ў небе, вачэй не адарваць. Бацька лаяў іх страшна, і палётаў пазбаўляў, і нарады раздаваў. А ім што... Кожны ж лічыць, што смерць побач пройдзе, яго не кране...

Дзед задыміў.

— Не кране... Ад гэтай дрэні, кажуць, таксама паміраюць! — дзед з ухмылкай паказаў Антону дымлівую папяросу. — Дык што ўжо яе баяцца, смерць гэтую. Яна знойдзе, дзе прыбраць.

Антон узгадаў, колькі разоў сніўся яму кашмар пра той цвік, мог жа завярнуць крыху раней і тады пацэліў бы не ў Косціка, а ў яго. Колькі разоў пракручваў ён драбнейшыя дэталі, якія маглі ўсё змяніць. Ён паспрабаваў выбрацца з тых успамінаў, стаў разглядаць звыклыя прадметы на кухні. Паглядзеў на дзеда. Можа, што-небудзь раскажа. Добра было б, а то зусім цяжка на душы.

— Памятаю, гаспадарнік у нас быў — Васіліч — рахманы мужык. Яго таксама, як бацьку майго, на фронт не пускалі. Толькі бацьку з-за кваліфікацыі, каб маладых вучыў, а ў гэтага паловы ступні не было, адарвала на заводзе. Дык вось, вельмі кемлівы быў, бацька за яго трымаўся... Ён, разумееш, умеў неяк труны даставаць!

— Дык ужо ж проста геній! Лепш бы самалёты даставаў нармальныя! — Антону не падабалася размова, якая ўсё больш адсылала да тэмы смерці.

— Э-э, лёгкі бэрка! Гэта табе зараз на кожным рагу пахавальнае бюро, у кожным райцэнтры, бадай, ёсць. А ты ўяві, бліжэйшы аул — дзве гадзіны язды на разваленым грузавічку. Туды не павязеш хаваць, гэта на ўвесь дзень машыну займаць. Ды і мясцовыя насцярожана да нас ставіліся, і хаваюць яны па-свойму. А вакол вучылішча — пустыня. Зямлю капаць — марока. А калі не глыбока закапаць — дык ветрам хутка верхні пласт здыме, а там і падальшчыкі наляцяць. Без труны тут ніяк. Ды і чалавек сумленна хацеў за Радзіму ваяваць. Ён што, свайго месца не заслужыў на зямлі? Вунь іх колькі, да гэтага часу шукаюць тых, каго пахаваць не маглі! Лясы прачэсваюць, цэлыя раёны. Вялікая яна, зямля наша, забрала сабе, схавала, назад аддаваць не хоча.

— А як жа іншым курсантам пахаванне: так і баявы дух спрэс збіць можна?

Дзед падумаў, прыжмурыўся, ці то ад з’едлівага дыму, ці то па звычцы.

— Баявы дух... гэта справа такая... — дзед нечакана ўхмыльнуўся. — Памятаю, Васіліч неяк прыязджае, а ў яго ў машыне адразу дзясятак трун. Бацька пахмурна на яго глянуў, але што тут скажаш. Васіліч мужык талковы. Ён усё бацьку расклаў: маўляў, пакуль ён дзесяць разоў туды-сюды з'ездзіць, колькі машына кіламетраў накруціць, і так ледзь дыхае. А ім пра жывых клапаціцца трэба, раптам хто пакалечыўся або захварэў, а машыны няма.

— Круцель твой Васіліч быў.

— А як па-іншаму ў ваенны час! Яму ўсё вучылішча забяспечваць трэба і ежай, і вопраткай. А спагнанне з яго. Там жа ледзь што здарыцца — тлумачэнняў не прымуць. Жорсткі час быў!

— Усё адно, не па сабе неяк. Труны на запас.

— Ды гэта яшчэ што! Уся штука была ў тым, што захоўваць гэтыя труны не было дзе! Баракі занятыя. Лішніх пабудоў няма, нават свірана якога вольнага, дзе іх возьмеш, будматэрыялы? Не ставіць жа труны курсантам у палатку або сталовую!

Антон міжвольна ўхмыльнуўся:

— Ды ўжо ж, тавар не самы прыемны, пад ложак не схаваеш.

— Вось-вось. Ён іх за гаспадарчай часцю і паставіў. Курсанты ідуць, а тут — труны. Тэрыторыя маленькая, хочаш не хочаш натыкнешся. Не вытрымалі хлопцы. Спачатку проста наракалі на Васіліча. А потым пачалі крычаць. Да бацькі прыйшлі, забастоўка ў іх! Уяўляеш?

— Лагічна. Людзі ўсё ж такі! Маюць права.

— Ды якое ж права?! Вайна! Усіх пад трыбунал за такую справу маглі! Дзівак-чалавек, гэта ж савецкія салдаты, у ваенны час падрывалі дысцыпліну ў лётным вучылішчы! Іх па-добраму арыштаваць і адправіць у горад для разборак, ды каб хутчэй, каб агітацыю не разводзілі!

— Дзед, гэта ты такі разумны ўжо тады быў? Ці зараз зразумеў? — Антон усміхнуўся эмацыйнасці дзеда, што выяўлялася надта рэдка.

Дзед ухмыльнуўся:

— Ды не, я — што? Я тады перапалохаўся. Твары ў іх, разумееш... твары такія былі, калі ўвайшлі... Спалохаўся, што бацьку заб'юць... У мяне ж нікога акрамя яго і не было. Памятаю, уптай загады ўсе чытаў, што яму прыходзілі. Баяўся, што яго на фронт пашлюць... Але бацька з імі трымаўся цвёрда. Яны спачатку маўчалі, толькі пазіралі спадылба. Потым адзін, разумны такі хлопец быў, Пашка Лосеў, наперад выйшаў і кажа ўжо так няўпэўнена, быццам просіць, а не ультыматум ставіць. Я тады памятаю, адчуў, што адпускае мяне страх: не зробяць нічога бацьку. Шкада іх стала. Эх, малыя пацаны былі. Ім бы яшчэ жыць ды жыць...

Дзед затушыў цыгарэту.

— Дык чым скончылася?

— Чым скончылася? Дык перамогай, Антошка! 9 траўня — не ведаў, ці што? — дзед падміргнуў.

— Ды ну цябе, дзед! З трунамі што?

— З трунамі? — дзед дастаў пашытую памерлай бабкай хусцінку, выцер лоб, акуратна склаў яе і, як быццам няўзнак, пагладзіў. — Бацька доўга хлопцаў маўчаннем мучыў. А потым кажа — так, маўляў, і так. Пад трыбунал ён іх не адправіць. Дурняў малалетніх. Не для таго, маўляў, краіна іх вучыла, грошы марнавала, каб потым яны да фронту не дабраліся! Але за такія бунты з кожнага нарад па-за чаргой: адмыць всё вучылішча да бляску! Новыя труны такімі партыямі прывозіць не будуць, але і гэтыя назад не адправяць. А калі што не падабаецца, то няхай самі прыдумляюць, куды іх схаваць. Тэрмін — двое сутак. Хоць анучы свае перавядуць, каб схаваць, яму, маўляў, усё адно.

— Пашкадаваў, атрымліваецца...

— Пашкадаваў.

— А труны ж куды?

— А яны іх разабралі, — дзед хітравата ўсміхнуўся. — Склалі кучкамі, усе цвікі ды дошкі, як мае быць. І ў гаспадарчай адрыне ўздоўж сцяны прыхавалі. І месцы мала займаюць, і як быццам, разумееш, не труны, а проста дошкі ляжаць. А як спатрэбяцца — дык сабраць за паўгадзіны можна. Гордыя хадзілі, быццам як начлёта[1] перамаглі. Памятаю, потым бацька з Васільевічам сядзелі на ганку, выпіўшы, палілі, у неба глядзелі. Васіліч бурчэў: «Пашкадаваў, выходзіць?» «Вайна сама вырашыць, каго пашкадаваць, — сказаў бацька. — А хоць пару месяцаў пацанам яшчэ пажыць». Потым Васіліч супакоіўся. Успамінаць сталі хлопцаў, якія сышлі. А бацька яму жартам: «Васіліч, смерць — яна ж баба. Баба сваё барахло ўсюды прыме. А ў нас барахло ўсё непатрэбнае — замест трун дошкі ў хляве ды цвікі. Глядзіш, баба ж дурная, не зразумее, міма пройдзе». Таму, Антошка, чаго ж бабу баяцца. Ходзіць яна побач, ну і хай сабе ходзіць.

Дзед падняўся, паглядзеў на рондаль.

— Цьфу, дурань стары! Газ не ўключыў! Вось табе і пельмені!

Антон усміхнуўся:

— Ідзі, дзед, а то зараз футбол пачнецца. Я сам. Прыгатую — прынясу табе.

— А ты што ж, прапусціш пачатак?

— Ды ідзі-ідзі, фанат. Я па тваіх крыках і так разумею, што адбываецца.

Антону хацелася пабыць аднаму. Падумаць. Яму падабаліся байкі дзеда.

Для Антона яны ніколі не гучалі, як гэтыя павучальныя «А вось у наш час... што ў вас за праблемы ў параўнанні з нашымі... таму сядзіце і не ныйце»…

Калісьці такія маралі злавалі Антона, штурхалі на вуліцу запіць, занюхаць. Усе чамусьці лічылі, што яго можна вылечыць пастаяннымі папрокамі і ціскам. Колькі гадоў гэтае замкнёнае кола было не разарваць. Яны з Косцікам гадзінамі скардзіліся адзін аднаму, ненавідзячы ўвесь свет, апраўдваючы кожную новую дозу безвыходнасцю і варожасцю блізкіх… Гэта таксама была вайна. Гады сышлі ў Антона, каб зразумець, што толькі ты сам можаш выбраць, на чыім будзеш баку. Што пасярэдзіне застацца не атрымаецца. Гэтак жа, як і бегаць туды-сюды. Ён абраў. А Косцік... Косцік вырашыў застацца там. Яму як быццам і не было да каго ісці сюды. Ды і сіл, напэўна, не было. Занадта доўгай і цяжкой была яго барацьба за выжыванне.

У аповедах дзеда Антон любіў гэтую спакойную інтанацыю. Можа, і ў яго жыцці калі-небудзь настане такі час, калі пра ўсе свае страхі і траўмы ён будзе распавядаць гэтак жа размерана і ціха, як быццам усё здарылася ў далёкія-далёкія часы...

— Ну што ж вы робіце, бессаромныя! Хто вас панабіраў?! Ногі б адарваць! — пачулася з пакоя.

Антон ўсміхнуўся.

[1] Начлёт (*разм.*) — начальнік лётнага вучылішча.

***Пераклад з рускай Юліі АЛЕЙЧАНКІ.***

Наталля ЯКАВЕНКА

# ДЫЯЛОГ ЛІТАРАТУР У ЕЎРАПЕЙСКІМ КАНТЭКСЦЕ: КАМПАРАТЫЎНЫ АСПЕКТ

Існуе агульнапрызнанае меркаванне: у свеце столькі эстэтычных цэнтраў, колькі нацыянальных літаратур. У працэсе міжлітаратурнага дыялогу, падчас параўнання «свайго» і «чужога», у разуменні падабенстваў і адрозненняў адбываецца выпрацоўка агульных эстэтычных каштоўнасцей, ідзе пастаянны працэс фарміравання сусветнай культурнай прасторы, на што ў свой час звяртаў увагу вядомы лінгвіст Уладзімір Тапароў: «Суаднясенне-параўнанне таго і гэтага, свайго і чужога складае адну з асноўных і спрадвечных работ культуры, бо параўнанне, зразумелае ў самым шырокім плане (як і любы пераклад — з мовы на мову, з прасторы на прастору, з часу на час, з культуры на культуру), самым непасрэдным чынам звязана з быццём чалавека ў знакавай прасторы культуры, якое мае сваёй воссю праблему тоеснасці і рознасці, і з функцыяй культуры» [4, с. 7].

Літаратурная кампаратывістыка (ад лац. comparativus — параўнальны) — параўнальнае і супастаўляльнае вывучэнне літаратур — адзін з найбольш важных напрамкаў сучаснай філалагічнай навукі, актуальнасць якога цяжка пераацаніць ва ўмовах глабалізацыі культуры і ўзаемадзеяння нацыянальных літаратур. «Тэкст жыве толькі судакранаючыся з іншым тэкстам (кантэкстам), — пісаў Міхаіл Бахцін. — Толькі ў кропцы гэтага кантакту тэкстаў успыхвае святло, што <…> далучае дадзены тэкст да дыялогу» [1, с. 384]. Дыялог, параўнанне і супастаўленне з'яўляюцца агульнымі прынцыпамі культуры.

Беларускімі літаратуразнаўцамі вядзецца шматаспектная работа па вывучэнні ўзаемаўзбагачэння і ўзаемапранікнення нацыянальных літаратур, суадносін нацыянальна адметнага і агульнага, «свайго» і «чужога» ў сусветнай літаратурнай і культурнай прасторы. У 2017 г. Выдавецкі дом «Беларуская навука» выпусціў калектыўную манаграфію «Паэтыка літаратурных сувязей» пад навуковай рэдакцыяй акадэміка НАН Беларусі Уладзіміра Гніламёдава і Мікалая Мікуліча. Аўтары — У. Гніламёдаў, М. Мікуліч, А. Вальчук, Н. Бахановіч, М. Трус, Ж. Шаладонава, П. Васючэнка, Т. Барысюк, С. Мінскевіч — «даследуюць канкрэтныя факты беларуска-еўрапейскіх літаратурных кантактаў і сувязей — сінхронных і дыяхронных, інтэгральных і дыферэнцыяльных, якім яны імкнуцца даць гісторыка-літаратурнае вытлумачэнне» [3, с. 7].

Так, у працы «Старажытная беларуская літаратура: нацыянальныя духоўныя карані», якая склала першы раздзел манаграфіі, У. Гніламёдаў і М. Мікуліч падкрэсліваюць выключную важнасць, складанасць, шматграннасць і вострую дыскусійнасць пытання нацыянальнай свядомасці народа, г. зн. «нацыянальнай індывідуальнасці» (паводле вызначэння акадэміка Д. Ліхачова), нацыянальнай самабытнасці, «абумоўленай тэрыторыяй, гісторыяй, мовай, духоўнай і матэрыяльнай культурай» [3, с. 15]. Кіруючыся прынцыпам аб'ектыўнай навуковай ісці-

***Якавенка Наталля Васільеўна,*** *навуковы супрацоўнік аддзела ўзаемасувязей літаратур Інстытута літаратуразнаўства імя Янкі Купалы НАН Беларусі, кандыдат філалагічных навук.*

ны, акрэсліўшы ўласны падыход да асвятлення праблемы — «Пра нацыянальную свядомасць трэба гаварыць па магчымасці больш канкрэтна, прадметна, доказна» [3, с. 16], — У. Гніламёдаў і М. Мікуліч вылучаюць асноўныя адметнасці беларускага нацыянальнага характару і менталітэту: прагматызм і ідэалізм, праўдалюбства, сумленнасць, працаздольнасць і працавітасць, вынослівасць, цярпенне, талерантнасць, дысцыплінаванасць і інш.

Пры тым даследчыкі выказваюць думку аб мэтазгоднасці ўвядзення ў навуковы ўжытак, побач з паняццем нацыянальнай свядомасці, паняцця нацыянальнай падсвядомасці і бачаць для гэтага наступныя падставы: «Мысленне беларусаў акцэнтавана на рацыянальна-лагічнае асваенне свету, аднак не чужая для іх і інтуіцыя. Апазнавальнае чуццё «свой—чужы» дзейнічае якраз на генетычна-падсвядомым узроўні. Такая, скажам, рыса, як пасіянарнасць, знаходзіцца не ў свядомасці чалавека, а ў падсвядомасці. Маральныя паняцці дабра, абавязку, справядлівасці і іншых катэгорый таксама спасцігаюцца чалавекам у значнай ступені інтуітыўна як самавідавочныя ісціны. Усё разам гэта складае свядомасць і самасвядомасць асобнага чалавека і цэлага народа, які ўрэшце ставарае сваю нацыянальную ідэнтычнасць» [3, с. 16].

Як падкрэсліваюць Уладзімір Гніламёдаў і Мікалай Мікуліч, тысячагадовая гісторыя беларускай літаратуры гаворыць пра старажытнасць беларускага этнасу, а каб зразумець набыткі, пошукі і эстэтычную непаўторнасць беларускай літаратуры, яе трэба разглядаць неадрыўна ад гісторыі народа, ад асаблівасцей яго бытавання. Зыходзячы з гэтага, даследчыкі падрабязна асвятляюць аспекты этнічнага ўзроўню, прыроды, ландшафту, клімату, язычніцтва і хрысціянства, мовы, гісторыі, дзяржаўнасці, тыпаў і характараў беларусаў. Асэнсаванне ідэйна-эстэтычных здабыткаў беларускай літаратуры адбываецца праз разуменне яе народазнаўчай і чалавеказнаўчай каштоўнасці. «Творы старажытнай літаратуры — гэта нібы лісты, пасланні нам з глыбіні часу, ад продкаў» [3, с. 42]. Аўтары «расшыфроўваюць» чытачам «пасланні з глыбіні часу», створаныя Кірылам Тураўскім, Ефрасінняй Полацкай, Ф. Скарынам, М. Гусоўскім, С. Будным, А. Філіповічам і іншымі беларускімі асветнікамі.

Другі раздзел «Этнакультурныя канцэпты ў беларуска-іспанскім літаратурным дыскурсе» напісаны Аленай Вальчук. Падкрэсліўшы актуальнасць для сучаснай гуманітарнай навукі «вывучэння і асэнсавання такіх архетыповых, ментальных адзінак, як канцэпты» [3, с. 114], даследчыца найперш акрэслівае сутнасць, сферу функцыянавання паняцця канцэпту, прасочвае яго кантэкстуальныя сувязі і прыходзіць да наступнай высновы: «Пашырэнне дыскурсіўнага поля канцэпту дазваляе раскрыць асаблівасці нацыянальнай карціны свету прадстаўнікоў розных народаў і культур, пашырыць тэматычнае поле літаратуразнаўчых даследаванняў» [3, с. 121]. У сваім даследаванні А. Вальчук асвятляе асноўныя вехі і асаблівасці гісторыі беларуска-іспанскіх дзяржаўных, культурна-літаратурных узаемасувязей XV — пачатку XXI ст., якія складваліся і працягваюцца па сённяшні дзень у напрамку ўзаемапазнання.

Асобна даследчыца разглядае: пытанне беларускай канцэптасферы драмы Л. дэ Вэгі «Вялікі князь Маскоўскі, або Праследаваны імператар», якая набыла вялікую папулярнасць у Іспаніі і паслужыла крыніцай для стварэння іншых твораў паводле яе матываў; канцэпт «Іспанія» ў «Дыярыушы» Ю. Харкевіча і «Успамінах» Ф. Булгарына; ментальны вобраз Іспаніі ў творчасці А. Міцкевіча; персонасферу рамана «Дон Кіхот» М. дэ Сэрвантэса ў аповесці І. Навуменкі «Бульба», пры распрацоўцы мастацка-вобразнай сістэмы якой беларускі пісьменнік звярнуўся да творчага вопыту славутага іспанскага празаіка.

Праведзенае кампаратыўнае даследаванне дае магчымасць А. Вальчук сцвярджаць: «Узнікненне і развіццё ўзаемасувязей паміж Беларуссю і Іспаніяй садзейнічала фарміраванню ў нацыянальнай свядомасці абодвух народаў канцэптаў, якія мелі не толькі этнічную, але і культурную прыроду. Уведзеныя ў тканіну роз-

нажанравых літаратурных твораў, яны раскрывалі адметнасць характаралагічных рыс беларусаў і іспанцаў праз прызму асэнсавання непаўторнасці іх традыцыйнага ладу жыцця і звычаяў» [3, с. 176].

Наталля Бахановіч — аўтар трэцяга раздзела «Польскамоўная проза Беларусі XIX ст. у еўрапейскім літаратурным кантэксце» выкарыстоўвае метадалогію вядомага беларускага кампаратывіста Уладзіміра Мархеля, які, даследуючы польска-беларускі літаратурны працэс XIX ст., аддаваў перавагу двухмоўным пісьменнікам, што адчувалі перспектыўнасць беларускамоўнага развіцця літаратуры таго часу. «Прыярытэтным крытэрыем прыналежнасці літаратурнай спадчыны аўтара да пласта айчыннай культуры ў XIX ст., — тлумачыць Н. Бахановіч, — выступае наяўнасць у яго двухмоўных ці, перадусім, беларускамоўных твораў. Найменне «польскамоўная літаратура Беларусі» сярод існуючых бачыцца найбольш правамерным з пазіцыі XXI ст. як кропкі часавага адліку — сучаснай дзяржавы з яе гісторыяй, у тым ліку і развіцця літаратуры» [3, с. 187]. У адпаведнасці з акрэсленымі прынцыпамі аналізу даследчыца разглядае раманы «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях» Я. Баршчэўскага і «Аповесць з майго часу, або Літоўскія прыгоды» І. Яцкоўскага; аповесці «Арлалёты і Падканвойны, або Полацкая шляхта» В. Савіча-Заблоцкага і «Споведзь. Урывак з жыцця майго прыяцеля» А. Плуга.

Асаблівай увагі заслугоўваюць меркаванні Наталлі Бахановіч аб неабходнасці пазбаўлення ад некаторых «літаратуразнаўчых стэрэатыпаў, напрыклад, аб моцнай «сялянскай» генетычнай аснове нашай прыгожай славеснасці (адпаведна і нашага народа, нацыі). Такі погляд грунтуецца пераважна на сацыяльным паходжанні многіх нашаніўцаў, але, да прыкладу, польская літаратура пачатку XX ст. таксама неаднастайная, калі браць пад увагу сялянскае паходжанне Я. Каспровіча, У. Оркана і нобелеўскага лаўрэата У. Рэйманта <…> Пры бліжэйшым разглядзе «сялянскай» гісторыі айчыннай літаратуры, нават перыяду пачатку мінулага стагоддзя, становяцца бачнымі шляхецкія карані многіх аўтараў (М. Багдановіча, З. Бядулі, Я. Купалы і інш.)» [3, с. 231].

Прыведзеныя слушныя меркаванні даследчыцы знаходзяцца ў адным рэчышчы з заўвагамі У. Гніламёдава і М. Мікуліча, выказанымі ў той жа манаграфіі «Паэтыка літаратурных сувязей»: «Лічыцца, што беларусы — нацыя сялянскага паходжання. Гэта не зусім правільна, бо вельмі рана пачалі будавацца гарады, якія разбуралі сялянскую патрыярхальнасць»; «У фарміраванні беларускай нацыянальнай свядомасці і духоўнай культуры бралі ўдзел усе сацыяльныя групы беларускага народа: баярства, шляхта, гандлёва-рамесніцкае саслоўе, святарства. Беларусы — не плябейскі народ, яны мелі сваю шляхту» [3, с. 58; 61].

«Беларуская грамадска-культурная чыннасць у Еўропе міжваеннага перыяду» — так называецца даследаванне Мікалая Труса, змешчанае ў чацвёртым раздзеле «Паэтыкі літаратурных сувязей». У Еўропе міжваенны перыяд (1920—1930-я гады) адзначыўся актыўным нацыянальным і дзяржаўным будаўніцтвам, рэалізацыяй разнастайных адукацыйных і культурна-асветніцкіх праектаў, пошукам новых вобразна-выяўленчых форм у мастацтве і літаратуры.

Увага даследчыка скіравана перадусім на беларускую нацыянальную прысутнасць у Чэхаславакіі і Латвіі. У прыватнасці, М. Трус падкрэслівае надзённасць «выяўлення і сістэматызацыі ўсіх матэрыялаў, звязаных з беларускай грамадска-культурнай чыннасцю ў Чэхаславакіі міжваеннага перыяду, што з'яўляецца неабходнай перадумовай аб'ектыўнага бачання і ацэнак, дае магчымасць прасачыць увесь комплекс аргументаў адстойвання і ўмацавання пазіцый нацыянальнай прысутнасці за мяжой, у прынцыпова адрознай ад савецкай грамадска-палітычнай фармацыі» [3, с. 235].

Даследчык прадстаўляе розныя пакаленні роду Краскоўскіх — выбітных дзеячаў, з імёнамі якіх звязана беларуская прысутнасць у Еўропе акрэсленага перыяду. Падрабязна разглядаецца дзейнасць Івана Краскоўскага — аднаго з ідэолагаў

беларускага адраджэння і яго дачкі Людмілы, якой «наканавана было пражыць доўгае жыццё далёка ад радзімы, зберагчы памяць пра родных і блізкіх, пра знішчанае пакаленне адраджэнцаў» [3, с. 243].

Таксама М. Трус асвятляе гісторыю беларускай школы ў Латвіі міжваеннага перыяду і пераканаўча даводзіць, што шматаспектнае і комплекснае даследаванне ў гэтым кірунку «можа істотна ўзбагаціць гісторыю нацыянальнай педагогікі, па-новаму паказаць жыццё і дзейнасць вядомых і малавядомых дзеячаў нацыянальнай культуры: С. Сахарава, І. Краскоўскага, К. Езавітава, П. Мядзёлкі-Грыб, П. Міраловіча і інш.» [3, с. 250]. Акрамя таго, асобна даследчык разглядае чэшскую фрашку К. Форжта ў перакладзе Л. Краскоўскай і У. Жылкі, апавяданне «Служка» І. Волькера і верш «Зімою» А. Крымскага ў перакладзе У. Жылкі, а таксама лісты У. Жылкі, М. Каберца і У. Калесніка да Л. Краскоўскай.

М. Трус акцэнтуе ўвагу на прадстаўнічасці беларускай грамады ў Еўропе міжваеннага перыяду, пераемнасці адраджэнскіх традыцый і на формах нацыянальнага самавыяўлення.

Наступны раздзел калектыўнай манаграфіі змяшчае даследаванне Жанны Шаладонавай «Мастацка-вобразная парадыгма хранатопа ў беларускай і ўкраінскай паэзіі першай паловы ХХ ст.». Зыходзячы з таго, што «мастацкая карціна свету, прадстаўленая пісьменнікамі ў катэгорыях прасторы і часу, адлюстроўвае сутнасць, логіку і дыялектыку жыцця» і «навакольны свет з'яўляецца важнейшым модусам чалавечага існавання» [3, с. 286], даследчыца аналізуе спецыфіку мастацка-вобразнага ўвасаблення антрапагенных і прыродных разнавіднасцей хранатопа на матэрыяле беларускай і ўкраінскай паэзіі азначанага перыяду.

У прыватнасці, Ж. Шаладонава разглядае хранатоп горада «як самастойны эстэтычны аб'ект, феномен цывілізацыйнага поступу ў яго разнастайных, часам супярэчлівых праявах» [3, с. 299], вывучае асаблівасці суіснавання чалавека і прыроды ў прасторава-часавых каардынатах беларускай і ўкраінскай паэзіі на матэрыяле твораў М. Багдановіча, Я. Коласа, Я. Купалы, М. Семянко, М. Рыльскага, А. Алеся. У выніку даследчыца прыходзіць да высновы: «Функцыянальная роля прасторы і часу ў мастацкіх творах палягае не ў дакладнай трансляцыі характарыстык рэальнага свету, а, найперш, у канцэптуальным і цэласным, вобразна-сімвалічным яго афармленні. <…> Паэтычнае асэнсаванне ключавых з'яў навакольнага свету ў катэгорыях хранатопа мае выразную характаралагічную, светапоглядна-канцэптуальную, сюжэтаўтваральную змястоўнасць, дае ключ да спасціжэння логікі і эвалюцыйнага руху гісторыка-культурнага і прыроднага быцця нацыі» [3, с. 316].

«Беларуская экалітаратура на фоне еўрапейскага літаратурнага працэсу» — праца Пятра Васючэнкі. Літаратуразнаўца раскрывае паняцце экалагічнага імператыву як асноўнага чынніка экалагічнага мыслення, вылучае праявы экалагічнага мыслення і паказвае яго эвалюцыю ў міфалогіі, фальклоры, старажытнай і новай беларускай літаратуры (творы К. Тураўскага, Ф. Скарыны, М. Гусоўскага, С. Полацкага, Я. Баршчэўскага, Я. Лучыны). Так, даследчык адзначае ў экалітаратуры XIX ст. крышталізацыю «трох ключавых архетыпаў: Дому (асяродка чалавека), Саду (акультуранай прыроды) і Лесу (асяродка дзікай прыроды)» [3, с. 329].

Новым для беларускай літаратуразнаўчай навукі з'яўляецца вывучэнне феномена «нашаніўства» з пазіцыі экамыслення. П. Васючэнка вызначае, што «экалагічнае мысленне «нашаніўцаў» мела сінтэтычны характар і выходзіла далёка па-за межы стасункаў чалавека і прыроды; гэта была экалогія беларускай душы, мовы, нацыянальных каштоўнасцей, вартых захавання і развіцця» [3, с. 330]. Даследчык разглядае экамысленне ў творчасці М. Багдановіча, архетып зямнога раю ў паэзіі Я. Купалы, экамысленне як складнік зямной філасофіі Я. Коласа.

На думку Пятра Васючэнкі, «Багдановіч стварае мастацкую экасістэму, у якой прыродныя стыхіі, раслінны свет, духі жывуць у стане зачараванасці, і семантыка гэтага свету, у якім час спыніўся, апелюе да слова «неруш», такога папулярнага ў экалітаратуры другой паловы ХХ ст.» [3, с. 335]; экамысленне Купалы асабліва «беларусацэнтрычнае», а сутнасць экамыслення Коласа складае віталізм (ад лац. vitalis — жыццёвы, жывы) — светапоглядная пазіцыя, згодна якой існаванне і жыццядзейнасць чалавека і прыроды маюць у сваёй аснове ўнутраную сілу і мэтазгоднасць.

У другой палове ХХ — пачатку ХХІ ст. у беларускай літаратуры экалагічны імператыў аформіўся ў жанравы кірунак, звязаны з творчасцю І. Мележа, А. Адамовіча, А. Макаёнка, С. Алексіевіч, В. Быкава, А. Дударава, В. Казько, А. Сыса, В. Карамазава, М. Мятліцкага, А. Петрашкевіча, І. Пташнікава, І. Шамякіна, А. Федарэнкі, Ю. Станкевіча, А. Казлова, А. Наварыча і інш. Паміж творчасцю названых беларускіх і замежных пісьменнікаў — Дантэ, Гофмана, Апалінэра, П. Верлена, Л. Талстога, А. Белага, Л. Андрэева, М. Метэрлінка, Г. Ібсена, К. Гамсуна, Р. Кіплінга, У. Фолкнера, Г. Маркеса і інш. даследчыкам праводзяцца літаратурныя паралелі, якія даюць падставы для важных у галіне літаратуразнаўства высноў і абагульненняў. У прыватнасці, П. Васючэнка заўважае: «Аблічча Беларусі і цывілізацыі ў цэлым у нашай літаратуры выглядае як сума пазітыўных і негатыўных прагнозаў, спадзяванняў і расчараванняў» [3, с. 357].

Яшчэ адзін раздзел калектыўнай манаграфіі складае навуковая работа Таццяны Барысюк «Нацыянальныя вобразы свету і чалавека ў сучаснай беларускай і рускай паэзіі». Параўноўваючы вершы Р. Барадуліна і Я. Еўтушэнкі, А. Вярцінскага і А. Вазнясенскага, даследчыца раскрывае разуменне «свайго» ў якасці фактару нацыянальнай самаідэнтыфікацыі: «Сучасныя паэты ў вершах выяўляюць асноўныя вартасці і недахопы беларускага і рускага нацыянальнага характару, <…> проціпастаўляюць «сваё» і «чужое» звычайна на карысць першага» [3, с. 379]. Аналізуючы «чужое» як фактар іншанацыянальнай ідэнтыфікацыі на падставе твораў Р. Барадуліна, Я. Еўтушэнкі, Б. Кенжэева, Л. Рублеўскай, Л. Дранько-Майсюка, М. Касцюкевіча, В. Бокава, А. Кушнера, даследчыца адзначае: «Асэнсоўваючы вобразы замежных краін і іх жыхароў як “чужое”, сучасныя беларускія і рускія паэты <…> шануюць іншанацыянальную гісторыю і культурныя традыцыі, выступаюць за еднасць свайго народа з іншымі, паказваюць шляхі ўспрымання “чужога” як “свайго”» [3, с. 384].

Акрамя таго, Т. Барысюк звяртае ўвагу на этнаментальны аспект феномена кахання, тэкстуалізацыю і міфалагізацыю Парыжа і Венецыі ў сучаснай беларускай і рускай паэзіі, на сінтэз рознанацыянальных культурных і літаратурных традыцый, сакралізацыю роднай мовы, глыбіню света- і нацыяспасцігальнай думкі беларусаў і рускіх, а таксама на адметнасці паэтычных вобразаў прыроды і культуры — у першую чаргу рэлігійных вобразаў і сімвалаў.

Даследчыца падкрэслівае: «Нацыянальнае аблічча сучаснай беларускай і рускай паэзіі фарміруецца на аснове айчынных міфалогіі, фальклору і творчасці літаратурных папярэднікаў. Нацыянальныя вобразы свету і чалавека ў сучаснай беларускай і рускай паэзіі спрыяюць этнаментальнай самаідэнтыфікацыі і самапазнанню літаратур, а іншанацыянальныя — узбагачаюць айчынныя светаўспрыманне і светаразуменне замежнымі экзатычнымі ментальнасцю, філасофіяй, культурай і каларытам» [3, с. 413].

Завяршае калектыўную манаграфію «Паэтыка літаратурных сувязей» праца Сержа Мінскевіча «Еўрапейскі санет у беларускіх перакладах». «Наяўнасць у пэўнай нацыянальнай літаратуры перакладзеных сусветна прызнаных шэдэўраў, — слушна заўважае даследчык, — сведчыць пра спеласць нацыі, яе культуры, мовы, пазбаўляе неабходнасці вывучаць гэтыя творы паводле перакладаў на іншыя мовы, што, у сваю чаргу, можа прывесці да скажонага ўспрымання і няпра-

вільнага разумення арыгінала, дазваляе мець свой пункт гледжання на творчасць абранага аўтара» [3, с. 429].

Як падкрэслівае С. Мінскевіч, асаблівыя адносіны зместу і формы санета ўскладняюць перакладчыцкія задачы захавання знешніх фармальных прыкмет, дасканалай перадачы зместу і адэкватнасці вобразнага напаўнення. Таму ў цэнтры ўвагі аўтара даследавання — генезіс і функцыянаванне санета ў літаратурным працэсе, прынцыпы і крытэрыі адэкватнага перакладу. Даследчык праводзіць параўнальна-супастаўляльны аналіз арыгінальнага тэксту санета О. Уайльда «Уражанне ад падарожжа» і яго перакладаў на рускую і беларускую мовы, аналізуе пераклады CXXXVIII санета Ф. Петраркі, 90-га санета У. Шэкспіра, санетаў П. Верлена і Я. Купалы, «Крымскіх санетаў» А. Міцкевіча, вершаванага рамана «Яўгеній Анегін» А. Пушкіна. Разам з тым, С. Мінскевіч пры дапамозе дэкартавай сістэмы каардынат выяўляе амплітуду эквілінеарных, эквірытмічных, эквіартыстычных і семантычна-сэнсавых адпаведнікаў, прапанаваных перакладчыкам, паказвае змены, пераходныя з'явы і развіццё версіфікацыйнай сістэмы Беларусі з XVII да пачатку XXI ст.

Праведзенае даследаванне дазволіла С. Мінскевічу зрабіць шэраг важных высноў, сярод якіх наступная: «Санетарыі паэтаў сусветнай літаратуры праз пераклады карэлююць з уласнай творчасцю іншамоўных аўтараў, стымулююць нацыянальны літаратурны працэс» [3, с. 518].

Перакладны мастацкі твор з'яўляецца своеасаблівай формай мастацтва слова, якая знаходзіцца на стыку айчыннай і замежнай культур, а таму належыць адначасова да здабыткаў і дасягненняў свайго нацыянальнага і іншакультурнага мастацтва слова. Пераклад функцыянуе ў іншамоўным і іншакультурным асяроддзі як самастойны твор і толькі ў ім можа быць прыняты і зразумелы. Падчас прымання і разумення перакладнога твора актывізуецца літаратурны працэс, адбываецца яго крышталізацыя шляхам удасканалення не толькі перакладчыцкага, але і пісьменніцкага майстэрства, што надзвычай неабходна для развіцця любой нацыянальнай літаратуры.

З гэтай жа пазіцыі асаблівай важнасці перакладаў для развіцця літаратурнага працэсу Мікалай Трус у манаграфіі «Паэтыка літаратурных сувязей» разглядае пераклады, створаныя У. Жылкам. У прыватнасці, даследчык падкрэслівае: «Мяркуем, сам перакладчык успрымаў сваю працу як этапную, але для даследчыкаў у сітуацыі, калі асноўны корпус жылкаўскіх тэкстаў (арыгінальных і перакладных) сабраны, важны кожны эпізод творчасці паэта» [3, с. 252—253].

Увогуле, перакладазнаўчы дыскурс знаходзіцца ў рэчышчы традыцыйных і найбольш актуальных праблем сучаснага параўнальнага літаратуразнаўства — літаратурнай кампаратывістыкі. Пры гэтым, як у сусветнай гуманітарнай навуцы, так і ў беларускай, перакладазнаўства становіцца ўсё больш уплывовай навуковай дысцыплінай, якая мае ўласную разгалінаваную сферу даследавання і прыкладныя веды.

Паводле слоў акадэміка Мікалая Конрада, у эпоху нацыянальных літаратур, якія развіваюцца «ў абстаноўцы інтэнсіўных і разнастайных міжнародных літаратурных сувязей» [2, с. 49], ва ўмовах пашырэння інфармацыйнай прасторы, у кантэксце глабалізацыі розныя аспекты літаратурных узаемасувязей набываюць асабліва важнае значэнне. Параўнальнае даследаванне беларускай, рускай, украінскай, польскай, чэшскай, іспанскай і іншых літаратур дало магчымасць аўтарам манаграфіі «Паэтыка літаратурных сувязей» асвятліць актуальныя для беларускай літаратуразнаўчай навукі пытанні, выявіць падабенствы і адрозненні літаратурных з'яў і працэсаў, сістэматызаваць прынцыпы кампаратыўнага аналізу, што ўсё разам з'яўляецца значным крокам на шляху выяўлення дамінантных характарыстык інтэгральнай асновы духоўна-эстэтычнага свету беларускай і еўрапейскіх літаратур і культур.

## Спіс літаратуры:

1. Бахтин, М. М. Эстетика словесного творчества: 2-е изд. / М. М. Бахтин. — М., 1979. — 446 с.

2. Конрад, Н. И. Запад и Восток: статьи / Н. И. Конрад. — М.: Наука, 1972. — 496 с.

3. Паэтыка літаратурных сувязей / У. В. Гніламёдаў [і інш.]; навук. рэд.: У. В. Гніламёдаў, М. У. Мікуліч. — Мінск: Беларус. навука, 2017. — 548 с.

4. Топоров, В. Н. Пространство культуры и встречи в нем / В. Н. Топоров // Восток—Запад. Переводы. Публикации. — Вып. 4. — М.: Наука, 1989. — С. 6—17.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 27 снежня 2017 года.

## Рэзюмэ

**Наталля ЯКАВЕНКА**

### Дыялог літаратур у еўрапейскім кантэксце: кампаратыўны аспект

УДК 821.161.3

Артыкул прысвечаны актуальным праблемам сучаснага параўнальнага літаратуразнаўства, якія асвятляюцца ў калектыўнай манаграфіі беларускіх вучоных «Паэтыка літаратурных сувязей» (2017), створанай з улікам навейшых адкрыццяў айчыннай і еўрапейскай кампаратывістыкі.

**Ключавыя словы:** кампаратывістыка, літаратура, літаратурныя сувязі, параўнальнае літаратуразнаўства, паэтыка, пераклад.

## Summary

**Natallya YAKAVENKA**

### The dialogue of cultures in the European context: comparative aspect

The article is devoted to topical problems of modern comparative literature study, which are elucidated in collective monograph of Belarusian scientists «The Poetics of Literary connections» (2017). This book was created with given the latest discoveries of Belarusian and European comparative studies.

**Keywords:** comparative studies, literature, literary connections, comparative literature study, poetics, translate.



Таццяна СУПРАНКОВА

# ФАЎСЦІЯНСКІЯ МАТЫВЫ Ў ТВОРЧАСЦІ МАКСІМА ГАРЭЦКАГА

У творчай спадчыне пісьменніка М. Гарэцкага вельмі часта можна бачыць, як ён выкарыстоўвае архетыповыя, уласцівыя для розных культур міфасюжэты. Нярэдка ў апавяданне ўплятаецца ўстаўная гісторыя: легенда, сон, відзеж. Неарамантычная канцэпцыя двухсвецця змешвае ў адно рэальнасць і звышрэальнасць. Гэта надае творам аўтара не толькі рознастылёвасць (што характэрна і для яго еўрапейскіх сучаснікаў), але і мастацкі ўніверсалізм. Падобныя прыёмы былі ўласцівыя і Ё. В. Гётэ, што ўвасобілася ў неўміручым «Фаўсце». Матывы фаўсціяны, якія набылі з шэдэўрам нямецкага асветніка сусветнае гучанне, можна сустрэць і ў М. Гарэцкага. Асаблівую ўвагу хацелася б у гэтай сувязі звярнуць на творы пісьменніка дасавецкага перыяду, пачаўшы з малой прозы.

Адным з першых такіх прыкладаў хочацца назваць апавяданне «Роднае карэнне» (1913), дзе фальклорныя матывы пераплятаюцца з разважаннямі пра моц розуму і навукі, у гэтым рэалізуецца неарамантычная канцэпцыя двухсвецця (рэальны свет і ірацыянальны пры гэтым уступаюць у канфлікт і змагаюцца паміж сабой у свядомасці галоўнага героя), губляецца мяжа паміж рэальнасцю і сном, уводзіцца у ніць апавядання народная міфалогія. Падобныя прыёмы мы сустракаем у Гётэ, калі міфалагічная аснова з’яўляецца тлумачэннем важных філасофскіх ідэй і канцэпцый. М. Гарэцкі падымае пытанні ўніверсальнага маштабу і закранае праблемы самасвядомасці беларусаў.

Пачынаецца твор з ліста з малой радзімы, які студэнт Архіп Лінкевіч чытае і дзівіцца невуцтву сваіх землякоў, што ў век навуковага прагрэсу працягваюць верыць ва ўсялякія забабоны: «Як многа слаўнага ў нашых вёсках, сёлах, а тым часам як яны непарушна-мёртвыя ў жыцці. Час ідзе — угары, у воздусі лётаюць аэрапланы, дырыжаблі; пад вадой жывуць людзі, як на зямлі; перагаварываюцца на тысячы вёрст; даходзяць да таго, што думаюць замаражываць чалавека на колькі трэба часу і ўзноў аджыўляць яго; усё ідзе шпарка ўперад, толькі нашу вёску, як абросшы мохам камень каля шляху, з мясціны не скранеш… Сумна, сумна» [4, с. 25]. Малады чалавек, будучы медык, вывучае навуку і верыць у яе моц, але ж разам з тым працягвае сумнявацца ў ёй, не забываючы пра народныя казкі-байкі: «У дваццатым вяку баяцца жыць у новай хаце. А чаго? Ну, пэўне, чэрці не даюць» [4, с. 25]. У гэтым праяўляецца дваістасць душы (рыса, характэрная як для беларусаў, так і для іншых еўрапейцаў, якую бярэцца даследаваць М. Гарэцкі): пры ўсім імкненні рацыянальна спасцігнуць гэты свет, яго матэрыяльную абалонку, нельга забывацца на духоўнае спасціжэнне, якое таксама пралівае пэўнае святло і разам з гэтым заблытвае яшчэ больш навуковыя пошукі. Цікавымі з’яўляюцца разважанні галоўнага героя, калі ён ад думак аб забабонах і казках пераходзіць да рэфлексіі аб жыцці суайчыннікаў: «Што за народ наш, беларусы? — уголас задаў ён сабе пытанне і размеркаваў, што док-

***Супранкова Таццяна Сяргееўна,*** *старшы выкладчык кафедры культуралогіі факультэта сацыякультурных камунікацый Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.*

тарам будзе служыць на Беларусі і будзе збіраць матэрыялы аб духоўным жыцці свайго народа.

— Незразумела, уцяміць не можна, што за штуковіна такая, — ламаў галаву медык, і на глыбіні яго душы пачалі капашыцца вобразы таёмнага, страшнага, шчыра-беларускага…

Не дарма быў Архіп — выліты яго дзед, што да смерці заўсёды крэпка маліўся Богу і тым часам лашчыў, як можна, дамавых, лесавых, вадзяных.

Студэнт памаўчаў троху, шчакануў пальцамі і тут жа падскочыў ад раптоўнай думкі — паехаць самому дамоў на гэтую чартоўшчыну» [4, с. 26—27].

У гэтых радках заўважаем наступныя матывы фаўсціяны: імкненне навуковым спосабам патлумачыць падзеі; калі кніжныя веды не дапамагаюць, трэба ў «гэтай чартоўшчыне» разабрацца самому. Першая сцэна з «Фаўста» пачынаецца тым, што галоўны герой, вывучыўшы ўсе магчымыя на яго час навукі, прыйшоў да поўнага расчаравання, бо так і не змог спасцігнуць ісціну, таму ў надзеі на гэта звяртаецца да духоўнага свету: «Бяжы на волю! Кінь бярлог! // Ці ж таямнічы Настрадам // Табе парадай не памог? // Не стаў апораю? Ты там // Спазнаеш без усіх свяціл // І выверыш духоўны рух, // Духоўных набярэшся сіл // І будзеш з духамі, як дух. // Наш чэрствы розум тых радкоў // Святых не растлумачыць, не! // Вы, духі, тут, з усіх бакоў! — // Прашу вас, адкажыце мне!» (Тут і далей мастацкі пераклад В. Сёмухі) [8, с. 164]. У «Родным карэнні» таксама можна ўбачыць супрацьпастаўленне кніжных ведаў, што назапашаныя стагоддзямі чалавецтвам, і таго, што набываецца толькі праз сутыкненне з рэальнасцю, — уласным жыццёвым досведам: «І Архіп успомніў, як ён з вялікім жарам і шчырай ахвотай пачынаў вучыцца, бо думаў, ды што думаў, — крэпка верыў, што ў кніжках усё ёсць, кніжкі ўсё раскажуць, не толькі як яно, але і адкуль яно.

І вось ён “укусіў” ад кніжнае мудрасці… Папраўдзе, знайшоў такія і гэткія адказы, але ж — Божа! — пэўнасці аніякай няма, няма. Хто даў гэтыя адказы?» [4, с. 32].

Фаўст, нягледзячы на пэўныя сумнівы ў кніжных ведах, верыць у навуковы прагрэс, у другой частцы твора ён нават упэўнены, што скарэнне чалавекам прыроды можа паслужыць на карысць усім людзям і зрабіць іх шчаслівымі. Аб гэтым яго апошнія словы: «Не скорана пагібельная багна, // На плён, здабыты мною, зеўрыць прагна, // Ды я падступную стыхію змушу // Аддаць захопленую сушу // Мільёнам рупных пасялян. // Няхай пагрозай вечнай калыхацца // Ля дамбы будзе грозны акіян, // Свабодны люд і радасная праца // Шчаслівым зробяць гэты ўбогі край, // І на зямлі яны здабудуць рай» [8, с. 559]. Ён прыходзіць да свайго самага галоўнага адкрыцця: «Das ist der Weissheit letzter Schluss: // Nur der verdient sich Freiheit wie das Leben, // Der taeglich sie erobern muss» [2, s. 199]. — «Гэта мудрасці канечны вынік: // толькі той заслугоўвае свабоды як жыцця, // Хто штодзённа мусіць іх заваёўваць» (Тут і далей падрадковы пераклад наш. — *Т. С.*). За гэтыя словы хапаецца Мефістофель, каб забраць душу Фаўста, але за іх жа галоўны герой апраўданы і ўзносіцца на Неба. У выніку Фаўст перамагае, таму што імкнецца да свабоды і шчасця іншых людзей. Таксама адных яго добрых учынкаў не дастаткова, бо ён нарабіў вельмі шмат памылак і прынёс пакуты многім, але важным з’яўляецца прабачэнне Маргарыты, якую як адну з персанажаў мы сустракаем у фінале на нябёсах.

Словы Ё. В. Гётэ аказаліся актуальнымі на пачатку XX стагоддзя, што адчуваў М. Гарэцкі, супрацьпастаўляючы ў «Родным карэнні» два бакі беларускага жыцця: патрыярхальны свет вёскі і прагрэсіўнага горада. Гэта параўнанне яскрава прасочваецца ў сістэме мастацкіх вобразаў: медыцына (навука) — народныя вераванні ў дамавых, чарцей і іншую нячыстую сілу; горад дае магчымасць «выбіцца ў людзі», памяняць свой сацыяльны статус, а ў вёсцы жыццё застыла і цячэ павольна, там змены бываюць рэдка і ўспрымаюцца як катастрофа (новая хата, якая згарэла); чыгунка («цёплыя, добрыя бягучыя хаткі», якія імчацца па

ёй на край свету) і воз (які едзе па родных мясцінах); рэальны свет — свет духаў (неарамантычнае двухсвецце); мінулае — будучыня; сон — рэальнасць і інш.

Архіпа прываблівае горад з яго магчымасцямі, але не адпускае і вёска, якая нагадвае яму пра родныя карані. Як і Фаўст, Архіп Лінкевіч прыходзіць да разважанняў, што ёсць рэчы ў гэтым свеце, якія застануцца па-за межамі нашага пазнання і на якія не ў стане даць адказы ніякая прагрэсіўная галіна чалавечых ведаў. Толькі гётаўскі герой — чалавек эпохі Новага часу, калі адбываюцца важныя навуковыя адкрыцці і людзі вераць з аптымізмам у навуковую моц, а персанажы Гарэцкага народжаныя Найноўшым часам, калі прыйшло расчараванне ў гэтых ведах, таму што войны і рэвалюцыі абарочваюць іх супраць чалавецтва: «Як, у істоце, усё каля нас дзіўна, няясна… Навука? Што ж навука? Яна, скажам, дае малюпаценькія адказы, якім парадкам робіцца што ў прыродзе. Ну і ўсё. Наўчоныя людзі падлічылі, колькі важыць зямля, ці далёка ад зямлі месяц, сонца; яны ведаюць, па якіх дарогах бегаюць планеты, а няхай дадуць яны адказ, хто пусціў іх у гэткі гарманічны ход, няхай яны знойдуць першапрычыну ўсякае істоты. Навука ведае, што за жывучкі, няўгледныя простым вокам, робяць хваробы, яна ведае, што ўжываюць клетачкі, з каторых складаюцца людзі, жывёла, расліны, але што ж? Як бы даў адказ ён, Архіп, студэнт-медык, на пастаяннае пытанне ў "пісьменных" людзей дзядзькі Якуба: "Чаму чалавек расце-расце гадоў так да дваццацёх, а далі, як ты яго ні кармі, у росце не прыбаўляецца. Здаецца, і есць таксама, а другі і смачней, чымся змалку, а росту няма такога, як раней. Што за прычына?" Эге ж. Наўчоныя ведаюць цяпер, як чалавек зараджаецца, з чаго ён складаецца, і многа чаго іншага ўцямілі. А няхай жа во яны самі набяруць з зямлі, чаго ім трэба, і створаць чалавека. Не, навука ніколі не дасць, бо не можа даць, адказу на праклятыя пытанні. Ды ў яе і цэль зусім іншая» [4, с. 32]. Сугучную думку можна знайсці і ў Ё. В. Гётэ, калі аўтар уводзіць у «Фаўста» такога персанажа, як Гамулкул, увасабленне штучнага розуму (вынайдзенага не скептыкам Фаўстам, а чалавекам рэнесанснай культуры Вагнерам не без дапамогі Мефістофеля), асноўнай мэтай якога з'яўляецца ўцелаўленне, але гэты аспект аўтар абыгрывае даволі алегарычна, так і не даючы канкрэтных рэцэптаў, як гэта мусіць адбыцца.

Але сам М. Гарэцкі пры ўсім захапленні навуковым прагрэсам бачыць у сялянскіх забабонах і традыцыях тое «роднае карэнне», ад якога не варта адрывацца. Калі для героя Ё. В. Гётэ важна дапамагаць чалавецтву, то персанажы М. Гарэцкага прыходзяць да высновы не адрывацца ад роднай зямлі, спасцігаць айчынную культуру, каб было што перадаць наступным пакаленням.

Ад гэтага апавядання, якое закранае пытанне пераймальнасці пакаленняў, хацелася б перайсці да трагічнай гісторыі маладой жанчыны, якая з ціхмянай, сціплай і паслухмянай дачкіператвараецца ў дзетазабойцу. У творы «Маці» (1916), як і ў іншых апавяданнях ваеннага часу, мы можам пабачыць, якое жудаснае «ператварэнне» адбываецца з чалавекам. Часцей за ўсё людзей «ламае» вайна, што цудоўна паказана ў «Рускім», «Генерале», «Літоўскім хутарку» і інш. У 1916 годзе, калі на тэрыторыі Беларусі ішлі ваенныя дзеянні, М. Гарэцкі (сам браў удзел у Першай сусветнай і атрымаў раненне) падымае тэму братазабойства (беларус забівае ўкраінца, салдаты калечаць мірных людзей і інш.) і дзетазабойства.

Дзетазабойцаю робіць сваю ўлюбёную гераіню Маргарыту (Грэтхен) Ё. В. Гётэ, пішучы першую версію «Пра-Фаўста». На гэтую ідэю паўплывала гісторыя, што прывяла ў замяшальніцтва родны горад паэта Франкфурт-на-Майне: прасталюдзінку Сюзану Маргарэту Брандт прыгаварылі да смяротнага пакарання за ўтапленне дзіцяці. Сваякі маладога Гётэ, які сам толькі атрымаў ступень доктара права і вярнуўся дадому, вялі справу гэтай жанчыны, таму будучы стваральнік «Фаўста» змог пазнаёміцца з пратаколамі і запісамі па гэтым забойстве.

Гісторыя, распаведзеная нашым суайчыннікам, на вялікі жаль, тыповая не толькі для беларускіх вёсак, але і для любога патрыярхальнага грамадства ўвогу-

ле. Максім Гарэцкі адважыўся распавесці яе, востра адчуваючы трагедыю свайго сучасніка і суперажываючы яму. Таму цікава прасачыць аналогіі і тыпалагічную сувязь, якія ўводзяць у фабулу Гётэ і Гарэцкі, звяртаючыся да такой шакіруючай тэмы.

У «Маці» асноўная ўвага канцэнтруецца не столькі на знешнім дзеянні, сколькі на ўнутранай дынаміцы характару галоўнай гераіні, якая рыхтуецца стаць маці. М. Гарэцкі ў экспрэсіяністкай манеры не дае імя сваёй галоўнай гераіні, а называе яе алегарычна — Маці, якой ёй наканавана было стаць жахлівым чынам. У намінацыі твора праяўляецца прыём *discordia concors,* характэрны для антынамічнасці барока і вельмі папулярны сярод мадэрнісцкіх школ мінулага стагоддзя. Але гэтым чаканням не дадзена збыцца: знешнія фактары, прапушчаныя ёю праз прызму ўласнага светаўспрыняцця, «ператвараюць» яе ў злачынцу. Аўтар спрабуе пранікнуць у яе стан, звярнуць увагу і на такіх ахвяр, чый скалечаны лёс прыводзіць да наступных бедаў.

Гётаўская Грэтхен, як і Маці ў Гарэцкага, і канкрэтны, і сімвалічны персанаж, іх лёс — няшчасных у каханні, кінутых і звар'яцелых жанчын, для якіх вар'яцтва аказваецца вынікам самасуду ўласнага сумлення. Абедзве забіваюць сваіх немаўлят у стане афекту.

У пачатку твора мы сустракаем незвычайны ўступ, дзе адразу адбываецца завязка дзеяння: «Пачувала, што надышоў-ткі яе страшны час…» [7]. Аўтар не кажа адразу наўпрост, што адбылося, а выкарыстоўвае табу і эўфемізмы, ужываючы дзеясловы, каб сканцэнтраваць увагу на дзеянні: *хавалася,* аборамі *ўкручвала* сябе, у лазню *не хадзіла,* шыбка *бегала,* цяжкое *паднімала,* цяжка *працавала* і інш. Пісьменнік ужывае прыём рэтраспекцыі, каб ярчэй і кантрасней адчувалася тая эвалюцыя, якая адбылася ў душы галоўнай гераіні.

Абедзве гераіні застаюцца на самоце са сваёй праблемай. У Максіма Гарэцкага хлопец у хуткім часе пакідае вёску, не даведаўшыся нават аб лёсе дзяўчыны. Фаўст адчувае мукі сумлення, калі Мефістофель паведаміў яму аб тым, што стала з Маргарытай. Ён нават напраўляецца ў турму, каб вызваліць яе. Г. Сініла, аналізуючы гэтую сітуацыю, адзначае: «Мефистофель дает понять, что это бесполезно, ибо он знает то, чего еще не знает Фауст: Гретхен сошла с ума, и даже Мефистофель не в силах вернуть ей сознание, разрушить стены ее внутренней темницы» [10, с. 374].

Маргарыта — тонкая і вельмі набожная натура, хоць і з'яўляецца прадстаўніцай трэцяга саслоўя (асветнік Ё. В. Гётэ, як і многія яго сучаснікі, разбураў саслоўныя забабоны). Маці — звычайная вясковая дзяўчына, тыповая гераіня прадстаўнікоў беларускага нацыянальнага адраджэння. Абедзве вельмі маладыя, прывабныя знешне і прыгожыя душэўнымі якасцямі, ціхія, працавітыя. Грэтхен — шчырая верніца, наведвае царкву, вядзе з каханым размовы аб рэлігіі, моліцца Божай маці.

Галоўная гераіня Гарэцкага моліцца таксама, толькі малітва яе больш падобная на народнае заклінанне, на чароўную замову, паколькі яна напаўняе яе пагрозамі: «Пamажы, калі грэх мне ў тым! Не папусці, раз дзяўчыне не дазволена. Не хацела ж я. Абмахнулася тады, цяпер — вызвалі. Пamажы, каб ніхто не даведаўся. Бо лаяцца грэшна пачну. На царкву брахаць, на абразы, на святое. Бо мяне ж бацька абаб'е да смерці, з хаты мяне вытурыць. Матка ў слёзах сваіх утопіць. Уся сям'я дакорамі загрызе. Людзі засмяюць мяне, бедную, гразёю закідаюць мяне...» [7].

Максім Гарэцкі падрабязна спыняецца на апісанні нараджэння дзіцяці, не адкрываючы нам, хлопчык гэта ці дзяўчынка. Пісьменнік ужывае часцей слова ніякага роду «дзіцё», Гётэ таксама выкарыстоўвае аналагічнае нямецкае «das Kind», абодва аўтары паказваюць такім чынам эфект адчужэння родных маці ад сваіх дзяцей. Дарэчы, гераіня Гарэцкага так і не даведалася, хто ў яе нарадзіўся: «І, трасучыся, вымала дзіцёначка з прыполу, клала на салому, каб пaглядзець,

дзяўчынка ці хлопчык, і зноў паглядзець. Яно ляжала ў кохце нерухома, як здохлы хрушч. І матка трывожна схапілася, ці жывое яно. Разгарнула кохту. Дзіцянё дрыгнула ножкамі і ручкамі і піскнула, як камар, насілу сабраўшы духу і жаласна-жаласна. <…> Схапіла рукою за галоўку і заціснула раток і насок» [7].

Далей у Гарэцкага — пакрокавае жахлівае апісанне ўтаплення ўжо мёртвага дзіцяці, якое нагадвае пратакольны запіс следчага. Аўтар робіць акцэнт на механічнасці дзеянняў, на пэўных несвядомых учынках, быццам бы ў гераіні прачынаецца нешта бессвядомае, страшнае, вар'яцкае. У падобным стане поўнага адчаю забівае сваё дзіця і Грэтхен. Гарэцкі спыняе дзеянне смерцю дзіцяці, дае нам адкрыты фінал, як і многія дзеячы мадэрнізму запрашае чытача да сутворчасці. У асветніка Гётэ мы бачым працяг дэманстрацыі жудаснага стану маці-дзетазабойцы, якая страціла розум і яе абвостраннае сумленне спявае песеньку забітага ёю немаўляці: «Meine Mutter, die Hur, // Die mich umgebracht hat! // Mein Vater, der Schelm, // Der mich gessen hat! // Mein Schwesterlein klein // Hub auf die Bein, // An einem kuehlen Ort; // Da ward ich ein schoenes Waldvoegelein; // Fliege fort, fleige fort!» [1, S. 129—130]. — «Мая маці — шлюха, // якая мяне загубіла! // Мой бацька — прайдзісвет, // які мяне з'еў! // Мая маленькая сястрычка // падняла косткі, // у халоднае месца [занесла]; // Там стала я лясной птушачкай; // Ляці прэч, ляці прэч!» Вар'яцтва Грэтхен нельга не параўнаць з вар'яцтвам шэкспіраўскай Афеліі: «и там и здесь — щемяще-трагическая атмосфера создается из обрывков бреда и народных песен, причем бред приобретает скрытую страшную логику, а песни в этом контексте — жестокий и жуткий смысл» [11, с. 374].

У творы М. Гарэцкага можна бачыць выкарыстанне прыёму, блізкага да плыні свядомасці, і ўнутраны маналог, калі аўтар на фоне апісання падзей прыводзіць фрагменты і ўрыўкі думак сваёй гераіні. Гэтыя фрагменты быццам накладваюцца на словы апавядальніка, але нельга іх не аднесці і да думак самой гераіні, якая ў звар'яцелым стане быццам бы губляе сябе. Творы «Роднае карэнне», «Маці» і іншыя сталі пралогам да даследавання феномена «двудушша» М. Гарэцкім.

Першая сусветная вайна нарадзіла вялікі адчай і песімізм у еўрапейскім грамадстве. Яна стала вынікам новай парадыгмы мыслення, якая намецілася ў заходняй філасофіі яшчэ з другой паловы XIX стагоддзя, з эпохі дэкадансу, калі Фрыдрых Ніцшэ і іншыя прадстаўнікі філасофскай думкі прапанавалі новыя аксіялагічныя падыходы да маралі, чалавечых і грамадскіх узаемаадносін. Тэмы дэфармацыі свету, дысгармоніі, разладу і разарванасці становяцца прадметам мастацкіх пошукаў прадстаўнікоў еўрапейскага авангарда і мадэрнізму. Звычайна ў такія часы катастроф і крызісаў, калі на вачах мяняецца свет і звыклая сістэма светабудовы, людзі адчуваюць раздвоенасць. Гэтая якасць асабліва востра праявіла сябе ў эпоху Новага і Найноўшага часу. Гэтую дваістасць душы вельмі добра можна пабачыць у культуры XVII і XVIII стагоддзяў, асабліва ў мастацкай сістэме барока.

Адразу б хацелася ўнесці яснасць з пункту гледжання лексічнага значэння прадмета даследавання. Феномен «двудушша» не трэба блытаць з двудушнасцю альбо крывадушнасцю. Найчасцей гэта слова разумеецца менавіта ў такім сэнсе. Максім Гарэцкі, аўтар складанага часу войнаў і рэвалюцый, краху імперый, спробы стварэння незалежных дзяржаў, даследаваў гэтую з'яву ў сваіх творах вельмі глыбока, у цеснай сувязі з еўрапейскай традыцыяй.

Адным з першых асветнік Ё. В. Гётэ зафіксаваў гэты антрапалагічны канцэпт у характары свайго героя Фаўста: «Zwei Seelen wohnen, ach! in meiner Brust, // Die eine will sich von der andern trennen; // Die eine hält, in derber Liebeslust, // Sich an die Welt, mit klammernden Organen; // Die andre hebt gewaltsam sich vom Dust, // Zu den Gefilden hoher Ahnen». «Дзве душы жывуць, Ах! у маіх грудзях // Адна хоча аддзяліцца ад іншай; // Адна трымае, з моцным любові жаданнем, // Сябе ў свеце, ухапіўшыся за цела [органы]; // Другая падымаецца гвалтоўна ад зямлі, // Да мясцовасцей высокіх продкаў». [1, s. 33]. Свой варыянт топасу фаўсціяны

пісьменнік ускладняе дваістасцю канцэпцыі асобы, якая праявіцца ў адзінстве і барацьбе супрацьлегласцей, у тэзісе аб звышчалавеку і ідэі апраўдання.

У XX стагоддзі гэты канцэпт даследуецца нямецкім філосафам Освальдам Шпэнглерам у грунтоўнай працы «Заход (Заняпад) Еўропы» («Der Untergang des Abendlandes», 1918—1922), дзе ён характарызуе розныя тыпы культуры і называе заходнееўрапейскую культуру культурай фаўстаўскага тыпу. «Die faustische Seele» («фаўстаўская душа») нараджаецца на Захадзе каля 1000 года і звязаная з апакаліптычнымі чаканнямі. Прасімвалам фаўстаўскай душы ёсць бязмежная прастора («der reine grenzenlose Raum»), а целам — заходняя культура, якая расквітнела з нараджэннем раманскага стылю ў X стагоддзі. Радзімай гэтай душы з’яўляецца бязмежнае адзіноцтва, якое ва ўсёй глыбіні ўвасобілася ў «Фаўсце» Ё. В. Гётэ. Фаўстаўская душа імкнецца да бясконцасці, яна праяўляецца не ў знешнім чалавеку, але ў характары асобы: «Зигфрид, Парсифаль, Тристан, Гамлет, Фауст — это самые одинокие герои всех культур… Светотень Рембрандта, метафизически означающая это одиночество, безграничную потерянность души среди мирового пространства, имела своих первых предвозвестников в жутких коричневых и серых тонах северного мира богов; аналогичным образом она в последний раз проявляется в ночном сумраке последних квартетов Бетховена с их мучительными вспышками молний и в безысходной тоске музыки “Тристана”, и потом быстро тускнеет в запоздалой, оторванной и трудно доступной лирике мирового города у Бодлера, Верлена, Георге и Дрема» [11, с. 261—263].

Фаўстаўская культура — культура волі (Willenskultur), таму што воля звязвае будучыню з сучаснасцю. Дынамічная карціна Сусвету Галілея, Ньютана і дынамічная карціна душы з воляй як цэнтрам адносін, паводле Шпэнглера, — адно і тое ж, гэта карціны барока, сімвалы фаўстаўскай культуры, якая дасягнула спеласці. Фаўстаўская душа — дзейсная, ёю кіруе характар. Фаўстаўская драма ў культуры — драма характараў. Першая сусветная вайна і сацыялістычная рэвалюцыя трактуюцца філосафам як прыкметы заняпаду Захаду, еўрапейскі ж сацыялізм ён аб’яўляе фазай заняпаду культуры.

Феномен «двудушша» вельмі глыбока адчуваў і Максім Гарэцкі, разважаючы над гэтай тэмай у творах ваеннага і пасляваеннага перыяду. Асабліва гэта праявілася ў нясконччанай аповесці «Дзве душы» (1919). У асобе галоўнага героя Ігната Абдзіраловіча ўвасобіўся пошук ідэнтычнасці і разважанні беларускай інтэлігенцыі аб шляху народа. Лейтматывам твора становяцца словы, якія характарызуюць гэты пошук: «І душа двaіцца. Дзве душы. Тая, што плакала і жалілася на другую, нашто яна мучыць яе падманкамі, цяпер цвярдзеець, але робіцца нядобраю, набірае ўсё болей нейкай калянасці і нават жорсткасці… І адна палова яго, каторая разумела белых, маўчала, знямела… І другая палова яго, каторая разумела чырвоных, вымагала, каб ён знайшоў князя і забіў яго і каб ён дагнаў Гарэшку і даў яму выспятка пад грудзі, як той даў ляжачаму Гаршку» [6].

Разарванасць і раздвоенасць душы галоўнага героя праяўляецца і ў падмене, калі сапраўдная маці-сялянка Малання вырашыла змяніць лёс свайго дзіцяці, і ў каханні, і ў адносінах да сацыяльна-палітычных падзей («быў сам несвядомы і хоць горача любіў бацькаўшчыну, але з якоюсь недаверлівасцю думаў аб руху адраджэння» [6]), і ў тых выбарах, якія робіць галоўны герой на працягу твора. Сам матыў падмены і пражывання чужога жыцця вельмі сімвалічны ў аповесці і сустракаецца ў творчасці еўрапейскіх майстроў слова (Р. М. Рыльке, Г. фон Гофмансталя і інш.). Ігнат Абдзіраловіч — збіральны вобраз беларуса-еўрапейца, які жыве ў час імперыялістычнай вайны і крушэння імперый, калі нешта адбываецца ў свядомасці людзей, калі яны прымушаныя жыць не сваім жыццём, калі яны страчваюць жыццёвыя арыенціры.

Падобная сітуацыя вельмі яскрава прааналізавана пісьменнікам у маленькім, але глыбокім апавяданні «Рускі» (1915). Як і ў творчасці Ф. Кафкі, так і ў спадчыне М. Гарэцкага варта шукаць творы-двайнікі, пры супастаўленні якіх лепш

зразумелай становіцца аўтарская задума. Не дарма пры сцэнічнай пастаноўцы «Дзвюх душ» у Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы ў канву п’есы падключаецца ўставная сцэна пра братазабойства з «Рускага». Беларуская даследчыца Е. Лявонава, параўноўваючы навелу Ф. Кафкі «Ператварэнне» і «Рускага», так каментуе ў гэтым апавяданні метафару «перамены-ператварэння», што адбываецца з галоўным героем Рускім: «Неўсвядомлены, спантанны ўчынак абяртаецца для яго самога знішчальнай, невыноснай душэўнай мукай, бясконцай жудой, няспынным болем і маркотай, па сутнасці — вар’яцтвам, і ад гэтага “ператварэння” ўратаваць гаротніка не ў стане ніякія дактары… Гэтаксама неадназначнай уяўляецца праблема віны (наогул аднаго з тыповых пачуванняў герояў М. Гарэцкага на вайне) Рускага. З аднаго боку, ён забойца, і забойства гэтае тым больш страшнае, што ў асобе аўстрыяка ён пазбаўляе жыцця сапраўды, у пэўным сэнсе, “свайго” — славяніна, украінца, “брата”. З іншага боку, яшчэ большая віна ляжыць на тых, хто навязаў яму ненатуральныя, ненармальныя правілы паводзін, згвалтаваў яго душу, маральна яго і мільёны такіх, як ён, дэзарыентаваў, дамогшыся чалавека ад зямлі ператварыць у “чалавека мілітарызаванага” (гэткае вызначэнне новага, народжанага вайною антрапалагічнага тыпу прапанаваў у свой час М. Бярдзяеў)…» [9, с. 276—279].

Сітуацыя ператварэнняў у цэлым з’яўляецца характэрнай для многіх герояў М. Гарэцкага, толькі ў кагосьці гэтая драма адбываецца ў душы, вядзе да разладу з самім сабою, да «двудушша», кагосьці падштурхоўвае да двудушнасці (крывадушнасці). У аповесці можна пабачыць галерэю вобразаў, якія становяцца прыстасаванцамі і крывяць душою, не праяўляюць шчырасці ні з іншымі, ні сам-насам. Паказальным тут з’яўляецца Іван Карпавіч Гаршчок, якога так характарызуе аўтар: «Здабыў пашану за розум свой ад таварышаў-работнікаў і стаўся Карпавічам. Але правадыры-інтэлігенты з іх характэрнай інстынктыўнай цямнасцю не мелі для яго асаблівай прыхільнасці. Чулі ў Карпавічу той гатунак людзей-самавукаў, каторыя хоць і вялікай высакосці даходзяць у мастацтве, палітыцы ці абы-якой навуцы, але назаўсёды застаюцца з нейкай хібаю ў самым грунтоўным, а дзеля таго неўспадзеўкі і страшна лёгка зваліваюцца часам на самы дол чалавечай думкі. Яны, гэтакія, нейкім дзівам сумяшчаюць у душы сваёй найлепшы, здаецца, гуманізм і найгоршае, акажацца, чалавеканялюбства, хімію і алхімію, марксізм і хірамантыю і з аднолькавай шчырасцю веруюць у тое і другое» [6].

У тэксце аповесці пісьменнік асабліва падкрэслівае гэтую метафару ператварэння скарачэннем імені героя да імя па бацьку. М. Гарэцкі іранічна выкарыстоўвае такое «імя», каб паказаць у асобе Гаршка героя новага часу, які прыстасоўваецца да абставін, спрашчаецца, вельмі хутка мяняе свае погляды. Тут узнікае пытанне, а ці была нейкая грунтоўная светапоглядная сістэма, на якой ён будаваў сваё жыццё? «Троху чаго не зрабіўся» — трапнае азначэнне не толькі для гэтага персанажа, але і для многіх прыстасаванцаў, якія шукаюць сваёй карысці з войнаў, рэвалюцый, разладу.

Беларускі філосаф і пісьменнік пачатку XX стагоддзя Ігнат Канчэўскі не дарма ў якасці псеўданіма бярэ імя галоўнага героя аповесці М. Гарэцкага. Філасофскае эсэ «Адвечным шляхам: Дасьледзіны беларускага сьветагляду» (1921) — разважанне беларускага інтэлігента пра шлях сваёй нацыі. Аўтар піша пра нялёгкі лёс нашага народа, адчуўшага на сабе не проста ўплыў заходняй і ўсходняй культур, але культурную і палітычную інтэрвенцыю. Сапраўдны ж шлях — у спробе захаваць незалежнасць і самабытнасць, стварыць свае нацыянальныя формы культурнага жыцця. Толькі пры ўмове захавання палітычнай незалежнасці дзяржавы беларуская культура можа захавацца, толькі пры гэтай умове зможа развівацца творчы патэнцыял нацыі ў цэлым і асобы ў прыватнасці.

Пытанні, закранутыя ў невялікай па аб’ёме, але глыбокай працы І. Абдзіраловіча, вельмі блізкія да грунтоўнейшых культуралагічных разважанняў пра

канцэпцыі культурна-гістарычных тыпаў М. Данілеўскага і О. Шпэнглера і, як ні дзіўна, актуальныя для нашага грамадства і зараз.

Акрамя беларускага народа такі лёс не абмінуў іншыя славянскія народы (украінцаў, балканскіх славян), якія часта станавіліся разменнай манетай у палітычных гульнях імперскіх дзяржаў. Такім чынам, наша становішча — недзе пасярэдзіне, бо мы «не зрабіліся народам Усходу, але не прынялі й культуры Зах. Эўропы» [3]. Гэта нявызначанасць, таксама «двудушша», дала падставу іншым глядзець на нас як на цёмны і дзікі народ, грамадзян Расіі або Польшчы (сыноў «ojczyzny» і «отечества»), праваслаўных або каталікоў (сыноў царквы і касцёла).

Розныя культуры, у азначэнні І. Абдзіраловіча «культурныя формы», заўсёды ствараліся па нейкіх мадэлях: элінскай, хрысціянскай, гуманістычнай, сацыялістычнай і інш. Часам форма можа «захапіць жыццё» і завалодаць над душою, якая «ўцякала ад гвалцячага жыцьця, шукала свайго ратунку»...

Феномен «двудушша» — вельмі складаны канцэпт, які не паддаецца адназначнаму азначэнню. Гэта адчуванне характэрна ў памежнай сітуацыі: на зломе часоў, этычных і эстэтычных парадыгмаў, у стане міжкультурнага франціра. М. Гарэцкі ўслед за разважаннямі еўрапейскіх філосафаў, а часам і раней за некаторых з іх, сфармуляваў яго ў сваіх творах, глыбока адчуваючы сам гэтую сітуацыю няпэўнасці. Ці зможам мы яго пераадолець — гэтае пытанне застаецца адкрытым для нас як для нацыі і па сённяшні дзень.

Такім чынам, Максім Гарэцкі ў сваіх невялікіх па памерах, але выбітных па глыбіні творах у сціслай і ёмістай форме прадстаўляе нам даследаванне беларускіх характараў. Матывы, якія збліжаюць яго творы з сусветнай фаўсціянай (вера ў навуку, расчараванне ў кніжных ведах, імкненне даследаваць сапраўднае жыццё, пранікаць у яго глыбіні, цікавасць да свету трансцэндэнтнага, жудаснае «ператварэнне» людзей у братазабойцаў і дзетазабойцаў, як вынік гэтага — вар’яцтва), надаюць творчасці ўніверсальнае гучанне і нацыянальны каларыт.

## Спіс літаратуры:

1. Goethe, J. W. Faust. Der Tragoedie erster Teil / J. W. Goethe. — Stuttgart: Philipp Reclam jun., 1995. — 136 s.

2. Goethe, J. W. Faust. Der Tragoedie zweiter Teil / J. W. Goethe. — Stuttgart: Philipp Reclam jun., 1986. — 216 s.

3. Абдзіраловіч, І. Адвечным шляхам [Электронны рэсурс] / І. Абдзіраловіч. — Рэжым доступу: knihi.com/Ihnat_Kanceuski/Adviecnym_slacham.html. — Дата доступу: 15.06.2016.

4. Гарэцкі, М. Выбраныя творы / М. Гарэцкі; уклад. Р. Гарэцкага і Т. Голуб, прадм. і камент. Т. Голуб. — Мінск: Кнігазбор, 2009. — 640 с.

5. Гарэцкі, М. Гісторыя беларускае літаратуры / М. Гарэцкі; уклад. і падрыхт. тэксту Т. С. Голуб. — Мінск: Маст. літ., 1992. — 476 с.

6. Гарэцкі, М. Дзве душы [Электронны рэсурс] / М. Гарэцкі. — Рэжым доступу: http://knihi.com/Maksim_Harecki/Dzvie_dusy.html. — Дата доступу: 15.06.2017.

7. Гарэцкі, М. Маці [Электронны рэсурс] / М. Гарэцкі. — Рэжым доступу: http://karotkizmest.by/беларуская-літаратура/максім-гарэцкі/максім-гарэцкі-маці.html. — Дата доступу: 15.06.2017.

8. Гётэ, Ё. В. Выбраныя творы / Ё. В. Гётэ; уклад., прадм. Л. Баршчэўскага і П. Копанева, камент. Л. Баршчэўскага і В. Сёмухі. — Мінск: Белар. кнігазбор, 1999. — 640 с.

9. Лявонава, Е. А. Семантыка метамарфозы ў апавяданні М. Гарэцкага «Рускі» і навеле Ф. Кафкі «Ператварэнне»: агульнае і асаблівае / Е. А. Лявонава //

Немецкая культура в контексте мировой: сб. науч. ст. / под ред. Г. В. Синило; Белорус. гос. ун-т. — Минск: РИВШ, 2014. — С. 273—283.

11. Шпенглер, О. Закат Европы: в 2 т. / О. Шпенглер. — Новосибирск: ВО «Наука», 1991. — Т. 1. Образ и действительность. — 582 с.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 2 верасня 2017 года.

**Рэзюмэ**

**Таццяна СУПРАНКОВА**

**Фаўсціянскія матывы ў творчасці Максіма Гарэцкага**

УДК 821.112.2+821.161.3

Артыкул прысвечаны аналізу ўплыву топаса фаўсціяны на прозу М. Гарэцкага. Робіцца акцэнт на тых творах дасавецкага перыяду, якія ўспрынялі топас фаўсціяны і надалі яму адметны нацыянальны і ўніверсальны каларыт. Пільная ўвага надаецца такім апавяданням, як «Роднае карэнне», «Маці», «Рускі», аповесці «Дзве душы».

**Ключавыя словы:** фаўсціяна; мадэрнізм; беларуская культура і літаратура, М. Гарэцкі.

**Summary**

**Tatsiana SUPRANKOVA**

**Motives of Faust-concept in the works of Maksim Harecki**

The article is dedicated to the influence of the faust-concept topos upon the prose of M. Harecki. The work is concentrated upon the works of pre-Soviet period. The writer interprets the faust-concept topos, and fills it with distinctive national and universal coloration. Special attention is paid to such stories as «Native roots», «Mother», «Russian», the story «Two souls».

**Keywords:** faust-concept; modernism; Belarisian culture and literature, M. Harecki.



Сяргей КАВАЛЁЎ

# БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА: ПОГЛЯД З ПАРЫЖА

Ёсць кнігі, напісаныя непрафесійнымі літаратуразнаўцамі (пісьменнікамі, журналістамі, краязнаўцамі), якія прафесійныя даследчыкі літаратуры не могуць абмінуць увагай. У расійскай культурнай прасторы такімі кнігамі з'яўляюцца, напрыклад, зборнік эсэ Пятра Вайля і Аляксандра Геніса «Родная речь. Уроки изящной словесности» (Нью-Ёрк, 1989 — Масква, 2011) альбо зборнік нарысаў Дзмітрыя Быкава «Советская литература. Расширенный курс» (Масква, 2015). У беларускай культурнай прасторы ролю папулярызатара і, адначасова, крытыка-рэвізіяніста айчыннага пісьменства ўзяў на сябе колішні паэт-бумбамлітавец, а сёння вядомы празаік Альгерд Бахарэвіч. Ягоная кніга «Гамбурскі рахунак Бахарэвіча» (Мінск, 2012) выклікала зацятую дыскусію ў літаратурных колах, многія літаратуразнаўцы і пісьменнікі ўспрынялі яе як абразу беларускай літаратуры, як замах на аўтарытэт класікаў (у першую чаргу на класікаў беларускай *савецкай* літаратуры). Пасля публікацыі «Гамбурскага рахунку...» (а насамрэч, яшчэ раней: пасля аўтарскага агучвання асобных раздзелаў кнігі ў перадачах «Радыё Свабодная Еўропа») за Бахарэвічам замацаваўся імідж найвялікшага ворага беларускай літаратуры, які нянавісць да беларушчыны ўзвёў у ранг аўтарскай стратэгіі на шляху да поспеху.

Мне ўжо даводзілася пісаць пра «Гамбурскі рахунак Бахарэвіча» (Кавалёў, С. Непераможны школьны дыскурс: Гамбурскі рахунак Альгерда Бахарэвіча // Кавалёў, С. Пачвара ў рэліктавым лесе. Мінск, 2013. — С. 102—115); у адрозненне ад многіх калег-літаратуразнаўцаў я ацэньваю гэту кнігу станоўча: нягледзячы на суб'ектыўнасць ацэнак і дыскусійнасць асобных высноў, «Гамбурскі рахунак...» прываблівае свежым, арыгінальным поглядам на беларускую літаратуру, адметным стылем выкладу матэрыялу, а цікавых думак і трапных назіранняў у кнізе Бахарэвіча куды больш, чым у некаторых навуковых дысертацыях і груваcткіх манаграфіях. Як гэта ні парадаксальна, Бахарэвіч-эсэіст мне нават больш цікавы, чым Бахарэвіч-празаік, ягоныя «Гамбурскі рахунак...» і «Малая медычная энцыклапэдыя Бахарэвіча» мяне больш інтрыгуюць, чым ягоныя аповесці і раманы з сенсацыйнымі назвамі накшталт «Ніякай літасьці Валянціне Г.», «Сарока на шыбеніцы» ці «Белая муха, забойца мужчын».

Новая кніга Бахарэвіча-эсэіста мае назву «Бэзавы і чорны. Парыж праз акуляры беларускай літаратуры». Як сведчыць назва, яна таксама прысвечана беларускай літаратуры, альбо, як пераконвае яе змест, *і беларускай літаратуры таксама*. Але найбольш дакладна змест можна вызначыць наступным чынам: Парыж, літаратура, Бахарэвіч. Як і ў «Гамбурскім рахунку...», Бахарэвіча ў кнізе шмат — злога, вольнага, закаханага, — і тым, каго цікавіць толькі *Парыж* ці толькі *літаратура,* а асоба аўтара выклікае антыпатыю, лепш не разгортваць «Бэзавы і чорны...».

---

***Бахарэвіч, А***. *Бэзавы і чорны. Парыж праз акуляры беларускай літаратуры / А. Бахарэвіч. Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2016. — 278 с.*

Адметны жанр кнігі аўтар спрабуе вытлумачыць чытачу ў невялікай прадмове-прысвячэнні, напрыканцы ж ёсць традыцыйная выдавецкая анатацыя, але найбольш адэкватна канцэпцыю зборніка адлюстроўвае невялікі фрагмент з эсэ «Шпага*.* Менск. Імперыя»*,* змешчаны таксама на апошняй старонцы вокладкі: «Кожны пісьменьнік піша пра Парыж, нават калі нічога пра яго ня ведае і нават тады, калі апісвае сваю родную вёску. <…> Няма нічога весялейшага і рызыкоўнейшага, як блуканні з мапай Парыжу па беларускай літаратуры і яе ваколіцах, па сваіх і чужых жыцьцях і словах, бяз сэнсу і мэты, як і належыць эўрапейцам, паэтам і марнатраўцам» (с. 13).

Такім чынам, чытачу прапануюцца *блуканні*, *вандроўка*, *шпацыр*: як запэўнівае аўтар — па ваколіцах беларускай літаратуры з мапай Парыжа (але ў такім разе, «Бэзавы і чорны...» быў бы ўсяго толькі працягам, чарговай варыяцыяй «Гамбурскага рахунку...»*),* а як сведчыць рэальны змест кнігі — усё ж такі па Парыжы, з цытатамі не толькі з беларускай, але і з сусветнай літаратуры (Гейнэ, Кафка, Джойс, Набокаў), з аўтарскімі комплексамі і амбіцыямі, з разважаннямі пра засцянкова-калгасны патрыятызм і залатую нэндзу эміграцыі, з думкамі пра мужычкоў і эстэтаў у літаратуры, поруч з каханай Julie і ў рэфлексійнай самоце, з добрымі сябрамі і выпадковымі мінакамі-парыжанамі, з жывымі людзьмі і прывідамі на могілках Пэр-Ляшэз, з радасным усведамленнем таго, што нарэшце пішацца кніга, у якой *можна ўсё...*

Вандроўка ўслед за аўтарам па кожным з гэтых маршрутаў заняла б, напэўна, столькі ж месяцаў, колькі давялося Бахарэвічу пражыць у Парыжы , каб напісаць сваю дзіўную кнігу. Пройдземся тым маршрутам, які мяне, як літаратуразнаўцу, цікавіць найбольш: Парыж у беларускай літаратуры.

Напэўна, яшчэ гадоў дваццаць таму само вызначэнне тэмы — «Парыж праз акуляры беларускай літаратуры» — успрымалася б як правакацыйнае і крыху піжонскае, так як некалі ўспрымалася назва цудоўнага эсэ Леаніда Дранько-Майсюка «Стомленасць Парыжам» (1994): маўляў, усе мараць пра тое, каб пабываць у Парыжы, а няўдзячны паэт *пабываў* і *стаміўся*. Але напачатку XXI ст. пасля з’яўлення шматлікіх вершаў, падарожных нататак, эсэ пра Парыж Рыгора Барадуліна, Уладзіміра Арлова, Адама Глобуса, Андрэя Хадановіча і, асабліва, пасля публікацыі кнігі Валянціна Акудовіча «Разбурыць Парыж» (2004) сама па сабе тэма новай кнігі Альгерда Бахарэвіча ўжо не здзіўляе.

Сёння беларуская літаратура можа пахваліцца не толькі творамі, у якіх Парыж традыцыйна выступае як недасяжная мара, увасабленне ідэальнай, найбольш гарманічнай з мастацкага пункту гледжання прасторы для жыцця творцы, як сімвал жаночай і мастацкай прыгажосці, культуры і цывілізаванасці ўвогуле, але і шэрагам тэкстаў, у якіх сцвярджаецца анталагічная роўнасць паміж вершамі Рыльке і песнямі палескай бабулькі, сусветна вядомымі нацюрмортамі Маціса і «цікеткамі» нязнаных давыд-гарадоцкіх мастакоў, у якіх свядома разбураецца міф Парыжа як мастацкага цэнтра Сусвету і недасяжнага ўзору для наследавання.

Паэт Леанід Дранько-Майсюк у эсэ «Стомленасць Парыжам», вандруючы па парыжскіх вулках і скверах услед за Гіёмам Апалінэрам, па-майстэрску ўплёў беларускія ўспаміны і асацыяцыі ў габелен французскіх уражанняў і прыйшоў да аптымістычнай высновы, што: «<...> калі мы сапраўды адстаём ад сваіх суседзяў на сто, дзвесце ці нават на больш гадоў, калі мы часта прыстаём, стамляемся, басанож адольваючы дадзены гістарычны шлях, то адставанне нашае (я ўпэўнены!) вельмі блізкае да той відавочнай розніцы, якая некалі існавала паміж пакутнай хадою босых галілейскіх рыбакоў і зладжаным крокам абутых рымскіх легіянераў» (Дранько-Майсюк, Л. Акропаль. Мінск, 1994. — С. 115—116).

Філосаф Валянцін Акудовіч у эсэ «Разбурыць Парыж», узяўшы ў якасці эпіграфа выказванне Дранько-Майсюка, а ў якасці інтэлектуальнага ўзбраення —

працы Дэрыды, Льётара, Барта, Дэлёза, упэўнена абвясціў: «<...> усім зануранымy у паныласць беларусам, што ў нас няма альтэрнатывы: альбо мы разбурым Парыж, альбо Парыж сваім цяжкім ценем разбурыць нас — дашчэнту» (Акудовіч, В. Разбурыць Парыж. Мінск, 2004. — С. 132). Парыж разумеўся як Сталіца вялікага еўрапейскага наратыву, як глабальны Сімулякр, што засланіў нашыя вочы ад белага свету, як сімвал лагацэнтрычнага мыслення, у катэгорыях якога Беларусь нязменна выглядала як незавершаны праект, краіна-аўтсайдар, інтэлектуальная і культурная правінцыя. На думку Акудовіча, збаўцам беларусаў з-пад інтэлектуальнага прыгнёту Вялікага еўрапейскага наратыву, станецца Постмадэрн, прыход якога ў «родныя балоты» беларускі філосаф горача вітаў.

На жаль, эсэ Леаніда Дранько-Майсюка ў кнізе Альгерда Бахарэвіча не згадваецца, а вось Валянціну Акудовічу прысвечаны асобны раздзел: «Акудовіч. Балота. Дыскурс». Як хроснага бацьку «Бум-Бам-Літа», сімпатычнага чалавека і арыгінальнага філосафа, Бахарэвіч Акудовіча шануе і нават велікадушна дазваляе яму разбураць імперскую сталіцу культуры: «Парыж — дзіўнае месца. Калі яго зьнішчаеш — у зусім іншым кутку Эўропы робіцца сьвятлей. Але і самому Парыжу горш не робіцца. Яго бурыш дашчэнту — ён застаецца, у яго тысяча сьмерцяў, і кожная зь іх — мастацтва» (с. 229).

Але канатацыі вобраза Парыжа ў кнізе Бахарэвіча зусім іншыя, чым у акудовічаўскім эсэ. Для Бахарэвіча Парыж — сімвал творчай свабоды, магічнае месца, дзе можна быць «...чужымі і вольнымі ў самым цэнтры Сталіцы сьвету» (с. 89), «Парыж — тэст на іншадумства, на вольнасць і проста на іншасць» (с. 90), гэта лакмусавая паперка, якая вызначае ступень незалежнасці творцы ад нацыянальнай традыцыі, засцянковага патрыятызму, дзяржаўнай ідэалогіі.

На думку Бахарэвіча, пісьменнік-эстэт і алкаголік-нонканфарміст Міхась Стральцоў, які ніколі не быў у Парыжы, мае да гэтага горада большае дачыненне, чым дзясяткі ягоных калег па пісьменніцкім цэху, якія наведалі сталіцу Францыі ў складзе розных савецкіх дэлегацый: «...адабраныя ў выніку д’ябальскай селекцыі, радасныя, як рабы, адзначаныя гаспадаром за верную службу, прыніжаныя дарослыя людзі, у якіх забралі годнасьць, пакінуўшы літаркі, кубікі, тэмкі: складай правільна, і будзеш цэлы» (с. 62).

Шмат хто з беларускіх пісьменнікаў пабываў у Францыі ў савецкія часы: Якуб Колас, Цішка Гартны, Міхась Зарэцкі, Міхась Чарот, Максім Танк, Пімен Панчанка, Янка Брыль, Васіль Быкаў, Вячаслаў Адамчык і інш., а Усевалад Краўчанка нават скончыў жыццё самагубствам у Ніцы. Але Бахарэвіч лічыць (і цяжка з ім не пагадзіцца), што Максім Багдановіч: «...увайшоў у гісторыю як самы французскі і самы парыскі беларускі паэта. Хоць пабываць у сталіцы сьвету яму так і не давялося. Але некаторыя яго вершы дзіўным чынам пасуюць Парыжу — быццам ён тут іх і напісаў. <…> Багдановіч мог чытаць французаў у арыгінале — і адно гэта ставіць яго вышэй за літаратурных мужычкоў-баравічкоў: з вышыні замежнай мовы ён бачыў больш і далей, чым ягоныя старэйшыя таварышы. Што ж, гэта закон Загібелькі: у Парыж зазвычай трапляюць ня тыя, хто можа яго зразумець і ацаніць» (с. 65).

Загібелька — гэта назва вёскі ў эпіграме Кандрата Крапівы з нагоды паездкі Якуба Коласа ў Парыж у 1935 годзе ў складзе савецкай дэлегацыі на Кангрэс пісьменнікаў у абарону культуры. З’едлівае чатырохрадкоўе Крапівы — адзін з самых вядомых твораў беларускай літаратуры пра Парыж: «Быў я ў Парыжы на кангрэсе, / То ў Загібельцы, браце, лепш — / Грыбоў няма ў Булёнскім лесе, / А ў Сэне хоць бы адзін лешч» (с. 64). Як працяг крапівоўскай эпіграмы і пацвярджэнне выказанай там ідэі можна разглядаць адказ Якуба Коласа: «Калі агледзіш хвайнякі / І гэты кут пазнаеш бліжай, / Зьбіраючы баравікі, / Дык вывад я зраблю такі: / Мне Загібелька лепш Парыжа» (с. 64).

Катэгарычнае сцвярджэнне «мне Загібелька лепш Парыжа» ў розных варыяцыях праходзіць лейтматывам праз усе творы беларускай літаратуры савецкага перыяду, прысвечаныя Парыжу, а сваё ўніверсальнае, планетарнае гучанне набыло ў вядомых радках Генадзя Бураўкіна: «Я не ганю землі чужыя, — Хай іх сонца не абміне, / Толькі дзе б за морам не жыў я, Беларусь мая снілася мне» (с. 168).

Часам, клятвы паэтаў у вернасці Радзіме гучаць камічна, як, напрыклад, у вершы Анатоля Зэкава: «Мяне Парыж як сына прыме — / Куды падзенецца і стома? / А я сумую па Радзіме, / А я шкадую, што ня дома» (с. 131). Альгерд Бахарэвіч разглядае падобныя тэксты ў раздзеле «Не хацім. Ня любім. Не паедзем». Кампліменты ў адрас беларускіх савецкіх пісьменнікаў сустракаюцца ў кнізе Бахарэвіча вельмі рэдка, найчасцей аўтар кпіць з іх твораў, прысвечаных «сталіцы свету». І многія творы, якія цытуюцца ў кнізе «Бэзавы і чорны...», гэтага заслугоўваюць. Як можна не іранізаваць з радкоў Лявона Неўдаха: «А ў Парыжы ў Сэне — вада! / Ля вады той гуляе Жанэта. / Ды Парыж мне чужы. Не шкада, / Што ня стрэўся з жанчынаю гэтай» (с. 170) І Бахарэвіч іранізуе: «У Парыжы ў Сэне вада — гэта, вядома, неверагоднае адкрыццё. Я наўмысна схадзіў падзівіцца. Сапраўды, вада ў Сэне ёсць, плёскаецца паціху, бура-зеленаватая, бурклівая, сцюдзёная. Хто б мог падумаць, га?» (с.170).

Каментуючы радкі Пімена Панчанкі з «Патрыятычнай песні» («Я езьдзіў ад Манмартра да Вэрсаля, / Глядзеў, марнеў, зусім нядужым стаў. / Каб з Рэнуарам зноў пабыць у зале, / Я Мулен-руж старанна абмінаў...» (с. 123)), Бахарэвіч адзначае: «Чуецца ў радках Панчанкі нейкае клятвеннае апраўданне і ў той самы час гідкае падміргванне мужычка на службе: не падумайце, старанна абмінаў, за кілямэтр абыходзіў. Белоруссо поэто, обліко морале» (с. 123).

Тым не менш, вынесены ў загаловак кнігі Бахарэвіча эпітэт «бэзавы і чорны» паходзіць менавіта з паэмы «Патрыятычная песня» (1959), дзе сярод іншых гарадоў свету, якія наведаў Пімен Панчанка, апісваецца і Парыж: «Раскінуўся ты, бэзавы і чорны, / Падпёршы вежай сіні небасхіл, / Спрадвеку трапяткі і непакорны, / І стомлены, і поўны вельмі свежых сіл» (с. 121). Каментуючы гэтыя радкі, Бахарэвіч аб'ектыўна прызнае: «Трэба сказаць, файныя колеры выбраў для яго [Парыжа. — *С. К.*] Панчанка, дакладныя» (с. 121).

Пазітыўна ацэньвае Альгерд Бахарэвіч вершы з парыжскімі матывамі ў творчасці Рыгора Барадуліна, прысвяціўшы ім асобны раздзел з «падазронай» назвай «Барадулін. Пахмельле. Трава». Аўтар «Бэзавага і чорнага...» з прыемным здзіўленнем адзначае: «Амаль унікальны выпадак: Парыж не замінае Барадуліну любіць радзіму. Паміж Ушачай і Парыжам ён намацвае тонкую, але дужа трывучую нітку, што злучае Сталіцу сьвету і беларускую вёску. У нітке ёсьць назва — Эўропа, і Барадулін кажа пра гэта: нясьмела, але ўголас. Гэта тая нітка, якую будуць спрабаваць парваць усе, з абодвух бакоў. А яна ніяк ня рвецца — быццам і ня нітка, а тоўстая карабельная ліна» (с. 176).

Яшчэ больш высока ацэньвае Бахарэвіч тэксты пра Парыж (і іх творчасць увогуле) сваіх сучаснікаў: Адама Глобуса, Валянціна Акудовіча, Андрэя Хадановіча, Вальжыны Морт. Напачатку XXI стагоддзя гэтыя аўтары шмат зрабілі для ўмацавання той ніткі, якая завязалася паміж Парыжам і Беларуссю, сусветнай і беларускай літаратурай стагоддзем раней намаганнямі Максіма Багдановіча і ягоных паслядоўнікаў. Аналізуючы эсэ Адама Глобуса «Празрысты Парыж» (2001), Бахарэвіч з павагай хоць і не без іроніі падкрэслівае: «Гэта вялікі, злосны і прыгожы тэкст. І празрысты. Калі абмінаць усе сэксуальныя памкненьні аўтара, што часам апаноўваюць яго ў самых нечаканых месцах, калі ветліва не рэагаваць на іх і ісьці далей, пакідаючы аўтара зь імі сам-насам і даганяючы на наступнай вуліцы — можна прайсьці зь ім скрозь увесь горад і пабачыць самае Галоўнае. Эсэ Глобуса — найлепшы антыгід па Парыжы ў беларускай літаратуры» (с. 223).

Можна, вядома, абвінаваціць Бахарэвіча ў суб'ектыўнасці ацэнак (усе чатыры аўтары, згаданыя вышэй, з'яўляюцца ягонымі сябрамі альбо прыяцелямі і прысвечаныя ім раздзелы ў кнізе чытаюцца як творчыя партрэты), але, сапраўды, актыўнае эстэтычнае асваенне геаграфічнай прасторы пачалося ў беларускай літаратуры напрыканцы ХХ — пачатку ХХІ стагоддзя і звязана з творчасцю сяброў суполак «Тутэйшыя», «ТВЛ», «Бум-Бам-Літ»: «Вершаваныя, празаічныя, драматургічныя тэксты густа перасыпаны геаграфічнымі найменнямі: Мінск, Полацк, Вільня; Беларусь, Літва; Венецыя, Падуя, Рым, Прага, Варшава, Лазана, Вітэнберг; Грэцыя, Германія, Швейцарыя, Індыя, Кітай, Японія; Усход і Захад; Еўропа. Пытанне «Хто я?» у большасці тэкстаў відазмяняецца ў пытанне «Дзе я?» (адказы даюцца самыя розныя, напрыклад: «тут» ці «за небакраем Эўропы»). Высвятленне ўласнага месцазнаходжання не толькі ў часе (гісторыі), але і ў сусвеце, эстэтычнае засваенне геаграфічнае прасторы, пошукі «сапраўднага дому» для Беларусі паміж Усходам і Захадам робяцца першаснай патрэбай «новае літаратуры», і геаграфія ператвараецца ў філасофію» (Кавалёў, С. Новая еўрапеізацыя, «Беларусь», 1991. — №7. — С. 7).

Можна нават упікнуць Альгерда Бахарэвіча за тое, што не ўсе творы сучаснай беларускай літаратуры, важныя для раскрыцця тэмы, ён разгледзеў у сваёй кнізе. Акрамя эсэ Леаніда Дранько-Майсюка «Стомленасць Парыжам», я назваў бы яшчэ вершы Алеся Аркуша, Юрыя Гуменюка, і, канечне, раман Артура Клінава «Шалом», галоўны герой якога Андрэйка/Андрэ выразна пазіцыяніруецца як франкафіл. З'едлівым водгукам на распрацоўку тэмы Парыжа ў айчыннай літаратуры гучыць у рамане Клінава рэпліка Андрэ пра паэта і мастака Буяна, які стварае батальнае палатно пра тое, як: «мандавошкі выпраўляюцца захапіць Парыж» (Клінаў, А. Шалом. Ваенны раман. Мінск, 2011. — С. 92). Ідэя палатна нагадвае жартаўлівую фантасмагорыю з эсэ Валянціна Акудовіча «Разбурыць Парыж» пра калону трактароў «Беларусь», якая рухаецца «да Парыжа, каб засадзіць Елісейскія Палі беларускай бульбай» (Акудовіч В. Разбурыць Парыж. — С. 133).

Да недахопаў кнігі «Бэзавы і чорны. Парыж праз акуляры беларускай літаратуры» можна залічыць сумніўную інтэрпрэтацыю «Ідыліі» Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча як *дурнаватага вадэвільчыка,* у якім «злосны і няшчасны аўтар спрабуе прыкрыць сваю незапатрабаванасць, сваю крыўду на Парыж і зайздрасць да тых, хто з'ехаў або напісаў нешта вартае» (С. 23). Не любіць Альгерд Бахарэвіч Дуніна-Марцінкевіча, яшчэ ў «Гамбурскім рахунку...» аўтар іранізаваў наконт таго, што «…пінскай местачковай шляхце хацелася выпіць і пабіцца, а менскай навуковай шляхце хочацца займець свайго шэкспіра, хай і ў такі дзіўны спосаб» (Бахарэвіч А. Гамбурскі рахунак Бахарэвіча. Мінск, 2012. — С. 22—23). Але калі ў камічнай франкаманіі слугі Жана з «Ідыліі» бачыць трагедыю чалавека, па волі лёсу пазбаўленага еўрапейскай культуры і свабоды, то падобным чынам можна інтэрпрэтаваць і вобраз лакея Яшы з «Вішнёвага саду» Чэхава, а самога Антона Паўлавіча з ягонай настальгіяй па «сыходзячай» Расіі залічыць у лагер засцянковых патрыётаў і ворагаў еўрапейскай культуры (сімптаматычна, што спектакль Аляксея Ляляўскага паводле «Вішнёвага саду» ў Беларускім дзяржаўным тэатры лялек называўся «З Парыжам скончана!»*).*

Самая ж галоўная загана «парыжскай» кнігі Бахарэвіча — цікавай, наватарскай, шчыра-асабістай — з літаратуразнаўчага пункту гледжання бачыцца ў яе агістарызме, у імкненні аўтара ацэньваць учынкі і творы беларускіх пісьменнікаў XIX—XX стст. з пазіцый сённяшняга дня. Напэўна, Альгерду Бахарэвічу добра вядома, што большасць вершаў і нарысаў пра замежжа пісалася беларускімі савецкімі пісьменнікамі як ідэалагічная справаздача, «творчая» адпрацоўка доўгачаканай камандзіроўкі ў капіталістычны свет. Канечне, кожны апублікаваны тэкст можна аналізаваць і крытыкаваць, але які ў гэтым сэнс, калі шчырасці

і мастацкасці ў падобных творах няма *a priori*? Напэўна, Альгерд Бахарэвіч цудоўна разумее, чаму Уладзімір Караткевіч у сваіх вершах руйнаваў парыжскую Бастылію, а не мінскі Пішчалаўскі замак, аднак публічна здзіўляецца таму, што «Караткевіч, седзячы ў «турме народаў» займаецца любімай справай: спрабуе выказаць боль сьвету, як ён яго разумее. Ён самы гуманны гуманіст і прастадушны душапастыр беларускай савецкай літаратуры: яму падаецца, што ўвесь боль там, за мурамі» (с. 31).

Нашаму пакаленню проста пашанцавала. Мы не мусім карыстацца выключна «эзопавай мовай», можам выбіраць паміж радзімай і эміграцыяй, можам хоць заўтра выбрацца ў Парыж. Уладзімір Караткевіч ніколі не быў у Парыжы, як і многія іншыя беларускія пісьменнікі.

Адзін з самых пранізлівых эпізодаў у гісторыі ўзаемадачыненняў Парыжа і беларускай літаратуры, які апісваецца ў кнізе «Бэзавы і чорны...», гэта ўспамін Віктара Карамазава пра Міхася Стральцова. Карамазаў едзе на канферэнцыю ЮНЕСКА ў Парыж, адабраны партыйным кіраўніцтвам у выніку той самай «д’ябальскай селекцыі». «Неблаганадзейны» Стральцоў ноччу, у цягніку «Масква—Парыж» перадае свайму больш рэспектабельнаму сябру таямнічы скрутачак з просьбай завезці ў Парыж. На вакзале ў Парыжы Карамазаў разгортвае скрутачак, знаходзіць там драбок калійнай солі і запіску: «Хай гэты драбочак скамянела-салёнага поту нашай беларускай зямелькі будзе табе ў Парыжы салодкім напамінкам усяго роднага. Люблю Парыж. Міх. Стральцоў» (с. 155).

Закаханы ў французскую літаратуру Міхась Стральцоў ніколі не быў у Парыжы. Але драбок калійнай солі, перададзены ім з сябрам у Парыж, гаворыць мне больш пра стаўленне беларускіх пісьменнікаў да Сталіцы Свету, чым дзясяткі твораў, разгледжаных у кнізе «Бэзавы і чорны...».

Калі верыць Альгерду Бахарэвічу: «...у Парыж зазвычай трапляюць ня тыя, хто можа яго зразумець і ацаніць» (с. 65).



Дар'я НЕЧЫПАРУК, Фу МЭЙЯНЬ

# РАСПАЎСЮДЖАННЕ КІТАЙСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ Ў БЕЛАРУСІ ПАСЛЯ ЎТВАРЭННЯ КНР[1]

Заканамерным падаецца той факт, што ўслед за развіццём кітайска-беларускіх адносін у палітычнай, эканамічнай, культурнай, навуковай і іншых сферах узмацнілася цікавасць беларусаў да традыцыйнай кітайскай культуры і, у прыватнасці, кітайскай літаратуры. Вялікая колькасць навукоўцаў займалася вывучэннем шэрагу аспектаў беларуска-кітайскіх адносін. Нягледзячы на тое, што беларуская кітаязнаўчая школа не развівалася так імкліва і актыўна, як расійская, гісторыя якой налічвае больш за дзвесце гадоў, Беларусь таксама можа ганарыцца тым, што на яе тэрыторыі нарадзіліся навукоўцы, якія ўнеслі вялікі ўклад у развіццё савецкага кітаязнаўства і перакладазнаўства. Да прыкладу, Уладзімір Панасюк, ураджэнец Полацка, з'яўляецца аўтарам кітайска-рускага слоўніка, а таксама перакладчыкам сусветна вядомых раманаў «Трохцарства» Ло Гуаньчжуна, «Сон у чырвоным цераме» Цао Сюэціня, «Выбранае» Сыма Цяня, «Казанне пра Юэ Фэе» Цянь Цая.

Знакавай постаццю ў савецкіх кітаязнаўчых колах з'яўляецца і ўраджэнец Магілёва Віталь Феакцістаў. Яго кандыдацкая дысертацыя прысвечана філасофіі і сацыяпалітычным поглядам Сюнь-цзы. Займаўся навуковец і непасрэдна перакладамі з кітайскай мовы прац Сюнь-цзы.

Вялікі ўклад у развіццё перакладазнаўства і папулярызацыі кітайскай літаратуры на тэрыторыі Беларусі ўнёс перакладчык і літаратурны крытык Леў Салавей. У 1954 г. ім быў перакладзены на беларускую мову раман Дзін Лін «Сонца над ракой Сангань», а ў 1956 г. — апавяданні Лу Сюня. Аднак варта адзначыць, што пераклад на беларускую мову ажыццяўляўся праз мову-пасярэдніцу — рускую.

У 1953 г. Ганна Сапрыка падрыхтавала кнігу «Апавяданні кітайскіх пісьменнікаў», у якую ўвайшлі творы Чжоу Шулі, Мао Дуня, Чжоу Лібо і інш.

Дзякуючы гэтым адносна нешматлікім працам беларускія чытачы змаглі сфарміраваць пэўны погляд на кітайскую прозу і пазнаёміцца з яе адметнымі асаблівасцямі.

Кітайская паэзія стала шырока вядомай у Беларусі дзякуючы Уладзіміру Дубоўку. У 1959 г. у часопісе «Полымя» былі апублікаваны яго пераклады вершаў Ду Фу. Перакладалі Ду Фу і Янка Сіпакоў, Рыгор Барадулін. Апошні ў кнізе «Гукі паэзіі з Усходу» прэзентаваў па-беларуску вершаваныя творы Ду Фу, Лі Бо, Ван Вэя.

Пасля выхаду беларуска-кітайскіх адносін на ўзровень усебаковага стратэгічнага партнёрства кітайская літаратура атрымала яшчэ большае распаўсюд-

[1] Дадзены артыкул уяўляе сабой прамежкавы вынік навуковых даследаванняў праектаў філасофскіх і грамадскіх навук горада Цяньцзіня. Тэма праекта: «Актуальнасць і перспектыва абмену кітайскай і беларускай літаратур у рамках ініцыятывы «Адзін пояс, адзін шлях», нумар праекта: TJWW17-027. （本文系天津市哲学社会科学规划资助一般项目“‘一带一路’视阈下的中白文学交流现状与发展前景研究”的阶段性研究成果；项目编号: TJWW17-027).

жанне, чым у папярэднія дзесяцігоддзі. 20 студзеня 1992 г. былі ўсталяваныя дыпламатычныя адносіны Рэспублікі Беларусь з Кітайскай Народнай Рэспублікай, у той жа год распачало працу і Пасольства КНР у нашай краіне. Падобнае развіццё адносін паміж дзвюма дзяржавамі знайшло адлюстраванне і ў літаратурным супрацоўніцтве. У 1996 г. выйшаў зборнік кітайскай прозы «Жыццё пасля смерці». У выданні прадстаўлены кітайскія пісьменнікі другой паловы 1980-х гг.: Лу Вэньфу («Калодзеж»), Чэнь Жун («Жыццё пасля смерці»), Мао Янь («Ураган»), Ван Юаньцзянь («Песня», «Мама», «Тры падарожнікі») і інш. Кніга знаёміць беларускага чытача з жыццём кітайскага грамадства, раскрываючы сутнасць працэсаў «вялікай культурнай рэвалюцыі» і яе вынікаў, а таксама апісвае барацьбу кітайскага народа з японскімі захопнікамі.

З нагоды стагоддзя літаратурнага супрацоўніцтва Кітая і Беларусі ў Мінску была выдадзена кніга «Стагоддзе на знаёмства», у якой сабраны перакладныя творы кітайскай літаратуры розных перыядаў, пачынаючы ад Цюй Юаня і заканчваючы прозай 50—60 гг. XX стагоддзя.

З 2000 г. у штомесячным літаратурным часопісе «Всемирная литература» рэгулярна публікаваліся пераклады кітайскай літаратуры на рускую мову.

У 2012 г. быў выдадзены зборнік паэзіі «Пад крыламі дракона. Сто паэтаў Кітая», які прадстаўляе пераклады на беларускую мову вершаў ста знакавых паэтаў. Перакладчыку, беларускаму паэту, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы Міколу Мятліцкаму, удалося шматгранна адлюстраваць асаблівасці кітайскай паэзіі розных эпох (з IV ст. да н.э. да XX ст.). Выданне ў значнай ступені паспрыяла далейшаму развіццю беларуска-кітайскага культурнага дыялогу.

Беларускімі выдавецтвамі назапашаны багаты вопыт працы з кітайскай літаратурай, падрыхтаваны шырокі спектр перакладных твораў.

Асаблівай увагі заслугоўвае паэтычная серыя Выдавецкага дома «Звязда» — «Светлыя знакі. Паэты Кітая», заснаваная ў 2014 г. Падрыхтоўка перакладаў вялася пры садзейнічанні Рэспубліканскага інстытута кітаязнаўства імя Канфуцыя БДУ, кафедры кітайскай філалогіі філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. На дадзены момант у серыі выйшла дзесяць кніг, якія прадстаўляюць творчасць кітайскіх паэтаў розных эпох (з VII ст. да сучаснасці): Ван Вэя, Ду Фу, Ай Ціна, Лі Бо, Лі Хэ, Лі Цінчжаа, Ван Гачжэня, Мэн Хаажаня, Сюй Чжымо, Вэнь Ідо ў перакладзе на беларускую мову вядомымі беларускімі паэтамі (М. Мятліцкім, А. Бадаком, Н. Гальпяровічам, Т. Сівец і інш.). Падрыхтаваны зборнік перакладаў класічнага кітайскага паэта Су Шы. Унікальнасць серыі заключаецца ў тым, што пераклады здзяйсняюцца або непасрэдна з мовы арыгінала, або па дэталёва каментаваных падрадкоўніках.

Знакавымі падзеямі з’яўляюцца і прэзентацыі іншых кніг Выдвецкага дома «Звязда», звязаных з сацыяльна-палітычным, культурным жыццём Кітая. Манаграфія Валянціна Дубовіка «Беларусь—Кітай: на шляху ўсебаковага супрацоўніцтва» асвятляе шэраг дыпламатычных, эканамічных, культурных аспектаў стасункаў нашых краін. Яшчэ адным прыкладам абгрунтаванай ацэнкі падзей, якія адбываюцца ў КНР, з’яўляецца кніга Віктара Герменчука «Кітай. Крылы дракона», у якой разглядаюцца асноўныя падыходы заходняй палітычнай навукі да аналізу становішча сучаснага Кітая, раскрываюцца асаблівасці сацыялізму з кітайскай спецыфікай, дзяржаўныя прынцыпы, роля традыцыйнай канфуцыянскай сістэмы каштоўнасцей і маралі ў працэсе пабудовы новай дзяржавы і грамадства. «Беларуска-кітайскія адносіны ва ўспамінах беларускіх паслоў: да 25-годдзя ўстанаўлення дыпламатычных адносін» — кніга, якая змяшчае ўспаміны надзвычайных і паўнамоцных паслоў, што паслядоўна прадстаўлялі інтарэсы Рэспублікі Беларусь у Кітайскай Народнай Рэспубліцы, а таксама ўражанні дзейснага Пасла Рэспублікі Беларусь у Кітайскай Народнай Рэспубліцы Кірыла Рудага.

Літаратурна-мастацкія перыядычныя выданні таксама шырока прадстаўляюць беларускаму чытачу пераклады кітайскай літаратуры розных эпох, перыядычна рыхтуюць тэматычныя кітайскія нумары, публікуюць матэрыялы пра літаратурныя стасункі Беларусі і Кітая, культурныя падзеі абедзвюх краін. За апошні час у часопісе «Нёман» былі прадстаўлены пераклады твораў А І, Вэй Вэя, Чжу Вэньін, Лу Міня, Гэ Ляна, інтэрв’ю Алеся Карлюкевіча з Ігарам Ягоравым «Мо Янь — пісьменнік з народа» і з Надзеяй Кірносавай «Кітайская літаратура — магутны канал інфармацыі пра краіну», а таксама рэцэнзія на кнігу Ван Гачжэня «Мелодыі адкрытага сэрца». У часопісе «Полымя» друкаваліся пераклады паэзіі Лі Хэ, а таксама рэцэнзіі Дар’і Нечыпарук і Юліі Алейчанкі на перакладныя кнігі кітайскіх паэтаў .

У пачатку 2018 г. адбылася прэзентацыя паэтычнага зборніка «Пялёсткі лотаса і хрызантэмы. Сто паэтаў Кітая XX стагоддзя», які пабачыў свет у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Перакладчыкам выступіў Мікола Мятліцкі, які працягнуў плённую працу па пераасэнсаванні кітайскай паэзіі розных эпох. Праз творы кнігі беларускія чытачы могуць прасачыць культурныя трансфармацыі, якія адбываліся з Кітаем у мінулым і на сучасным этапе развіцця грамадства.

Вялікую ролю адыгрываюць і асабістыя сустрэчы кітайскіх і беларускіх пісьменнікаў, культурных дзеячаў. Важнай падзеяй у гэтым кірунку з’яўляецца Міжнародная кніжная выстава, якая праходзіць штогод у Мінску. Асабліва варта адзначыць XXII кніжную выставу-кірмаш у 2015 г., падчас якой Кітай выступіў ганаровым госцем. Быў падпісаны мемарандум аб узаемных перакладах літаратуры на 2015—2020 гг. паміж Беларуссю і Кітаем. Для перакладу былі абраны 50 твораў кітайскай і беларускай літаратуры. Для рэалізацыі праекта створана каардынацыйная група, у склад якой уваходзяць кіраўнікі выдавецтваў, спецыялісты-кітаязнаўцы, перакладчыкі.

Цесныя культурныя стасункі Кітая і Беларусі набываюць новы імпульс. На дадзеным этапе ключавым крокам з’яўляецца якасная падрыхтоўка перакладчыкаў мастацкай літаратуры, далейшае развіццё і фарміраванне беларускай школы кітаязнаўства.



Мікола ТРУС

# НА ТОЙ БОК ШПАКОВАЙ ГАРЫ: ПРА АЛЕГА ЛОЙКУ — ПА-ЗЯМЛЯЦКУ

Беларуская мемуарыстыка мае даўнюю традыцыю, вытрыманую ў народным духу рытуальнага прымяншэння сваёй ролі як апавядальніка, — у назве тэксту ўжываць слова *жменька* (жменька ўспамінаў). Шмат людзей на працягу ладнага часу былі звязаны з Алегам Антонавічам Лойкам (1931—2008) біяграфічна, працоўна, творча, навукова. Многія і сёння могуць прыгадаць багата эпізодаў з добра помнага і разам перажытага. Такіх цікавостак у мяне не набярэцца і на *шчопцю.* Так сталася, што хоць і вучыўся на філалагічным факультэце БДУ, скончыў тут аспірантуру, 15 гадоў працаваў, але звычайна трымаўся ад прафесара Алега Лойкі трохі воддаль. Не ў пашане ў заходнікаў-слонімцаў назаляць, смальцом лезці ў вочы, прасіць за сябе, апеляваць у сваіх просьбах да зямляцтва.

Зямляцтва — не падстава для панібрацтва, якое само па сабе заганнае. Тое, што я трымаўся ў баку ад паважанага прафесара падчас жыцця і працы ў Мінску, прадвызначыла адсутнасць сутыкнення якіх-кольвек інтарэсаў, тым больш, канфліктаў. Таму няма патрэбы перабіраць у памяці падзеі мінулага, выбіраць і агучваць толькі лепшае. Усё, звязанае з Алегам Лойкам, памятнае і добрае. Усе кадры жыццёвай хронікі мінулага зніцаваны ў адну стужку, адсюль і думаецца, што перасячэнні з шаноўным земляком не выпадковыя, а наканаваныя і для мяне асабіста вельмі важныя.

Пры напісанні гэтага тэксту не хацелася, каб апошнія гады А. Лойкі — пакутліва-балючыя, псіхалагічна складаныя, выпрабавальна-цяжкія для яго асабіста, для родных і блізкіх — кідалі цень на многім вядомую сонечную ўсмешку паэта і вучонага. Яшчэ раней думалася напісаць нешта пра паважанага земляка, а тут такая нагода — ініцыятыва калег з філфака БДУ стварыць зборнік успамінаў. Таму і пішацца, ды яшчэ з устаноўкай, як кажуць часам аўтары, — каб ні хмурынкі.

## Любоў са школы

Маё завочнае, але вельмі трывалае, на гады, знаёмства з Алегам Антонавічам пачыналася ў Дзераўноўскай сярэдняй школе Слонімскага раёна. Настаўніца Аксана Аляксандраўна Хатэнка з асаблівай павагай штораз прыгадвала, а мы, школяры, завучана і ледзь не малітоўна паўтаралі за ёй паэтычную тройцу горада над Шчарай: Анатоль Іверс, Алег Лойка, Алена Руцкая... Вядома, называліся таксама іншыя пісьменнікі-землякі, але пашанотны пералік пачынаўся менавіта гэтымі імёнамі і ў гэтай паслядоўнасці. Паэтам Слонімшчыны прысвячалася асобная зашклёная шафа ў кабінеце беларускай мовы і літаратуры. Як адмысловы паэтычны адказ Сяргею Ясеніну гучала вывучаная на памяць у абавязковым парадку балада Алега Лойкі «Юнак быў з-пад Слоніма родам». І кожны з нас, падлеткаў, выхаваных у патрыятычным духу, прымяраў да сябе гэты трагічны эпізод Вялікай Айчыннай вайны, вельмі перажываў і за хлопца, і за ягонага, як у той гісторыі атрымалася, занадта адданага сабаку…

Прозвішча *Лойка* не сустракалася ў маёй і навакольных вёсках, таму і першыя трывала засвоеныя асацыяцыі пры яго агучванні былі наўпрост звязаны з мастацкай літаратурай, прытым у лепшых яе ўзорах. Калі ў нашым калгасе з'явіўся новы інжынер, цёзка паэта, гэтае прозвішча загучала з адпаведнымі рэгіянальнымі рысамі — *Лойко*. А для мяне гэтае падвойнае «о» здзіўлення (да таго прышлага чалавека вельмі добра ставіліся) толькі ўмацавала ў павазе да ўсіх Лойкаў, як тады ўяўлялася, абавязкова адукаваных і паважаных.

Першы мой школьны даклад, агучаны перад класам, быў прысвечаны тэме Кастрычніцкай рэвалюцыі ў беларускай літаратуры. З дапамогай настаўніцы за аснову ўзята кніга Алега Лойкі «Сустрэча з днём сённяшнім». Відаць, сам пафас тэмы і трымценне юнага выступоўцы спарадзілі тое, што вокладка гэтага выдання доўгі час была перад маімі вачыма: на чырвона-белым фоне — пяро, гваздзік і дрэва. А ў галаве ўсё круцілася лойкаўская фраза: *«...першай нашай паэмай непасрэдна аб Кастрычніку была паэма «Босыя на вогнішчы» Міхася Чарота».* Твор не ўваходзіў у школьнае навучанне, таму было цікава даведвацца самому і пачэсна расказваць іншым пра беларускую літаратуру па-за праграмай. Такі быў час і яго ідэйныя арыенціры: наш калгас называўся «Уперад», раённая газета — «За перамогу камунізму»...

У 1986 годзе я, дзевяцікласнік, браў удзел у рэспубліканскай алімпіядзе па беларускай мове, якая праходзіла ў Мінску. Тады яшчэ не існавала тых бонусаў пры паступленні ў ВНУ, што ёсць цяпер, але гэта было падарожжа ў сталіцу, запамінальныя сустрэчы і яркія ўражанні.

Жылі мы і праходзілі філалагічныя выпрабаванні ў інтэрнаце на вуліцы Стаханаўскай. Для алімпіяднікаў арганізавана адмысловая культурная праграма: прагляд прэм'ернай пастаноўкі «Дзяніса Давыдава» ў Тэатры музкамедыі; на Стаханаўскую завіталі студэнцкі тэатр з педінстытута, пісьменнікі Васіль Вітка, Галіна Булыка і інш. Адна з сустрэч адбылася на філфаку БДУ, што месціўся тады на Чырвонаармейскай.

У аўдыторыі на апошнім паверсе, аформленай у нацыянальным стылі (драўляныя лаўкі, мастацкія работы на сценах), праходзіла сустрэча з выкладчыкамі і прадстаўнікамі студэнцкага літаратурнага аб'яднання «Узлёт». Вёў яе Алег Лойка. Запомнілася, як трымцела ў пачатку свайго выступлення маладая паэтка, казала, «што лягчэй падняцца на эшафот». Лойка супакойваў расхваляваную дзяўчыну, а мы, школьнікі, трохі збянтэжана цікавалі за такой нечаканай драматургіяй.

Прызёр алімпіяды, я вяртаўся дадому са стосам падараваных кніг — у дадатак да дыплома. У адной з іх акурат і пісалася пра пакаленне беларускіх шасцідзясятнікаў, у якасці прыкладу творчай удачы называўся «Юнак быў з-пад Слоніма родам». Помніцца, не спадабалася заўвага, выказаная аўтарам, успрынялася як нейкі асабісты выклік (нашых крыўдзяць!): маўляў, няхай асабліва не ганарыцца, бо поруч з ім, Лойкам, пішуць іншыя вартыя паэты, і далей ішоў іх пералік.

У выпускным класе асноўныя развагі круцяцца вакол пытання «Куды паступаць?» Хацелася быць гісторыкам: у школьнай бібліятэцы перачытаў усё, датычнае археалогіі і нумізматыкі, сабраў цікавую калекцыю манет; вёў пошукі гісторыі палаца і капліцы паноў Бронскіх у вёсцы Ісаевічы, якія да майго часу не захаваліся, пісаў лісты ва ўсе інстанцыі. Трохі вабіла журналістыка, у раёнцы часам публікаваліся мае сціплыя допісы. З Гродзенскага ўніверсітэта прыйшло імяннное запрашэнне паступаць да іх на філалагічны факультэт; за гэты варыянт былі бацькі і прагматычныя сямейныя довады — у Гродне жылі мае старэйшыя сёстры.

Выбраў БДУ. Калі на другім курсе здаваў экзамен па беларускай мове Яўгену Міхайлавічу Камароўскаму, той задаў звыклае «Адкуль родам?» Пачуўшы адказ, будзённа заўважыў: «Усё ясна. Цябе Алег Антонавіч прывёз». Я катэгарычна запярэчыў: «Сам прыехаў…»

## Акрыленыя гады студэнцтва

1987 год. У актавай зале філфака БДУ першакурснікаў вітаў прафесар, загадчык кафедры беларускай літаратуры Алег Лойка. З прамоўленага запомнілася прызнанне, што з усіх знакаў прыпынку яму найбольш даспадобы працяжнік, таму што сімвалізуе няскончанасць, працяг, надзею.

На першым курсе такім памятным працягам некалькіх тыдняў сталічнай адаптацыі і новых знаёмстваў была паездка на бульбу ў вёску Загараны Круглянскага раёна. Параўнанне мясцовага калгаса «50 год Кастрычніка» з мільянерам «Уперад» напрошвалася адразу і было не на карысць першага. Гэта стала нагодай для абуджэння своеасаблівага краёвага патрыятызму — на Слонімшчыне ўсё дагледжана, гаспадары.

Працоўным філфакаўскім дэсантам у нашай пятай групе камандаваў Алесь Бельскі, тады яшчэ аспірант кафедры беларускай літаратуры. Ён падказваў нам: Алег Антонавіч заўсёды ўважліва прыглядаецца да новых студэнтаў, выяўляе таленавітых, пасля запрашае на «Узлёт», заахвочвае да творчай і навуковай працы.

На першым курсе, асабліва тыя, што жылі ў студэнцкім інтэрнаце, абавязкова праходзілі своеасаблівы курс маладога байца. «Першачкі», разявіўшы дзюбкі, з цікавасцю слухалі гісторыі старэйшых, ужо абстраляных на некалькіх экзаменацыйных сесіях. Тыя з энтузіязмам пераказвалі фальклярызаваныя гісторыі пра асобных каларытных выкладчыкаў, схільных да авантур студэнтаў. У мінулыя часы філфак быў невялікім, кампактным — усё і ўсе навідавоку, а любыя здарэнні — адразу на языку. Было ў гэтым нешта сямейнае, вядома, у лепшым сэнсе гэтага слова.

Навабранцаў асабліва цікавіла пытанне, як хто прымае экзамен, таму загадзя перапытвалі: «А як яму (ёй) здаваць?» І далей ішлі падрабязныя інструкцыі: у якім парадку лепш заходзіць у аўдыторыю, як трымацца, любімая або нелюбімая тэма ці аўтар і інш. Дзяўчаты ледзь не занатоўвалі парады, як трэба апранацца — сціпла і наглуха закрыта ці лепш дазволіць сабе штосьці ад Купалавай Насты Пабягунскай, макіяж, парфума і г. д. Усё ва ўяўленні інструктараў і слухачоў мела вельмі важнае значэнне, пры гэтам уласна веданне прадмета саступала на другі план, нікла ў цень.

Студэнтамі старэйшых курсаў пераказваліся, часам дасціпна і пазнавальна перадражніваліся лектарскія манеры трымацца ў аўдыторыі, характар і маўленне паасобных выкладчыкаў. З тых інтэрнацкіх уводзінаў у студэнцкую вучэбную будзённасць у дачыненні да Алега Лойкі запомніўся адзін накід-эцюд. Прафесар чытаў курс гісторыі беларускай літаратуры. Захоплены на лекцыях эмоцыяй сваёй асабістай і непасрэднай улучанасці ў працэс вывучэння і асэнсавання мінуўшчыны, ён раз-пораз артыстычна прыкладваў руку да патыліцы і натхнёна прамаўляў: «Я адчуваю дыханне продкаў…» І псіхалагічна падатлівая аўдыторыя, у сваёй асноўнае масе дзявочая, імкнулася ўвачавідкі распазнаць, хто на гэты раз з пісьменнікаў XIX стагоддзя завітаў у госці і стаіць у шэрагу за містычна настроеным лектарам-медыумам у чаканні аб’яўлення свайго выхаду на авансцэну…

Адразу патрапіць на вока да Алега Антонавіча, як тое рэкамендаваў Алесь Бельскі, мне не давялося. Так сталася, што ў нас на курсе ён нічога не выкладаў. Для паэтычнага палёту не ставала крылаў, але мае навуковыя напрамкі інтуітыўна фарміраваліся пад уплывам лойкаўскіх маштабаў і шматвектарнай творчай рэалізацыі. Замест неабходнага аднаго я наведваў два спецсемінары: прафесара Ірыны Вікенцьеўны Шаблоўскай — па замежнай літаратуры, дацэнта Таццяны Іванаўны Шамякінай — па беларускай. Па дзвюх спецыяльнасцях пісаў дыплом, а потым абараняў кандыдацкую дысертацыю.

## Апалагет хараства

Не раз даводзілася бачыць і чуць выступленні Лойкі-паэта. Манера яго чытання была вельмі запамінальнай і артыстычна-непаўторнай. Паперы з вершамі ў адной руцэ, другая часам трымае ўяўную крышталёвую чару — аўтар няўзнак перабірае яе ў пальцах, нібы заклікае ўбачыць усе зіхатлівыя адценні паэтычнага слова. І пры гэтым запамінальная міміка, кінутыя пільныя позіркі ў аўдыторыю — у чаканні абавязковага імгненнага водгуку і суперажывання.

Алега Антонавіча можна з поўным правам назваць апалагетам прыгажосці. У гэтым я змог яшчэ раз пераканацца падчас працы па сумяшчальніцтве ў часопісе «Роднае слова». Заступіўшы на пасаду, я перабраў рэдактарскі партфель і знайшоў рукапіс неапублікаванага артыкула Алега Лойкі «У пошуках майстэрства выкладання», які ўжо з маімі стараннямі і довадамі, у рэшце рэшт пабачыў свет у № 4 гэтага выдання за 2008 год.

Чаму гэты матэрыял не быў пушчаны ў друк раней? — пытанне рытарычнае. Але адказы, як мне думаецца, на паверхні. Аўтар быў нязвыкла катэгарычны ў сваіх поглядах на асобу настаўніка, яго меркаванне: у такой прафесіі павінны працаваць выключна прыгожыя людзі, так павінен адбывацца і адбор будучых філолагаў. Пры гэтым Алег Лойка апеляваў і да ўласнага і да замежнага вопыту: *«...працуючы ўжо дзесяць гадоў выкладчыкам, упершыню ў 1966 г. наведаўшы Прагу, я менавіта пасля гэтага на адным з вучоных саветаў філфака БДУ пры абмеркаванні чарговага набору абітурыентаў сказаў, салідарызуючыся з чэшскімі калегамі ў тым, што адбор абітурыентаў на філфак перш за ўсё павінен быць па іх красе, прыгажосці, сімпатычнасці, а не толькі па балах».*

Хто цікавіцца гісторыяй педагогікі ў Беларусі, могуць пераканацца, што прафесар не адзінокі ў сваіх меркаваннях у праекцыі на мінулы вопыт. У часы Расійскай імперыі выкладчыкамі гімназіі абавязкова абіраліся прыгожыя прэтэндэнты з прыемнымі галасамі і добрым почыркам. Гэта было афіцыйнае патрабаванне.

## Вернасць вытокам

Не ў маіх планах у гэтай публікацыі асэнсоўваць літаратуразнаўчую спадчыну Алега Лойкі, толькі адзначу, што і ў сваіх класічных даследчыцкіх працах ён заставаўся верны свайму роду і землякам. Так, кніга «“Новая зямля” Якуба Коласа: Вытокі, веліч, хараство» (1961) выйшла з наступным прысвячэннем: *«Майму дзядзьку, Міхаілу Пятровічу Лойку, калгасніку вёскі Крывічы Зэльвенскага раёна Гродзенскай вобласці, прысвячаю. Аўтар».*

Асабліва радавалі кнігі і артыкулы Алега Антонавіча з апісаннем слонімскіх старонак у жыцці і творчасці Янкі Купалы, Гальяша Леўчыка, Ядвігі Бараноўскай (прататып Ядвісі з трылогіі Якуба Коласа «На ростанях») і іншых вядомых і цікавых людзей.

## Паяднанне Багдановічам

Так атрымалася, што на перасячэнні нашых з Алегам Лойкам навуковых інтарэсаў быў Максім Багдановіч. Ён — мэтр у багдановічазнаўстве, я — пачатковец. Мой шлях даследавання спадчыны аўтара «Вянка» быў сфарміраваны адмыслова, што называецца, навобмацак: яшчэ на 5 курсе быў запрошаны на працу ў «Беларускую хатку», а пасля заканчэння ўніверсітэта — перайшоў у Літаратурны музей М. Багдановіча. Таму для мяне рана сфарміравалася (і дагэтуль бачыцца як прыярытэтная) атмасфера архіўных даследаванняў і пошукаў, музейных экспазіцый, магчымасць дакрануцца да гісторыі. А ў дачыненні да



*У гасцях у Алега Лойкі. У першым радзе: Алег Лойка, Валер Стралко. У другім: Мікола Трус, Фёдар Баравы, Іван Міско, Вера Міцкевіч, Анатоль Вярцінскі, Аляўціна Міцкевіч. Слонім. 9 верасня 2007 г.*

класіка багдановічазнаўства заўсёды было цікава аналізаваць яго кнігі і артыкулы, высвятляць, дзе аўтар ідзе ад факта, а дзе прапануе цалкам арыгінальныя гіпотэзы і меркаванні.

Пасля была праца над энцыклапедыяй «Максім Багдановіч» (2011), як перахопленая праз дзесяцігоддзі эстафета ад яшчэ аднаго вядомага слонімца — Янкі Саламевіча. Дарэчы, Алег Антонавіч неаднаразова мне гаварыў, што мае гатовы рукапіс сваёй новай кнігі пра «песняра чыстай красы».

## Сустрэча, памяць

Дарога з боку маёй вёскі Ісаевічы ў Слонім пачынаецца з Лабазоўкі. Пачатак горада, прыватныя забудовы на ўзор звычайных хат, можа, трохі лепшых. Шмат разоў даводзілася ездзіць, асабліва ў маладосці, толькі тады я і не здагадваўся, што тут знаходзіцца дом таго паэта, пра якога так шмат гаварылася ў школе. Лабазоўка была для мяне адметная хіба тым, што здалёку відзён гмах велічнага касцёла св. Андрэя. І гэты відзеж чароўным чынам доўга і непахісна-горда трымаўся на прамой лініі бачання, руху аўтобуса, хоць сама дарога такой бездакорна наўпростай не была.

Магчымасць наведаць Лойкаў дом на Лабазоўцы надарылася 9 верасня 2007 года. З Мінска ў Слонім тады рушыла пашанотная кампанія: скульптар Іван Міско, паэты Анатоль Вярцінскі і Фёдар Баравы, Аляўціна і Вера Міцкевічы, перакладчык Валер Стралко. Як чалавека родам са Слонімшчыны за кампанію прыхапілі і мяне.

Асноўнай мэтай была творчая сустрэча ў Слонімскай раённай бібліятэцы імя Я. Коласа, з якой у сям'і песняра склаліся даўнія сувязі. Яна і адбылася, але спачатку заехалі да Алега Антонавіча на Лабазоўку.

Для гаспадара было вялікай нечаканасцю пабачыць столькі гасцей, бо ён чакаў толькі некалькіх сваіх даўніх сяброў. Але нялоўкасці не было. Гаспадыня-памочніца хутка арганізавала стол. Пайшлі размовы. Зразумела, рэй вялі прысутныя аксакалы. Акурат тады выйшла «Новая зямля» Якуба Коласа ў перакладзе на ўкраінскую мову Валера Стралко. Алег Лойка напісаў на яго ўхвальную рэцэнзію.

Я папрасіў дазволу паглядзець кабінет гаспадара, зрабіць некалькі здымкаў. Алег Антонавіч не толькі даў згоду, але і стаў маім персанальным экскурсаводам: паказваў, каменціраваў, звяртаў увагу на выгляд з акна — між прысадзін праглядвалася недалёкая Шчара.

Потым гаспадар пацікавіўся: адкуль канкрэтна я родам (ведаў, што са Слонімшчыны). «З Ісаевіч», — быў адказ. Я ўжо падрыхтаваўся распісваць маршрут даезду — прызвычаіўся, бо вёска невялікая і не самая блізкая да Слоніма. І толькі ўжо быў гатовы сказаць прывычнае «гэта за Саковічамі, Дзераўной», як Алег Антонавіч апярэдзіў мяне і вельмі здзівіў: *«Дык гэта за Шпаковай гарой».* (Яна знаходзіцца якраз каля Лабазоўкі.) І з усмешкай дадаў: *«Любімае месца кахання слонімцаў!»*

Чаму здзівіў? Справа ў тым, што той маршрут, які я звыкла называў, — гэта новая дарога ад маёй вёскі да Слоніма, але яна акружная. Была яшчэ і старая, гістарычная, якая сёння зарасла лесам і пра якую мала хто ведае, — Ісаевіцкі гасцінец, які з часоў Вялікага Княства Літоўскага найкарацейшым шляхам злучаў Слонім з Наваградкам. Маршрут пралягаў праз Шпакову гару, Ісаевічы, Дварэц, Наваельню. Апошні раз Ісаевіцкі гасцінец паўнавартасна выкарыстоўваўся ў часы міжваеннай Польшчы. Пра ўсё гэта не мог не ведаць выдатны гісторык Алег Лойка. Тым больш гаворка тут пра краязнаўства, а да Шпаковай гары ад слонімскай Лабазоўкі рукой падаць...

Гэтай дарогай я ў дзяцінстве хадзіў у ягады, у лес пад назвай Новіны. Бацькі часта расказвалі, як раней дабіраліся ў Слонім пешкі. Пры гэтым гасцінцы (нават брук яшчэ месцамі захаваўся) была зямля майго дзеда.

Пасля нефармальнай, у той дзень была яшчэ афіцыйная сустрэча ў бібліятэцы. Дырэктар Ларыса Рэпінская са сваімі супрацоўнікамі, як заўсёды, наладзілі сардэчны гасцінны прыём. Мінскай грамадзе было што расказаць зацікаўленай публіцы…

Мінуліся тыя дні. Многае стала бачыцца па-новаму, асэнсоўвацца на розных узроўнях. Пасля той памятнай сустрэчы адна выснова для мяне відавочная — блізкасць людзей, нават калі яны трымаюцца воддаль. Варухнулася ў думках: у нашых з прафесарам-земляком адносінах магла б быць крыху большая даверлівасць, кантактнасць. Але ўсё сталася так, як сталася. І сёння імя Алега Антонавіча Лойкі я прамаўляю з трымценнем, памятным са школьных гадоў, а ў навуковай працы арыентуюся на свайго выдатнага настаўніка, які нязменна любіў наш Слонімскі край.



Алесь МАРЦІНОВІЧ

# ПАЭЗІЯ І ПЕСНЯ — ЯК ДЗВЕ СЯСТРЫ

Хрэстаматыйнае выказванне Янкі Сіпакова «Усе мы з хат» цалкам тычыцца і Уладзіміра Карызны. Не толькі таму, што ён таксама родам з вёскі. Ёсць у яго з Іванам Данілавічам і іншае сваяцтва, што лучыць дзяцей вайны. Хіба што адны з іх — старэйшыя па ўзросце, іншыя — больш маладыя. На два гады маладзейшы за Сіпакова і Уладзімір Карызна. Як і за іншых прадстаўнікоў гэтай кагорты, якая сваёй творчасцю ўпісала ў сучасную беларускую літаратуру так шмат яркіх, непаўторных старонак. За Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна, Барыса Сачанку, за Міхася Стральцова, за крыху старэйшых Ніла Гілевіча, Івана Пташнікава, Івана Чыгрынава…. Толькі ўсё адно — гэта пакаленне, у якога так шмат агульнага. Падобнасць найперш у тым, што як у самім жыцці, так і ў творчасці, памяць аб зведаным у маленстве ніколі не адпускала.

Уладзімір Іванавіч расказвае пра сябе: «Нарадзіўся я ў невялікай вёсачцы Закружка, што ля ракі Пціч. 25 мая 1938 года. (Цяпер гэта Мінскі раён. — *А. М.*). Мама, Ніна Канстанцінаўна, з роду Захарэвічаў і бацька Іван Ціханавіч, — сяляне, як і дзяды, і прадзеды. Дзяцінства прыйшлося на ваенныя гады. Бацька быў у партызанах, а мама берагла траіх дзяцей. Хапіла ўсякага гора: былі заложнікамі, мерзлі ў балоце ў час блакады. Мне, старэйшаму, было каля чатырох гадоў, а малодшай сястрычцы — усяго толькі год… Цудам засталіся ў жывых».

Здавалася б, быў зусім малы, каб нешта запомніць з таго страшнага, трагічнага, што ўдалося пережыць. Ды дзіцячая памяць на дзіва ўчэпістая, асабліва тады, калі гэта тычыцца неймаверных выпрабаванняў, а тое, што зведана, не проста ўспамінаецца. Яно нібы высвечваецца на своеасаблівай плёнцы, якая мае дзіўную ўласцівасць. Вядома, з гадамі чалавек шмат чаго з ранейшага забывае. Але гэта не тычыцца таго, за чым стаяць два ўзаемазвязаныя паняцці, абодва атычалавечнага, антыгуманнага зместу — фашызм і вайна. Калі ж з гэтым паэт сутыкнуўся ў маленстве, ён не можа пра яго не расказаць. І абавязкова зробіць так, як дасюль не гаварылі пра гэта іншыя. Да чаго У. Карызна і імкнецца, зазіраючы ў сваё ваеннае маленства праз своеасаблівы «акуляр», якога ў іншых не напаткаеш — «зялёнае шкельца».

«Зялёнае шкельца» называецца і адзін з яго вершаў. Зроблена ўсё настолькі па-майстэрску, што з-пад пяра паэта нарадзіўся сапраўдны дыямент. Буду шчыры: не мною гэтага сказана. Прамоўлена тонкім знаўцам паэзіі Казімірам Камейшам. Але час працытаваць і сам паэтычны дыямент Уладзіміра Іванавіча:

Пасля вайны
усёю сям'ёй
Мы ехалі
з лесу дамоў
на возе.
Рыпелі колы —
на мове сваёй
Радаваліся перамозе.

Лета ў голыя спіны пякло.
Чорныя коміны
сэрца калолі.
Мы ведалі,
наша згарэла сяло,
Ды ехалі:
Нам было міла яно і такое.

Ехалі —
раптам
прамень з зямлі,
І з воза я шуснуў,
Аж маці рванула за лейцы…
Дзіцячыя рукі ўзнялі
Зялёнае шкельца.

Выцер яго,
Да вока прыклаў —
І так яно свет змяніла,
Быццам вясна
Па зямлі прайшла,
Чарнату ўсю змыла.

Колькі прыходзіла да мяне пасля
Хлопцаў,
як за патрэбай,
Каб паглядзець,
Якая зялёная зямля
І якое прыгожае неба!

Толькі бацька адзін
не глядзеў,
Тапарышча сціскаў рукамі…
Нам усміхаўся
зялёны дзень,
Зялёнае сонца
ішло за намі.

Сапраўды, узіраючыся ў гэтае чароўнае шкельца, многае можна ўбачыць. І тое, што сказана паэтам не толькі ў згаданым творы, а і ў іншых. А таксама і тое, што пакуль яшчэ не вылілася ў паэтычныя радкі, але ўладна просіцца ў іх, каб дапоўніць сваё бачанне вайны і ваеннага маленства. Згадваючы, аднак, не толькі балючае, а і такое, што прыносіла хоць нейкую радасць. Хай сабе і маленькую, ды з гэтага маленькага цягам часу прарастала і вырастала больш значнае. Столькі ж не забываецца, дый многае мае права на тое, каб стаць набыткам іншых. У тым сэнсе, што яно шмат у чым узмоцніць успрыманне ваеннай і пасляваеннай рэчаіснасці.

Істотны і такі момант. Ні для каго не з’яўляецца сакрэтам, як шмат значыць выхаванне ў сям’і. Аднак не менш залежыць і ад той атмасферы, якая акружае дзіця змалку. Наколькі бацькі з’яўляюцца прыкладам для яго. А яшчэ лепш, калі ў таго, хто з маленства мае творчыя задаткі, і маці, і бацька самі не пазбаўлены іх. Што ж, Уладзіміру Карызну пашанцавала.

Іх сям’я была дружнай і працавітай. Бацька Валодзі Іван Ціханавіч хараша іграў на балалайцы. Не толькі, як кажуць, для сябе. Да вайны прымаў актыўны ўдзел у мастацкай самадзейнасці. Маці мела цудоўны голас. Часта яны разам спявалі. Але не толькі бацькоўскія канцэрты падабаліся дапытліваму хлапчуку. У доме быў патэфон і каля сотні пласцінак з рознымі запісамі. Сярод якіх пераважалі фальклорныя творы і сучасныя, на той час, песні Ісака Дунаеўскага, Мацвея Блантара, іншых вядомых кампазітараў. Былі і пласцінкі з запісамі арый

з класічных опер. Нічога дзіўнага ў тым, што Валодзя рана далучыўся да музыкі. Яму споўнілася толькі тры гады, а ўжо адрозніваў пласцінкі па наклейках. Ставіў патрэбную і з задавальненнем слухаў любімыя мелодыі.

Толькі нядоўга гэтая музыка гучала для хлапчука. Пачалася Вялікая Айчынная вайна. Бацька, пакінуўшы блізкіх, падаўся ў партызаны. Са зброяй у руках змагаўся з ворагам. Нядоўга заставалася ў роднай хаце і сям'я. Над ёю навісла небяспека. Давялося таксама ўцякаць у лес: «А мы, малыя, з лесу не вылазілі, // Была знаёмай кожная сасна». Памяць пра гэтае — назаўсёды. Яна адначасова і частка куды больш аб'ёмнай памяці. Той, што патрапляе пад вызначэнне ўсенародная. Для многіх з лесам звязаная, а ён, гэты лес, прыгадваецца ў шмат якіх вершах Уладзіміра Карызны.

Не можа не прыгадвацца, бо гэтая адчувальная частка ягонай біяграфіі. Часавы прамежак яе — не такі і вялікі. Ён умяшчаецца ўсяго ў некалькі гадоў. Ды столькі яны ўвабралі ў сябе, што перажытае — быццам спрасаваная спружына. Толькі краніся яе — і тая сіла, якая да пары да часу «дрэмле», выштурхне вонкі столькі памятнага, незабыўнага, што яно ўжо само па сабе ўяўляе цікавасць сваёй насычанасцю. Разам жа ўзятае, гэта ўжо нясе куды больш інфармацыі, утвараючы цэласны малюнак ляснога жыцця дзяцей вайны.

Чытаеш і разам з паэтам пераносішся ў ваеннае ліхалецце. Яскрава ўяўляеш сабе лясны побыт. Заўважаеш асобныя рэаліі яго. Як, на першы погляд, быццам нічога новага. Але ж чаму яно так уражвае? Чаму не па сабе становіцца? Прычына зразумелая. Усё гэта не выдумана, не народжана творчай фантазіяй, хай сабе і багатай, а менавіта перажыта. Нават страшна робіцца ад усведамлення таго, што жыццё таленавітага хлапчаняці магло абарвацца ў самым яго пачатку. Ды лес уратаваў. Як уратаваў і многіх-многіх дзяцей вайны:

Я помню: партызанская зямлянка,
Аж да вачэй зарыўшыся ў зямлю,
Адводзіла ваенныя маланкі,
Што цэліліся ў партызанскую сям'ю.

Калі фашысты лезлі ў час блакады,
Ішлі аўчаркі нас пералавіць —
Лясным мы нетрам вельмі былі рады!
Той час успомню — сэрца забаліць.

А плакалі ля маці ад знямогі,
Вадзіў нас люты голад убакі —
Працягвалі нам рукі дапамогі
Ababкі, казлякі, баравікі…

Нам лес быў і кашуляю, і хлебам,
Спагаднай думкай, шчырым пачуццём.
Ты, сынку (звяртаецца да свайго сына. — *А. М.*),
і не ведаеш, што лесу
Сваім ты абавязаны жыццём!..

Лесу ён прысвяціў адзін з выдатных сваіх вершаў — «***Ёсць розныя на свеце помнікі…» Дакладней, нават не столькі самому лесу, колькі «лесу шуму».

Два словы, спалучаныя разам, несумненна, нясуць важную сэнсавую нагрузку. Аднак сам шум у дадзеным выпадку бярэ на сябе куды больш. Убірае ў сябе ўсё тое, што дазваляе пэўныя рэаліі ўбачыць у дзеянні, у руху. Асобныя метафары, паступова дапаўняючы сябе, яшчэ больш узмацняюць прысутнасць у дні сённяшнім таго, што некалі было. Істотна і тое, што метафары гэтыя — у сваёй аснове праўдзівыя, хоць і нечаканыя, але гэтая нечаканасць яшчэ больш праўдападобная:

Ёсць розныя
на свеце помнікі,
А гэты —
лесу шум.
Здаецца, чую,
Як крочаць партызаны,
Як цяжка дыхаюць яны,
Як прагна ломяць
крохкую чыгунку
Стальныя зубы выбухаў начных.

Свежасцю, навізной, як няцяжка заўважыць, вызначаецца малюнак падрыву партызанамі чыгункі. Ужо гэтай метафарычнай насычанасці дастаткова, каб упэўніцца, наколькі ва Уладзіміра Карызны адметнае вобразнае ўспрыманне пэўных рэалій, як у дадзеным выпадку ён дакладна перадае баявыя будні. Але ж далей у вершы — не менш яркія дэталі:

Шум лесу —
самалётаў гул уранні
Над намі —
птушанятамі без гнёзд.
Шум лесу —
просім есці…
паміраем…
А дождж пячэ
Мацней ад жоўтых вос.

Шум лесу —
і, здаецца, бачу
Пад елкаю дзяцінства ў грозны час:
Гергечуць немцы.
Маці моўчкі плача
І цёплым шэптам
укрывае нас…
Ёсць розныя на свеце помнікі,
А гэты —
лесу шум…

Паэзіяй Карызна зацікавіўся яшчэ школьнікам. Асабліва палюбіў творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Танка, іншых беларускіх паэтаў. У чацвёртым класе напісаў свой першы верш. Любоў да літаратуры і вызначыла яго самастойную жыццёвую дарогу. Скончыўшы Крупіцкую сярэднюю школу, паступіў на аддзяленне беларускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. На гэты час ўжо па-сапраўднаму захапіўся не толькі паэзіяй, а і музыкай. Уступіў у літаратурнае аб’яднанне «Крыніцы» пры рэдакцыі газеты «Чырвоная змена». Удзельнічаў ва ўніверсітэцкім хоры. У ім не толькі спяваў. Спрабаваў асобныя свае вершы сам пакласці на музыку. Адзін з іх паказаў вядомаму беларускаму кампазітару Уладзіміру Алоўнікаву. Шмат дала Карызну і вучоба ў пастаянна дзеючым семінары самадзейных кампазітараў пры Саюзе кампазітараў Беларусі. Павучыцца ж было ў каго: з пачаткоўцамі займаліся Генрых Вагнер і Рыгор Пукст.

Спачатку вядомасць Уладзімір Карызна набыў як паэт-песеннік. Дзякуючы песні «Беларусь мая сінявокая» — сам тэкст напісаў, сам і паклаў яго на музыку. Гэтая песня ўпершыню прагучала ў 1960 годзе. Адразу набыла шырокую вядомасць. Спачатку выконвалі яе Дзяржаўны хор пад кіраўніцтвам Генадзя Цітовіча, квартэт «Купалінка». А потым «Беларусь маю сінявокую» заспявала і ўся Беларусь. Ды як не заспяваць было, калі словы так хараша адгукаліся ў душы, выклікаючы светлыя пачуцці залюбавання роднай старонкай.

Неба чыстае і глыбокае
І бярозавы ціхі гай —
Беларусь мая сінявокая,
Беларусь мая, родны край.

У густых садах ты красуешся,
Сілай поўная маладой,
У агнях уся ярка свецішся,
Разліваешся збажыной.

Здавалася б, пасля гэтага яму наканаваны хуткі рост. І як паэту, і як паэту-песенніку. Аднак на шэсць гадоў развітаўся з Мінскам. Прычына, бадай, тая, з якой сутыкаюцца некаторыя па-сапраўднаму таленавітыя аўтары. Валодаючы вялікімі мастакоўскімі задаткамі, яны не заўсёды лёгка ўладкоўваюцца ў жыцці. Прабіваць сабе «цёплае» месца не ўмеў (дый не хацеў!). Таму пасля заканчэння ўніверсітэта (1961) па размеркаванні паехаў працаваць на Браслаўшчыну. Выкладаў беларускую і рускую мову і літаратуру ў Опсаўскай сярэдняй школе. У Мінск вярнуўся толькі ў 1967 годзе.

Узялі старшым рэдактарам аддзела беларускай музыкі на Рэспубліканскае радыё. Гэта дазволіла яшчэ больш і лепш зблізіцца з многімі беларускімі кампазітарамі. Сярод іх быў і Юрый Семяняка. Разам з Юрыем Уладзіміравічам у далейшым яны створаць шмат песень. Толькі самай любімай сярод іх застанеца «Люблю цябе, Белая Русь», напісаная ў 1968 годзе. Сёння яна, несумненна, належыць да тых твораў песеннага жанру, што ўспрымаюцца свайго роду візітоўкай нашай краіны. Яна пастаянна гучыць на розных канцэртах і ўрачыстасцях, сваёй успрымаецца і ў час многіх застолляў. Радкі гэтай песні гучаць настолькі кранальна, што не спяваць проста нельга:

Жытнёвае поле, лясы і азёры,
Крынічанька ў лузе і ў небе жаўрук, —
Услухайся толькі — усё тут гаворыць:
Люблю цябе, Белая, Белая Русь.

Ну як не любіць тыя хаты ля гаю,
Ля сініх азёр і палёў залатых,
Дзе хлебам і соллю сяброў сустракаюць
І з песняй праводзяць, як родных сваіх.

Свет помніць і сёння, як ты ваявала,
Што кожны чацвёрты ў зямлі беларус.
З сынамі Радзімы Маскву адстаяла,
Жыццё адстаяла, о Белая Русь.

Тут трэба ля гэтых азёр нарадзіцца
І слухаць гаворку, і бачыць зару,
Каб сэрцам і доляй навек прычасціцца
К табе, мая чыстая Белая Русь.

Працаваў Уладзімір Карызна на Рэспубліканскім радыё і загадчыкам аддзела беларускай музыкі, быў рэдактарам аддзела навукі і мастацтва часопіса «Полымя». Пазней звязаў свой лёс з выдавецтвам «Юнацтва»: старшы рэдактар, загадчык рэдакцыі літаратуры для дашкольнікаў. У 1981 годзе перайшоў у выдавецтва «Юнацтва» — узначальваў рэдакцыю літаратуры для дашкольнікаў. Быў намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Крыніца».

І ўвесь гэты час, канешне, плённа працаваў творча. Выдаў кнігі «Край мой сінявокі» (1963), «Жураўліны досвітак» (1969), «Святло ліўня» (1972), «Цеплыня» (1977), «Цішыня баразны» (1981) і іншыя. Неаднойчы выходзілі яго выбраныя творы. У 2007 годзе яны папоўнілі і бібліятэчку «Беларуская паэзія XX стагоддзя». На сённяшні дзень больш як дзвесце вершаў Уладзіміра Карызны

пакладзены на музыку. Звыш пяцідзесяці ягоных песень — поўнасцю аўтарскія: да сваіх жа вершаў сам стварыў і мелодыю. Выйшлі зборнікі яго песень «Клубныя вечары» (1979), «Люблю цябе, Белая Русь» (1984), «Салавей спявае» (1990). Шмат перакладае, у тым ліку і творы для дзяцей. Яны апублікаваны ў многіх тамах серыі «Бібліятэка дзіцячай літаратуры народаў СССР», выпушчанай выдавецтвам «Юнацтва». За выданне гэтай серыі разам з Валянцінам Лукшам і Уладзімірам Аніськовічам удастоены звання лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь. З'яўляецца таксама лаўрэатам прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, літаратурнай прэміі «Залаты Купідон». Яму прысуджана ганаровае званне заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь. Узнагароджаны ордэнам Францыска Скарыны. Дый, бадай, самы шчаслівы ў Беларусі чалавек. Кожны дзень на Беларускім радыё пачынаецца і завяршаецца выкананнем Дзяржаўнага гімна Рэспублікі Беларусь. Уладзімір Карызна, як вядома, адзін з аўтараў яго слоў.

Разглядаючы некалі ў газеце «Вечерний Минск» яго другі паэтычны зборнік «Жураўліны досвітак», паэт Мікола Хведаровіч сваю рэцэнзію назваў «Светлае пачуццё дабраты». На першы погляд, пры гэтым меў на ўвазе зусім не якасць твораў. Калі ж унікнуць у сэнс сказанага глыбей, то паўстане не менш істотнае. Гэта тое галоўнае, што вылучае матывы многіх і многіх твораў Уладзіміра Іванавіча. Сціплы ў жыцці, ён, на дзіва, прынцыповы, калі выказвае сваю пазіцыю па тым ці іншым пытанні. Пазіцыя ж яго па-добраму ваяніўчая, калі гаворка кранаецца праўды, справядлівасці, што пераняў ад сваіх бацькоў, якім вучыўся ў старэйшых таварышаў. Дый, няхай, падобнае сцвярджэнне не падасца празмерна гучным, у самога жыцця. Пачынаючы, як ужо было сказана, з гадоў маленства. У сувязі з гэтым нельга не згадаць верш «Дзіўныя чаравічкі».

Напісаны ў 1979 годзе, твор у пачатку яго звязаны з тагачаснымі рэаліямі: «Пазнаецца ўсё // У параўнанні, // У параўнанні яснасць настае. // Неяк я зайшоў на рынак ранні, // Бачу — журавіны на стале. // Белыя, няспелыя, нямала! // Іх яшчэ спяліць бы ды спяліць, // Але бабка іх затарбавала, // Бізнес, бач, прыехала рабіць…»

Падобны «бізнес» і сёння напаткаеш. Асабліва ранняй вясной, калі руплівыя бабулькі (дый не толькі яны!) прадаюць раннія кветкі і расліны, занесеныя ў Чырвоную кнігу. Ды гаворка не пра гэта. Нібыта не такі страшны занятак у лірычнага героя выклікаў іншыя асацыяцыі. У ім жа лёгка ўгадваецца сам аўтар са свайго пасляваеннага ўзросту. Тым больш, што гаворка вядзецца ад першай асобы:

І я ўспомніў час,  
Зусім няблізкі  
(Час далёкі, а яшчэ баліць!):  
Хлопчыкам павёз  
На рынак мінскі  
Шчаўе,  
Каб на ногі што купіць.

Босы на асфальт ступіў гарачы —  
Запякло —  
Аж сіл няма трываць,  
І пабег з падскокам,  
Ледзь не плачам,  
Тое сваё шчаўе прадаваць.

Паводзіў сябе юны «гандляр» як дарослы: «Сеў за стол. // Расклаў стажкамі шчаўе, // Прадаю па той, людской, цане. // Шмат пакупнікоў, // Але вачамі // Торкаюцца ў іншых, // Не ў мяне. // Ды ўсё ж торг пайшоў. // Ужо і трэці // Са стала знікае мой стажок».

Здавалася, да жаданых чаравікаў ужо не так і далёка. Але апавядальніка падвяла ягоная дабрата:

Падыходзіць цётачка ў берэце:
— Дай бясплатна хвораму,
Сынок.

— Што ж, бяры.
І з гэтае хвіліны
Рух узняўся,
Ажно вецер дзьме.
Жменьку бабцы пажылой накіну,
А сівому дзеду —
Нават дзве.

За заробленыя грошы ён папіў напітку, з'еў эскімо. Ды не адно, а нават два. Калі выбраў у краме сабе чаравікі, высветлілася, што, каб заплаціць за іх, нестае сямі рублёў. Можна зразумець ягоны стан: «Я панік душою і плячыма. // Крылы свае нізка апусціў». Толькі нездарма кажуць, што свет не без добрых людзей. Дабро адгукнулася дабром:

Але раптам падышоў мужчына
І рублі ёй тыя
Заплаціў…

Я гатовы быў
Яму пець песні!
І сягоння
З далечы гадоў
Бачу,
Як тады хлапчыну неслі
Чаравікі дзіўныя дамоў.

Першым верш пра «чаравікі дзіўныя» ўважліва прааналізаваў Казімір Камейша. Ён жа правёў і паралель яшчэ з адным творам Уладзіміра Карызны: «Усё, як вядома, пазнаецца ў параўнанні. У паэме «Родны дом» згадвае аўтар і іншага кшталту ўрок, які вынес ён з пасляваеннага свайго дзяцінства. Тут ён убачыў зусім іншага чалавека». Да месца працытаваць тое месца з паэмы, дзе паўстае гэты нелюдзь:

Бацька сказаў:
— Паглядзі,
суд…
па справе Слядэнкі.
Наслядзіў жа ён, гад, наслядзіў,
Хай бы лепш ён зайшоўся маленькі.
Гэта той, у каго
Сала ёсць
І не спалена хата.
Не кідалі фашысты ў агонь
Ні матулю яго
і брата.

Сам жа, сам
у аглоблі ён
Запрагаў аднасельцаў,
Падганяў пугаўём,
У развалках возячы немцаў…

А я помню кулі і кроў,
Як цяпер —
немцы дзядзьку б'юць —
бачу.

Тры гады мне было, але роў,
Як малыя цяпер не плачуць.

А блакада душыла сяло,
І мы лезлі ў балота,
Разразаючы ногі аб лёд.
І страчылі з нябёс самалёты!

Плённа працуе У. Карызна і ў галіне дзіцячай літаратуры. У яго выйшлі кніжкі: «На сяле ў бабулі» (1975), «Кыонг і яго сябры» (1982), «Малююць дзеці» (разам з Артурам Вольскім, 1984), «Зямля — два паўшар'і» (1988), «Мір і сонейка для ўсіх» (1990)…

Свет, створаны мастакоўскай фантазіяй У. Карызны, як і ў «дарослых» творах — гэта традыцыйнасць тэмы з яе індывідуальным асэнсаваннем. У яго не знойдзеш нечаканых эпітэтаў, параўнанняў, але ў вершах заўсёды прысутнічае радасць першаадкрыцця, што прыносіць задавальненне дзецям. Асабліва гэта адчувальна ў творах, прысвечаных прыродзе. Часам дастаткова толькі некалькіх слоў, каб паэтычны малюнак стаў запамінальным. Як у вершы «Лісце прыляцела». Менавіта лісце, а не птушкі, хоць і яны таксама вітаюць надыход вясны, абуджэнне ад доўгага зімняга сну: «Прыляцелі жаўранкі здалёк, // Кожны галасок, нібы званок. // І шпакі за імі прыбылі, // Свет парассыпалі на палі». Але ў падобным сцвярджэнні, безумоўна, нямала хлопчыкам і дзяўчынкам знаёмага, пра гэта яны чыталі раней у іншых аўтараў. Тут жа сваё, дагэтуль у такім ракурсе не прыкмечанае:

Вось і лісцікі
Нарэшце прыляцелі,
І густа на галінках дрэў
Паселі,
Птушак слухаюць,
Паветра п'юць
І, здаецца,
Зараз запяюць!

Нічога не скажаш — паэтычны малюнак такі, што пашукаць трэба. Малеча адразу запыніць на ім увагу. Дарасламу толькі застаецца своечасова прыйсці на дапамогу. Бо «паляціць» пытанне за пытаннем. Паспявай толькі даваць адказ. І як гэта лісцікі прыляцелі? Як на галінкі дрэў паселі? Чаму яны паветра п'юць? І ўжо зусім дзіўна: збіраюцца заспяваць!

Вялікая карысць ад такога дыялога будзе дарасламу і дзіцяці. Шмат пазавальнай інфармацыі нясе ў сабе твор. Галоўнае ж у тым, што ён вучыць дзяцей быць на дзіва назіральнымі, успрымаць рэчаіснасць вобразна. У сувязі з гэтым да месца прыдасца і гэты невялічкі верш «Дожджык», у якім паэт таксама ашчадны ў выяўленчых сродках. Як і ў вершы «Лісце прыляцела», асобнымі жывапіснымі мазкамі стварае каларытны, запамінальны малюнак:

На нябачным дождж кані
Прыскакаў з далечыні,
Пераскочыў цераз плот
І пабег у агарод,
Паляцеў далей у сад,
Напалохаў куранят,
Завярнуў на сенажаць
Штосьці сену пашаптаць
І схаваўся за гарой
Пад вясёлкавай дугой.

І дождж ва Уладзіміра Карызны («Працуем») не проста ідзе з неба, а… працуе. Разам з дзецьмі шчыруе на градзе. І пра гэта расказвае не «сам» паэт, а юны

апавядальнік: «Ён, як мы з табой, працуе, // Каб гурочкі раслі, // Свежа зеляНелі, // Бурачкі ў рост ішлі, // Вішанькі паўнелі…» Карызна настолькі ўжываецца ў вобраз, што немагчыма (ды гэта і не патрэбна) разабрацца, а дзе ж аўтар, а дзе — самі дзеці. Усе яны працуюць на агародзе. Але што цікава: «з працы мы ядзім усмак, дождж стараецца за так». Падобны паварот думкі ў творы, адрасаваным маленькім, таксама важны. Падкрэсліваецца, што ёсць і праца не толькі за нейкую ўзнагароду, а і як маральны абавязак.

Дзеці ў творах Карызны вельмі любяць прыроду, таму ніколі не прыносяць ёй зла. Характэрны ў гэтым сэнсе верш «Паляўнічы». Міколка хоча ва ўсім быць як дарослы: «Стрэльбу з карчажкі закінуў за плечы, // Якую зрабіў учора на печы. // А каля ганка цэлую жменю // Насыпаў «патронаў» сабе ў кішэню». І адправіўся на паляванне. А далей адбылося тое, што і мусіла адбыцца. Хлопчык «як птушак убачыў — акрасе іх здзівіўся, // адразу пра «стрэльбу» сваю і забыўся».

Здараюцца з дзяцьмі, як вядома, і смешныя выпадкі: жаданне быць як дарослыя не прыводзіць да добрага. Так сталася з Вовам у вершы «Чыстая градка». Дарэчы, гэты хлопчык — герой многіх твораў паэта. Відавочна, што пісаў іх Карызна калісьці для свайго маленькага сына, цяпер вядомага беларускага кампазітара Уладзіміра Карызны-малодшага. Захацелася хлопчыку прапалоць буракі. Гэтак стараўся на градцы, што ніводнай раслінкі не пакінуў, і не разумее, чаго гэта бабуля ўшчувае яго: «Дык я не траву — бурачкі палоў».

Дзяўчынка ж з верша «Абечкі», пазнаючы навакольны свет, аказваецца вялікай фантазёркай. Нават цяжка разабрацца жартам ці ўсур'ёз, але Іна па-свойму гатова назваць авечак: «Абечкі, бабуля, таму што «бе-бе…»

Працуе Уладзімір Карызна і ў іншых жанрах. Напісаў нямала казак, небыліц, лічылак, з задавальненнем стварае і загадкі. Што да казак, дык у іх закранаецца спрадвечная тэма дабра і зла. Перамагае, як правіла, нават не той, хто дужэйшы, а больш сумленны. Ён карае свайго праціўніка толькі ў той момант, калі канчаткова пераконваецца, што дабра ад яго чакаць не даводзіцца («Змяя і рыба», «Авечка і воўк», «Тыгр і лісіца»).

Напрыклад, авечка, сустрэўшыся з ваўком не разгубілася. Калі даведалася, што ён збіраецца яе з'есці, параіла: «Ты спачатку лепш да ракі схадзі памыйся, // Ну а потым — еш». Паслухаўся воўк, як і тады, калі прыняў параду авечкі сунуць лапу туды, куды яна паказала. Ды не вады дастаў, а ў пастку трапіў!

Кніжка «Кыонг і яго сябры» з'явілася пасля наведвання паэтам В'етнама (дарэчы, Уладзімір Карызна нямала паездзіў па свеце, быў у Японіі, Канадзе, Бельгіі, Вялікабрытаніі, Злучаных Штатах Амерыкі). Герой кніжкі — в'етнамскі хлопчык, які жыве з маці не ў доме, а на чаўне. Іншага жытла ў Кыонга няма — спалілі іх вёску амерыканскія агрэсары. Ёсць яшчэ і сястра, але яна жыве самастойна. Ваявала, а цяпер працуе…

Уладзімір Карызна праўдзіва расказвае пра традыцыі в'етнамскага народа, звычаі тутэйшых людзей. Знаёміць і з прыродай гэтай, у нечым экзатычнай краіны. Ашчадны ў словах, паэт знаходзіць такія мастацкія дэталі, якія адразу дазваляюць стварыць малюнак, што ўражвае надоўга, а то і назаўсёды запамінаецца:

Зямля В'етнама —
Проста рай.
Як залатая казка!
Ідзеш па вуліцы — ў садах
Бананы —
Калі ласка, —

Наліты
Яркай жаўцізной
Духмяным,

Смачным сокам.
Ты можаш іх
Дастаць рукой,
Бо вельмі ж невысока.

Ды і асобныя раздзелы сваёй назвай выклікаюць цікаўнасць: «Які Кыонгу сніцца сон?», «Куды спяшаецца маці Кыонга?», «Чым займаецца Кыонг?»… Прысутнічае ў кніжцы і тэма Беларусі. Кыонг атрымлівае падарунак, прысланы дзяўчынкай Алёнкай. У пасылцы кашуля, штаны, чаравікі, пенал, алоўкі і «Буквар». Марыць Кыонг:

Я вывучу літары,
Тады,
Сам напішу
Алёнцы,
Як у В'етнаме
Мы жывём
Пад нашым
Цёплым сонцам.

Як пальмы ў нас
Вакол растуць,
Глыб акіяна
Дыша…

Хай у пісьме
Алёнка мне
Пра Беларусь
Напіша.

Паэма «Зямля — два паўшар'і» — таксама пра дружбу дзяцей усёй планеты. З'явілася яна ў паэта пад уражаннем паездкі ў ЗША. З пазіцыі сённяшняга дня ў гэтым творы можна знайсці і некаторыя заідэлагізаваныя моманты. Але нельга не прыняць асноўнай аўтарскай думкі. Пафас паэмы ў сцвярджэнні неабходнасці жыць у згодзе. Нездарма з самага пачатку паэт гаворыць: «Гэта кніга пра тое, як дзецям патрэбен Мір на Планеце». Уражваюць рэтраспекцыі, калі аўтар прыгадвае і ўласнае маленства.

Заключныя радкі твора выклікаюць аптымізм:

Я ведаю,
Сонца ў Сусвеце
Не зможа
Ніхто
Патушыць,
Пакуль
На зямной Планеце
Дзеці
Будуць
Дружыць!

Не толькі ад свайго імя гаворыць паэт, а і ад імя пакалення, да якога належыць сам. Ад імя пакалення дзяцей вайны. Аптымізмам, светласцю прасякнута і ўся творчасць Уладзіміра Карызны для маленькіх. Для іх напісаны і тэксты некаторых ягоных песень.

Хораша прагучала і нядаўняя кніга «Лепяць ластаўкі гняздзечкі». Паэт нязменна застаецца самім сабой. Гэта значыць, што, з'яўляючыся прыхільнікам традыцыйнай манеры пісьма, дакладна ўзважвае нават не кожны радок, а кожнае слова, стараецца прамаўляць так, каб той ці іншы вобраз пры ўсёй сваёй арыгінальнасці не адшурхоўваў ад рэальнасці, ствараў выразны малюнак, быццам выхаплены з паўсядзённага жыцця, а думка, закладзеная ў творы, была важкай.

Паколькі галоўная чытацкая аўдыторыя ў дадзеным выпадку дзеці малодшага школьнага ўзросту, якім кніга і адрасуецца ў першую чаргу, то і каб яна несла ў сабе як пазнавальны, так і выхаваўчы эфект, а шмат у якіх выпадках і развівала б у дзяцей назіральнасць, уменне лагічна мысліць.

Аднак асаблівая ўвага скіравана на тое, каб лішні раз напомніць дзецям аб тым, якая прыгожая і непаўторная наша радзіма Беларусь, як шмат хараства і мілагучнасці ў роднай старонцы, наколькі прыцягальныя краявіды бацькоўскай зямлі. Таму невыпадкова гэтая кніга адкрываецца ўжо згаданай вершам-песняй «Люблю цябе, Белая Русь», на якой, без перабольшання, выхавалася ўжо не адно пакаленне.

Гэтым жа творам адначасова адкрываецца і першы раздзел кнігі, у якім прадстаўлены вершы. Ёсць таксама раздзелы «Загадкі» і «Казкі», што, безумоўна, лішні раз падцвярджае шматграннасць мастакоўскага таленту Уладзіміра Карызны, але разам з тым сведчыць і пра іншае: Карызна, аддаўшы дзіцячай літаратуры не адзін дзясятак гадоў, разумее, што па-сапраўднаму зацікавіць маленькага чытача можна толькі тады, калі прапаноўваць яму творы, якія б не паўтаралі адзін аднаго, а ў лепшым выпадку нават былі б рознага жанру.

Уладзімір Карызна па сутнасці не выдумляе свае вершы, хоць і мае багатую творчую фантазію, а як бы спісвае іх з натуры, толькі па-майстэрску ўзнаўляючы ўнутраны свет дзяцей, чуйна заўважаючы тое, што ў пэўнай сітуацыі можа з’явіцца ў іхніх думках. Адзін з самых характэрных прыкладаў таму — верш «Рукавічкі для сінічкі»: «Звязала Насця // Для сінічкі // З пуховых нітак // Рукавічкі. // А як памерацць іх — // Не знае: // Сінічка тая // Уцякае».

Калі ж чытаеш верш «Самая лепшая», ніякага сумнення ў тым, што ён «напісаны» самой дзяўчынкай, якая вельмі любіць сваю маму:

Весняй заранячкай свеціць,
Лашчыць,
Як звон ручая,
Самая, самая лепшая ў свеце
Мама мая.

Аднак у кнізе змешчаны не толькі «сур’ёзныя» вершы, ёсць у ёй і гумарыстычныя, жартоўныя творы. Ёсць і лічылкі, а таксама небыліцы. Вершы, што адносяцца да апошняга жанру, калі яны дасціпныя, нязменна прыхільна сустракаюцца дзецьмі. Так успрымуць яны і гэтую небыліцу Уладзіміра Карызны: «У вадзе расце капуста, // Рыба ў полі ходзіць густа. // Дрэвы ў клубе польку скачуць, // Аж са смеху мухі плачуць».

Арыгінальнымі атрымаліся і загадкі, у тым ліку і песенныя, аб’яднаныя назвай «Насця і Янка» (здаецца, нічога падобнага раней напаткоўваць не даводзілася). Што тычыцца казак, то ў зборніку прадстаўлены дзве разнавіднасці гэтага жанру: творы, у якіх, няхай і апасродкавана, прысутнічае фальклорная аснова, і казкі, якія цалкам народжаны аўтарскай фантазіяй. Але і ў першым выпадку Карызна па-свойму разгортвае сюжэт, таму гэта дае падставы і пра падобныя казкі сцвярджаць, што яны арыгінальныя.

Сімвалічна ўспрымаецца казка «Іграй, жалейка, не змаўкай…», якая завяршае кнігу. Яна — яшчэ адзін напамінак пра тое, што толькі аптымізм, жыццялюбства давалі сілы выжыць беларускаму народу на ветравейных скрязняках часу, а гэтай барацьбе за выжыванне шмат дапамагалі народныя песні, мелодыі, увасабленнем якіх з’яўляецца жалейка. Пакуль яна будзе гучаць, датуль і жыць Беларусі.

«Родная песня» — так назваў Уладзімір Карызна адзін са сваіх вершаў. Ён невыпадкова прысвечаны Ю. Семяняку — чалавеку і кампазітару, дзякуючы якому ён па сутнасці па-сапраўднаму і ўвайшоў у свет музыкі, хоць песні на яго словы напісалі і такія майстры сваёй справы, як Яўген Глебаў, Ігар Лучанок, Эдуард Ханок, Леанід Захлеўны, Эдуард Зарыцкі і іншыя. Выказаў запаветнае, што было дорага абодвум і чым сам працягвае жыць:

Святлеў ад песні
Я часінай грознай,
Прызнанні сэрца чулага шаптаў
Каля зялёных вышак.
Вербаў росных,
У шчырым царстве сініх рэк і траў.

Люблю яе, прыветную такую,
Што апячэ,
Як той пары настрой,
Калі зязюля першы раз кукуе —
І ты заміраеш перад ёй…

Нібы ручай
З крыніцы невялікай,
Яна па сэрцы коціцца-плыве,
Не лезе ў вочы
І не любіць крыку,
Ды паспрабуй ты не пачуй яе?!

Бадай, як ніхто іншы чуе (і стварае!) песню, блізкую да народнай, такую, якую і любіць спяваць Беларусь. Ён жа належыць і да тых паэтаў, якія, дзякуючы сваім лепшым вершам, дапамагаюць палюбіць паэзію нават тым, хто не надта ўважлівы да яе.

Уладзімір Гніламёдаў неяк слушна падкрэсліў: «Я хацеў бы адзначыць дзве грані таленту паэта і яго светаўспрымання. Адна — здольнасць адчуваць і бачыць супярэчнасці свету, негатыўныя, балючыя з'явы, другая — імкненне да гармоніі, прыгажосці, да ідэальнага боку жыцця.

Перад намі паэт са сваім арыгінальным абліччам, месцам і лёсам у нацыянальнай культуры. Яго творы гучаць, узбагачаюць народна-беларускі мелас, выхоўваюць, далучаюць нас да вечных каштоўнасцей жыцця».

Калі ёсць у літаратуры такія паэты, паэзіі жыць вечна.



**Валерый КОЖАР**

# У ЭВАКУАЦЫІ

Старэнькая палутарка натужна стагнала на глыбокіх калдобінахляснога гасцінца, разбітага коламі грузавікоў і размытага жнівеньскім дажджом, па якім мая сям'я разам з радзінай сакратара райкама Міхаіла Гутнера ратавалася ад немцаў. Ворагі з баямі рваліся да Гомеля. Толькі дзякуючы гераічнай упартасці абаронцаў горада і арганізацыйным здольнасцям кіраўніцтва атрымалася вывезці з-пад штодзённых бамбёжак 80 тысяч гараджан ды шмат прамысловага абсталявання. Танкі Гудэрыяна апанавалі Гомель 19 жніўня. Калі б мы ў той час жылі ў Мінску, які акупанты захапілі ўжо 28 чэрвеня, наўрад ці было б каму пісаць гэтыя ўспаміны.

Лясны шлях быў абраны знарок, каб схавацца ў зялёным гушчары ад налётаў люфтвафе, але пры паглядзе на перакуленыя ў кюветах дагары коламі машыны станавілася зразумела, што гэта не заўсёды дапамагала. Асабліва небяспечна было ехаць праз разлеглыя палеткі, таму, выязджаючы на адкрытую прастору, усе напалохана ўглядаліся ў чыстае неба, чакаючы раптоўнай атакі. А калі з-за хмары сапраўды вылузваўся бамбардзіроўшчык з чорнымі крыжамі, палутарка спынялася, усе саскоквалі з кузава і ляцелі як мага далей ад дарогі ў поле. Старэйшыя сястра з братам беглі самі, а мяне, чатырохгадовага хлапчука, хапала маці і несла, прыціскаючы да грудзей, а потым падала, накрываючы сваім целам. Нам пашанцавала, што палутарка не сапсавалася, што паліва хапіла і што ніхто не трапіў пад кулю ці асколак. Цяпер, с пяшчотаю ўспамінаючы сваю любую маці, мне здаецца, што ўсё сваё жыццё яна імкнулася абараніць мяне ад усіх бедаў і напасцяў.

Уцёкі ад вайны пачаліся з дачнага пасёлка, куды на летні адпачынак з'язджаліся сем'і абкамаўскіх работнікаў. Недалёка каля Гомеля, у вельмі маляўнічым месцы, была пабудавана група летніх дамкоў, схаваўшыхся паміж клумбамі кветак у атачэнні бярозавага гаю. У чэрвені было цудоўнае надвор'е. Па выхадных днях прыязджаў бацька з гомельскімі пачастункамі. Жыццё было радасным і бестурботным.

У палове чэрвеня настрой дачнай грамады пагоршыўся. У паветры адчувалася нейкае напружанне. Бацька прыязджаў на дзве-тры гадзіны і ўвесь час некуды спяшаўся. А потым пачаліся бамбёжкі Гомеля, бо на краіну пайшлі вайной германцы. Панікі не было. Грамадства лічыла, што магутная і непераможная Чырвоная Армія хутка разаб'е ворага і скончыць гэтую вайну. Дзеці ўспрымалі праявы вайны нават як забаву. Сачылі за паветранымі дуэлямі, калі у вышыні круцяцца знішчальнікі, пасыпаючы адзін аднога кулямі. Каб лепей бачыць, узлазілі высока на бярозы. З вышыні былі чутныя кулямётныя чэргі. Дарослыя на дзяцей лаяліся, прымушаючы злезці і схавацца пад стрэхі, як бы высока самалёт ні ўзляцеў, кулі заўсёды падаюць на зямлю.

У пачатку жніўня бацька прыехаў апошні раз. Быў апрануты ў напаўвайсковую форму. Пэўна, не атрымлівалася адразу немцаў перамагчы. Ды і самалёты ў іх былі спрытнейшыя. Бацька даў мне патрымаць у руках свой чорны ТТ. Каб мне толькі патрапіўся той немец. Доўга аб нечым раіўся з маці, потым з усімі развітаўся, узяў хатыль з найпатрэбнейшым і ад'ехаў у лясы і балоты на партызанскую вайну. Зразумела, што не абышлося без слёз.

Праз нейкі час прыгрукатала калона палутарак і пачалася пагрузка ў кузавы. У нашу машыну першымі селі Гутнеры: жонка Марыя Саламонаўна, сын Валодзя і сам Міхаіл Гутнер, як сухотнага, яго на вайну не бралі. Напэўна, бацька папрасіў калегу, каб нам пры эвакуацыі дапамагаў, таму ён настойліва прапанаваў ехаць разам з ягонай сям'ёй. Маці пагадзілася. Такім чынам да трох названых пасажыраў дадаліся Еўдакія Іванаўна Кожар (у дзявоцтве Крылова, дачка ветэрана руска-японскай вайны, ляснічага з горада Жыздры Івана Сямёнавіча Крылова), бабця Аляксандра Фёдараўна Крылова (Поснікава), сястра Галіна, брат Ігар і малы Валерка.

Пагрузка не патрабавала вялікіх намаганняў, маёмасці ў нас на дачы амаль ніякай не было. Нейкія лёгкія клункі з летняй вопраткай і посудам. Увесь хатні скарб застаўся ў Гомелі ў доме на вуліцы Першамайскай і стаў здабычай акупантаў. Прыкладна такі ж груз быў і ў Гутнераў. Таму ў кузаве было даволі прасторна.

Неўзабаве калона рушыла. Шлях цягнуўся вельмі доўга. Праз усю Беларусь да вузлавой чыгуначнай станцыі ў Тульскай вобласці з назвай Яфрэмаў. На гэтай станцыі мы развіталіся з кіроўцам аўтамабіля і пагрузіліся ў таварную цяплушку. Падарожжа на цягніку было вельмі марудным. Эшалон часта спыняўся, каб прапускаць вайсковыя грузы, доўга выстайваўся ці сунуўся павалу. Усю дарогу маці нас карміла хлебам, памазаным маслам і мёдам, якія ёй пашэнціла набыць падчас аднаго з працяглых прыпынкаў у абмен на адзенне ў мясцовых жыхароў.

Урэшце мы прыехалі ў горад Сінгілей на Волзе, дзе неяк уладкаваліся ў адміністрацыйнай двухпавярховай будове. У пакоі, дзе нас пасялілі, было вельмі холадна і страшэнна смярдзела паленымі самакруткамі. У куце стаяла велізарная жалезная грубка, а з мэблі толькі канцылярскія сталы.

Тым часам Гутнера сінгілейскае кіраўніцтва камандзіравала на працу ў пасёлак Нікольск на Чэрэмшане, даручыўшы адказную партыйную пасаду, ад'язджаючы, ён паабяцаў, што за намі абавязкова вернецца і забярэ з сабой.

Неўзабаве настала сапраўдная руская зіма з крутымі маразамі, мятровымі сумётамі, завірухамі. Канцылярыя, у якой мы жылі, прамерзла. Спаць клаліся на ссунутыя разам сталы, штабелем адзін каля аднаго, у вопратцы і валёнках, накрытыя ўсімі посцілкамі і коўдрамі. Цягнуліся гэтыя пакуты не вельмі доўга, у хуткім часе бацькаў сябра прыслаў за намі санную запрэжку з цёплым зімовым адзеннем.

Снежны шлях быў вельмі нязвыклым, наўкола панавала непарушная снегавая белізна. Толькі бясконцы, белы без адценняў снег з усіх бакоў, ды ледзьве бачны санны след. Колькі мы коўзаліся па зімніку, не ведаю, угрэўшыся пад аўчынай, я праспаў аж да Нікольскага, дзе нас ля ганка сустрэў Гутнер. Яго з сям'ёй мясцовыя ўлады пасялілі ў цэнтры сяла ў ахайным драўляным дамку, побач са старым паркам і недалёка каля рэчкі. Гутнер гасцінна прапанаваў, каб мы, пакуль ён не вырашаць праблему нашага кватаравання, пажылі разам з імі. Так мы і засталіся ў Гутнераў да вясны зімаваць. Маці, брат і сястра з бабуляй начавалі на кухні, а я на печцы. Увесь гэты тэрмін у памяці я быццам бачу ўсё з пячной вышыні. Бо на печцы я нікому не замінаў. Там зразумеў, што у гасцях — гэта не дома.

Можна толькі здагадвацца, якія намаганні давялося прыкласці Гутнеру, каб нам далі ўласнае жыллё. Гэта была частка старой пасялковай грамадскай лазні. Побач з намі ў гэтым жа будынку туліліся яшчэ тры сям'і. Лазня пад чаротавым дахам стаяла пасярод шырачэзнай гандлёвай плошчы. Быццам на гэтым месцы ў мінулым праводзіліся буйныя кірмашы, прыганяліся табуны коней ды статкі кароў, бо засталося шмат рэшткаў канавязяў. Побач з лазняй стаялі, напэўна, з часоў грамадзянскай вайны, два саляныя склады, дзве пуні з рубленых бярвенняў. На дзвярах каваныя магутныя замкі, якія ніхто і ніколі не адчыняў. Мне малому дабрацца да запасаў гэтай солі было, як раз плюнуць. Спачатку пралезці праз

скуліну ў падмурку, а потым адсунуць адну дошку ў падлозе. Бяры, колькі хочаш. Каб толькі можна было адной соллю стрававацца.

Галоўнай праблемай у нас стала харчаванне. Трэба было неяк выжываць. У сельсавеце маці атрымала на сям'ю харчовыя картачкі і ўладкавалася на працу ў хлебную лаўку, дзе адстрыгала нажніцамі картачкі, ляпіла іх у сшыткі і выдавала пакупнікам нарматыўныя пайкі хлеба. Не надта вялікія. Калі-нікалі прывозілі марожаную рыбу. Аднойчы маці атрымала торбу марожаных уюноў. Гэта было сапраўдным святам.

Наша кватэра складалася з адносна вялікага пакоя і кухоннага кута, дзе месцілася печка ўніверсальнага прызначэння. Пры ўваходзе была прасторная спіжарня — *чулан*, у якім мы трымалі дзвюх коз, што маці выменяла ў цыганскім табары за рэшткі гардэробу. Клікалі іх Зойкамі. Зойка вялікая і Зойка малая. Гэта былі цудоўныя істоты, вельмі далікатныя і ахайныя. Калі ім давалі кусанак хлеба — не бралі, бо грэбавалі. Зойкі пасвіліся адразу за парогам, і кожны вечар мы ад іх мелі каля літра малака. Сапраўдным здабытчыкам стаў мой старэйшы брат Ігар. У гэтым Нікольску было насамрэч птушынае царства. Чароды варон, драздоў, галак, шпакоў атабарыліся ў старым парку. Пугачы, совы і сычы, каршукі таксама часта траплялiся. Дзесяцігадовы Ігар лазіў па высачэнных дрэвах, як вавёрка, збіраючы птушыныя яйкі, з якіх потым смажылася яешня. Аднойчы пачаставаў мяне яешняй нават з пугачыных яек. З маленства меў талент рыбалова. Рэчка Чэрэмшан быццам створаная, каб на яе беразе днямі сядзець з вудай. Прыносіў пічкуроў, плотак, акунькоў, часам траплялiся ляшчы.

Суседзі параілі маці, каб звярнулася ў сельсавет з просьбай атрымаць дзялянку пад бахчавыя культуры. Атрымала нават дзве. Праўда, даволі далёка адна ад адной. Садзілі пераважна гарбузы, кавуны, дыні, фасолю, кукурузу. Даводзілася ў летнюю спёку цягнуцца вельмі далёка, ажно за цыганскі табар, па цудоўным разнатраўі, дзе панавала братаўка ды духмяная смолка. Прыходзілі ўжо стомленыя, каб займацца праполкай. Увосень ураджай аддзячыў. Гарбузоў хапіла аж да вясны. Не здарма на гербе Сінгілея два паласатыя гарбузы.

Восенню брат і сястра пайшлі ў мясцовую школу, дзе настаўніцай рускай мовы была Марыя Саламонаўна Гутнер. Мяне маці ўладкавала ў дзіцячы садок, што стаяў амаль на рачным беразе і куды ад дома трэба было ісці праз стары парк, шчыльна зарослы магутнымі ліпамі. У садку давалі манную кашу і іншую смачную ежу, было багата розных цацак. Адно мне не падабалася, што часта рабіліся прышчэпкі і ін'екцыі. Як толькі распаўсюджваліся чуткі, што будуць прышчапляць, я браў ногі ў рукі і праз дзірку ў плоце знікаў у старым парку. Пакольку хавацца дома не мела сэнсу, я забіраўся, нібы Робін Гуд, у дупло старой ліпы, адкуль назіраў за пошукамі. Потым пра гэтую маю драўляную пячору даведаліся і шляхам перамоў пачалі даставаць са схованчa.

Калі прыйшла зіма, хадзіць у садок стала немагчыма. Сумёты былі настолькі глыбокімі, што можна было ўтапіцца. Хлопцы ў снезе выкопвалі такія калідоры, што дарослы чалавек мог у гэтым акопе схавацца.

З надыходам 1943 года, як дні пачалі прырастаць, здарылася сямейнае няшчасце. Я праз сон пачуў, як плача маці і бядуюць сястра з бабуляй. Раніцай, гадзін у шэсць, маці выпусціла вялікую Зойку праветрыцца ў двор, і калі яна доўга не вярталася, пайшла паклікаць. Знайшла яе ў лужыне крыві з вырваным выменем. Падпільнаваў яе лясны фашыст — воўк. Бедавала ўся сям'я, нават не з-за малака, а таму што вельмі любіла гэтую істоту. Потым усім кагалам даволі доўга даядалі са слязьмі ў вачах тую воўчую ахвяру, Зойка насамрэч была вялікай.

Вясной стала зусім голадна. Каб неяк пратрымацца, маці і сястра Галіна пайшлі на калгасныя палеткі, дзе заставалася стаяць неразімаваўшае жыта. Такое збожжа дазвалялася збіраць. Назбіралі ці не дзве торбы і потым з гэтага зерня варылі кашу. Ежа хоць не была смачнай, але дапамагла пратрымацца. Праўда, была небяспека захварэць септычнай ангінай (грыбковая хвароба, што касіла

мясцовых жыхароў, нібы пошасць). Рызыка існавала, але паміраць з голаду было не лепей.

Вясной, калі снегавыя гурбы даволі хутка расталі, здарылася страшэнная паводка. Наша лазня стаяла быццам карабель пасярод велізарнага мора. Як вада сышла, зноў пачаліся паходы ў садок, бо дома з харчамі было зусім кепска. Вострае пачуццё голаду мяне ніколі не пакідала. Часам, перад сном, я пачынаў канючыць у маці хоць скарынку хлеба, але не было. Атрымліваў у жменю некалькі каліваў шчаўя, з якімі ў руцэ і засынаў.

Брат зноў пачаў прыносіць птушыныя яйкі і рыбу. Гэтымі харчамі сілкаваўся і наш кот, што застаўся нам у спадчыну ад ранейшых гаспадароў хаціны. Вялікі, нібы сабака, калматы сібірскі кот craў не толькі птушыныя, але і курыныя яйкі і нават куранят, з масткоў на рацэ кіпцюрамі выцягваў рыбу. Аднойчы, калі Ігар прынёс і паклаў у кухні на стале рыбу, загорнутую ў марлю, ён з'еў яе разам з марляй. Суседзі яго асцерагаліся і ненавідзелі, нават спрабавалі павесіць. Але дома ён быў ласкавы і непатрабавальны. Часта спаў побач са мной і дазваляў пакласці на сябе галаву.

Улетку, акрамя бахчавых клопатаў, давялося займацца нарыхтоўкай чароту, бо страха моцна працякала і патрабавала неадкладнага рамонту. Чарот наразалі ў забалочаных сажалках на левым беразе ракі недалёка ад другой бахчы і потым ахапкамі цягалі да сваёй лазні. Талакою адрамантавалі страху, разам з суседскім хлопцам Генкам Бяловым.

У ліпені пачалася моцная спякота. І тут прыйшла сумная навіна, што ад сухотаў памёр наш стражны анёл Міхаіл Гутнер. Усе мы вельмі гаравалі і, зразумела, удзельнічалі ў пахаванні, я — упершыню ў жыцці. Народу было багата, бачна, што яго любілі і паважалі. Труну з целам везлі коннай запрэжкай па пакручыстай пыльнай дарозе. Могілкі знаходзіліся далёка, недзе за шпіталем, які хутка па гэтым здарэнні цалкам згарэў. Духавы аркестр іграў сумныя мелодыі, і я ўпершыню задумаўся, што чалавек нараджаецца, каб неўзабаве памерці. Мне прыкра падумаць, што цяпер на тыя могілкі ніхто не прынясе кветак, ніхто не пастукае ў дзверы нашай старадаўняй лазні, ніхто не завітае ў царкву Святога Мікалая, бо там плёскаюць хвалі Куйбышаўскага вадасховішча.

Ураджай бахчавых быў схаваны на гарышчы, бо ракосу хапала на ацяпленне. Кожны вечар мы ўважліва слухалі паведамленні інфармбюро з чорнай талеркі рэпрадуктара. І вось у верасні пачулі, што падпольнаму сакратару гомельскага абкама Кожару Іллю Паўлавічу прысвоена званне генерал-маёра, і ён узнагароджаны ордэнам Леніна. Мы проста аслупянелі. Не таму, што стаў генералам, а таму што жывы. Столькі было радасці, што ўсе турботы, усе клопаты зрабіліся мізэрнымі і не вартымі ўвагі. 26 лістапада прыйшла радасная навіна аб вызваленні Гомеля ад акупантаў, пачаліся мары пра вяртанне дадому. А пасля новага года абвясцілі, што за ўдзел у вызваленні Гомеля бацьку ўзнагародзілі яшчэ адным ордэнам Леніна і зоркай Героя Савецкага Саюза. Інфармацыя дайшла да мясцовага кіраўніцтва, а гэта былі Бачкароў і Жалязнякоў, на ўвесь край вядомыя начальнікі. Здаецца, маці нават атрымала нейкую дапамогу харчамі. Каб бацька не знайшоўся, не вядома ці дажылі б мы да перамогі. Маці згубіла палову сваёй вагі, сястра ледзьве дабіралася да школы і астатнімі, напэўна, можна было палохаць мінакоў.

Суседзі стараліся нас неяк падтрымліваць. Бяловы часта запрашалі маці на гарбату з пірагамі, гаспадар быў паляўнічым, частаваў нас зайчацінай, буйнымі сазанамі з азёраў. Я пасябраваў у садку з дзяўчынкай, што жыла недалёка ад нас. Была з татарскага роду, а такіх там пражывала багата, і яна часта запрашала мяне ў сваю сям'ю, дзе заўсёды я атрымліваў смачныя пачастункі. Да гэтай пары берагу ўражанне з чысціні і ахайнасці іх дома і далікатнага ды ветлага стаўлення да мяне яе маці.

Пад вясну ўрэшце прыехаў бацька. Радасці не было межаў. Бацьку запрашалі на сустрэчы. На адной з такіх сустрэч, а гэта адбывалася ў царкве Святога

Мікалая, прысутнічаў і я. Хоць у тыя часы я не цяміў у архітэктуры, але веліч і ўзнёсласць храма рабілі ўражанне. Народу было шмат, сабраліся паслухаць, як там партызанілася на Беларусі, у снягах і балотах, жывучы ў земляных схронах. Бацька прывёз мне ў падарунак зялёныя валёначкі і губны гармонік. Гэтымі падарункамі я вельмі ганарыўся. З валёначкаў я хутка вырас, а гармонік у мяне нехта сцягнуў.

Бацька ў хуткім часе з'ехаў, папярэдзіўшы, каб мы рыхтаваліся да вяртання, бо пастараецца забяспечыць вагон дзеля рэпатрыяцыі ўсіх бежанцаў у Гомель. Не забыўся ён і на сям'ю нябожчыка Гутнера — таксама потым перавёз у Гомель, выклапатаў ім кватэру. Наш пераезд быў доўгачаканы, нарэшце прыехаў грузавік, мы ўсе паселі ў кузаў і налёгку стартавалі, бо ўсё, што было з маёмасці, прамянялі на харчы. Наш шлях быў у Мелекес, дзе мы разам з іншымі пасажырамі селі ў мяккі пульманаўскі вагон, напакаваны рознымі рэчамі, і паціху пакацілі ў кірунку на Маскву. А вось падарожжа ад сталіцы было суцэльным праглядам знявечанага вайной наваколля. Уздоўж чыгункі пад насыпам ляжалі разбітыя, перакуленыя, спаленыя цягнікі, вайсковая тэхніка: танкі, гарматы, машыны. Замест вёсак і гарадоў — курганы бітай цэглы ды коміны спаленых дамоў, перакапаная варонкамі зямля.

Гэткае відовішча цягнулася аж да Гомеля. Ехаць у родны горад было яшчэ небяспечна, бо германцы часам рабілі паветраныя налёты, таму мы часова атабарыліся ў сяле Кустарным, цудоўнай маляўнічай вёсачцы.

І вось урэшце доўгачаканае вяртанне ў Гомель, калі ўжо фронт дастаткова адсунуўся на захад. У разбітым ушчэнт горадзе знайшоўся цудам ацалелы аазіс даваеннай утульнай забудовы — на Веткаўскай вуліцы ў атачэнні аднапавярховых драўляных дамкоў паміж фруктовых садоў, дзе перад вайной жылі пераважна габрэі.

Наш дом з вялікай печкай з ляжанкай на кухні быў вельмі ўтульны, з нейкімі таямнічымі куткамі, па вечарах у калідорах шпацыравалі мышкі, у двары на невялічкім кавалку зямлі раслі дзве вельмі ўрадлівыя грушы. А за нашым дварочкам цягнуўся ўшырку ды ў глыбіню велізарны яблыневы сад, пасярод якога немцы пабудавалі бункер — сапраўднае бамбасховішча. Гэты сад з бункерам належаў да дома, у якім разам з сям'ёй месціўся сакратар абкама Жыжанкоў. Мяжы паміж дварамі практычна не было, таму мы маглі грызці тую антонаўку, колькі ўлезе. Так яна патроху абсыпалася і марнела, напаўняючы яблачным водарам усё наваколле.

Прыгадваю той невялічкі домік, што належаў старому мажнаму чалавеку па прозвішчы Палісмэн, які таксама быў недзе ў эвакуацыі і вярнуўся ў Гомель якраз напярэдадні нашага перасялення ў новы абкамаўскі дом, які не пакінуў у мяне ніякіх цёплых успамінаў. І намагаюся зразумець, чаму, не гледзячы на тое, што ў будынку гэтага Палісмэна жыло ажно тры сям'і, нібы селядцы ў бочцы, усе сябравалі, радаваліся жыццю? Напэўна, той стары габрэй быў чалавекам вельмі добрым і ягоная хатка была так прасякнута дабрынёй, што іначай там жыць было проста немагчыма. Можа таму, што ўсё асяроддзе моцна ўплывала на настрой жыхароў. А можа таму, што самачынна ўтварылася такое гуманнае наваколле, аб якім марыў яшчэ Эбенізэр Говард у сваіх тэорыях пра зялёныя гарады-сады будучыні?

Цяперашнім днём я б не стаў раіць наведаць тую чароўную Веткаўскую вуліцу, бо ўжо не знойдзеце ніякіх яблыневых садоў, ніякага паху садавіны. Спрэс толькі маркотныя дэпрэсіўныя хрушчобы, адзіны погляд на якія пазбаўляе чалавека зацікаўленасці ў жыцці. На жаль, сацрэалізм выкараніў у Гомелі ўсе адметнасці, усе асаблівасці, якімі можна было ганарыцца. Зніклі вулачкі, па якіх можна было хадзіць нібы па музеі, любуючыся разнымі аканіцамі прыватных дамкоў. Зніклі ўзоры пpасторавай арганізацыі садова-сядзібнай забудовы.

Горад, бясспрэчна, быў вельмі разбураны вайной, цэнтральная частка ляжала ў руінах, але тое, што засталося, трэба было зберагчы. Найболей пацярпелі шматкватэрныя дамы. Ад некаторых вуліц засталіся толькі руіны. Вось глядзіш — ад чатырохпавярховага дома засталася адзіная сцяна, а ў акне чацвёртага паверха стаіць ваза з засохшымі кветкамі. Ці ж засталіся жывымі тыя, хто іх паліваў?

Пачварнае аблічча вайны адкрывалася па-за межамі Веткаўскай вуліцы, час ад часу прысылаючы прыкрыя напаміны. У мяне і маіх аднагодкаў цацкамі былі патроны ад стралковай зброі розных калібраў і краін паходжання, са звычайнымі кулямі, трасіруючымі ды запальнымі. Снарадзікі ад эрліконаў, набоі ў алюмініевых гільзах да нямецкіх ракетніц. Адкуль гэта ўсё бралася? З Гарэлага Балота. Туды звозілі розныя рэшткі трафейных узбраенняў ды амуніцыі, скрынкі патронаў, снарады рознай вагі і памераў, танкі, самаходы, кавалкі самалётаў, гарматы, нават вагоны бронецягніка. Ахова тутэйшай звалкі была вельмі кволай. Таму старэйшыя хлопцы з гэтага балота маглі прыцягнуць скрынку нямецкіх гранат на даўжэзных драўляных ручках ці штурмавую стрэльбу «шмайсар» з каробкай патронаў. Мой старэйшы брат Ігар неяк прывалок у палатнянай торбе буйнакаліберны, цалкам новы кулямёт ад Месершміта, МГ — 131 калібрам 13 мм, што ў нейкіх падшыванцаў выменяў за альбом паштовых марак. Маўляў, зробіць цір у жыжынкоўскім бамбасховішчы. Усе гэтыя цацкі былі смяротна небяспечнымі і адсутнасць жахлівых здарэнняў на нашай вуліцы толькі сведчыць, што вуліца сапраўды была благаслаўлёнай.

Неўзабаве надышло вялікае свята — Дзень Перамогі. Свята 9 Мая было сапраўды са слязьмі на вачах, з успамінамі пра тых, хто не перажыў гэтую клятую вайну, загінуў у акопах, памёр на шпітальным ложку, згарэў у танку ці ў самалёце. Мы ўспаміналі пра Міхаіла Гутнера, што застаўся пахаваным у далёкай чужой зямлі. Каб не ён, невядома які б лёс нас напаткаў у эвакуацыі.

У бацькі сабралася багата ягоных баявых сяброў: былі Жыжанковы з сям'ёй, былі Барыкіны, Куцакі, Лізавета Пятроўна Длугашэўская, прыйшло шмат удзельнікаў партызанскага руху. Багата народу стаяла на ўваходзе, бо ў невялічкай хаціне для ўсіх не хапала месца. Але добра святкавалася і вонку, бо пачастункаў не бракавала.

Праз некаторы час мы пераехалі ў новы трохпавярховы абкамаўскі дом на вуліцы Пушкінскай, дзе цяпер да сцяны прымацавана памятная шыльда ў гонар Іллі Паўлавіча Кожара. Адсюль я пачаў хадзіць у першы клас сярэдняй школы. Школа была зусім новай, выдатна абсталяваная мэбляй, з зайздросным навучальным персаналам. Аднак у гэтай цудоўнай школе я правучыўся ўсяго толькі два месяцы, бо майго бацьку перавялі на працу ў Мінск…



Міхась КУЗЬМІЧ

# АНЁЛЫ СМУТКУ, ТРЫВОГІ І НАДЗЕІ




*Геннадий ПАЦИЕНКО*

**КОГДА ГРУСТЯТ ДЕРЕВЬЯ**

*Москва, «У Никитских ворот» (2017).*

Раман Генадзя Пацыенкі «Когда грустят деревья» адлюстроўвае супярэчлівыя рэальнасці канца XX — пачатку XXI стагоддзя і з'яўляецца працягам творчых пошукаў пісьменніка, сканцэтраваных раней у кнізе «Постучим по дереву» (2012) і публіцыстыцы. Яго можна аднесці да інтэлектуальнай прозы з выразнай сацыяльна-філасофскай асновай, дзе сцвярджаецца прыярытэт розуму, што не зусім уласціва жыццю ў наш разбэрсаны час. Відавочна высокая ідэйна-мастацкая планка, а вынік — шматпланавае, трывожна-гучнае сачыненне пра тое, што ў глабальным сэнсе не так разумна ў быцці на Зямлі і прымушае да пераасэнсавання.

Апавядальная завязка пачынаецца з парадокса. Галоўны герой Аляксей Пігалаў, перажыўшы шмат постперабудовачных калізій, уключаючы «гарачыя кропкі», пасля завяршэння дзяржаўнай службы ў міністэрстве надумаўся на пераезд на радзіму, каб быць бліжэй да духу мінулага. Як прыстойны нашчадак, ён спрабуе ўдыхнуць у старую сядзібу жыццё і ўяўляецца як чалавек памяці, душы і сэрца, з высакароднымі думамі і намерамі. Аднак спадзяванне на спакойнае жыццё аказалася ілюзіяй. Нязвыклая цішыня і прынцыповыя сацыяльныя перамены на сяле падштурхнулі яго да асэнсавання перажытага і праблем, пра якія ён ніколі так сур'ёзна не задумваўся — ад лёсу вёскі, кансерватыўнай будзёншчыны да касмічных вышынь.

Услед за масквічамі-інтэлігентамі Генадзем Юр'евічам і Алегам Іосіфавічам, гасцямі Пігалава, чытач акунаецца ў іх дыялогі пра гаючую прыродную ідылію, мастацтва і будучыню, нагадваючы манеру разваг антычных мудрацоў. Сэнс іх — рускі касмізм, дзе чалавек, чалавецтва — не цэнтр Сусвету і не ўсеўладная сіла, а толькі яго арганічная частка, вельмі кволая, залежная ад навакольнага асяроддзя. У адрозненне ад абсалютнай большасці абывацеляў сябры глядзяць на планетнае жыццё па-свойму. Складаныя светапоглядныя матэрыі і няпростыя інтэлектуальныя спрэчкі на фоне здзіўляючых пейзажаў інтрыгуюць. Заземленасць на паўсядзённасць і тэарэтычная ўзброенасць дазваляе ім уяўляць свет больш

паглыблена, шырэй, у іншых рэальных малюнках. На іх думку, не антрапацэнтрызму трэба пакланяцца, не на яго абапірацца, а ўлічваць тую акалічнасць, што ўсё ў свеце ўзаемазвязана.

Героя ўхвалюе, куды, у які бок імкне час і што абяцае ён: разумнае і шчаслівае заўтра або хранічную штодзённую злавесную неразбярыху. Спасцігаць таямніцы прыроды неабходна, аднак падпарадкоўваць яе, «неразумную», сваёй уладзе — небяспечна і неразважліва, пра што і мяркуюць яны.

Такі ракурс набывае футуралагічныя рысы і правакуе іншае па змесце пытанне: «А можа, гэта не час імкне няведама куды, а чалавецтва, застаўшыся без руля і ветразяў, нясецца наўзбрыд? А ён — толькі сведка». Сам час, на думку Пігалава, пасварыўшы важнейшыя іпастасі, зямлю і неба, нязгоды якіх утрымліваюць экзістэнцыяльную пагрозу, натапыраны, падаецца, вядома, не як філасофская катэгорыя, а праз чалавечае вымярэнне. Сутнасць яго ў тым, што цяпер, як ніколі раней, смяротнымі сутычкамі напоўнена сацыяльнае жыццё, дзе сцвярджаюцца правілы сацыял-дарвінізму і, вобразна кажучы, правакуюцца скокі на распаленай патэльні, бо сусветная перспектыва незайздросная. Нехта пад размовы пра дэмакратыю і свабоду хоча спустошыць і знішчыць цэлыя дзяржавы, асобных палітыкаў, хваліцца самай магутнай ядзернай кнопкай, знеслаўляе калег, арганізуе санкцыі, чалавечыя бойні, тэракты і г. д.

Напэўна, ад вытворных чалавекам зямных страсцей, нежартоўныя страсці закіпаюць і ў нябёсах, і іх вынік, на думку масквічоў, — кліматычныя анамаліі: цунамі, небывалыя снегапады, ліўні, землятрусы, вострыя крывавыя сутычкі звяроў у розных кутках планеты. Нідзе па сутнасці няма ўстойлівай раўнавагі і спакою, чым характарызаваўся свет раней. Цяпер — гіпернебяспека.

На фоне гэтай бясконцай валтузні ідылічна і рамантычна выглядае плынь рачулкі побач з бацькоўскай хатай галоўнага героя і яшчэ больш імклівым здаецца бег ракі часу. Надзея ў іх на нябачныя, але цярплівыя да вэрхалу зямлян касмічныя сілы і на змену парадыгмы мыслення і чалавечай практыкі. У разуменні Генадзя Юр’евіча, усе існае жыве дынамікай космасу, хоць ён — і халодная немата, але ж Зямля і Сусвет злучаны адным і тым жа рэчывам. Мудрасць і значнасць іх аднароднасці, магчыма, і ёсць тое, што Вярнадскі і іншыя вучоныя называлі наасферай. Вывад яго бескампрамісны: страшныя і небяспечныя апломб і невуцтва, якія непазбежна параджаюць цемру, хаос і разбурэнні. «Сэнс чалавецтва — дапамагаць існаванню планеты… Кінуць зброю і ўзяцца за любімую кожным справу — ствараць, ствараць, ствараць, у гэтым прырода людзей», — даводзіць сябрам свае перакананні Генадзь Юр’евіч.

Запамінаецца чытачам, як нeўтаймаваны шукальнік ісціны, пчаляр, мясцовы філосаф з пільным поглядам і ўчэпістай хваткай аналітыка, Андрэй Цішкоў. Яго заслуга ў тым, што пісьмамі-роздумамі пра Сусвет і экалогію, часам наіўнымі, ён не дазваляе драмаць мясцовай уладзе, бударажыць навуковыя часопісы і касмічныя цэнтры, спрабуючы дастукацца да іх нязвыклымі разлікамі і пераканаць, якія на самой справе, як яму здаецца, адбываюцца працэсы на зямлі і ў космасе, як яны звязаны і нават прагназуе, што можа здарыцца. Цяжка яму заручыцца падтрымкай прыхільнікаў.

У імкненні Цішкова зазірнуць за межы вясковага наваколля і апынуцца ў нябесных вышынях нічога дзівацкага. Па-першае, яго ідэя пра тое, што паміж Зямлёй і Месяцам ёсць арбіта душ, як гіпотэза, відаць не з’яўляецца бязглуздзіцай. Па-другое, шляхам супастаўлення ён заўважае, што канфігурацыя планеты дакладна нагадвае абрысы чалавечага мозгу. І робіць вывад, што яны развіваюцца па адных і тых жа законах. Па-трэцяе, яму належыць маральная максіма — той, хто не пазнаў, што такое высакародства, хто не ведае, у чым сутнасць гонару, той заўсёды будзе знішчаць іншых. А на вяршыні яго роздуму — не новая прапанова, звязаная з сацыяльнай справядлівасцю, пра раўнадаступнасць людзей

да прыродных багаццяў, пра натуральнае права іх на адпаведную долю.

Раман напоўнены сімваламі, як сродкам узмацнення сэнсаў. Яркай, скразной аб’яднальнай яго дэталлю сталі дрэвы. Ім прысвечаны самыя запамінальныя старонкі і аўтарскія прызнанні. З аднаго боку, яны ўзнаўляюцца як боскія шатры, а з другога — як сведкі грамадскай гісторыі, анёлы смутку, трывогі і надзеі. «Чалавек як вялікае дрэва: карэннямі ў зямлі, свядомасцю ж і душой — у высі»,— думка, якая пульсуе ў меркаваннях галоўнага героя.

Сам Пігалаў — жыхар прыроды, лесу, вялікі альтруіст, а дрэвы, на яго погляд, — звязка паміж рэальным чалавечым жыццём і нябёсамі. З дзяцінства ён пасадзіў нямала яблынь, груш, сліў, ялін, клёнаў, дубоў і шмат чаго вынес пасля, назіраючы за імі многія гады. Галоўная ідэя ў тым, што яны — хутчэй, чыстыя, светлыя, святыя, жывыя істоты, па якіх на зямлю спускаюцца анёлы.

Адсюль, відаць, невыпадковая паралель паміж чалавекам і дрэвам, заканамерныя супадзенні: дзве вялікія таямніцы, і там і там есць карані і крона. Якія яны, такі і ўвесь універсум. Толькі калі ў гома сапіенс верхняя частка знаходзіцца ў стане пастаянных парываў думкі і дзеянняў, нярэдка рабаўнічых і згубных для прыроды, то ў дрэў яна звычайна маўчыць, выражаючы такім чынам сваю неразгаданую думу. Але гэта нам, зямлянам, здаецца, што дрэвы нямыя. Аўтару яны падаюцца ачалавечанымі. «Дрэвы не здольныя хлусіць. Ім не ўласціва пустошыць твой настрой, як гэта робіць чалавек. Яны ведаюць, што ўчыненае зло абавязкова вяртаецца. Начамі па дрэвах спускаюцца анёлы, і таму дрэвы днём больш сумныя і маркотныя. Яны, дрэвы, больш за ўсіх бачаць і больш за ўсіх ведаюць».

У агульным кантэксце твора да месца спробы Пігалава ў размове з Цішковым даць сваё тлумачэнне, хаця і спрошчанае, што ўяўляе сабою чалавек, у чым сутнасць свядомасці і іншых сацыяльна-філасофскіх велічынь. Ён нібыта хоча яшчэ раз пераканаць самога сябе ў яго найвышэйшым прызначэнні — не забываць пра гармонію, тварыць дабро і прыгажосць.

Д’ябальскай сутнасцю напоўнены ў рамане характары сучасных дзялкоў, якія хутка і лоўка прыстасаваліся да жыцця ва ўмовах разгулу лібералізму, калі ўсё дазволена, і багацеючых літаральна на вачах. Без іх цяпер нічога нідзе не адбываецца. Пры савецкай сістэме яны пастаянна круціліся там, дзе быў дастатак матэрыяльных даброт і каштоўнасцей і можна было хоць на дробязі пагрэць рукі. Аднак на першыя ролі вылучацца баяліся. Цяпер прабіў іх час. Эрык Леанідавіч і Людміла Георгіеўна, якія спрабавалі завалодаць сядзібай Пігалава, што надае раману элементы дэтэктыва, уяўляюць местачковы прымітыўны тып камерсантаў. Дзейнічае і жыве авантурная парачка, як самаўпэўненыя гаспадары з драпежніцкай хваткай, гатовыя на злачынныя дзеянні дзеля ўзбагачэння. Яны не замахваюцца на ўсю вёску разам з яе жыхарамі, не выкупляюць шматкватэрны дом, дзе прапісана шмат рознага люду. Іх стыль жыцця, як хобі, просты. Спакуса спажывецтва штодня прымушае іх кагосьці ашукваць, усюды, дзе можна ўрваць. Маніпулюючы прабеламі ў заканадаўстве, за бясцэнак скупляюць асобныя вясковыя хаты і зямлю, таемна арганізуюць гандаль, будуюць на беразе возера бардэль. Для іх важней за ўсё выціснуць капейчыну, адпужаць ад жаданага карыта канкурэнтаў. І дэманстрацыя замешанага на праве мацнейшага сацыял-дарвінізму, калі выжываюць тыя, у каго больш гнуткае сумленне, лепшае ўменне працаваць лакцямі. Эрык Леанідавіч нават вядомы выраз пад сябе падправіў, цынічна ўзбуйніўшы ягоны аб’ём. Цяпер ён, зусім перайначаны, гучыць у яго стылістыцы: «Нітка да ніткі — краіне на кажушок, а то і — на добры кажух», унушаючы яго не толькі такім жа, як ён, сабратам па бізнесе, але ўнуку Валерыю ў якасці прынцыпу жыцця. А падграбаючы пад сябе ўсё, што кепска ляжыць, квапячыся на чужое, ён задаволена ўдакладняе ўласны прагматызм:

«Безгаспадарную маёмасць і сабака не вартуе». Ён з тых, хто чыстыя крыніцы ператварае ў ядавіты адстойнік, бо не пазнаў простых радасцей жыцця і застаўся да іх глухі. І краіна для яго — не родныя далягляды, іх прыгажосць і багацце, не людзі ўрэшце, якія жывуць побач, а ўласны, толькі ім з жонкай вабны свет за высокай металічнай агароджай, дзе можна памнажаць незаконныя барышы, туманячы свядомасць суседзям і блізкім.

Чытаючы ўпотай знойдзеныя дзённікі Пігалава, дзе выкарыстоўваюцца вытрымкі з рамана Экзюперы «Маленькі прынц», шаснаццацігадовы Валерый, якому выпала быць суддзёй і свайго роду рэзанёрам думак незнаёмага чалавека, імгненна экстрапаляваў іх на свайго дзеда і ўбычыў аналогію: «Я ведаю адну планету, там жыве такі пан з барвовым тварам. Ён за сваё жыццё ні разу не нюхаў кветак. Ні разу не паглядзеў на зорку. Ён ніколі нікога не любіў». А затлумілі яму мазгі планы на маёмасныя афёры, банкі, шклянкі, бутэлькі, фарбы, пакеты, вёдры, лічбы і блакноты з разлікамі, начныя оргіі гасцей з вялікімі грашыма. З калькулятарам стары не расстаецца ніколі, нават калі спіць. Яго і яму падобных «круцякоў» аўтар называе баршчэўнікам на целе эканомікі і грамадскіх адносін.

Яны — з тых несправядлівых, цёмных, зласлівых сіл, якія ладзяць жыццё на мане, махлярстве, на няшчасці іншых. Іх заўсёды чакае непазбежная бяда. Сутнасць яе ў славутым біблейскім: шлях беззаконных — як цемра, бо яны не ведаюць дзе і аб што спатыкнуцца.

Спатыкаецца Эрык Леанідавіч: лёс пасылае яму нечаканыя трагічныя выпрабаванні: спачатку невылечную хваробу нырак, а ўслед — смерць у лясных угоддзях у час пошукаў нечакана зніклага з дому ўнука. З падлетка не выйшла вялікага эканаміста — выпускніка Вышэйшай школы эканомікі, гіганта-алігарха, як марыў мітуслівы дзед. Юнак знаходзіць у сталіцы бацьку, некалі пакінутага празмерна па-сучаснаму дзелавітай і разкамплексаванай маці і выбірае другі вектар жыцця — ваенную службу.

Важна вось што. Калі для Пігалава дзённікі — форма вызвалення ад перажытага, выплюхвання яго на волю, то для падлетка — спосаб пазнання, узбагачэння душы чужым вопытам, да якога ў яго давер.

Прыцягальны ў рамане духоўны свет прыціхлай і адыходзячай вёскі. Вобразы жанчын (стогадовая Клава, бежанка Валянціна Міхайлаўна), майстравітых мужыкоў (кульгавы Фёдар, цясляр Аляксандр Міхайлавіч і Сашка-трактарыст), якія жывуць па сумленні і гонары, аднак, як звычайна здараецца, з заганамі душы, надаюць зместу дадатковыя фарбы, паўнакроўнасць, нягледзячы на змену жыццёвых правіл на нязвыклыя новыя, якія часткова закранулі і іх. Ім вядома цана цяжкай сумленнай працы, прыязных суседскіх адносін і прамяняць іх на супрацьлеглыя варагоўлю, непрыязнасць, хлусню і карыслівасць з-за выгады — значыць, загнаць душу ў смутак, апаганіць, пазбавіць сябе спакою. А жыве чалавек па-сапраўднаму цеплынёй, тым, як адносіцца да акаляючага свету, да людзей, што пасылаюць яны яму ўзамен. Тады і будні не паралізуюцца, а свецяцца натуральнай радасцю. Яны ў іх паяднаны з Усявышнім, з хрысціянскай мараллю, паводле якой жыццё любіць прастату, не прымае блытанага-перараблытанага. А самога Бога няма там, дзе ўдосталь грошай.

Змест твора ў пэўным сэнсе выкліканы нестандартнасцю яго формы, як падкрэслівае аўтар, напісаным не па раманных канонах («раман без правіл»), дзе пазначана і прыпіска «З зямных сшыткаў». Значыць, з рэальных, непрыдуманых. Ёсць у ім старонкі біяграфіі і лесу Пігалава, узрушэнне часоў, перамяшчэнне сацыяльных пластоў жыцця, што само па сабе не з'яўляецца навацыяй, і прастор думкі. А гэта і пісьмо бамжоў прэзідэнту Ельцыну, штрыхі пра будні міністэрскага чынавенства, «каўказская вайна», тлумны мегаполіс, назіранні за паводзінамі братоў нашых меншых і інш. Аднак адметнасць яму надае ўкрапванне ў тэкст і ўспрыняцце дзённіка ацэнкі і

каментарыі да яго юнака, не спакушанага дабротамі, якога захапілі не толькі нататкі ўжо не маладога чалавека, але ўразілі параўнанні розных часоў, рэчаіснасці «старой» і сучаснай, якія яму мала вядомы, і выбар уласнага жыццёвага шляху, чым кіравацца і як жыць. Раман пабудаваны па прынцыпе вітражоў, дзе раздзелы нагадваюць шкельцы, кожнае з якіх — часцінка агульнага складанага.

У ім часам у публіцыстычнай манеры ўпакаваны шэраг сучасных грамадскіх тэндэнцый, ёсць паралелі розных перыядаў жыцця чалавека і дзяржавы. Надзённыя разважанні аўтара аб сацыяльнай расслабленасці грамадства, спекулятыўных адносінах і паразітаванні на яго маральным нездароўʼі на каштоўнасцях гуманізму, аб веры і атэізме, што дае напісанаму актуальнасць і чытэльнасць.

Раман спавіты і іншымі значнымі быційнымі ідэямі, якія надзвычай актуальныя ў цяперашніх умовах. Канцэптуальная думка яго відавочная. З аднаго боку, разумнае ўладкаванне жыцця людзей, гармонія паміж сацыяльным асяроддзем і светам прыроды. А з другога, — адпрэчыць назаўсёды саманадзейную ганарлівасць на перавагу і вяршэнства над ёй. Бо ў Чалавецтва засталася самая сурʼёзная матывацыя — зберагчы на Планеце жыццё. Але які грандыёзны пераварот павінен адбыцца ў свядомасці!

Дык чаму ж і калі сумуюць дрэвы не толькі на сядзібе Пігалава і вакол яе? Адказы з рамана вынікаюць. Перш за ўсё з-за таго, што людзі страцілі разумныя арыенціры свайго быцця і ўзаемадзеяння з навакольным асяроддзем і, як рыбіна, праглынулі спажывецкі кручок, які нагадвае няспынную гонку за дабротамі. Яны здрадзілі гуманістычным ідэалам і маральным прынцыпам продкаў, ніяк не могуць усталяваць раўнавагу паміж уласнымі і ўсеагульнымі патрэбамі і інтарэсамі, а эканоміка, ідэалогія, палітыка і мараль перапляліся ў нейкім драконападобным сімбіёзе. А гэта сурʼёзная праблема, якая штучна, сілаю прышчапляецца даўно, насуперак не толькі навуцы, але і здароваму сэнсу.

Магчыма, не памыляўся ў свой час І. Бунін, калі выводзіў простую і зразумелую формулу сувязі чалавека і прыроды: «Што значыць прырода? Усялякі рух у прыродзе ёсць рух нашай душы і наадварот». А зараз, відаць, усё выглядае інакш. Ці зʼявіцца парадак з бязладдзя, ці вымалюецца з безразважных і разбуральных дзеянняў чалавека новы дыялог з прыродай — бадай, галоўнае пытанне часу.

На зыходзе жніўня пазалетась пад Віцебскам стаў сведкам таго, як імгненна вялікі востраў лесу паратварыўся ў буралом. Малюнак жудасны. Магутныя асіны, сосны, яліны, бярозы, вязы на вачах з трэскам, падобным на адчайны крык, ламаліся, як кволыя запалкі, ці з карэннямі вырваныя, хаатычна шмякаліся побач з балоцінай, упіраючыся абломкамі-куксамі ў неба. Дрэвы сапраўды паміраюць стоячы. І, як падалося, не маўчаць, а перадаюць сігналы, якія, напэўна, пасылаюцца вышэйшымі касмічнымі сіламі на Зямлю. Часта вельмі адчувальнымі, якія пакуль толькі моцна раняць. Але сваёй віны ў іх людзі, на жаль, не бачаць. У рамане гучыць адваротная думка.






*Юлія АЛЕЙЧАНКА*

**ПАД ЧАРОЎНЫМ ШКЕЛЬЦАМ**
**Вершы, пераклады**

*Мн.: Выдавецкі дом «Звязда», 2017.*

## Генадзь ВЕРЧАНКА

# КАБ НЕ ЗГУБІЎСЯ... СОНЕЧНЫ ГОРАД

Кніга гэтая на маім пісьмовым стале ляжыць ужо цэлы год. Як сведчыць дароўны надпіс аўтара, атрымаў яе 22 мая 2017 года. Хоць «ляжыць» — недакладна сказаць. Яна пастаянна запатрабавана. Часам зноў хочацца перагарнуць яе старонкі, далучыцца да паэзіі маладой, свежай, нейкай энергічна-імпульсіўнай, але разам з тым і такой засяроджанай. У пэўнай ступені і гарэзліва-адкрытай. Інакш і быць не можа, калі паэтка таксама маладая. У такім жа ўзросце хочацца як мага хутчэй выказаць усё. І набалелае. І тое, што пакуль толькі ў марах. Нават і такое, якое далёкае ад рэальнасці, аднак так прыцягвае, што гатова стаць ёю. Не адпускае ад сябе і тое, якое хтосьці ўспрыме празмерным самакапаннем у сабе. Толькі і без яго нельга, бо яно — таксама патрэба выказацца. Нешта дадумаўшы, а штосьці…

Паэзія, асабліва сапраўдная, яна на тое і паэзія, каб не праводзіць падзел паміж тым, што ёсць і тым, чаго няма. Паміж рэальнасцю і мройнасцю. Між пражытым і народжаным фантазіяй. Нават не столькі творчай, колькі жаданнем імкнуцца і да таго, чаго пакуль няма. Паэзія ж ніколі прамых адказаў не дае. Яе проста трэба чытаць і перачытваць. Што я і раблю, пастаянна трымаючы кнігу Ю. Алейчанкі «Пад чароўным шкельцам» пры сабе. Каб, пры жаданні, пастаянна адчуваць водар вершаў, што ўвайшлі ў яе. Хоць бы гэтага — «Даруй!»:

Сонца ў далонях. Вяслуй
Шляхам гарэзнага промня.
Мама, свавольствы даруй!
Дзе заблукала — не помню.

Дзе ў чароўных лясах
Светлыя мары згубіла.
Як у купальскіх слязах
Водар юначы тапіла…

Як сон-трава павяла
Сцежкай крутой, небяспечнай.
Як моц душы аддала
Ў бойцы са зманам адвечнай.

Сонца, святла ахвяруй
Ў час ліхалецця, навалы.
Божа, грахі мне даруй!
Мама заўжды даравала…

«Сонца, святла ахвяруй!..» — гэтыя радкі паэтэсы Алесь Карлюкевіч вынес і ў загаловак сваёй прадмовы да кніжкі.

Сапраўды, вобраз сонца, хай сабе і не на прамую, а падтэкстава пастаянна прысутнічае ў вершах Ю. Алейчанкі. Разам узятыя, яны ствараюць свайго роду Сонечны горад:

Давай сустрэнемся ў Сонечным горадзе,
Дзе ўсе пацалункі на целе не змесцяцца,
Збяжым па гулкай параднай лесвіцы
У сад, дзе птушкі-сірыны водзяцца.

Дзе кроў ускіпае як зелле чароўнае,
Руку прыкладзі — вены быццам шалёныя,
Дзе крылы нябёсаў, ад спёкі салёныя,
Сабой ахінаюць сэрцы вандроўныя.

Я буду гарачым аголеным летам,
Я знішчу адвечны звярыны холад,
Калі не згубіўся Сонечны горад
На мапе тваіх неспазнаных светаў…

Юлія Алейчанка — з тых маладых пісьменнікаў, якія шматгранна раскрываюць свой творчы талент. Паспяхова працуе і ў галіне прозы. Выступае як крытык і літаратуразнаўца. Піша кандыдацкую дысертацыю па творчасці Янкі Купалы. Не чужы ёй і мастацкі пераклад. Ахвотна пераўвасабляе па-беларуску пісьменнікаў Польшчы, Расіі, Украіны, Сярэдняй Азіі, Кітая... Перавагу аддае вершаваным творам.

З-за невялікага аб’ёму кнігі «Пад чароўным шкельцам», у яе, на жаль, трапілі толькі нямногія з перакладаў. Затое імёны прадстаўнічыя: эквадорац Хорхэ Карэра Андрадэ, непалец Мадхаф Прасад Гхімірэ, удмурд Сяргей Матвееў, туркмен Агагельды Аланазараў, кітайцы Лі Хэ і і Ван Гачжэнь. Усе гэтыя пераклады па-мастацку дасканалыя. Асабліва хочацца адзначыць пераклады кітайскай паэзіі, цікавасць да якой апошнім часам у Беларусі ўзрасла. Як вядома, яна адна з самых старэйшых у свеце. Узрост — каля трох тысяч гадоў. Стасункі ж з Кітаем усё мацнеюць і мацнеюць. Добрае ж веданне жыцця вялікага народа немагчыма і без ведання яго літаратуры. Гэта дапамогуць зразумець і творы найвыдатнейшага кітайскага паэта канца эпохі Тан — Лі Хэ (790—816).

Знаёмства з перакладамі Ю. Алейчанкі, дазваляе адчуць творчую індывідуальнасць Лі Хэ, здзіўляючую вобразную напоўненасць яго паэзіі. Спасцігнуць тое, што прама як быццам і не выказваецца, але сваёй сканцэнтраванасцю думкі нараджае такія асацыяцыі, якія быццам спалучаюць сабой стагоддзі. Як у вершы «Песня аб невычэрпнасці часу»:

І сівой даўніны доўгі шлях
Адбіваецца болем у скронях.
Сотні год — як раса ў траве,
Як пясчынка ў ветру далонях.

Час не толькі няўмольны ў сваёй хадзе, ён яшчэ і бязлітасны. Знішчае нават тое, што, як думалася, ніколі не знікне: «…Там дзе мост бессмяротнасці Цсінь — // Зараз толькі луска на вадзе». Нейкая наканаванасць, самота і ў вершы «Іду ў палях ля Паўднёвых гор». Але далёка не радасны настрой лірычнага героя дазваляе глыбей і паўней адчуць і каштоўнасць жыцця, якое, хоць і імгненне ў вечнасці, найвышэйшы дар:

Белы вецер у стракатых палях.
У гарах спяць сівыя аблокі.
Каля сажалкі ціхай мой шлях
Прывядзе ў край жалобы далёкі.

Маладая паэтэса гэтак імкліва ўвайшла ў літаратуру, што адчуванне такое, быццам даўно працуе ў ёй. Урэшце так і бывае заўсёды, калі аб сабе заяўляе сапраўдны талент. З’яўленне яго — заўсёды нечаканасць. Аднак гэта заўсёды і заканамернасць. У тым сэнсе, што ён узнікае не на пустым месцы, а, узгадаваны творчым дараваннем, абапіраецца на багатыя паэтычныя традыцыі. Пасля гэта і дае свае дружныя жыватворныя ўсходы. У дадзеным выпадку паэтычныя.



16+

АДРАС РЭДАКЦЫІ
Юрыдычны адрас:
Рэспубліка Беларусь, 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
info@zvyazda.minsk.by

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220034, Мінск, Захарава, 19.
Тэл.: галоўнага рэдактара — 263-80-12,
намесніка галоўнага рэдактара — 319-79-85,
аддзелаў прозы,
крытыкі і літаратуразнаўства — 224-66-74,
аддзела паэзіі — 263-80-12.
polymya@bk.ru

*Падпісныя індэксы:*

*00471 — індывідуальны льготны*
*для настаўнікаў*

*74985 — індывідуальны*

*749852 — ведамасны*

*00727 — ведамасны льготны*
*для ўстаноў Міністэрства культуры*
*і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь*

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 9 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар – галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Тэхнічны рэдактар, камп’ютарная вёрстка
*С. І. СТАРАВЕРАВА*

Стыльрэдактар
*М. М. ГІЛЕВІЧ*

Падпісана да друку 16.05.2018 г. Фармат 70×108 $^1/_{16}$. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 15,40. Ул.-выд. арк. 15,19. Тыраж 1280 экз. Заказ

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014,
вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.

*Часопіс уключаны ў Пералік навуковых выданняў ВАК Рэспублікі Беларусь*
*для друкавання вынікаў дысертацыйных даследаванняў па філалагічных навуках (літаратуразнаўства)*